


# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XI

12

СНЕЖАНЬ

1963


## У нумары




Выдавецтва «ЗВЯЗДА»
Мінск

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**Вокладка Г. СКАМАРОХАВА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Беларусь індустрыяльная. Нашай рэспубліцы сорак пяць гадоў! Здаецца ж, нядаўна святкавалі мы яе саракагоддзе. І не было тады на карце Беларусі многіх гарадоў — хоць бы таго ж Салігорска. А сёння тут працуе магутны калійны камбінат. Наш карэспандэнт А. Дзітлаў зрабіў гэты здымак, калі завяршаўся мантаж пад'ёмнай машыны на другой шахце. Хутка яна запрацуе, і пойдзе на-гара камень урадлівасці — беларускі сільвініт.**

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: Выступае Гродзенскі народны ансамбль песні і танца «Нёман».**

Фота **А. ДЗІТЛАВА.**

**Галоўны рэдактар Пімен ПАНЧАНКА.**
**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (нам. галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Генадзь БУРАЎКІН, Васіль БЫКАЎ, Арсень ВАНІЦКІ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЬНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).**



**Рыгор БАРАДУЛІН**

# ГОД

I

Заспаныя прачнуліся грымоты —
І кнігаўкай спявае лазіна,
Самлелая ад леташняй спякоты,
*Цалінная дыміцца баразна.*
Шчэ гнёзды стылыя, пустыя соты,
А ўжо ад слоў хмялее да відна
І ні пра што не думае вясна —
Дачка гарачай ласкі і пяшчоты.

У вочы зазірні — не ўбачыш дна.
Далёка недзе прыпар і турботы.
Гуляе дзеўчына, пакуль адна...
Цяжарнее калоссем цаліна.
З гнязда глядзіць пухнацік жаўтароты —
Клапоты ад цямна і да цямна.

II

З далёкага цяплыньскага павета,
Пакінуўшы ржавець з'араны плуг,
Спатнелае, расхрыстанае лета
Прыйшло — і луг ад конікаў аглух.
Смугою ахінулася планета.
Займае дых гарачы кменны дух.
Дзе воблачка, дзе дзьмухаўцовы пух?
І просінь просіць шырыні ў прасвета.

Ад завірух калючых пацярух
Наскрозь дарога ўезджаная ўгрэта.

Шчырэе летні дзень адзін за двух.
Пал воч вясновых чыстых не патух,
Нібы агонь далёкіх зор Сусвета.
Падлётак над стагамі робіць круг.

III

У Белавежы — лосьна, язьна ў Шчары.
З лясной крыніцы агнявы глыток.
Узважлівая яснасць дзёрзкай мары
І стрыманасці першы халадок.
Сігае ястраб думкі праз гушчары
Над зброснелаю зацішшу заток.
Перакідае восень жоўты уток
І, па традыцыі, згушчае хмары.

Разблытаць хоча бліскавіц маток
Рабінавая ноч. Рабін стажары.
Лядком на лузе шкліцца капыток.
Сівее ржэўе. Звонка стогне ток.
Пяро раняе вырай на абшары.
Рунь прагавіта цягне зябкі сок.

IV

Зажмурылася смачна аканіца.
Спіць на пярынах белых цішыня.
А сіверу ссінелая сініца
Ніяк не можа дачакацца дня.
Рацэ, як рыбаку старому, сніцца
Прыцмок сама, зялёны лёд ліня.
У дуба-ведуна з-пад караня
Прабілася бруістая крыніца.

Ляціць адліжны каркат варання
З яліны, што стаіць, нібы званіца,
Сядлае ўсход гарачага каня,
Штораз вышэе ў сонца вышыня.
І першапутак неба рэжа ніца
Палосак рэактыўных палазня.

## БЕЛЫЯ НОЧЫ

**П. Кабзарэўскаму**

I



ошчак ушчэнт пашкуматаў
Сонную млявасць спакою.
Коннік скача наўскапыта́ —
Кохкаюць лёгка падковы.
Мядзведзь абнюхвае
чалавечы след,
Трубіць статак ласіны.
Коннік спяшаецца
апавясціць свет



Аб новай Расіі.
Хрыпнуць глоткі крукоў,
Вырай ляціць
адужалы.
Гэта ён
уладнай рукой
Уздыбіў
маладую дзяржаву...
Зямлі не кранаюцца
капыты —
Вёрстаў перакапыцілі многа.
Коннік,
хачу папрасіць,
каб ты
На міг суняў
варанога.
Расія даўно
абагнала вякі —
Твой
у яе
характар!
Конь заірзаў,
устаў на дыбкі,
Вецер салёны
ўцягвае храпай...

II

Атланты —
інваліды
Вялікай Айчыннай вайны —
Аднарукія,
аднаногія.
Даўно
на заробкі ў горад
прыйшлі яны
З-пад Полацка,
з-пад Ноўгарада.
У кружалах
развязвалі торбы цішком,
Вячэралі
прадубленай саланінай.
Шукалі работы
самай цяжкой
Ільнаваласыя
Селянінавічы.
Аднавяскоўцы валілі
густы мурог,
А яны
ў маўклівай згодзе
Падставілі плечы
пад глыбы муроў
У тысяча сямісот
далёкім годзе.
Паспрабуй
на плячах горад трымаць.
Не дачакалі падмены.
Каменная
не адпускае турма, —
Самі сталі
каменныя.
Маўкліва церпяць
парабкі вякоў —
Ні продыху, ні адхлання.
Я пазнаю
сваіх землякоў.

Ну хто іх назваў
атлантамі?

III

Чэрвень
байца ступіць
на пракосы,
Зламаныя
падымае званочкі.
Дзяўчаты на Белай Русі
чэшуць русыя косы.
У Ленінградзе
Белыя ночы!
Белыя ночы!
Беглі ногі,
Пакуль
масты не разведзены.
Ад любага
шлях дадому
доўгі —
Дабраліся ледзьве...
Белыя ночы —
ці гэта блукае
Белы мядзведзь
на полюсе?
А можа святло вачэй,
што патухлі ў блакаду,
Асвяціла раптоўна
Марсава поле?..
Ты не спяшайся,
румяны ранак!
А летняй ночанькі
не надточыш...
Вачэй каханай
сіняе ззянне.
Белыя ночы,
белыя ночы...

★


аторы наклюнулі
Цішу прадоннай воблацсі.
Айсбергамі няўклюднымі
Праплываюць воблакі.

Твой горад
на дне глыбокім —
Чырвонапёрымі іскрамі,
Бы карасі крутабокія,
Трамваі бліскаюць.

Адгор'ямі вострымі
Вытыркаецца готыка.
Дажджоў зялёныя водарасці
Сонна пагойдваюцца.



І можа русалкай
ты, русаватая,
Шукаеш мяне
па рэчышчы?..
Прынік я
да роўнядзі ілюмінатара —
Зямлю чытаю,
як дно пярэстае...

## ВЕЧНАСЦЬ


не ясным сонцам лёс наканаваны —
Не ведаць змрочных лёхаў нематы.
З табою кожным нервам знітаваны,
Не, Вечнасць, я ў цябе не паняты!
Зязюлямі гадоў пракукаваны,
Бор галавы маёй аснежыш ты
І ўладна пакладзеш на лоб круты
Зямныя, ўпартыя мерыдыяны,—
Мяне не ўстрашыць захад залаты.
Да зор скірую думак караваны,
Арлы іх прывітаюць, як браты.
Не знікну так, як цень, як гук пусты.
Не адцвітуць вачэй маіх паляны,
Прабіўшы жвіру мокрага пласты.

★


а Беларусі
Пчолы як гусі».—
Прыгадваў зямляк
у выраі.
Зоры спелі,
зоры гаслі,
Мох зязюльчын
рос на вываратнях.
«Ем сырую зайчыну,
Ды люблю Айчыну!» —
Прысягаў паўстанец
нябёсам.
Дзверы
дню маладому

расчынены —
Расой ішла
песня босая:
Я здыму парчу,
Ножкі абвярчу...—
Песню азяблую
Сагрэць хачу...
Стукнецца ў крыгу
касяк карасіны,
Сонную роўнядзь
успеніць.
Згару я
на вейцы тваёй
расінкай.
Беларусь —
мая мова
і песня.



Іван **ЧЫГРЫНАЎ**

# ЛЯ ВОГНІШЧА

**Навела**

Мал. У. Філіпенкі.

Уранні прыйшлі нашы — спачатку па зацішанскаму бальшаку прагрукаталі, ляскаючы жалезам, танкі, пасля, можа праз паўгадзіны, з-за пагорка паказалася пяхота. Калоны пехацінцаў павольна спускаліся ў нізіну, што перад вёскай, і адтуль, расцякаючыся, як ручаіны вясной, па лясных і палявых дарогах хіраваліся далей, к Бесядзі. У вёсцы тым часам дагаралі хаты.

Ля вясковых могілак ужо бегалі артылерысты. Там спынілася гаўбічная батарэя, і артылерыйскія разлікі ўстанаўлівалі гарматы, капалі акопы. За лесам, мусіць, ля самай Бесядзі, за якой акапаліся немцы,— там цяпер была перадавая,— неўзабаве пачуліся частыя вінтовачныя стрэлы; часам адтуль даносіліся і кулямётныя чэргі.

Гулі маторы. І гэты гул іхні то нарастаў, нібы станавіўся сцяною, то заціхаў, але заціхаў чамусьці раптоўна.

Па небе плылі нізкія хмары. Але дожджыку не было. І ўжо каторы дзень. Відаць, хмары былі бясплодныя.

На папялішчы патроху сыходзіліся людзі. Але ніхто не плакаў.

Салдаты ішлі к Бесядзі маўклівыя.

У сорак трэцім мы былі яшчэ зусім малыя, але запомнілі гэтых салдат... Мы — гэта Мішка Бычыхін, Санька Брылеў і я. У вёску тады

мы першыя прыбеглі з лесу, і ўжо цэлага паўдня сядзелі ў сасняку ля школы, запаліўшы вогнішча. Школа ўцалела. Немцы чамусьці яе не зачапілі. Можа таму, што знаходзілася яна на водшыбе і была пад жалезным дахам. Паўз яе цяпер ішлі ў калонах салдаты. А мы сядзелі ля вогнішча і, як зачараваныя, моўчкі ўглядаліся ў іх загарэлыя, стомленыя твары. У кожнага з нас на вайне быў бацька. Дык і думалася — а можа якраз і тупае бацька вось так у страі, і не пускаюць яго камандзіры дамоў.

Верасень быў на сконе. Бярозы на бальшаку страсалі сваё апошняе лісце — рана яно пажоўкла. Вецер гнаў яго па полі, збіраў на ўскрайку лесу. Было няўтульна, нават холадна. На папялішчах, нібы шкілеты, дзе-нідзе стаялі адзінокія печы — тыя, што некалі клаліся без штандараў, адразу на зямлі. Печы былі яшчэ гарачыя.

Вогнішча наша дымела, сіпелі дровы. Часам да вогнішча падбягалі салдаты. Яны прыкурвалі «ад вугалька», гладзілі нас па галовах і, не распытваючы ні аб чым, спяшаліся даганяць сваіх. А гэтых «сваіх» было многа-многа!.. Нават здавалася, што якой-небудзь калоне канцакраю не будзе. Але праходзіў час, дарога раптам пусцела. Ды не надоўга. Хутка зноў чуўся тупат. І зноў пад вокнамі школы пачынала калыхацца маўклівая шэра-зялёная салдацкая калона. Ляскалі кацялкі. У нашых салдат яны былі вялікія і круглыя, бы каструлі, і, пэўна, заміналі ў паходзе, б'ючы па баку. Здаралася, што салдаты ішлі таксама невялікімі групамі. Але рэдка. Затое гэтыя амаль ніколі не абміналі наша вогнішча. А пад самы вечар, калі пачалі ўжо грамыхаць ля могілак гаўбіцы, у сасняку, дзе гарэла вогнішча, спыніліся артылерысты. Іх было чалавек дваццаць з адной-адзінай маленькай гарматкай, якую цягнулі коні. Відаць, гэта была якаясьці батарэя,— можа нядаўна выйшла з бою і засталася без гармат. Коней артылерысты не распрагалі: павесілі ім пад пысы брызентавыя вёдры, і коні ляніва хрумсталі авёс.

Артылерысты аказаліся вясёлымі людзьмі — не тое, што змардаваныя пехацінцы. Яны тут жа сышліся да нашага вогнішча. Пачалі жартаваць, а адзін, чорны, мусіць, армянін — у рысах яго твару была дзіўная мешаніна дабрадушнасці і гарэзлівасці,— нібы прыліп да Санькі Брылева — дапытваўся, чаму ў таго рыжая галава.

— Выгарала,— казаў Санька.

Салдат паціскаў плячмі і хітра ўсміхаўся, пазіраючы на сваіх сяброў.

— На сонцы?— пытаўся ён.

— Ыгы,— Санька быў трохі старэйшы за Мішку і за мяне, але вельмі сарамлівы і нясмелы; салдаты лагодна смяяліся, а ён чырванеў, як дзяўчо. Затое самы наіўны сярод нас быў Мішка.

— У яго шапкі няма,— падказаў ён.

— Шапкі няма?— чорны артылерыст раптам перастаў смяяцца, задумаўся на момант і неўзабаве зноў пырснуў ад смеху: — Эй, Сідараў,— гукнуў ён,— тупай сюды!

Падышоў Сідараў — нізкі, надта тоўсты салдат, апрануты ў зашмальцаваны бушлат, які, пэўна, не адзін раз гарэў у яго, бо на правым баку тырчала пабурэлая вата. Сідараў быў салдат у гадах — яго нават можна было палічыць за старога. Відаць, ён не любіў шумных кампаній, бо мы яго ля вогнішча за колькі хвілін бачылі ўпершыню — увесь гэты час чалавек прасядзеў недзе пад сасной, схаваўшыся за гарматай.

— Паслухай, Сідараў,— звярнуўся да яго чорны артылерыст,— вось гэтаму меднаму кацялку,— ён паказаў на Саньку,— патрэбна шапка. Ты разумееш, у яго няма шапкі. А ў цябе, Сідараў, дзве... пілотка і вушанка. Я ўчора бачыў вушанку ў тваім мяшку. Ты вытрас бы з яго, а? Ну, Сідараў, не будзь жміндам, аддай хлопцу шапку.

Сідараў глянуў соннымі вачмі на Саньку, затым перавёў позірк на чорнага артылерыста.

— Дык я ж гэта для свайго сына,— неяк жаласна сказаў ён.

— Я так і знаў, што ты, Сідараў, пашкадуеш. І калі ты толькі станеш чалавекам, Сідараў, а? Ну, як ты аддасі сыну гэтую шапку? Ты, Сідараў, хутчэй на той свет трапіш, чым на Урал свой. На Урал цяпер дарога даўжэйшая.— Чорны артылерыст палохаў Сідарава і разам з тым упрошваў, папракаючы яго.— Ах, Сідараў, Сідараў... Каб жа я ведаў, што ты будзеш такі скупы, то не вывеў бы цябе з таго балота. Помніш?

Сідараў можа і помніў пра тое балота, але цяпер зацята маўчаў. Відаць было, што яму не хацелася аддаваць рыжаму падшывальцу шапку. Але ж гэты чорны прыстаў... Смала, а не чалавек... Ды Сідараў, напэўна, не ўмеў і агрызнуцца добра. А тут яшчэ салдаты шумелі.

— Аддай, Сідараў...

— Аддай...

— Навошта яна табе?..

— Сыну яшчэ адну такую знойдзеш...

— Пасля бою іх многа валяецца...

І скупы Сідараў не вытрымаў. Ён адышоў ад вогнішча, пакапаўся на возе, што стаяў блізка ад дарогі, прынёс адтуль памятую салдацкую шапку-вушанку і падаў яе чорнаму артылерысту.

— Насі, Санька,— сказаў чорны артылерыст і надзеў хлопцу на галаву шапку — яна была вялікаватая для Санькавай галавы і налазіла на вочы.— Насі, Санька,— паўтарыў ён і прытворна ўздыхнуў.— Насі і ўспамінай мяне. Чуеш? Мяне! Сідарава ўспамінаць няма за што. Гэта ж каб не я, не было б у цябе гэтай шапкі. Сідараў не даў бы. Гэта ўсё я.— Чорны артылерыст гаварыў сур'ёзна, але ў вачах усё яшчэ скакалі вясёлыя чорцікі.

Тым часам непадалёку загарэлася другое вогнішча — хтосьці запаліў яго там, нанасіўшы непрыкметна дроў. Салдаты адзін за адным пачалі адыходзіць ад нашага вогнішча. Толькі чорны артылерыст заставаўся з намі — здавалася, ён і не збіраўся пакідаць свайго месца. Але ж яго паклікалі.

— Схадзі па лейтэнанта,— сказаў яму салдат у накінутай на плечы ватоўцы.

— Куды гэта?

— Ву-у-нь,— салдат у ватоўцы паказаў у той бок, дзе знаходзілася гаўбічная батарэя, якая цяпер чамусьці не страляла.

— Тады гайда, хлопцы!

Мы ўскочылі на ногі.

— Не бяры іх.

— Чаму? Там прыстрэлку правялі ўжо.

— Таму і не трэба іх весьці туды,— злосна гыркнуў артылерыст у ватоўцы і тут жа палагаднеў, дадаўшы:— Цяпер немец можа батарэю нашчупваць.

Нам вельмі хацелася пайсці, пабыць на батарэі, і мы не ўзлюбілі артылерыста ў ватоўцы, які не пускаў нас туды. Чорны артылерыст пайшоў адзін. Неўзабаве ён вярнуўся і прывёў адтуль двух афіцэраў — у аднаго з іх на пагонах было па тры маленькія зорачкі, у другога — па адной. І вось той, што меў на пагонах толькі па адной зорачцы, сказаў свайму спадарожніку:



— Мая гаспадарка.
— I нішто сабе гаспадарка.
— Ну, ну скажы...— «Гаспадар» неспадзявана тыцнуў кулаком пад бок свайму спадарожніку, і яны разам гучна засмяяліся.
— Эй, старшына!
Да афіцэраў падскочыў артылерыст у ватоўцы, выцягнуўся перад імі і зухавата казырнуў, паднёсшы руку да пілоткі.
— Друга сустрэў. Старшага лейтэнанта... Вось. Дык можа б ты, старшына, даў чаго-небудзь нам... пакуль немец маўчыць. Ці ёсць там яшчэ?
— Знойдзем, таварыш камбат.
Афіцэры пакіраваліся да нашага вогнішча. Чорны артылерыст, што паспеў ужо за гэты час прычапіць да Санькавай шапкі зялёную зорачку, якую ён невядома калі выразаў з бляшанкі, пахваліўся:
— Глядзіце, таварыш лейтэнант, як мы тут хлопца прыбралі.— I паказаў на пачырванелага Саньку.
— Хто ж гэта яму ўдружыў такую?
— Сідараў.
— Сідараў?— здзівіўся малодшы лейтэнант.— Глядзі ты! А я і не думаў, што Сідараў на такія ўчынкі здольны. Ажно смешна. Не, мусіць, гэта ты даканаў яго. Скажы, ты?
— Не, ён сам.— Чорны артылерыст сказаў гэта і апусціў вочы.
— Ну, сам дык сам,— згадзіўся малодшы лейтэнант і растлумачыў:— Ёсць тут у мяне салдат. Кажуць, вайна людзей перарабіла. А Сідараў і на вайне застаўся скупярдзяем. У яго снегу леташняга не дапросішся.
Старшына прынёс плашч-палатку, разаслаў яе і пачаў «калдаваць» на ёй — спачатку паставіў кацялок, затым нарэзаў хлеб на тонкія лусты, пасля дастаў з кішэняў дзве гранёныя шклянкі і, павярнуўшы дном угору, апусціў іх перад афіцэрамі, сказаўшы чамусьці:
— Вось...
— Ведаеш, Аляксей Фаміч,— загаварыў раптам старшы лейтэнант, які амаль увесь час маўчаў,— усё хацеў я бульбы печанай наесціся. Думаў, прыйдзем на беларускую зямлю, накапаю там бульбы і напяку на вогнішчы. Ажно не. Усё не збяруся. Ужо другі дзень на гэтай зямлі, а бульбы не паспытаў.
— Ну, і жаданне ў цябе, скажу я... дзіўнае.
— Дзіўнае? Але ж аднойчы як накармілі мяне печанай бульбай, дык і дагэтуль смаку той бульбы не забыў. Недзе пад Гомелем было гэта. У сорак першым. Астаткі нашага палка — усяго некалькі чалавек — выходзілі тады з акружэння. Ішлі мы ўсю дарогу галодныя. У вёсках немцы. Туды нам нельга ісці, боязна... Схопяць адразу. Так і бадзяліся галодныя, пакуль не натрапілі на хлапчукоў, такіх вось.—





Старшы лейтэнант кіўнуў галавой у наш бок.— Пасвілі яны цялят за вёскай і разам бульбу пяклі. Дык мы і наваліліся на іхнюю бульбу, ажно небаракі, пячы не паспявалі. I вось з таго часу жыву надзеяй пакаштаваць калі-небудзь печанай бульбы. Кажуць, беларуская нейкая асаблівая. Не ведаю, цяжка меркаваць мне, чалавеку, які нарадзіўся і жыў у пшанічным стэпе. Але, відаць, і сапраўды смачней за яе нідзе не бывае.
— У цябе гэта псіхалагічны фактар.
— Можа. Але ў такіх, як я, ці мала гэтых псіхалагічных фактараў ад сорак першага асталося. Паверыш ці не, урэшце, як хочаш, справа твая, толькі нават раны сорак першага ныюць па начах мацней, чым тыя, што пасля былі.
— Ну, але,— малодшы лейтэнант уздыхнуў, пасядзеў трохі, задумаўшыся, затым зусім вясёлым тонам сказаў:— Дык тады за чым затрымка, дарагі мой таварыш! Папросім, і гэтыя вось хлопцы зараз жа навалакуць сюды бульбы, колькі душа твая жадае. Хочаш, нават салдата магу паслаць. Тут жа зусім недалёка. Амаль побач.
Старшы лейтэнант адказаў не адразу. Ён колькі часу маўчаў яшчэ, нібы сапраўды раздумваў, як лепш зрабіць — ці сягоння заняцца бульбай, ці адкласці назаўтра.
— Не, сёння позна ўжо. Няхай, я заўтра прыйду. Як, хлопцы, будзе бульба?
— Будзе,— адказалі мы ледзь не ў адзін голас.
Старшы лейтэнант задаволена пацёр рукі адна аб адну і неяк радасна, амаль па-дзіцячы, заўсміхаўся нам, паказваючы свае белыя зубы. Гадоў яму было, можа, якіх дваццаць пяць. Росту ён быў сярэдняга, шырокі ў плячах і тонкі ў поясе. Густыя русыя валасы яго былі святлейшыя нават за твар загарэлы, і гэта адразу кідалася ў вочы, асабліва калі ўлічыць яшчэ, што ў старшага лейтэнанта былі да таго ж цёмныя бровы і чорныя вейкі.
Недзе ў хмарах зайшло сонца, бо на двары неўзаметку пашарэла і ўжо, мусіць, зусім нямнога аставалася да восеньскіх пацёмак. Перад вечарам нечакана зрабілася ціха кругом — нават перасталі страляць.
— Ну, вось, і вайна скончылася,— прыслухаўшыся, сказаў старшына.
— Чаго захацеў! — малодшы лейтэнант неяк нявесела ўсміхнуўся.— У нас жа з табой яшчэ ёсць адна саракапятка. Дык ці можа здарыцца так, каб і яна ўцалела. Мы яшчэ заўтра яе дзе-небудзь пакінем разбітую.

— Нічога, саракапятак зноў дадуць. Чаго-чаго, а гэтага... не пашкадуюць. Ох, і бярэ зайздрасць...— Але старшына не дагаварыў, чаму яго бярэ зайздрасць.

— Ладна, старшына,— перапыніў яго малодшы лейтэнант.— Навошта скардзіцца і зайздросціць чужым. Ідзі, старшына. Далей я ўжо і сам здагадваюся, што да чаго тут.— Ён узяў з рук старшыны фляжку.— У вас там скора каша?

— Зараз будзем пачынаць.

— Не забудзь хлопцаў гэтых накарміць.

...Па зямлі плыў добры вечар, калі, нарэшце, была з'едзена салдацкая каша — прасяная, на сале. Мінула яшчэ гадзіна — і апусцеў сасняк, што ля школы. Артылерысты пастроіліся на дарозе і рушылі, ціха перагаворваючыся, услед за сваёй адзінай саракапяткай.

Начавалі мы ў школе. Але пакуль бавіліся з салдатамі ля вогнішчаў, з лесу вярнуліся сем'і, і ў школе ўсе класы былі заняты пагарэльцамі. Спаць давялося на падлозе.

Уначы пачаўся на Бесядзі бой. Ля могілак бухалі, калоцячы зямлю, гарматы. Пад вокнамі школы, не заціхаючы, гулі машыны.

На Бесядзі, гэтай невялікай воднай перашкодзе — рацэ, якую гарачым летам і курыца перайсці можа, калі толькі захоча, немцы пратрымаліся ажно тры дні. Нечакана завязаліся ўпартыя баі. Наша пяхота многа разоў паднімалася ў атаку, але варожыя кулямёты, што стаялі на высокім правым беразе ад Малога Хоцімска да Белай Дубровы, кожны раз прымушалі яе адкаціцца назад, засесці ў сваіх акопах на ўскраіне лесу. На цёмна-зялёнай атаве шырокага луга, што быў паміж лесам і Бесяддзю, з кожнай новай атакай большала забітых. Нарэшце, недзе за Белай Дубровай камандаванне, пад прыкрыццём «кацюш», пераправіла цераз Бесядзь танкавую брыгаду, і «трыццацьчацвёркі», рухаючыся ўздоўж ракі з усходу на захад, узламалі нямецкую абарону.

Пакуль ішлі баі, мы — Мішка Бычыхін, Санька Брылеў і я — не адыходзілі ад вогнішча, якое ўсё палілі на адным і тым жа месцы,— пяклі бульбу. Па-ранейшаму паўз школу рухаліся к Бесядзі войскі. А адтуль, пачынаючы з самае раніцы, везлі на машынах раненых. Вясковыя бабы падыходзілі паглядзець на іх і пасля плакалі, адыходзячы. Мы цярпліва сядзелі ля вогнішча і чакалі старшага лэйтэнанта. Але старшы лейтэнант не прыйшоў.





**Раман ТАРМОЛА**

## БАЦЬКАЎШЧЫНА



Гэй раніца,
шчаслівая красуня,
Дазволь
з табой прайсціся пад руку.
Калісьці
першы піў тваю расу я,
Ты гэта дазваляла хлапчуку,
Як дазваляла жаўранку
і сонцу
Удосталь напівацца дзіўным сокам.
Пачатак дня,
Пачаў я піць да дна
Мясцінаў родных
звонкае паветра.
Я чую:
пада мной гудзе планета,
Як моцная
басовая струна.
Даўно я
ў гэту раніцу паверыў,
Шчаслівы,
па расе іду.
Куды, сцяжынка нетаптаная,
павернеш?
Куды цябе
я зараз пракладу?..
Задумаўся.

А сінь над борам чэзне,
Не збочыўшы,
не падаючы ніц,
Насустрач
з лесу
выйшаў раптам чэрвень
І падае мне цэлы збан суніц.
У чэрвеня
ад ягад чорны рот.
У чэрвені гром не грымеў,
а роў
Адкормленым
гарачым бугаём
На пашы лета.
Але з-пад хмар
Ён галасоў не заглушаў другіх.
Чуваць было, як пчолы п'юць нектар
І рэчка абмывае берагі,
Як нехта
Дачку сваю гукае ўранні,
Якая заблудзілася між кветак,
Шукаючы, відаць, каханне...
У чэрвеня
ад ягад чорны рот,
У чэрвені
заўсёды хуткі рост
Той збажыны,
што цягнецца наўпрост
Да сонца.
Мне па дарозе з ёй,
Як па дарозе з тымі,
Хто ў будучыню нашу
крочыць.
Не могуць сёння вочы быць
пустымі,
Бо вельмі многа бачаць
нашы вочы.
Ніяк не могуць змоўкнуць сёння тыя,
Хто нам жадае і пакут
і гора.
Ніяк не могуць змоўкнуць,
кроў хоць стыне,
Бо справы нашы
многае гавораць.
Я нарадзіўся тут,
а не прыкмеціў,
Як узмужнела Міршчына мая.
Матораў гул
аднойчы на дасвецці
Уліўся ў песні жней і салаўя.
Ён служыць і цяпер арыенцірам:
Па гэтым следзе
з лесу я іду,
А сонца ўжо збіраецца у вырай,
Вось-вось
клін першы
промні навядуць.
Яны ўзляцяць раптоўна
над сялом.
І чырванню на шыбах
бліснуць,
І не адзін з іх
трапіць у сіло —
Да малышоў у лёгкія калыскі.
А покуль —
за сяло выходзіць статак,
Паважны
і надзвычай статны,
На пашу несучы спакой,
Якраз
як потым з пашы — малако.
. . . . . . . . . . . . .
— Люблю-ю-ю...
Люблю-ю-ю...—
Разносіцца ў аблоках,—
Зямлю
і тых вунь з косамі людзей!
А новы дзень
румяніць людзям шчокі,
Бо з сонцам
пачынаюць новы дзень.
Я радуюся шчыра, як магу,
Што крочу з гэтымі людзьмі
ў нагу.

## РАЙСКІ САД

Той сад
Здаўна
насіў высокі сан
Зямнога раю.
Ну, чым не рай
У гэту рань,
Калі галіны
небасхіл трымаюць.
Здаецца,
пырснуць жоўтым сокам:
І яблыкі
у каплях сонца,
І сонца
ў яблыкавых плямах,
Што ў ім змясцілася
таксама...
— Прыходзьце,
Ева і Адам,
Усе багацці вам
аддам.
З'ясцё — не палічу за грэх вялікі,—
Шаптаў у садзе
кожны лісцік.
Ды не ішлі Адам і Ева
Прыходзілі Пятрусь
і Сева.
Зірнеш — ўвесь гурт хлапечы
смаліць
Зганяць у райскім садзе смагу.
І гаспадар — сапраўдны бог —
Нас частаваў усім,
чым мог.

І нават падганяў нас:
ешчэ,
ешчэ...
Яго любіла ўсё сяло.
А ў нас
і думак не было
К самому богу
ў сад залезці.

## УСПАМІН



**Аліне**

ерамена пагоды —
Перамена моды.
Падавай на дождж
інакшы фасон.
Добра — плашч
і яшчэ туфлі-макраходы,
І зусім няблага,
калі дапоўніць іх — парасон.
Вось цяпер — як у бога за пазухай.
Крочыш
пад страхой перасоўнай.
Хочаш — кожную кроплю
адсоўвай.
Хочаш — іскры дажджу
хай на шчокі падаюць.
Як былі б мы
ўбору такому радыя!
...Скрыжавалі рапіры ў небе
маланкі,
А пасля — пайшлі сячы
над галовамі.
Гром ударыў —
і ўраз апусцелі лаўкі,
Ды куды схавацца ў парку,
галоўнае.
І тады,
нібыта дажджу на злосць,
Чаравікі далоў,
Кашулі — далоў.
Бронзай мускулаў
бліснула маладосць —
Павалілі хлопцы
з усіх куткоў.
Побач з імі
праспектам
ішлі дзяўчаты.
Як русалкі,
мокрыя,
басанож...



Сябра,
ты ўспамінаеш той вечар
часта?
Сябра,
ты прыгадваеш гэты дождж?
Цёплы, жнівеньскі.

## КРЫЛЫ



ы нарадзіўся, дружа мой, крылатым.
Не верыш? Запытай у свае маці.
Яна раскажа, як ты узлятаў
З рук бацькавых
ажно пад неба.

Калі ў сябе ты крылаў не намацаў,
Тады бяжы ізноў да свае маці —
Яна сваімі цёплымі рукамі
Абавязкова іх знайсці паможа.

Ну, а калі ты не паверыў ёй
І не адважыўся рабіць узлёты,
Тады па-чалавечы спачуваю:
Ты нарадзіўся сапраўды бяскрылым...

## БАЛАДА ПРА ВОБЛАКА



лыло па небе
вобмацкам
Абпаленае воблака.
Між сініх зорак,
Месяца,
планет,
Разважлівае,
плаўнае

Яно да Сонца
плавала.
Хацелася даведацца:
у чым яго сакрэт?
Няўжо гэта напоўнена
Яно адныміі
промнямі?
Няўжо у небе Сонца —
палаючы агонь?
І воблака
бухматае
Гарачы шар пакратала,
Хоць ведала, што можна
аслепнуць ад яго...
А зараз — адзінокае,
З палаючымі шчокамі,
Плыло яно
так велічна
дадому па начы.
Абпаленае воблака
Нясло праменняў
водбліскі,
Жадала хоць да раніцы
святло іх зберагчы.



Алесь АСІПЕНКА

# АБЖЫТЫ КУТ

Аповесць

Мал. Г. Паплаўскага.

## ЗДРАДА

1

Пасля абеду, калі я «паміраў» ад суму, а хутчэй ад нецярплівасці, што так марудна коціцца пад адхон зімовы дзень, а значыць адцягваецца наша сустрэча, дзверы адчыніліся і Хрысціна нясмела пераступіла парог. За апошні год яна ні разу не была ў нас. Я здзівіўся і невыказна ўзрадаваўся.

— Маці хіба няма?— запыталася Хрысціна.

Заканчэнне. Гл. № 11.

— Няма...

Я спалохаўся, што Хрысціна адразу ж пойдзе з хаты, як толькі даведаецца, што маці няма дома. Але яна стаяла ля парога, пераступала з нагі на нагу.

— Вось жа не пашанцавала,— сказала яна.— Хацела абрус вышыць, а ў тваёй маці, кажуць, узоры ёсць...

Яна нібы шкадавала, што так няўдала выбрала час, каб прыйсці да маці. А я пакутаваў ад невыразнага пачуцця крыўды: навошта яна прызнаецца, што прыйшла не да мяне.

— Пачакай,— папрасіў я Хрысціну,— пашукаю ўзор. Можа знайду...

Хрысціна, не распранаючыся, прайшла на другую палавіну хаты, прысела на лаўку. Я пачаў шукаць узор, хоць добра ведаў, што яго няма. Мне хацелася, каб Хрысціна яшчэ крыху пасядзела.

— Сёння хіба вечарынкі не будзе?— запытаўся я.

— У Данькава збіраюцца ісці.

— Ты таксама, мабыць, пойдзеш? А я павінен дома сядзець, бо няма на каго пакінуць хату.

— Мне таксама не хочацца ісці. Але дзеўкі клічуць.

Замест узору я дастаў з шафы патэфон і горку пласцінак.

Старэнькі патэфон хрыпла крычыць на ўсю хату пра маё каханне да Хрысціны:

> Любовь нечаянно нагрянет,
> Когда её совсем не ждёшь.
> И каждый вечер сразу станет
> Так удивительно хорош...

У хаце мы ўдваіх. Маці няма. Яна паехала ў горад. Вернецца заўтра, а можа паслязаўтра. Зрэшты, сённяшні дзень увесь належыць нам.

Вось так блізка адно да аднаго мы не былі з таго самага вечара, калі я праводзіў Хрысціну з вечарынкі.

Я мяняю пласцінку. І зноў на ўсю хату крычыць патэфон аб каханні. Хрысціна задумліва глядзіць у акно, усміхаецца сваёй ленаватай, прывабнай усмешкай. Яна, відаць, забылася, чаго прыйшла. Мы слухалі песні моўчкі, быццам баяліся парушыць зачараванне, што навявалі словы любві. Шчырае каханне заўсёды нясмелае. Гэта я зразумеў крыху пазней, калі перажыў здраду. А ў той вечар я праклінаў сябе за баязлівасць. Мне здавалася, што ў вачах Хрысціны я выглядаю не толькі смешным, але няшчасным, вартым жалю чалавекам. Каб хоць крыху перамяніць Хрысцініну думку, я стараўся іграць ролю ганарыстага маўчуна. Мне здавалася, што трэба быць разумным, і я пачынаў прыпамінаць чужыя думкі, вычытаныя калісьці ў кнігах.

Хрысціне, мабыць, надакучылі песні, маё маўчанне і сам я, такі недарэчна цельпукаваты ў сваім старанні быць арыгінальным. Я адчуваў, што сустрэча наша канчаецца так, як не хацелася нам. Я баяўся Хрысцінінай усмешкі, якога-небудзь няўцям кінутага крыўднага слова.

У думках я заўсёды быў смелы. Доўгімі зімовымі вечарамі, калі не хацелася спаць, я прыдумляў цудоўныя словы, якія павінны былі скарыць Хрысцініна сэрца. Дасюль мне не было як выказаца перад Хрысцінай, бо мы сустракаліся толькі на людзях. І вось цяпер, калі ніхто не перашкаджаў нам, я спалохаўся.

Хрысціна паднялася, каб пайсці дамоў. Ну, вось і ўсё, пракляты баязлівец!..



— Дык ты на вечарынку не пойдзеш?

— Не,— панура адказаў я.

Хрысціна паволі пайшла да дзвярэй. Здавалася, яна не хоча ісці, але разумее, што заседжвацца непрыстойна. У цішыні, што раптам настала ў хаце, было чуваць, як драпае аб пласцінку іголка. Хрысціна прыпынілася. Вінаватая ўсмешка кранула яе падфарбаваныя вусны, але вочы глядзелі сур'ёзна.

— Іголка сапсуецца,— сказала яна.

Я спыніў патэфон. Не ведаю чаму, пачаў разглядаць бліскучую фірменную пласцінку, што была прыбіта да вечка з унутранага боку.

— Хрысціна, можа не трэба ісці ў Данькава?— голас у мяне быў, як у жабрака, што выпрошвае міласціну.

— А ты хацеў бы, каб я не пайшла?

— Можа, мы сустрэліся б?

— На вуліцы мяцеліца, мароз...

Я падумаў, што было б добра, каб Хрысціна прыйшла да мяне. Але адважыцца на такую прапанову баяўся. Хто яе ведае, што падумае Хрысціна? Можа пакрыўдзіцца...

— Пасядзела б яшчэ крыху.

— Не, Яначка, мне дамоў трэба. Заседзелася я.

Цяпер я зразумеў, што Хрысціна пойдзе назаўсёды.

— Хрысціна,— сказаў я, як асуджаны на смерць,— мне трэба было сказаць табе... Ты, канечне, не злуйся... Я кахаю цябе... Даўно хацеў сказаць...

Я стараўся не глядзець на Хрысціну. Мне было сорамна адарваць ад падлогі вочы, бо, сказаўшы пра свае пачуццё, я адчуў: словы тут былі не патрэбны. Хрысціна смяялася, прыкрываючы рукой твар. Мне відаць былі толькі яе вочы, што па-блазенску паблісквалі з-пад далоні.

— Не, Хрысціна,—крыкнуў я, сам здзіўляючыся сваёй смеласці,— як хочаш, а я цябе не пушчу!..

— А вось і пусціш...

Яна, аднак, не збіралася ўцякаць. Ёй было смешна, што я раптам расхрабрыўся.

— А вось і пусціш... Слабо ўтрымаць...

Я ўхапіў Хрысціну за рукі, злёгку пацягнуў ад дзвярэй. Яна не вельмі супраціўлялася. Я адчуваў, што сілы ў яе не менш, як у мяне: калі б яна захацела, дык вельмі лёгка вырвалася б з маіх рук.

— Ой, Яначка, пусці,— папрасілася яна.

У яе сініх вачах я заўважыў дакор. Я пусціў яе рукі. Хрысціна засмяялася:

— Ты, нібы воск, мяккі дужа...

Гэта прагучала як абраза. Я зусім збянтэжыўся. Дзяўчат, мабыць, ніхто не разумее, нават Хведар, які выхваляецца, што наперад угадвае кожнае іх слова.

Хрысціна пачала завязваць хустку, што спаўзла з галавы.

— Не думала, што ты такі дужы... Аж боязна...

— Чаму?—здзівіўся я. Мне было прыемна чуць, што я дужы, значыць, заўсёды магу абараніць сваю каханую.

— Горача як,— сказала Хрысціна.— Выйдзеш на вуліцу, дык адразу прастудзішся...

Яна адшпіліла верхні гузік кажушка.

Я хацеў памагчы ёй. Хрысціна адвяла мае рукі, але цяпер мяне было не лёгка спыніць. Пачалася тая прыемная гульня, што хвалюе кроў. Хрысціна адводзіла мае рукі, а яны зноўку цягнуліся да яе.

— Ой, не магу...— сказала яна.— Які ты!

Яна падняла ўгору рукі, каб паправіць хустку, кажушок расхінуўся. Пад ім была лёгкая сукенка ў буйны чырвоны гарошак. Маленькія пругкія грудзі туга нацягвалі яе.

Я прасунуў рукі пад кажушок, і яны лёгка сышліся за спіной. Хрысціна як бы пахіснулася, прытулілася да мяне, адкінула галаву назад.

Усё навокал завярцелася, замільгала перад вачыма; было непрывычна хораша.

— Ой, не трэба, Яначка,— прасілася Хрысціна, прытуляючыся, абпальваючы мяне гарачым целам, а я ашалела цалаваў яе шыю, вусны, шчокі...

Раптам я выразна пачуў, што ў маіх грудзях б'ецца два сэрцы: адно злева, другое — справа. Гэтае дзіўнае, не чутае раней біццё выклікала салодкае кружэнне галавы.

— Ой, які ты, замарыў усю,— пачуў я прыглушаны і як бы нездаволены Хрысцінін голас.

Следам за гэтым шэптам з яе плячэй упаў на падлогу кажушок, а голыя па локаць рукі моцна абвіліся вакол маёй шыі...

Далей усё напамінала цудоўны палёт. Мне здалося, што я стаў лёгкі і вельмі дужы. Я ўзляцеў над зямлёй, трымаючы ў руках Хрысціну, закружыўся ў віхуры стамляючага, салодкага палёту.

...Я расплюшчыў вочы, не разумеючы, што раптам змянілася. Хрысціна ўсміхалася. На яе вачах ужо не было той мутнаватай смугі, што затуманьвала іх. Яны зрабіліся густа-сінія і добрыя.

— Якія мы,— сказала яна, абняла мяне і пацалавала доўгім, але зусім інакшым, як раней, пацалункам.

Мне чамусьці зрабілася сорамна. Можа таму, што было няёмка. Нешта турбавала. Каб не паказаць гэтую няёмкасць, я пачаў прыгладжваць далонню завіточкі чорных Хрысцініных валасоў.

— Ніколі не думала, што ты такі ласкавы.

Яна падняла кажушок, потым у другім пакоі доўга прычэсвала валасы, прыглядалася, быццам даўно бачыла сябе ў люстэрка. Я стаяў, абапёршыся аб перагародку. Мне было шкада сябе, Хрысціны. Думалася, што цяпер, пасля ўсяго, што адбылося, мне трэба абавязкова жаніцца. Гэтая думка прыгнятала. Я ведаў, што маці будзе сварыцца. Яна не раз ужо дакарала мяне за тое, што праводзіў з вечарынкі Хрысціну. Тады я хлусіў, казаў, што ішоў з хлопцамі. Цяпер трэба будзе прызнацца.

Потым думкі мае знайшлі сабе новае рэчышча. Нават добра, што так здарылася. Інакш я ніколі не пасмеў бы заікнуцца пра сваё каханне. Цяпер у мяне ставала смеласці на любы рашучы крок. Я ж кахаю самую прыгожую дзяўчыну ў Зарэччы, а можа нават ва ўсім свеце.

Хрысціна ўсміхалася мне па-змоўніцку. Яна завязала хустку, апранула кажушок і, павярнуўшыся да мяне тварам, распасцерла рукі. Мы зноў абняліся.

— Хочаш яшчэ сустрэцца?—запыталася яна.— Чакай увечары. Добра?.. А праводзіць мяне не трэба.

Яна пайшла, памахаўшы з парога рукой. Мая душа спявала нейкую дзіўную песню. Увесь свет, раней такі няўтульны, нечакана адступіў кудысьці са сваімі турботамі, а на яго месцы вырасла Хрысціна. Яна падмяніла свет. Мне здавалася, што свет і Хрысціна адно і тое ж. Свет— гэта Хрысціна. Яе ўсмешка — сонца, яе валасы — бярозавыя галіны ў цёплыя вячэрнія прыцемкі, яе вочы — ясныя зоркі, а пацалункі — радасць і святло, якія прыносіць нам вясна.

Недзе за вокнамі хаты ішло шэрае, будзённае жыццё. У ім жылі нецікавыя, сумныя людзі, якія ніколі не адчувалі радасці кахання. Мне было шкада іх. Хацелася крыкнуць: людзі, кахайце! Потым я марыў пра тое, якім прыгожым і радасным будзе маё жыццё. Уяўляўся ціхі дом з палісаднікам, ружовыя прыцемкі, ласкавы шэпт любімай. Я адкінуў прэч гэтую залішне шчаслівую ідылію. Я захацеў падарожнічаць па свеце. І мы паехалі на новыя землі.

Поўны прыгожых мар, перапоўнены высакароднымі пачуццямі і думкамі, чакаў я вечара. На двары ўсё гэтак жа, як і ўдзень, падаў густы, ціхі снег. Было шэра ад марудлівай мітусні сняжынак і надзвычай прыгожа. На агарожы, на дрэвах, на кожнай былінцы, што тырчала з зямлі, асядаў мяккі белы пух. Ён ляжаў у насцярожанай цнатлівасці, быццам баяўся, каб хто-небудзь грубы не прымяў часам гэтую далікатную прыгажосць. Снег абуджаў пачуццё бясконцай радасці і нейкай сарамлівасці за сваё існаванне. Усё будзённае, звычайнае выклікала абурэнне, але не злоснае, а спагадлівае.

Мне трэба было дагледзець жывёлу, прыбраць у хаце, павячэраць. Я рабіў усё, нібы ў сне. Навошта працаваць, тупаць ля хаты, есці, калі існуе каханне. У той надвячорак я дадумаўся чорт ведама да чаго: «Чалавек дрэнна прыстасаваны да прыроды,— думаў я.— Ён павінен толькі любіць. Больш нічога». Праўду кажуць, што закаханыя страчваюць розум. Я, у кожным разе, той дзень быў блізкі да гэтага.

Потым настaлі прыцемкі. Не хацелася запальваць лямпу, бо святло магло сапсаваць невымоўна шчаслівы настрой чакання. Паступова, як бы неахвоча, цемра заваёўвала хату. Сцены, столь, рэчы — усё адступала, хавалася ў чарнаце. Затое вокны з кожнай хвілінай шарэлі ўсё больш выразна. Праз іх нясмела заглядала ў хату скупое святло заснежанай зямлі.

Грукат у сенцах адарваў мяне ад думак. Па той бок дзвярэй нехта шукаў у цемры клямку. Хрысціна! Як жа я не пачуў, калі яна прайшла паўз вокны? Я выбег на кухню. Сэрца калацілася, а вусны смяглі, нібы я ўвесь дзень пёкся на сонцы. Нарэшце дзверы адчыніліся, і на парозе паявілася чорная здань.

— Ці ёсць хто ў хаце?..

Я пазнаў голас аднарукага Піліпа Вострыка, нашага паштальёна.

— Ёсць...

— Чаго ж ты сядзіш у цемры? Газы мо шкадуеш?

— Вялікай патрэбы ў святле няма. Зараз знайду запалкі, пачакайце.

— Не трэба. Я не збіраюся сядзець. Яшчэ і дома не быў. Тут, Канстанцінавіч, во якое дзела. Заўтра ў канцылярыі нарада, а Даніла захварэў. Дык табе сказана ехаць.

Я добра ведаў, што нікуды заўтра не паеду, але баяўся, што Піліп пачне ўгаворваць мяне. Тады нас застане Хрысціна. Гэтага я не хацеў.

— Пастараюся быць, калі маці прыедзе,— сказаў я.

— Маё дзела перадаць, а там як хочаш... Ну, дабранач...

Піліп Вострык пайшоў, а я застаўся адзін у цёмнай пустаце хаты. Яна палохала, выклікала недарэчную пужлівасць. Апрануўшыся, я выйшаў на двор.

Снег ужо не падаў, як раней, а церушыўся дробным, калючым пылам. Узгараўся мароз, і на захадзе, дзе праяснілася неба, трапятала малінавая стужка зары. З-за Расянкі пацягваў калючы вецер. Пад яго парывамі ўвачавідкі абтрасаліся ад снежнага пуху кусты. Усё навокал перамянілася.

Снег не здаваўся такім мяккім, як раней, а шорсткім і грубым.

Я прыслухаўся. У марознай цішыні чуліся чыесьці крокі. Потым я ўбачыў танклявую постаць. Хрысціна!

Яна падышла ўзбуджаная і нейкая неспакойная.

— Ніяк не магла з дому выбрацца,— сказала яна.— Бацька нейкіх п'яніц прывёў. Надумаў, каб я ім песні спявала. Ледзьве адчапілася.

Хрысціна ніяк не магла перамагчы хваляванне. Я ўзяў яе за руку. Так мы і зайшлі ў хату. З панадворку тут было цёмна, як у яме. Я дастаў быў запалкі, але Хрысціна адабрала іх.

— Не трэба, Яначка, яшчэ хто са двара ўбачыць. А нам і ў поцемках добра. Праўда? — і абняла мяне, тулячыся ўсім целам.

Потым было тое ж адчуванне нязведанага, чароўнага палёту, мільганне квяцістых вясёлак, задыханы шэпт гарачых вуснаў і прагная моц абдымкаў. Яе валасы казыталі мой твар, але я не мог прыгладзіць іх, бо адчуваў ленаватую стому, што адабрала сілы і ахвоту варушыцца. Гэтая знямога, прыцішаны шэпт, ласкавая цеплыня Хрысціных рук, глухая, парная цемра стваралі ўяўленне незямнога, нават нерэальнага быцця. Не хацелася думаць, гаварыць.

— Калі ты першы раз адчуў, што любіш мяне? — запытаўся хтосьці з цемры.

Я страпянуўся, бо пытанне заспела мяне знянацку. Гледзячы ў чарнату ночы, я стараўся ўспомніць, калі першы раз адчуў, што кахаю Хрысціну. Успаміналася, аднак, іншае: мая пужлівасць, панічны страх ад некалькіх слоў наконт таго, што Хрысцініна маці ўпадабала мяне, і нязёмкая радасць, калі я пачуў адказ, што яна, Хрысціна, замуж за мяне не пойдзе. Цяпер мне было сорамна за той дзіцячы страх.

Хрысціна чакала, што я ёй адкажу. Не надта ўпэўнены ў праўдзівасці сваіх слоў, я сказаў, што пакахаў яе з той вечарынкі, калі першы раз праводзіў дамоў.

— А я цябе раней прыкмеціла... Летась, калі кінафільм прывозілі. Помніш, той, дзе служанка за гаспадарскага сына замуж выходзіць. Я яшчэ з табой пачала гаварыць, а ты павярнуўся і пайшоў. Вельмі я тады ўзлавалася. Потым мне Галя Янчык сказала, што ты да дзяўчат халодны. Ну, я і адступілася. Думаю, не варта хлопцу галаву тлуміць. І раптам даведваюся, што ты з Даніլавай Шуркай на востраве быў. Нібы пакрыўдзіў ты мяне гэтым. Чаму, думаю, хто не чакае шчасця, таму яно, як снег на галаву?

Хрысціна гаварыла разважліва, спакойна, быццам думала ўголас. Яе словы выклікалі ў мяне дваістае пачуццё: радасці — мяне любяць! — і прыкрасці — не я пакарыў дзяўчыну, а яна мяне.

У хаце святлела. Вецер, мабыць, разагнаў хмары і пухлячок-маладзік сеяў на зямлю кволы россып сіняватага агню.

— Позна ўжо,— сказала Хрысціна. Яна паднялася з лаўкі, на якой мы сядзелі, пачала завязваць хустку.— Дамоў я, мусіць, не пайду. Усё роўна ці сем грахоў, ці сем разоў па сем грахоў. Не баішся, калі заўтра тваё імя разам з маім ва ўсіх на языках будзе?

— Што ты!..

— Я так. Ведаю, што ты не з тых, якія ноччу дзяўчыну цалуюць-мілуюць, а назаўтра ў душу ёй плююць.

Яна прайшлася па хаце. Я то губляў яе ў цемры, то зноў бачыў, калі яна падыходзіла да мяне. Потым, спыніўшыся, сказала:

— Ты, Яначка, пра мяне дрэнна не думай. Табе добра са мной? Ну, вось бачыш! Я часта дзіўлюся: чаго любві саромяцца? Калі чалавека моцна кахаеш, дык нічога не баішся. Не будзеш мяне асуджаць? Ці можа Хведзьку заўтра пахвалішся, як я цябе сёння цалавала?

— Навошта ты так? Хіба я не кахаю цябе?—у мяне перасохла ў горле ад крыўды.

Хрысціна, відаць, адчула, што зрабіла мне балюча. Яна нахілілася



нада мной, доўга цалавала, паўтараючы адно і тое ж: «Памаўчы, мілы, памаўчы...»

— Я вельмі люблю цябе, Хрысціна,— сказаў я крыху пазней.— Я абавязкова ажанюся з табой. Толькі ты пачакай крыху...

Яна не дала мне дагаварыць:

— Ах ты, харошы мой! Хіба ж я не бачу, які ты добры!

Мы сядзелі так блізка, што яе калені дакраналіся да маіх каленяў. Мне было хораша ад яе слоў, ад той інтымнай шчырасці, якая ўстанавілася між намі. Можа ўпершыню за сваё жыццё я сам падабаўся сабе. З Хрысціных вуснаў мне чулася, які я ласкавы, сумленны, шчыры, праўдзівы. І я верыў у гэта. За адзін вечар я невымерна вырас ва ўласным уяўленні. Гэта кранала, узварушвала шквал пачуццяў, якія прымушалі мяне быць яшчэ лепшым.

Раптам Хрысціна прытулілася да маіх грудзей і доўга сядзела так, прыціхлая і нібы чужая. Я не ведаў, што з ёй і што мне рабіць. Асцярожна пакратаў яе за плячо. Хрысціна нават не паварушылася. Тады я паспрабаваў падняць яе галаву. Твар у Хрысціны быў мокры. Я не мог зразумець, чаго яна плача? Хіба я пакрыўдзіў яе? А можа Хрысціна няправільна зразумела мае словы? Няўжо яна не верыць, што я шчыра буду чакаць з жаніцьбай, пакуль стану на ногі.

— Няўжо ты не верыш мне? — запытаўся я, адчуваючы невыказны боль у сэрцы.

Яна пачала смяяцца праз слёзы.

— Не, што ты! Я табе больш, як сабе, веру. Проста дурная, не зважай на мае слёзы. Вось раптам шкада сябе стала. Хочаш, я табе пра сваё жыццё раскажу? А пасля ты мне пра сваё раскажаш. Без утойвання.

Мы прасядзелі да раніцы. Я і не падазраваў тады, што гэта была наша апошняя сустрэча. Бадай, апошняя...

## 2

Чалавек прывыкае да ўсяго, нават да кахання. Яшчэ ўчора ўвечары я трызніў каханнем, марыў пра адзіноту ўдвух, пра ўцёкі з шэрага, будзённага жыцця. Мне хацелася вечнага свята. Каб у мітусні яркага агню гарэла жыццё...

Сёння, калі я прачнуўся, быў сонечны, іскрысты дзень. З-за бярозавага гаю, пакрытага лёгкай шэранню, узнімалася над зямлёй вялікае барвовае сонца. Над вёскай таялі ў сінім небе наміткі ружовага дыму. Гулкую цішыню раніцы пранізвалі рыпучыя чалавечыя крокі, кашаль, далёкая нетаропкая размова.

Я выйшаў на вуліцу і адчуў, як сцюдзёнае марознае паветра апаліла мне твар; пачуў, як звонка рыпіць снег; убачыў, як гарыць на сонцы аснежанае поле, як зззяе высокае і вельмі празрыстае неба,— і мне захацелася самай звычайнай, вельмі цяжкай і можа нават бруднай работы. Такой, каб ад яе нылі рукі і ногі, балела спіна, а вочы зліпаліся ад стомы. У мяне было шмат сілы, якая не давала спакою. Я схапіўся за калоду, прымёрзлую да зямлі, і закаціў яе пад паветку. Але гэта была не тая праца, якой прагнуў. Мне хацелася, як тады, улетку, на поплаве, працаваць у дружным гурце, на відавоку, каб адчуваць вясёлы рытм агульнай працы.

...На брыгадным двары пахаджваў перавязаны шарсцяной хусткай Даніла Налягач. Мне зрабілася сорамна: хворы чалавек падняўся

з ложка, бо я, захоплены сваімі марамі, спазніўся на размеркаванне нарадаў. Людзі, мабыць, не дачакаўшыся мяне, пайшлі да брыгадзіра, і ён вымушаны быў ісці на вуліцу.

— Што ж гэта, Янка, я хворы, а ты ад ляноты нават нарады не раздаў.

— Да доктара вам трэба было б,— азваўся я, каб спачуваннем згладзіць дрэннае ўражанне, якое магло скласціся ў брыгадзіра пра мяне.

— Да дактароў, кажаш. А сена калі перавозіць будзем? Раптам адліга, дык чым тады жывёлу карміць? Не ўжо, браце ты мой, няхай другія ляжаць. А нам да самай смерці няма адпачынку. Нам брыгаду трэба з прарыву выводзіць, вось што я табе скажу. Раз ужо ты прыйшоў, дык бяжы ў Русакі, трэба змабілізаваць мужчын, ды пабольш саней запрэгчы. За сёння каб хоць палову стагоў перавезці.

— А на нараду вы самі паедзеце?

— Не, табе прыйдзецца. А цяпер я пайду. Глядзі ж тут добранька...

Дзень прайшоў у клопатах пра сена. Зарачанцы, ды і русакоўцы не надта шчыравалі, а што астровенцы возяць сабе сена з нашых паплавоў, ім зусім не падабалася. І ўсё ж мы паспелі перавезці два стагі. Астровенцы перавезлі тры.

Пад вечар калгасны вартаўнік дзед Мікіта запрог мышастага шустрага коніка ў сані-розвальні, ускінуў на іх ахапак сена. Я кратануў лейцы, і сані лёгка вынеслі мяне за аколіцу.

Я вельмі люблю ездзіць на кані, люблю бялюткія, заснежаныя палі, па-зімоваму асмужанае вячэрняе неба, маўклівыя ў шэрані прысады. Хораша ехаць на санях. Куды лепей, як у машыне. І дарэмна людзі пагардліва крывяцца на каня, дарэмна шафёры ўсміхаюцца здзеклівымі ўсмешкамі, палохаючы коней гудкамі сваіх машын. Той, хто едзе на кані, не прапятае міма прыгажосці. Яна спадарожнічае яму, любоўна раскрываецца перад яго здзіўленым позіркам.

Я ляжу на духмяным, шорсткім ад марозу сене тварам уверх. Калматы канёк, пушчаны на волю, лёгка трухае. На выбоінах падскокваюць, рыпяць сані, спяваюць адвечную песню палазы, а конскія капыты гопаюць аб дарогу, як аб мокры бубен. З-пад ног лятуць, звонка бомкаюць па бляшаным перадку саней камячкі снегу. Марознае паветра пахне дарогай, сенам, потнай конскай поўсцю. Здаецца, ляціш пад белавата-сінім небам у невядомы, казачны свет.

У небе плыве малады яшчэ месяц. Ён вылез на неба да заходу сонца, ашчэрыўся, бы блазнюк, задаволены сваімі пракудамі, бяжыць навыперадкі з маім мышастым канём. Непадалёк ад яго, нібы навагодняя ёлачная свечка, мігае белаватая зорка і таксама стараецца не адстаць ад каня.

Пад вечар бярэцца мароз. Хвацка пашчыпвае нос і вушы. Усё мацней дзьме вецер, узнімаючы снежны пыл. На дарогу, падвільваючы доўгімі хвастамі, выпаўзаюць снежныя касякі. Санкі разразаюць іх палазамі, і рабацяга-вецер тут жа латае сумёты.

Добра было б пракаціцца з Хрысцінай у санях... Пад дугой званочкі. На аброці між конскіх вушэй белыя султаны. Шырокія лейцы з кутасамі...

Падляцелі б коні да сельсавецкага ганка. Бомкнулі і сціхлі званочкі. Прыехалі!..

— Каго там прывезлі?

— Сітова... Брыгадзіра зарачанскага...

— А то нявеста яго, Хрысціна...

— Прыгожая...



— Лепшай на сто вёрст не знойдзеш.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Эй ты, дышла табе ў рот! На бок павярні, рыла!

Гэта ўжо не мары. Я ашалела ўскокваю, хапаю лейцы, каб павярнуць каня на абочыну. На сустрэчных санях два п'янаватыя тыпы. Адзін вусаты, з гарбатым, арліным носам, другі—з круглым, нібы аўсяны блін, тварам. Шчокі, нос, лоб—усё на твары плоскае і нейкае шурпатае.

— Зварочвай, дубіна!—крычаць з саней.

Мне няма куды звярнуць. Направа—канава. Налева я не магу павярнуць, бо іх конь замінае майму.

— Вам жа лепш крыху саступіць з дарогі,— кажу я.

Вусаты зварочвае свайго каня, а майго з усяе сілы б'е пугай. Я амаль што не вылятаю з саней. У гэты час шыракатвары пхае нагой мае сані, і іх заносіць на бок, у канаву. Як на злосць, аглобля выскоквае з уключыны, сані перакульваюцца, а я качуся на дно канавы ў снег. Падняўшыся на ногі, махаю кулаком услед нахабнікам, што ўцякаюць ад мяне.

У цэнтр калгаса я прыязджаю на прыцемку. Пад абураны брэх сабак мінаю доўгую вуліцу, што самотна прыціхла пад заінелымі прысадамі. А вось і наш адміністрацыйны цэнтр. Тут вёска падобна на мястэчка або маленькі гарадок. У хатах электрычныя агні. На вуліцах бялеюць у марозным тумане ліхтары. Над дахамі распасцёрліся тэлевізійныя антэны-крыжы. Усімі вокнамі свеціцца калгасны клуб. Ярка гараць агні ў вячэрняй школе.

Гледзячы на ўсю гэтую раскошу, я адчуваў, як падбіраецца пад сэрца крыўда. Чаму яшчэ ёсць такія вёскі, як наша Зарэчча? Можа недахопы, якія любяць цемру, уцяклі адсюль да нас?..

Прывязаўшы каня да баскетбольнай вышкі, я пайшоў у кантору.

— Хто там?

— З Зарэчча, учотчык Сітоў,—сказаў я, заходзячы ў маленькі кабінет галоўнага бухгалтара.

Сяргей Сяргеевіч сядзеў за сталом, верх якога быў размаляваны пад шашачную дошку чорнымі і белымі фарбамі. Бухгалтар гуляў у шашкі з начальнікам паштовага аддзялення. Гульня набліжалася да таго кульмінацыйнага пункту, калі кожны ход вырашае лёс партыі. Ігракам было не да мяне, і ўсё ж Сяргей Сяргеевіч запытаўся:

— А чаму не сам Амельнічэнка прыехаў?

— Ён хворы,— адказаў я.— А нарада хіба кончылася?

— Ідзі ў клуб, там пра ўсё даведаешся.

У глядзельнай зале прыезджы лектар расказваў пра далёкія сусветы. Быў ён невысокі, круглы, нібы калабок, а голас меў тонкі. За ім на сцэне віселі карта зорнага неба і дыяграмы палётаў першых спадарожнікаў Зямлі. Лектар, трымаючы ў руках доўгую ўказку, падбягаў на кароткіх нагах да карты, за нейкае імгненне пераносіўся ў далёкія прасторы сусвету. Людзі слухалі яго, затаіўшы дыханне, і я не захацеў перашкаджаць ім. Пастаяў пад дзвярыма, паглядзеў крыху ў шчыліну на лектара і на дыбачках адышоў.

Праз цемнаваты калідор была зала адпачынку. Я пайшоў туды і яшчэ за дзвярыма пачуў, як там гулка ляскаюць більярдныя шары. Тут сабралася кампанія, што гатова ўсю ноч прастаяць з більярдным кіем. І Чукрай быў тут.

— А-а-а, Сітоў!..— заўважыў ён мяне.— Пачакай крыху. Кончыцца лекцыя, і мы пачнем нараду. Доўга не затрымаемся. А пакуль можаш тут пасядзець. Хочаш — схадзі ў бібліятэку...

Я пайшоў у бібліятэку. Там прыглушана гарэла сіняе святло. Было

ўтульна і ціха. Мяне пацягнула да паліц, да кніг, да тоненькіх яшчэ газетных падшывак гэтага года.

За парэнчай, што аддзяляла чытальную залу ад кнігасховішча, ля століка сядзела невысокая, драбнатварая дзяўчына, чытала кнігу. Заўважыўшы мяне, яна хуценька зняла акуляры, схавала іх у стол, і я абляяў сябе ў душы, што так нечакана ўварваўся сюды, выведаў сакрэт, які ніхто, відаць, не ведае. Мне здалося, што з акулярамі дзяўчына выглядае, бадай, больш самавіта. Без іх яна была падобна на дзяўчынупадростка, якая сёлета кончыла восем класаў.

— Вы па кнігу прыйшлі?— запыталася яна.

— Бадай што так. Нават не ведаў, што ў нас новая бібліятэкарка. Ранейшая трымала ўсё гэтае багацце на замку.

— Я яшчэ не паспела ўсім апавясціць,— як бы пачала апраўдвацца дзяўчына.— Я ўсяго паўтара тыдні тут. Можа пройдзеце за перагародку, пагледзіцё, што ў нас ёсць?

Яна падняла парэнчу, і я, бясконца ўзрадаваны, пераступіў той рубеж, які звычайна аддзяляе чытача ад кніг.

— Давайце пазнаёмімся спярша,—сказаў я, адчуваючы, што далей будзе цяжка весці размову.— Мяне завуць Сітоў Іван. Я не тутэйшы, а з Зарэчча.

— Салей... Фруза,— працягнула руку дзяўчына.— Гэта добра, што мы пазнаёміліся. Мне пра вас таварыш Загурскі казаў.

Напамінак пра Загурскага крыху збянтэжыў мяне. Чалавек гэты ўладна ўрываецца ў нашу хату. Я добра разумею ўсё. Маці адной сумна і не лёгка жыць. І яшчэ: маці, мабыць, любіць Загурскага, хоць мне здаецца, што для любві яна старая. А можа я проста баюся перамен у хаце? Можа я проста баюся за сваё каханне?

Як не дзіўна, але пасля таго брыгаднага сходу маці стала хваліць Загурскага. І калі я часам гаварыў што-небудзь благое, яна сварылася на мяне. Цяпер Загурскі працуе сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса і намеснікам Чукрая. А да гэтага ў яго было шмат непрыемнасцей. Вараніцын напісаў тады дакладную, і Загурскага выклікалі ў райком партыі. Што там адбылося, я не ведаю. Але неўзабаве ў калгас прыехала камісія, нешта правярала, склікала нарады. Потым Загурскага зноў выклікалі ў райком, прапаноўвалі пасаду дырэктара цагельнага завода. Загурскі адмовіўся. Мне здаецца, што ён не захацеў ехаць з-за маёй маці. А зусім нядаўна яго ўвялі ў праўленне калгаса, выбралі партыйным сакратаром.

— Што ён казаў?— пытаюся я.

— Пасля пагаворым.

Кнігі займалі ўвесь пакой. Мы ішлі па вузкіх праходках між паліц, што туліліся да сцен, стаялі пасярэдзіне, утвараючы дзіўны лабірынт з кніг. Часам я браў кнігу, адгортваў вокладку і, гледзячы на тытульны ліст, стараўся прыгадаць, што я ведаю пра аўтара. Пісьменнікі, якіх я ніколі не чытаў, сустракаліся даволі часта. Спачатку гэта збянтэжыла, нават засмуціла мяне. Потым падумаў, што засмучацца няма чаго, калі я магу пазнаёміцца яшчэ з сотняй добрых, цікавых людзей. Мне хацелася пазнаёміцца з імі адразу, і я пазайздросціў гэтай ціхмянай з выгляду і нейкай узнёслай дзяўчыне, што можа ў любы час хадзіць сярод кніг.

Яна не адставала ад мяне. Калі я спыняўся ля паліцы і даставаў кнігу, дзяўчына прыўзнімалася на дыбачкі, чытала назву і нешта шаптала сабе. Мне здалося, што яна гэтак жа, як і я, экзаменуе сябе, ці ўсё ведае пра аўтара кнігі.

Было надта ціха. Часам я забываўся, што недзе за гэтымі кнігамі, апроч іх, існуе звычайнае жыццё, поўнае трывог, чалавечага неспакою, вялікіх спраў і дробязных непаразуменняў. Кнігі, як жывыя істоты, захаплялі маё ўяўленне і, здаецца, размаўлялі са мной, адкрываючы свае патаемныя думы.

Я трымаў у руцэ тоненькую кнігу невядомага мне пакуль пісьменніка з дзіўнай назвай «Месяц і грош». Першыя радкі здзівілі мяне ёмістасцю слоў і думак. Я ледзьве адарваў вочы ад кнігі. Фруза стаяла побач нейкая сур'ёзная і ўрачыстая. Так бывае з чалавекам, які спадзяваўся на тое, што другі, менш вопытны, вось-вось зробіць нейкае вялікае адкрыццё — і ўжо зрабіў яго.

Я ледзьве адарваўся ад кнігі. Фруза, мабыць, заўважыла, што мяне захапіла кніга.

— Гэта Маэм,— сказала яна.— Цудоўны пісьменнік, хоць я і не згодна з ім.

Я быў здзіўлены яе словамі. Часам я таксама адчуваў незадаволенасць кнігай, але выказваць сваю нязгоду з пісьменнікам пакуль нікому не адважваўся. У літаратуры мне ўсё здавалася бясспрэчным.

— А хто вам найбольш падабаецца?—запытаўся я.

— З рускай ці замежнай літаратуры?

І зноў я выдаваў сябе з галавой, што не ўмею весці размову аб літаратуры. Я проста яшчэ зусім мала ведаю...

— З рускай мне падабаюцца Дастаеўскі, Талстой, Чэхаў. Люблю Горкага, Шолахава. Разумееце, у іх ёсць нешта блізкае мне. От, здаецца, пра іншых людзей напісана, такіх далёкіх і незнаёмых, а нібы пра цябе ўсё гэта. А вам што падабаецца?

— Мне ўсё, што цікава напісана.

— Без разбору чытаць не трэба. Я вельмі рана пачала чытаць. Маці мая — настаўніца. Яна мяне з пяці год навучыла чытаць. Спачатку казкі чытала, вершы, а з чацвёртага класа я ўжо за Чэхава ўзялася—другіх кніг у нашай пачатковай школе не было. Бывала, забяруся куды ў куток, падкурчу ногі і чытаю, чытаю... Жылі мы тады няважна. Бацька памёр, а нас трое на мамчыну зарплату... Галодна часам было, а пачнеш кнігу чытаць — і на ўсё забываешся.

— Гэта я ведаю...

Мне было прыемна адчуваць, што напаткаўся вельмі блізкі чалавек, які за кнігай адчувае тое ж, што і я. Гэта радніла нас.

— Я яшчэ прыгодніцкую літаратуру люблю,— пахваліўся я.

— Хлопцам яна падабаецца,— сказала Фруза і зноў пачала пра сваё, што было, відаць, дарага ёй:— Пасля мы ў школу-дзесяцігодку пераехалі. Там літаратуру Іван Барысавіч выкладаў. Сухенькі такі дзядок, а расказваў так, што можна ўсё жыццё слухаць і не адарвацца. Бывала, пасядзем ля яго, і пачне Іван Барысавіч пра пісьменнікаў апавядаць... От ужо ведаў!.. У яго бібліятэка была: уся хата кнігамі забіта. Толькі кнігі ён не кожнаму даваў. Але мяне ўпадабаў чамусьці. Сам мне кнігі выбіраў. Помню, дае мне аднойчы Пушкіна. Гляджу — вершы. Хацела была адмовіцца, потым узяла, думаю сабе: перагартаю і прынясу назад. А ўзялася чытаць — не магу адарвацца. Помніце вось гэта: «У лукоморья дуб зелёный, златая цепь на дубе том...»

— «И днём, и ночью кот учёный всё ходит по цепи кругом».

— Вам падабаецца?..

— Я Лермантава люблю. Вось гэта: «Немного лет тому назад, там, где, сливаяся, шумят, обнявшись, будто две сестры, струи Арагвы и Куры, был монастырь».

— Гэта «Мцыры». А «Казакоў» вы чыталі?

Цяпер мы закідвалі адно аднаго пытаннямі і, не чакаючы адказу,

ведалі ўжо, што нам падабаюцца аднолькавыя кнігі, адны і тыя ж героі.

У цішыні непрыкметна бег час, але мы ўсё ніяк не маглі нагаварыцца. Потым унізе пачуліся галасы, і я зразумеў, што лекцыя закончылася, што трэба ісці на нараду. Ой, як не хацелася мне тады пакідаць гэты ўтульны пакой...

— Можа вы, Янка, паможаце мне зрабіць у вашай брыгадзе бібліятэку. Работы ў вас будзе не шмат...

Я з радасцю згадзіўся.

Яна дастала з паліцы нейкую кнігу і, падставіўшы крэсла да грубкі, пачала чытаць. Я пайшоў на нараду. Яна прадаўжалася не больш дваццаці хвілін. Чукрай прачытаў з газеты перадавы артыкул, у якім аб'яўляўся месячнік па вывазцы ўгнаенняў. Потым аграном раздаў графікі. Нас распусцілі, загадаўшы дасылаць у кантору звесткі кожную пяцідзёнку.

Дамоў я вяртаўся ў бадзёрым настроі. Нада мной у чорнай бездані неба ярка гарэлі зоркі. На захадзе, над самым лесам, цьмяна паблісквaў маладзік. Я падганяў каня, бо мне хацелася як можна хутчэй прыехаць у Зарэчча, каб назаўтра зрабіць дзве вялікія справы: абагнаць усе брыгады па нарыхтоўцы торфу і адкрыць перасоўную бібліятэку.

У Русаках мяне сустрэў дзед Мікіта.

— Каня не запарыў?— запытаўся ён, прасоўваючы пад хамут руку, і задаволена пахваліў.— Малайчына! Іншыя і пяці мінут не могуць ціха праехаць. Усё ім наўскач. А конь не машына. Яго берагчы трэба, тады і ён табе верна паслужыць... Чаму там вас добраму вучылі?

— Торф вазіць трэба.

— А-а-а-а... Ну і што ты думаеш?..

— Заўтра пачнем капаць...

— Капаць яго не трэба. Ён ужо накапаны. Толькі ўсё роўна вазіць на поле яго не выпадае.

— Чаму?— здзівіўся я.

— Торф у самыя дажджы капалі. Высахнуць ён не паспеў і цяпер, мабыць, перамерз. Яго толькі ламамі ўдзяўбеш. З гноем яго кампаставаць, дык палова бяды... Да вясны ён, бадай, перагарэў бы. А калі мёрзлыя камлыгі ў полі зляжыць — вясной з іх поліўка пацячэ. Карысці з яе аніякай. У нас і так глебы кіслыя.

Я нічога не разумеў. Успамінаю ўрокі па раслінаводству і нічога не магу прыпомніць. Тэарэму Піфагора помню, біном Ньютана таксама, як размнажаецца саламандра, якім памерам напісана паэма «Яўгені Анегін», якая самая высокая гара ў Афрыцы, у якім годзе Пір «перамог» рымлян — усё гэта я помню. А вось якія адносіны маюць мёрзлыя камлыгі торфу да кіслых глеб і чаму пракісаюць гэтыя самыя глебы, не ведаю. Можа такой тэмы мы наогул у школе не праходзілі?..

— Вось жа графік,—кажу я, выцягваючы з кішэні аркуш паперы.

Дзед Мікіта моўчкі разгортвае графік перад ліхтаром, круціць галавой.

— Здорава малююць...

Ён вядзе ў хлеў каня. Следам за ім я нясу вупраж. На душы ў мяне неспакойна.

— Дык што ж мне рабіць?— пытаюся я.

— Трэба, каб толкам сказалі, дзе гной браць. А так хапу-лапу вазіць торф на поле — марная справа.

— Відаць, дзед,—кажу я,— памочнік брыгадзіра з мяне не выйдзе...

Мікіта ставіць каня ў станок, падкладае сена ў яслі, потым доўга стаіць, пагладжваючы мышастага па грыве.



— Чаму не выйдзе? Выйдзе. Толькі малады ты яшчэ залішне...

## 3

Праз замураваныя марозам вокны ў хату прабіваецца крохкі чырвоны прамень. Ён ломіцца на густой наледзі, нібы ў прызме, адбіваецца на белай печы вясёлкавым узорам. Я доўга моўчкі гляджу на гэтае дзіва прыроды. На белым фоне печы выразна бачны толькі аранжавыя, жоўтыя і сінявата-фіялетавыя палосы. Іншыя колеры спектру чамусьці прапалі.

Успамінаю лекцыі па фізіцы. Стараюся ўзнавіць у памяці ўрокі культурнага і бясконца добрага Паўла Міхайлавіча. Хтосьці вось цяпер слухае яго нетаропкую, глухаватую гаворку і, напэўна, так, як і мы ў свой час, не ўмее ацаніць выдатны талент свайго настаўніка. Чалавек заўсёды спазняецца. Вось і я толькі цяпер пачынаю разумець, які цудоўны чалавек Павел Міхайлавіч. На жаль, гэта позна...

У хаце холадна. Я прынашу з панадворку бярозавыя дровы, накладваю ў грубку. Праз хвіліну ў ёй шугае зыркае полымя, і ўтульная цеплыня спакваля выцясняе халадзіну. Прымасціўшыся на перакуленай табурэтцы, я пазіраю на агонь. Белыя паленцы дроў увачавідкі абвугліваюцца, чырванеюць яркім жарам. Потым па галавешках бегаюць, мітусяцца сінія трапяткія агеньчыкі, пакідаючы за сабой белаваты налёт на вугалях. З грубкі патыхае гарачынёй, якая абпальвае твар, грудзі, рукі. Здаецца, вось-вось засмыліць кашуля. Хочацца адсунуцца далей ад агню і не стае сіл, бо па ўсім целе разліваецца млявасць. Так цёпла, утульна, хораша! Нават не верыцца, што на двары зіма, што ўсё навокал замецена снегам, а ў калодзежы на пасёлку дашчэнту вымерзла вада.

Вячэрнія прыцемкі непрыкметна атуляюць закуткі. Толькі ля грубкі ляжыць на падлозе светлая, мітуслівая пляма. Хочацца яшчэ бліжэй падсунуцца да агню, каб быць далей ад змроку, што выклікае непрыемнае адчуванне адзіноты. Так бывае ўначы, калі ты сядзіш ля кастра, а навокал цябе чорная, непрыветлівая цемра. Здаецца тады, што, як толькі адыдзешся ад агню, цябе адразу праглыне страшная пачвара, і ты тулішся да кастра, баішся азірнуцца і з надзеяй глядзіш на агонь: можа ён захаваецца да світання.

Людзі заўсёды любяць святло і вельмі баяцца цемры. Не ўсе, вядома...

У сенцах хтосьці грукае, абівае снег з ботаў. Чалавек кашляе, і я адразу пазнаю яго. Гэта Загурскі. Ён напускае поўную хату холаду. Белае вoблака пары коціцца па падлозе, абдае марозам ногі.

— Здароў, брыгадзір,— вітаецца Загурскі, падаючы мне руку, як роўнаму.

Мне і няёмка і прыемна. Цяпер я не проста Іван Сітоў, а брыгадзір. Пасада надае чалавеку сталасць, павагу і нешта яшчэ такое, што не паддаецца разуменню.

— Які я брыгадзір...— сарамліва адказваю, бо сарамлівасць, на маю думку, сведчыць аб сціпласці.

— Э-э-э, браце ты мой, той не салдат, хто не марыць быць генералам. Ну, як твае справы?

— Жыць, як кажуць, можна.

— Гэта праўда. У хаце цёпла. Мухі на зіму падохлі. Любата. А пра інвентар, што пад снегам ляжыць, пачнем думаць тады, як трэба будзе на поле ехаць.

Я маўчу. У грубцы дагараюць дровы, і яркі водсвет агню паступова цямнее. Ціха датлявае пакрытае белаватым попелам вуголле. Змрок смялей вылазіць з закуткаў, апранаючы ўсё навокал у чорную, нязграбную апранаху. Я зачыняю грубку, прынюхваюся, ці не чадзіць, і запальваю лямпу.

З печы саскоквае кот. Ён выгінае спіну, трэцца аб мае ногі і ленавата мяўкае: «няў-няў». Загурскі моўчкі наглядае за катом, ідзе да дзвярэй. Кот бяжыць за ім трушком, весела задраўшы пушысты чорны хвост. Загурскі адчыняе дзверы, і з сенцаў у хату зноў паўзе белае воблачка халоднага паветра.

— Маразы, хай на іх...— кажа Загурскі.— Баюся, каб сад не вымерз... А як у вас тут з кампасціраваннем? Многа гною вывезлі? Мы, брат, абмеркавалі гэтую праблему. З вясны пераводзім у Зарэчча ферму. Не дзела вазіць гной за пяць кіламетраў. Ды і людзям выгадней будзе: калі ёсць пастаянная работа, дык і дысцыпліна лепшая.

Ён ходзіць па хаце, засунуўшы рукі ў кішэні кароткай футравай тужуркі. Я адчуваю, што Загурскага штосьці непакоіць. Але ж не ў маіх звычках лезці да людзей з пытаннямі. Я саджуся за стол, каб кончыць табель, а Загурскі ўсё ходзіць і ходзіць па хаце. Нарэшце яму надакучае гэтае падарожжа. Ён садзіцца на лаўку, сашчэплівае пальцы і моўчкі глядзіць на бацькаў партрэт у багетавай рамцы. Бацька на партрэце зусім не падобны на сябе. Я памятаю яго іншым.

Гэта было тады, калі ён будаваў вось гэтую, дзе мы сядзім, хату. Бацька абчэсваў бервяно, стоячы на хісткім рыштаванні. Я бегаў унізе, збіраў трэскі. Бацькаў голас напалохаў мяне да смерці:

— Уцяка-а-ай!

Я задраў галаву ўверх. Бацька трымаў з усіх сіл бервяно. У яго быў барвовы твар і вялізныя вырачаныя вочы. Адна бацькава нага вісела ў паветры, другая ледзьве трымалася на вугле. Рыштавання не было.

— Уцяка-а-ай!

Перапалоханы крыкам, я кінуўся бегчы. Ззаду нешта загрукатала, гулка ўдарылася аб зямлю. Я азірнуўся — бацькі на сцяне не было. Ён ляжаў пад хатай на трэсках, а бервяно ўсё яшчэ кацілася па зямлі.

Я запомніў гэта на ўсё жыццё. Перад вачыма зноў паўстаў схуднелы бацькаў твар. Ад успамінаў мяне адарваў голас Загурскага.

— Хачу з табой, Ваня, пагутарыць... Як мужчына з мужчынам.

Да гэтай размовы я рыхтаваўся даўно, але яна ўсё роўна заспела мяне неспадзявана. Я толькі ніжэй апусціў галаву. Было няёмка бачыць сарамлівыя, пакутлівыя вочы Загурскага.

— Ты, Ваня, не маленькі. Улетку ў інстытут пойдзеш. А не паступіш, яшчэ праз зіму ў армію прызавуць. Маці адна застанецца. А ёй яшчэ і сарака няма. Маладая і ўжо шмат гадоў як удава. І мяне лёс шчасцем абмінуў. Жыву, як той бабыль... Вось і пагаварылі мы з ёю...

Тупатня ў сенцах абарвала Загурскага. Ён змоўк. Пазіраў на дзверы з надзеяй і радасцю. Мне тады здалося, што яны знарок згаварыліся і маці сышла з хаты, ды, відаць, паспяшалася прыйсці.

Дзверы адчыніліся, і на парозе ў воблаку белай пары паявілася маці. Хустка, бровы, пасмачка валасоў, што выбілася на лоб, каўнер кажушка — усё было пад інеем. Як ніколі, у той вечар. я ўбачыў, што маці вельмі прыгожая і зусім яшчэ маладая. Мне зрабілася сумна.

— Авой, госць!..— праспявала яна і тут жа збянтэжылася, замітусілася па хаце, мабыць, зразумела, што размова між намі адбылася.— Ці даўно ж ты чакаеш? А я ў Мікалаіхі заседзелася. Пасцілкі з ёй навівалі...



Маці гаварыла паспешліва, як бы баялася, што нехта з нас перавядзе размову на іншае. Мы абодва маўчалі. Маці кінула на нас насцярожаны позірк і раптам змоўкла. Загурскі паволі паднімаўся з-за стала.

— Мы, Даша, пагаварылі тут...— перасельм голасам сказаў ён.— Дакуль жа цягнуць...

Маці закрыла твар далонямі, хістаючыся, нібы параненая, адышлася да полага, што аддзяляў залу ад спальні, уткнулася ў яго тварам. Плакала яна ціха. Нават не ўздрыгвалі плечы. Мне здалося, што маці проста саромеецца мяне, таму яна хавае твар. Я не ішоў яе суцяшаць. Навошта? Што я ёй мог сказаць? Я быў прыгнечаны, разгублены, збянтэжаны гэтым дзіўным сватаннем.

— Даша, чаго ты? Нам жа ўсім лепей будзе,— пачуў я голас Загурскага.

Маці нясмела адарвалася ад полага. Твар у яе быў заплаканы, а вочы свяціліся, як у маладзенькай дзяўчынкі.

— Сыночак, табе будзе добра, паглядзіш...— сказала яна, мабыць, не вельмі верачы ў тое, што мне будзе лепш.

Я зацята маўчаў. Сам не ведаю, чаму я тады маўчаў. Маці зноў заплакала. Цяпер яна не хавала твару, не саромелася сваіх слёз. Яны цяклі па шчоках, на хвілінку затрымліваліся ў двух неглыбокіх зморшчынках ля рота, потым капалі адтуль на грудзі. Яна, відаць, хацела, каб я пашкадаваў яе. Але мне было не шкада яе. Затое Загурскі адчуваў сябе ніякавата. Ён падышоў да маці, нялоўка паклаў руку на плячо, грубаватым голасам сказаў:

— Перастань ты! От жа слязлівая стала.

Я адвярнуўся. Глядзеў праз акно, думаў: «Як мне цяпер называць Загурскага? Бацькам? Ніколі».

...Вяселля не спраўлялі. Назаўтра Загурскі перанёс да нас рэчы. Іх аказалася на дзіва мала: афіцэрскі шынель, коўдра з вярблюдавай поўсці, цяжкая, нібы набітая каменнем, падушка ды два старыя аблупленыя чамаданы. У адным была бялізна, у другім — кубкі, граматы і спартыўная стралковая форма.

Прызы і кубкі Загурскі паставіў на падаконнікі, астатняе запіхнуў у шафу. Пакуль ён ладкаваў рэчы, маці стаяла, скрыжаваўшы на грудзях рукі.

— Не разумею,— сказала яна,— як ты жыў... Гэта ж нібы ў таго цыгана: адно крысо пад бок, другім — накрыўся.

Загурскі ўсміхаўся. Ён, мабыць, не адгадваў матчыных думак. А ёй, я ведаў гэта добра, вельмі хацелася, каб муж прывёз у хату не адну машыну дабра.

— Яно і праўда, мы з Антанінай, як цыганы, жылі. Усё па свеце вандравалі. Рэчы нам як бы перашкаджалі...

— Як жа яны могуць перашкаджаць? — у матчыным голасе было здзіўленне і расчараванне.— У хаце кожны цвічок, кожная трэсачка да месца. Дзе ж вы лыжкі, крэслы, усякую драбязу дзявалі?

— Суседзям пакідалі.

— Столькі дабра пагублялі...— пашкадавала маці.

— Не рэчы нас набываюць, а мы іх,— азваўся Загурскі.

Раніцай, яшчэ нацямку, Загурскі снедаў, браў з сабою абед, старанна падрыхтаваны маці, і на ўвесь дзень знікаў з хаты. Я ведаў, што работы ў яго хапае. Неяк выходзіла так, што на плечы Загурскага з першага дня работы намеснікам лёг асноўны цяжар клопатаў аб калгасе. Вяр-

таўся дамоў ён позна, калі Зарэчча ўжо спала. Маці адчыняла дзверы, нешта буркавала, тупаючы па кухні. Загурскі смяяўся звонка і весела.

Пасля вячэры яны яшчэ доўга сядзелі. Загурскі расказваў пра справы ў калгасе, і маці падтаквала яму або часам старалася нешта парадзіць. Звычайна Загурскі адказваў:

— Так, Даша, не пойдзе. З людзьмі трэба па людску жыць. Загадваць ды палохаць працей простага.

— Але ж з нашымі людзьмі інакш нельга,— не здавалася маці.

— То, Даша, толькі здаецца, што па-харошаму не можна кіраваць. Я нядаўна падлічыў, што ў леташнім годзе праўленне аштрафавала дзевяноста чалавек. Але дысцыпліна ад гэтага не палепшылася. Сёлета яшчэ нікога не штрафавалі, а людзі працуюць лепей. Нават тут, у Зарэччы, людзі мяняюцца.

— Хто там мяняецца,— не згаджалася маці.— Цопа вунь у краму прыстроіўся. А Макуха толькі і глядзіць, дзе можна ўкрасці.

— І яны ўжо не тыя.

— Гэта праўда,— згаджалася маці.— Цяпер і яны пабойваюцца.

Я слухаў іх гамонку і адчуваў, як ніколі, адзіноту. Яны як бы забываліся на мяне, бо ім было добра ўдвух. А можа мне здавалася? Можа я выдумляў тую адзіноту, бо зрэшты мне хапала клопату. Не ведаю чаму, але дзядзька Даніла стараўся ўскласці на мяне як мага больш работы.

— Хачу з цябе сапраўднага брыгадзіра зрабіць,— казаў ён, і я быў рады, што мне давяраюць, што ёсць дзе размахнуцца, паказаць сябе з лепшага боку.

Яшчэ мяне сагравала каханне. Я клаўся спаць з думкай аб Хрысціне і з гэтай думкай прачынаўся ўранку. Паснедаўшы, я бег да Макухі, кожны раз выдумляючы прычыну. Цётка Марына сустракала мяне прыветліва, нават залішне прыветліва. А Сцяпан заўсёды лаяў Загурскага, вучыў мяне не паддавацца айчыму, бо калі я папушчуся, дык толькі і чакай, што Загурскі выжыве з хаты. Я цярпеў і цётчыны пахвалы і Сцяпанавы павучанні. Мы перакідваліся з Хрысцінай некалькімі словамі, абменьваліся позіркамі, пасля якіх я мог варочаць горы. Так беглі дні...

## 4

Фруза Салей была таварыская дзяўчына. З выгляду яна, вядома, не дужа эфектная, але, як толькі пачынае гаварыць пра кнігі, адразу забываешся на яе востры носік, на шыракаваты рот, на кароценькія рэдкія бровы, на шэрыя бясколерныя вочы — адным словам, забываешся на ўсе Фрузіны недахопы.

Не ведаю чаму, але неяк так вядзецца на свеце, што прыгожыя дзяўчаты часцей за ўсё пуставатыя, а тыя, што разумныя, не маюць вялікай прыгажосці. Стась кажа, што гэта разумны баланс прыроды. А я лічу, што — найвялікшая несправядлівасць. Прыгажосць і розум павінны дзяліцца пароўну.

Я быў разгубіўся, калі Фруза паявілася ў нашым Зарэччы. Мы з Хведарам везлі са станцыі ўгнаенне і за Пагостам дагналі дзяўчыну ў вузенькіх штоніках і рабенькім паліто.

— Глядзі,— здзівіўся Хведар,— адкуль тут гэтая божая задрыпа ў штанах паявілася?

Ён пад'ехаў зусім блізка і з усёй сілы націснуў сігнал. Машына загула, як пажарная сірэна. Дзяўчына падскочыла, нібы той заяц з перапуду, потым сiганула ўбок. Я пазнаў яе. Мне стала сорамна.



— Гэта бібліятэкарка,— сказаў я Хведару.

Ён спыніў машыну, адчыніў дзверцы і, высунуўшы ў іх галаву, іранічна заўсміхаўся:

— Даруйце, што напалохаў. Мо падвезці?

Я стрымана прывітаўся, думаючы, што Фруза дарэмна зусім надзела штаны. У горадзе, можа, штаны і прыстойная для дзяўчыны вопратка, а на вёсцы гэта ўсё роўна, што голай хадзіць — кожны будзе лупіць вочы.

— А не цесна нам утрох будзе? — запыталася Фруза, спрытна ўзлазячы на падножку.

— Не, вы толькі да Янкі цясней туліцеся, ён любіць гэта. Я і сам бы не супраць, але баранка ў руках.

Мне давялося пасунуцца, каб Фруза магла ўціснуцца ў кабіну.

Хведар усю дарогу падколваў бібліятэкарку, яна даволі дасціпна зводзіла яго хамаватыя жарты на бяскрыўдныя жарцікі, а я думаў, што трэба будзе запрасіць Фрузу дамоў і тут ужо не абмінеш матчыных калючых вачэй і вострага языка.

Усё, аднак, абышлося добра. Фруза мела дзіўны талент падабацца людзям. Я знарок (хоць гэта было не дужа прыстойна) пакінуў Фрузу, як толькі прывёў яе ў хату. А калі вярнуўся з надворку, дык убачыў, што маці вельмі міла гутарыць з Фрузай.

Потым мы гутарылі пра літаратуру. Я прызнаўся, што пішу нататкі аб сваім жыцці, дзе нічога не выдумана: усё спісана з нашага Зарэчча і зарачанцаў.

— Хоць гэта і нязручна, але мне хацелася б пачытаць твае нататкі,— сказала Фруза.— Вядома, калі не сакрэт. Я сама пішу вершы. Хочаш, прачытаю адзін. Толькі ты не смейся.

Яна раптам захвалявалася, зняла чамусьці акуляры, працёрла шкельцы. Без акуляраў у яе быў зусім іншы, больш мяккі выраз твару. Мабыць, яна была зусім блізарукая, бо занадта жмурылася.

Яе ўсхваляванасць напамінала мне маю, калі я напрасіўся прачытаць Шуры свой верш. І вось гэтая зразумелая ўсхваляванасць дашчэнту разбурыла маю насцярожанасць.

Чытала Фруза нараспеў і ўвесь час сарамліва і з надзеяй пазірала на дзверы, быццам хацела ўпэўніцца, што ніхто не перашкодзіць ёй уцячы. Я пахваліў верш. Фруза сканфузілася, пачырванела.

Яна прызналася, што пасылала гэты верш у раённую газету, а ёй параілі напісаць пра вывазку гною, бо цяпер па раёну аб'яўлен месячнік нарыхтоўкі ўгнаенняў. Мне таксама прысылалі не вельмі бадзёрыя адказы на вершы, таму я зноў адчуў блізкасць да Фрузы.

Чытала Фруза мае нататкі ўважліва, нахмурыўшы лоб. Часам яе вочы ўсміхаліся або станавіліся журботныя ці калючыя. Тады я заглядаў у сшытак, цікавіўся, якія мясціны выклікалі ў Фрузы тыя або іншыя эмоцыі.

— Ты, відаць, моцна кахаў Шуру,— сказала яна.

Я ўспомніў пра Хрысціну. (Апошні сшытак я чамусьці не адважыўся паказаць Фрузе.) Было крыху няёмка. Што сказаць? Калісьці мне здавалася, што я вельмі люблю Шуру. Але тая любоў растаяла, як веснавы туман.

— Як табе сказаць, каханне — гэта...

— А вось я ніколі не кахала. І мяне не кахалі. Я, Янка, непрыгожая. А непрыгожых каму ахвота любіць. Толькі і мне часам хочацца вялікага і прыгожага кахання. Таму я вершы пішу. І ўсё пра каханне.

Мне было шкада Фрузу. Праўда, хто яе пакахае? Кахаюць такіх, як Хрысціна. Але мне вельмі хацелася суцешыць Фрузу.

— Галоўнае не прыгажосць, а розум,— разважліва сказаў я.— Прыгажосць з гадамі вяне, а розум вастрэйшы робіцца...

Фруза паківала галавой.

— І ўсё ж добра быць прыгожай. Я часам, Янка, думаю, што прыгожая дзяўчына ніколі не шкадуе, што ў яе мала розуму, а вось непрыгожая заўсёды зайздросціць прыгожай.

Потым мы хадзілі па хатах. Фруза вельмі хутка знаёмілася з дзяўчатамі, ды і старэйшыя ставіліся да яе з павагай. Нават не звярталі ўвагі на вузенькія штаны і рабенькі палітончык. Я не зусім разумеў, чаго яна дамагаецца ад людзей, бо Фрузу цікавіла ўсё чыста, што можа цікавіць дапытлівага чалавека.

На развітанне мы зноў доўга гутарылі. Вось тады я і даведаўся, што Фруза няштатны інструктар райкома камсамола. Яна надавала мне безліч даручэнняў. Скажу шчыра, што ўпершыню за сваё жыццё я ўзяўся за іх з ахвотай. Такая ўжо яна дзяўчына, гэтая Фруза Салей...

З усяго калгаса неўзлюбілі Фрузу толькі Восіпаў Хведар і Кузьма Цопа. Таго ж дня пад вечар я зазірнуў у краму. Цопа стаяў за прылаўкам, нібы той манумент. За гэтыя месяцы ён раздабрэў, старэнькі халат, апошні раз мыты, відаць, вясной леташняга года, аж трашчаў на ім. У парозе стаялі вагі і дзве бочкі: адна з-пад фруктовага віна — дзевяноста капеек літр, другая з-пад селядцоў. На вагах і на бочках сядзелі шафёры з далёкіх калгасаў і некалькі нашых зарачанскіх аматараў дармаўшчынкі. Сярод іх быў і Хведар. Ён зусім сп'янеў, але не здаваўся.

— Чаго гэта зануда ў акулярах прыязджала? — запытаўся ў мяне Хведар.

Я пажартаваў:

— Кажа, хопіць ужо зарачанцам праводзіць культурны адпачынак у краме. Хоча раскатурхаць нашу глухамань. А мы ёй памагчы павінны...

Хведар грукнуў кулаком па прылаўку:

— Нагнала іх з Загурскім на нашу галаву. Культуры ім захацелася. А на які хрэн мне іх культура? Мне і без яе добра. Праўду я кажу ці не?.. Можа яшчэ дружыннікаў, як у горадзе, завядзе?..

— А ты што думаў,— каб падахвоціць Хведара, падаў голас Цопа.— Наступаюць на нас, як вясна на зіму. Хутка так цябе прыціснуць, што і пікнуць не пасмееш.

— Баюся я іх!

— Забаішся, як пятнаццаць сутак палучыш...— сказаў Цопа.

Хведар адразу скіс. Мне чамусьці падабалася Хведарава пужлівасць. Я разумеў, чаму ён напалохаўся, і абрадаваўся: прыходзіць канец ягонаму верхаводству ў вёсцы.

З таго дня пачала расці між намі варожасць. Я ўсё больш бачыў Хведараву грубасць, а ён адплачваў мне нянавісцю, стараўся абразіць на людзях, а калі быў п'яны, пагражаў: «Пачакай, інцілігенцік, я з табой яшчэ на кароткім замыканні сустрэнуся».

Ішлі дні, але «кароткага замыкання» не было. Затое іншая падзея на нейкі час аглушыла мяне.

## 5

З вялізнага аркуша паперы чорныя і чырвоныя літары запрашаюць людзей у маю хату, дзе кожны дзень з сямі да дзесяці вечара можна атрымаць або абмяняць кнігу. Я доўга прыглядаюся да размаляванага аркуша. Чагосьці ў ім як бы нестае. Я дастаю з шафы скрутак з матчынай тканінай на плацце. Якраз тое, што трэба. Тканіна загорнута ў фірменны аркуш, на якім намалявана дзяўчына з моднай прычоскай і энергічна працягнутай рукой. «Наведайце магазіны Белдзяржунівермага!» Цяпер патрэбна капірка. Яна ляжыць у табелі. Я пераводжу малюнак на аб'яву, размалёўваю дзяўчыну ў зялёны і чырвоны колер. Выходзіць не вельмі добра, затое такую аб'яву ніхто не абміне.

Мяне, праўда, крыху бянтэжыла адно. Маці паабяцала была спаліць кнігі, або ў лепшым выпадку выкінуць іх у сенцы.

— Колькі ж табе працадзён за гэты тлум будуць налічваць? — запыталася яна, калі я сказаў, што ў нашай хаце адкрываецца бібліятэка-перасоўка.

— Гэта без працадзён, на грамадскіх асновах.

— Зусім бясплатна? — здзівілася маці.— Дык на ліха такая работа?

— Разумееш, мама, пры камунізме ўсе так працаваць будуць, не за плату.

— А сена каровам на зіму пры камунізме як будуць — па кустах касіць? Таксама на тваіх гэтых асновах?

— Пойдзеш у сталовую, і табе дадуць малака.

— Хведарыха ўсё роўна ашукае, дзве кварты вып'е,— кажа маці і ўжо зусім сур'ёзна аб'яўляе: — Вось што, сыночак, пакуль той камунізм, дык я кнігі гэтыя або ў грубцы спалю або ў сенцы выкіну. Не хачу я, каб мне падлогу тапталі. Мыць яе на грамадскіх пачатках не будуць: трэба самой спіну гнуць.

А ўвечары, калі прыйшоў Загурскі і маці паскардзілася яму на мяне, усё перамянілася. Загурскі спакойна, але пераканаўча давёў маці, што трымаць бібліятэку ў хаце пачэсна. Маці згадзілася і нават памагла мне расставіць кнігі.

І вось я напісаў аб'яву. Трэба толькі яе добра прыклеіць, каб хто не сарваў са сцяны. Для гэтага неабходна зварыць клей. Крухмал, здаецца, ёсць.

Неўзабаве я выскокваю на вуліцу з аркушам паперы, які дыміць парай. Клей намёртва прысушвае аб'яву да сцяны. Я адыходжуся крыху далей. Са сцяны азвярэла глядзіць на мяне чырвона-зялёная дзяўчына. Здаецца, яшчэ хвіліна, і яна саскочыць на зямлю, агрэе адведзенай рукой па твары.

Суботні дзень дагарае за Чыжоўкай. Сонца цяпер заходзіць пазней, праходзячы па небе значна большую дарогу. Можа таму яно выдае як бы стомленым. З русаковіцкага канца вёскі ў краму да Цопы ідзе Хведар. Ён спыняецца на дарозе, чытае аб'яву і аж заходзіцца ад смеху.

— Вось дзівак...— кажа ён, нарагатаўшыся ўволю.— Такі малюнак варта было б павесіць на Пелагеінай хаце. Ад мужчын адбою не было б... Кінь ты гэтую лухту, пайшлі да Цопы, расціснем бутэлечку і — у Халябы. Я цябе там з адной штучкай пазнаёмлю. Прыгожая, шэльма!.. Хрысціне тваёй да яе, як Халімону Лепятуху да Мікалая Угодніка.

— Ты Хрысціну не чапай,— кажу я.— Не дужа мне прыемна твае паклёпы слухаць.

— Ну і дурань ты, Ваня,— нязлосна кажа Хведар.— Усе дзеўкі на адзін капыл... Дык не пойдзеш да Цопы?

— У мяне грошай няма, каб хадзіць у краму.

— Сумленныя багатымі не бываюць.

— Табе падабаецца, відаць, быць несумленным?

— Так, як табе бедным,— адказвае Хведар і, насвістваючы «Чыжыка», ідзе ў краму.

У хаце прыцемкі. Зараз зусім сцямнее, тады я пайду да Хрысціны.

Кажуць, што сёння ў Астроўне дзяўчаты ладзяць вечарынку. Можна будзе забрацца ў закутак і, абняўшыся з Хрысцінай, прасядзець увесь вечар.

Я пачынаю пераапранацца, цешачыся з думкі, як нам будзе добра з Хрысцінай. У хату ўваходзіць маці.

— Да Макухі сваты паехалі. Кажуць, па-старому сватаць будуць.

Маці апранае кажушок з чорных дубленых аўчынак, завязвае белую шарсцяную хустку і выбягае з хаты, сказаўшы напаследак:

— Даўно у нас вяселляў па-старому не гулялі. Хоць маладыя гады ўспомнім...

Пакуль маці збіралася, я, сцяўшыся ад болю, маўчаў. Было боязна гаварыць, бо сваім хваляваннем я выдаў бы сябе. Цяпер, як ніколі, я баяўся матчыных кпінаў. Потым, калі маці пайшла, я падбег да акна, углядаўся ў пахмуры вечар, што апускаўся на вёску. Мне хацелася ўбачыць у гэтых рэдзенькіх прыцемках штосьці страшнае, такое, што само па сабе сведчыла аб канцы жыцця на зямлі. На маё здзіўленне, нічога не змянілася.

Хведарышыны дзяўчаты везлі на саначках з крыніцы ваду ў чорнай абледзянелай бочцы. Над Карусёвай хатай слаўся дым. З таго часу, як Карусіха нарадзіла двойню, увечары над хатай заўсёды ўецца дымок. У шэрым, непрыветлівым небе ляцела ў лес чарада варон... Усё было, як і заўсёды. Тады я падумаў, што сваты прыехалі не да Хрысціны, а да Дзям'янавай Марыны. Вядома, да яе. Маці ж ні слова не сказала пра Хрысціну. Але трывога не хацела развітацца са мной. Нешта такое было ў Хрысцініных паводзінах, што насцярожвала мяне ўсе гэтыя дні пасля той незвычайнай ночы.

Я не ведаў, што рабіць. У хаце мне не сядзелася, але паказацца на людзі, было боязна. Урэшце я не вытрымаў — пайшоў. Як я не пераконваў сябе, што сваты прыехалі да Марыны, але павярнуў у той бок, дзе жыла Хрысціна.

Хмары закрывалі месяц, таму было цемнавата, але не так, як звычайна, калі цемра слепіць вочы: навокал як бы бруілі невыразныя, мяккія змрокі. Яшчэ здалёк я ўбачыў людзей, што тоўпіліся пад вокнамі Макухавай хаты. Мяне адразу абдало гарачай хваляй. Ну вось і ўсё... А казала, што любіць!.. Было так крыўдна, што снег, вечар, дарога, вёска, прысады — усё на свеце страціла сваё рэальнае існаванне. Навокал панавала панылая пустата. Цяпер мне было ўсё роўна, куды ісці. Я павярнуў назад. Але дарога дамоў аказалася закрытай. З гары з песнямі ішлі дзяўчаты. Сустракацца з імі мне не хацелася. Таму я пайшоў туды, дзе стаяў натоўп.

Ля Сцяпанавай хаты гаманілі людзі. Праз вокны на двор падалі яркія палосы святла. Людзі, што траплялі ў яркае святло лямпы, здаваліся дзіўнымі, нежывымі ценямі. Цені мітусіліся,ківаліся, быццам прывязаныя да нітачак марыянеткі.

Я паспрабаваў трымацца далей ад святла. Але мне вельмі хацелася пабачыць Хрысціну. Я чамусьці падумаў, што яе прымусілі прыняць сватоў. Можа яна чакае таго імгнення, калі паяўлюся я і выратую яе ад гэтай назолы-жаніха. Перада мной адразу ж узніклі прывабныя малюнкі смелага выратавання любімай, дзікай пагоні жаніха, крывавага бою на лясной заснежанай паляне, уцёкаў з Хрысцінай у далёкія краі.

Праціснуцца да акна было нялёгка. Але што не зробіш, калі вырашаецца не толькі твой асабісты лёс. Прыціснуты людскімі плячамі да аканіцы, сціснуты, як у клешчах, з усіх бакоў, я ўсё ж зазірнуў у акно.

Першае, што я ўбачыў, быў рог стала, на якім красавалася батарэя бутэлек. Потым, за імі, я разгледзеў Сцяпана. Ён нешта гаварыў, па



прывычцы падскокваючы на крэсле. Затым убачыў цётку Марыну ў новым плацці і квяцістай кашміравай хустцы. Яна стаяла да нас спіной, засланяючы астатніх гасцей. Нарэшце адышлася, і тады перада мной паявіўся знаёмы, падобны на аўсяны блін, плоскі твар з маленькім носам. Гэта быў той самы чалавек, што стрэўся мне тады, як я ехаў на нараду ў калгасную канцылярыю. Побач з ім сядзела Хрысціна і ўсміхалася.

Ні ценю смутку! Калі ж яна прыкідвалася — тады ці цяпер? Ах ты, падлюга! Мне хацелася крычаць, плакаць, бегчы ў ноч ад сораму і гора. Але я стаяў. Жаніх, нахіліўшыся да Хрысціны, нешта гаварыў ёй на вуха. Яна павярнулася да яго тварам. У вачах зацікаўленасць. Ён паклаў руку на яе спіну, тоўстымі, каструбаватымі пальцамі ўчапіўся за плячо. Чаму яна не абураецца?..

Я неяк выбраўся з натоўпу і тут жа трапіў у кола дзяўчат.

— Дзеўкі, глядзіце, Янка!..— пачуў я голас Анюткі Шкілета.

— Гароху цяпер не сеем, а то вянок сплялі б,— азвалася Халімонава Алена.

— Ой, трэба ён ёй быў... Вучаныя дужа ненадзейныя жаніхі.

— Памаўчала б лепей.

— Яначка, я вольная і далібог не здраджу. А цалавацца не горш за Хрысціну магу.

Какосцікава Верка зарагатала са свайго жарту, а нехта сіпата вылаяўся:

— У каго што, а ў нашай Веркі адно пацалункі на ўме.

— Паскуда, цьфу табе, дурань.

Дзявочыя кулакі дружна замалацілі некага па спіне. Я скарыстаў замяшанне і, не доўга думаючы, плятануў дамоў.

Вяселле было прызначана на наступную нядзелю. Мне здавалася, што Хрысціна спяшаецца знарок, каб хутчэй уцячы ад маіх разгневаных вачэй. Я стараўся пабачыць яе, але яна была вельмі занятая.

Русаковіцкая краўчыха Ульяна Жылка ўвесь дзень шыла вясельныя ўборы, і Хрысціна павінна была сядзець дома або ездзіць у горад за тканінай. «Зрэшты,— думаў я,— проста яна не хоча сустракацца. Сорамна. Клялася ў каханні, а замуж ідзе за другога». Часам у мяне ўзнікала неадольнае жаданне пайсці да яе самому. Але смеласці не хапала. Таму я пакутаваў удвая.

І ўсё ж мы сустрэліся. Я падпільнаваў Хрысціну, калі яна вярталася з кардонскай крамы. Пра тое, што яна паехала ў Кардон без праважатага, я дазнаўся ад Анюткі Шкілета.

У ляску ля рэчкі я прастаяў гадзіны дзве. Перадумана за гэты час было шмат. Я то ўзгараўся гневам, і тады мне здавалася, што ненавіджу Хрысціну і магу зрабіць нешта брыдкае, то астываў, набіраўся развагі, і тады Хрысціна паўставала перада мной ва ўсёй прыгажосці сваёй душы. У такія мінуты я любіў яе яшчэ больш і гатовы быў плакаць ад гора. Дзве гадзіны чакання ўтаймавалі мае страсці. Калі сані з Хрысцінай паявіліся на дарозе, я быў такі азяблы, што бадай ужо не мог вымавіць слова. Адзінае, на што я быў здольны — выйсці на дарогу.

— Ой, як ты мяне напалохаў! — ускліклула Хрысціна, калі я, нібы здань, перагарадзіў дарогу.

Я пазіраў на яе румяныя ад марозу шчокі, на цёмна-сінія вочы, якія яна ўсё хавала ад мяне, на яе маленькі зграбны носік, чамусьці заўсёды прыемна халаднаваты, на чорныя кудзеркі валос, што выбіліся з-пад хусткі і пакрыліся інеем,— і не мог вымавіць слова. Яшчэ ніколі Хрысціна не была такая прыгожая.

Я стаяў, апусціўшы рукі, быццам прамёрз наскрозь. Толькі ў грудзях цеплілася кволая надзея на нейкае шчасце, што абавязкова не абміне мяне. Хрысціна ўсё яшчэ сядзела на санях, абломвала галінкі даўгаватай бярозавай хварасціны, якой паганяла каня. Гэтае мітуслівае мільгаценне рук і нейкая пакорліва-прыгнечаная постаць дзяўчыны выклікалі ў маёй душы дзіўнае пачуццё жалю і злоснай радасці: ага, табе сорамна.

Абое адчувалі сябе няёмка, і гэтае пачуццё ніякаватасці стрымлівала мяне ад грубых слоў. Я адчуў толькі, як зноў пачало гулка біцца сэрца ды на вочы быццам напаўзаў туман. Хрысціна, сані, конь, лес—усё пачало аддаляцца, страчваючы рэальныя абрысы.

— Што ты тут рабіў? — пачуў я здалёк чужы голас.

Я маўчаў. Няхай гаворыць сама. Няхай ёй, а не мне, будзе сорамна. Адразу ж у галаве замітусіліся думкі-мары, і тады я на ўсё паглядзеў іншымі вачыма. Няпраўда ўсё гэта! Сон. Хрысціна не выходзіць замуж...

Я зрабіў некалькі крокаў. Убачыў, як спалохана паглядзела на мяне Хрысціна, хацела ўсміхнуцца і не змагла.

— Хрысціна...

Яна саскочыла з саней, падхапіла ў жменю пухкі снег.

— Ой, Яначка, ты ж шчаку адмарозіў... Белая зусім. Тры яе снегам.

Цяпер я бачыў яе вялікія сінія вочы, напалоханыя і лагодныя, з затоенай у іх любоўю. Дурны я. За шчасце ж ваяваць трэба, а я раскіс...

Яна пачала церці снегам шчаку і, мабыць, ад няёмкасці гаварыла пяшчотным голасам:

— Ну вось, вось.... Пачакай крыху. Ну, што ты, Яначка... Які ты смешны.

Я хацеў абняць яе, нязграбную ў кажушку, прытуліць да сябе. Хрысціна старалася адштурхнуць мяне, адвесці мае рукі. А ў маіх вушах чамусьці чуўся Хведараў голас: «Дзеўкі моцных любяць. Намерыўся да якой, дык ужо не адступай...»

Рукі ніяк не маглі ўтрымаць Хрысціну. Яна прыгінала галаву і тады вельмі лёгка выкоўзвалася з абдымкаў. Нейкае дзікае пачуццё зламаць, перамагчы дзяўчыну, адчуць, як яна заціхае ў тваіх абдымках, рабіла мяне моцным і нахабным.

— Ашалеў ты, ці што?.. Людзі ж кругом.

Я на імгненне адпусціў яе. Навокал нікога не відаць. Зноў падманула. Ах ты... Цяпер я прымушу цябе скарыцца.

Сцяўшы зубы, Хрысціна штурханула мяне ў грудзі. Я адчуў, што губляю раўнавагу, падаю ў снег. Мяне душылі крыўда і злосць.

— Ах ты, падлюга!.. Праклятая гадаўка!.. Думаеш, адна ты на свеце. Ідзі за гэтага недарэку, за гэту сволач...

Усё навокал мігцела, вярцелася, і сярод гэтай мітусні заставаўся спакойным Хрысцінін твар. Я змоўк. Было прыкра і сорамна.

— Які ты, Ваня!..

У голасе Хрысціны спагада. Яна абяззбройвае мяне. Стаю, як той вінаваты хлапчук. Даўкі, горкі камяк засеў у горле, а вочы слязяцца ці то ад ветру, ці ад крыўды на сябе і на Хрысціну.

— Чаго ж мы стаім? Садзіся во ў сані, паедзем.

Я сеў поруч. Лепей было б горда павярнуцца і пайсці. А я сяджу і моўчкі перажываю сваю прыніжанасць.

Конь пляцецца нага за нагу, і сані слізгаюць амаль нячутна. Наперадзе, спіной да мяне, Хрысціна. На яе плячах трапечуць кароценькія кутасікі хусткі. Яны як жывыя і, здаецца, быццам пацьвельваюцца з маёй панурасці.

— А я думала, што ты ціхі,— паварочваецца да мяне Хрысціна. У яе вачах зноў іскрынкі смеху. Але я стараюся не заўважаць іх.





— Каб ты за каго другога выходзіла,— кажу я, нібы даючы згоду на наша расстанне.

Хрысціна задумліва ківае галавой.

— Дзівак ты, Ваня. Наша з табой каханне для абаіх не шчасце, а гора. Ды і каго я лепшага прычакаю. А маці вунь не дае спакою: ідзі замуж, ды і ўсё...

— Я люблю цябе, ты ж ведаеш...

— Усё гэта, Яначка, выдумка адна. Пасля сам бы раскайваўся. Помніш, як ты быў спалохаўся, калі я сказала, што цябе мая маці ўпадабала? Думаеш, не заўважыла я тады?

— Няпраўда гэта! Няпраўда!..— я хлушу, бо мне здаецца, што ў гэтым ратунак.— Як ты магла падумаць такое?

— Не, Ваня,— кажа Хрысціна,— гэта праўда. Я знаю, што ты мяне і цяпер любіш. А толькі любоў гэтая кароткая, нетрывалая... Не, Ваня, не кажы, я ўсё разумею. Я і сама галаву сабе зачмурыла. Палюбіла я цябе. А пасля падумала ды і назад. Думаеш, мне лёгка? Толькі нічога ў нас не выйшла б. Ды і не такая я, каб чужое шчасце ў ахвяру прымаць. Ты яшчэ, Ваня, знойдзеш дзяўчыну. Што я? Простая дзеўка. А ты вучыцца хочаш. Нашто я табе буду, як станеш вучаны. А цяпер і гаварыць не варта. Сасватана я, і дарогі назад няма... Ну, чаго ж ты галаву апусціў?..

Хрысцініна рука лягла на маё плячо. Нібы змярцвелы, я сядзеў, панурыўшы галаву, думаў. Навошта тады жыць, калі не будзе Хрысціны, калі я ніколі не пачую яе прыглушанага шэпту?

— Хрысціна,— кажу я, сам баючыся сваіх слоў,— ты мяне пачакай яшчэ год. Хочаш, я нікуды не паеду з вёскі?

Хрысціна маўчыць. Твар у яе, як ніколі, сур'ёзны і пахмурны. Пра што яна думае? Чаму яна баіцца адмовіць таму, нялюбаму? Як усё складана на свеце. А можа гэта толькі здаецца? Можа ўсё залежыць ад мяне? Можа трэба быць такім рашучым, як Восіпаў Хведар? Не, я такім не магу быць. Каханне патрабуе пяшчот, павагі, сумленных, шчырых адносін. Няхай я буду пакутаваць, абы Хрысціна адчувала сябе шчаслівай... Ах, да д'ябла ўся гэтая развага!.. Тады што рабіць? Як даказаць ёй сваю адданасць? Божа, як бы я песціў яе! Як кахаў бы!..

Мы мінаем лес, выбіраемся на ўзгорак, адкуль пачынаецца поле, роўнае, як стол. У далечыні відаць наша вёска, аснежаныя прысады. Як было б добра, каб вось так мы праехалі па вуліцы ўдвох з Хрысцінай... Колькі зайздросных вачэй цікавалі б за намі праз замёрзлыя вокны.

— Ваня, табе лепей пешшу пайсці. Не хачу, каб людзі плявузгалі.

Хрысціна просіць пакорліва і ціха, і гэта кранае мяне. Я моўчкі злажу. Стаю ля саней, пазіраючы на Хрысціну, і нічога не бачу, апрача заінелых валасоў, што пасмачкамі ляжаць на лбе.

— Ты, Ваня, не крыўдуй — так лепш,— кажа Хрысціна і ціха кратае лейцы. Сані паволі вязуць ад мяне Хрысціну. Яна згорбілася і цяпер нагадвае старую, пакрыўджаную горам жанчыну.

Чаго ты стаіш? Спыні яе. Яшчэ не позна. Думкі, аднак, не выклікаюць рашучасці. Яны пакорлівыя і вельмі мітуслівыя.

## 6

Вяселле гулялі па-старадаўняму: з песнямі, выкупам, маршамі, караваем, з бясконцым «горка». Два дні ўзапар у Макухавай хаце ідзе п'яны,



надакучлівы і, здавалася, нікому непатрэбны спектакль. Удзень госці спалі, і зарачанская вуліца як бы адпачывала ад шуму і гоману падвяселеных гарэлкай людзей. Пад вечар госці насіліся, як ачмурэлыя, па вёсцы, каталі на параконках шаферак і сваццяў. Потым пілі гарэлку, крычалі асіплымі галасамі: «Горка!»,— аж было чуваць на вуліцы.

Шчыра кажучы, я нават радаваўся, што вяселле ідзе не так, як прынята цяпер, а як было некалі, тады, калі жаніліся нашы дзяды. Вяселле па старадаўніх звычаях нібы прыніжала жаніха. Мне толькі было шкада Хрысціну.

Я ішоў па шырокай, утаптанай вуліцы. Пад нагамі хрустка парыпваў снег, і звонкае водгулле замірала недзе пад чорнымі стрэхамі хат. Над вёскай, у самым зеніце, вісеў поўны, сыты месяц, адзінокі на чыстым небе. Яркае святло фарбавала снег у сіні, халодны колер; як акінуць вокам, ляжала гэтая блакітнаватая прастора, дзе-нідзе перакрэсленая чорнымі ценямі прысадаў і хмызнякоў. Усё было як у тумане, і ўсё чамусьці ціха дрыжала.

На двары, ля Сцяпанавай хаты, стаялі людзі, ляпіліся да вокан, прагна зазіраючы ў хату, быццам там мелася адбыцца якое дзіва. Два п'яныя сваты, стоячы на дарозе, пераконвалі адзін аднаго, што зімы раней былі халаднейшыя.

Недзе далёка, можа нават у Кардоне, адзінока гарэў у акне прыветлівы агеньчык. Ён быў чырванавата-жоўты і вельмі цёплы. Я пазайздросціў таму чалавеку, што сядзіць пры ім. Мяне пацягнула ў хату. Там я запалю лямпу, вазьму ў рукі кнігу, і хтосьці, вось такі, як я, адзінокі падарожнік па заснежаных дарогах, убачыць у акне прыветлівы аганёк і таксама ажыве душой...

Ззаду пачуліся таропкія, частыя крокі. Мне не хацелася азірацца, бо тады мог прапасці мой настрой, такі дарагі мне ў гэтае імгненне. Крокі набліжаліся і як бы замаруджваліся. Хто ж усё-такі ідзе дамоў? А што, калі Хрысціна? Дзівак ты, Янка, Хрысціна цяпер, чужая і далёкая, сядзіць за сталом...

— Во прыгожа як! Здаецца ніколі не было такога хараства.

Я здзівіўся: Шура! Чаго яна тут? Адкуль ідзе?..

Шура спынілася, абое мы доўга глядзелі ў далячынь, што недзе на самым даляглядзе гублялася ў сінявятай смузе.

— Мне, Янка, часам таксама хацелася пабыць адной,— сказала Шура.

У яе словах я адчуваў папрок сабе, але ён не пакрыўдзіў мяне. Наадварот, я быў удзячны Шуры, што яна разумее мяне.

— На адзіноце, ды ў такую ноч, добра думаецца,—сказаў я.— А бывае ў цябе так: ідзеш або сядзіш дзе ў зацішку, марыш бясконца і толькі аб харошым?

— Яшчэ колькі!

— Помніш, як тады, на востраве. Я так зачыталася, што зусім забылася, дзе я.

Я прамаўчаў, бо ўспамін захліснуў мяне, абудзіў невыразнае забытае даўно пачуццё замілаванасці да таго цудоўнага дня.

— Давай, Янка, пройдземся да бярозавага гаю. Каб ты бачыў, якія там цяпер цені ляжаць на снезе! Фіялетавыя... Помніш, як у Блока: «фиолетовые тени на эмалевой стене...» А ты, Янка, пішаш вершы? Ці можа кінуў? Табе трэба пісаць.

Я быў удзячны ёй. Чамусьці падумалася, што Хрысціна ніколі не цікавілася, ці пішу я.

У бярозавым гаі на блакітным снезе ляжаў тонкі ўзор фіялетавых це-

няў. Яны былі невыразныя, а часам ледзь прыкметныя і толькі ў самай глыбіні гаю панавалі над мёртвай сінізной. З бярозак церушыўся долу нябачны снежны пылок, асядаючы на вопратцы. Нізка, ледзь не да зямлі, звісалі, тонкія галіны, усе бялюткія і бухматыя ад інею. А за гаем, на полі, аж да самага возера, іскрылася пад месяцам светлая сцежка, усё звужаючыся, як промнік далёкага пражэктара. Нечым яна нагадвала тую месячную сцежку на возеры, што мы бачылі з Шурай. Толькі цяпер яна выглядала халоднай.

Мы маўчалі. Не хацелася парушаць чароўную цішыню, не хацелася гаварыць, бо кожны з нас, мабыць, адчуваў такое, што не выкажаш словамі.

Потым мы ішлі па вузенькай, у адзін след, сцежцы. Шура наперадзе. Я бачыў яе маленькую постаць у кароткай тужурцы, слухаў, як спявае пад яе нагамі снег, і чамусьці сарамліва ўспамінаў пра наш разлад. Як цяжка зразумець, хто твой сапраўдны сябар, а хто толькі прыкідваецца ім.

Назаўтра нявесту адпраўлялі да жаніха. Спачатку з хаты вынеслі цяжкую акаваную скрыню. Калі яе падымалі на грузавую машыну, хтосьці са сватоў пакаўзнуўся, і вялікая чорная скрыня грукнула на зямлю. Вечка адчынілася.

— Знарок упусцілі,— зашапталіся жанчыны,— каб усе бачылі, што поўная скрыня.

— Макухавы штучкі...

— Ого, ён пахваліцца любіць...

Потым на машыну грузілі пасцель, швейную машыну, ложак. Грузілі спакваля, каб кожны мог удоваль наглядзецца на пасаг, які бацькі даюць за дачкой, які жаніх атрымлівае за нявестай. Было ў гэтым нешта нявартае чалавечага гонару. Я зноўку шкадаваў Хрысціну. Мне яна была дарагая без пасагу. Я забраў бы яе ў адным тым кажушку, які быў на ёй, калі мы сустрэліся ў той незабыўны дзень...

Гарластая, крыклівая сваціца, чырвоная ад марозу і хмелю, выйшаўшы на ганак, запела развітальную вясельную песню:

Дадому, сваткі, дадому:
Паелі конікі салому...

Следам на ганак вывелі Хрысціну. Яна плакала і, як мне здалося, не толькі па даўняму звычаю, а ўсур'ёз. Мабыць, на яе месцы плакаў бы кожны. Потым на двор выкуліўся жаніх у доўгім паліто наросхліст.

— Хлопцы, пакажам, што такое шаферы? Га, хлопцы?

Сват ўзяў яго пад руку, нешта зашаптаў на вуха.

Хрысціна спынілася насупраць натоўпу, пакланілася, амаль кранаючыся рукой снегу. У гурце загаласілі жанчыны. Плач балюча драпаў па сэрцы. Я пачаў выбірацца з натоўпу, каб не бачыць і не чуць прыніжанага развітання «паланянкі».

Потым вуркаталі машыны, гаманілі людзі, і снежны пыл курыўся над дарогай. Настала цішыня. А ў ёй раздаўся спакойны, разважлівы голас:

— Дзівакі, з вяселля цяітры наладзілі...

Гаварыў Даніла Налягач. Мы пайшлі з ім па выслізганай палазамі вуліцы. Даніла трымаў рукі за спіной і можа таму выдаваў сутулым і старым. Гаварыў ён нібы сам з сабой:

— Чаго людзі даўніны трымаюцца? Я, Сітоў, законам забараніў бы даўняе ўзнаўляць. Яно, здаецца, глупства: ці вялікая шкода, што вяселле на стары капыл ладзілі, а толькі, я табе скажу, гэта — як тайны падкоп. Ты, Сітоў, мабыць, і не памятаеш, як гэта вяселлі па-старому ладзіць? А яны цябе навучылі. Дурное ж на ўсё жыццё помніцца. Пасаг, каравай, выкуп... Я табе так скажу, мы са сваёй трыццаць чацвёрты год жывём, дай бог кожнаму. А вяселле сваё я вось як спраўляў. У данькаўскага папа батрачка была. Я тады толькі з арміі вярнуўся, у Туркестане ваяваў басмачоў. Сустрэліся мы з ёй, пакахаліся. Бачым — адзін без аднаго жыць не можам і парашылі жаніцца. Запрог я каня, пад'ехаў увечары да папоўскага дома, пастукаў у акенца. Яна, значыць, выкінула хатулёк праз акно, а потым сама вылезла. Вось і пачалі жыць. Поп гады два ўсякіх ліхаў нам прарочыў, а мы па сённяшні дзень шчасліва жывём.

Дзядзька Даніла нейкі час крочыў моўчкі, але, відаць, гэтая думка трывожыла яго:

— Будзеш жаніцца, Янка, дык не рабі п'янага вяселля. Агідна...

Штосьці ў словах дзядзькі Данілы нагадвала мне ўласныя думкі. Не хацелася мірыцца з усім тым, што яшчэ адмяжоўвае вёску ад горада, ставіць яе на другі план.

— Дзядзька Даніла, а чаму вы не зойдзеце па кнігу? — запытаўся я.

— Мне ўжо без акуляраў чытаць цяжка. А купіць іх ніяк не адважуся. Вось так і гарую. Паслухаць бы і рад быў, ды каму захочацца час траціць... І сабрацца няма дзе.

Мы развіталіся, так і не дасказаўшы тое, што абавязкова трэба было сказаць.

# НАСТУП

## НЕЗАКОНЧАНЫ РАЗДЗЕЛ

### 1

Раніцай падзьмуў паўднёвы вецер. Ён прынёс па-веснавому мяккую цяплынь і безліч забытых за зіму пахаў. Апоўдні пад несціханы крык пеўняў з-за лесу выпаўзла густая блакітна-шэрая хмара. Яна заняла паўнеба і, нібы замарыўшыся, спынілася недзе над Данькавым.

Ноччу секануў буйны, цёплы дождж. У непрасветнай цемрачы — хоць выкалі вока — ён глуха лапатаў, сіпеў, растапляючы снег; гулі і звінелі імклівыя ручаіны. Усё навокал набрыняла вадой і цеплынёй. Было духатліва і парна, аж ламіла косці.

А назаўтра, абмытыя дажджом, непрывычна чарнелі палі. За ноч снег нібы злізала. Усё навокал памаладзела. Лысы пагорак зелянеў маладой рунню, і канава на імшары таксама зелянела ад асакі, а вярба за ноч пажаўцела, бо набрынялыя пупышкі патрэскаліся, і з іх здзіўлена пазіралі на свет жоўтыя коцікі.

Над Зарэччам таяў туман. Скрозь парадзелыя хмары прабівалася сонца. Дзень абяцаў быць цёплы. Таму з самай раніцы не сядзелася ў хаце. Хацелася на прастор палёў.

Я пайшоў на возера. Не ведаю чаму, але яно вабіла да сябе, і ўночы я часта сніў зялёны востраў ды срэбраную месячную сцежку на вадзе.

Дождж растапіў снег, і цяпер на лёдзе стаяла падсіненая спадыспаду вада. Лёгкі вецер гнаў па ёй дробныя хвалі. Яны падкатваліся да рудых чаротоў, спакойна лажыліся між высокіх сухіх сцяблін. Праз возера бегла чорная дарога, адзінае, што засталося ад зімы і што паволі размывала вада. Далей вырастаў проста з вады хмызняк — гэта быў наш востраў, які абмывала цяпер веснавое разводдзе. Над востравам у асмужаным туманам небе звінелі жаўранкі, а ў бярозавым гаі стаяў

грачыны гармідар. Я ўспомніў, як ахрыпла кувала зязюля, калі мы з Шурай сядзелі на востраве. Успамін не абудзіў былых пачуццяў: яны заглушыліся іншымі, больш моцнымі і стойкімі.

Смешна пытаць у зязюлі, колькі табе наканавана пражыць вёснаў. Жыццё вымерваецца не гадамі, а тымі справамі, якія зрабіў чалавек. Чаму я раней пра гэта не думаў?

Я марыў пра жыццё лёгкае і простае, як найкарацейшую адлегласць між дзвюма кропкамі: школа — універсітэт. Выйшла не так, як марыў. Прамых дарог на свеце не бывае...

Уночы, калі над Зарэччам страляў пярун, а маланкі скрыжоўвалі свае вострыя пікі, да нас у хату прыбегла Шура.

— Дзядзька Платон, бацьку нешта нядобра... Доктара трэба...

— Што ў яго? — запыталася маці паспешліва надзяваючы плацце.

— Сэрца, мабыць...

Загурскі вывеў з хлява матацыкл. Яркае святло фары прарэзала цемру. Было добра відаць, як у белым промні скачуць частыя дажджавыя кроплі.

— Праз гадзіну чакайце,— крыкнуў Платон і знік у начы.

Мы стаялі на ганку, прыслухоўваючыся да сіпення дажджу. Час ад часу асляплялі маланкі, следам грукаталі раскаты грому. Шура сабралася дадому, і маці загадала мне праводзіць яе. Я накінуў на плечы Платонаву плашч-палатку. Мы выйшлі на вуліцу.

На Шуры была кароценькая жакетка, уся мокрая.

— Давай разам накрыемся,— сказаў я Шуры і накінуў палу плашч-палаткі на яе.

Па вуліцы, з горкі, беглі ручаі. Ногі адразу прамоклі. Але ісці побач з Шурай было прыемна. Яна выдавала маленькай, прыгорбленай горам дзяўчынкай. Мне хацелася, каб Шура адчула, які я ўважлівы і клапатлівы. Таму я раз-пораз захутваў яе ў плашч-палатку, баючыся, каб яна не прастудзілася. А на дварэ было парна. Навальніца і ноч не астудзілі дзённай гарачыні.

У Данілавай хаце свяціліся вокны. З нейкім затоеным страхам мы ўзышлі на ганак, адтуль у сенцы. Я не адставаў ад Шуры, трымаючыся ў цемры за яе плячо. Так мы і ўвайшлі ў хату.

Дзядзька Даніла ляжаў на падушках, закінуўшы галаву, цяжка дыхаў. Убачыўшы мяне, ён папрасіў падысці бліжэй.

— Бачыш, не ў пару скапыціўся,— сказаў ён, відаць, думаючы пра тое, што праз тыдзень-два трэба пачынаць сяўбу.

Я маўчаў. Чамусьці мне прыгадаліся тыя дні, калі, хворы на грып, дзядзька Даніла не ляжаў у пасцелі, а бегаў па брыгадзе. Можа ў ягонай гэтай хваробе вінаваты я. Заняты сваім каханнем, я тады не шмат думаў пра работу. Мне было няёмка. Чаму я быў такі няўважлівы і не падмяніў дзядзьку Данілу?

— Давядзецца, Яначка, табе аднаму цяпер ваяваць.

— Вы яшчэ, дзядзька, паправіцеся,— сказаў я.

— Дождж — гэта добра,— як бы думаючы ўголас, гаварыў дзядзька Даніла.— Па маіх прыкметах лета сёлета будзе сухое, так што старайся сяўбу хутчэй кончыць.

— Ды што ты адыходную завёў...— не вытрымала Даніліха.— Ляжы во, пакуль доктар прыедзе.

Але Даніла не ўмеў ляжаць ціха. Праз колькі хвілін ён зноў пачаў разважаць уголас:

— Людзі, брат ты мой, на нас спадзяюцца. Так што глядзі, каб не падвёў іх. А палкі ў колы ў нас яшчэ ёсць каму ставіць. У жызні яно так, Янка, бывае: удзесяцёх воз цягнуць, а адзін падлюга суне палку ў кола і — увесь воз спыніцца... Я гэта гавару, каб ты не міндальнічаў са зладзеямі ды гультаямі. Пасля людзі дзякуй скажуць.

Даніла заплюшчыў вочы. Мабыць, яму цяжкавата было гаварыць. У глухой цішыні, што настала, было добра чуваць, як у палісадніку лапоча дождж. Я падышоў да акна, пачаў углядацца ў шэры змрок. На поўдні ўжо святлела неба, і чорны край бухматай хмары выразна віднеўся на гэтай светла-шэрай палосцы. Дождж надціхаў, і толькі недзе на поўначы неба яшчэ палыхала маланкамі. Часам далёкае вуркатанне грому далятала сюды, у хату, як з падзямелля.

За акном у шэрані чарнелі прысады. За імі туліліся хаты, хлявы, такія ж невыразна чорныя, як і прысады. Я жыва ўяўляў парную цеплыню гэтых хат і людзей, што спяць моцным перадсвітальным сном. Хутка яны прачнуцца і будуць дзівіцца, што праспалі навальніцу. Потым вёска ажыве ў клопатах новага дня.

Я ўжо не мог уявіць сабе жыцця без гэтых знаёмых краявідаў, без людзей, якіх ведаю змалку, якія гэтак жа добра ведаюць мяне. Прыгадаліся іншыя дні, калі ў леташнім годзе мы рыхтаваліся да экзаменаў і кожны марыў як мага хутчэй уцячы са сваіх вёсак. Чаго мы хацелі тады? Што клікала нас? Мары? Так, яны. Але ж мары сталеюць, і тады, мабыць, кожны чалавек глядзіць на жыццё іншымі вачыма. Вось і мне не хочацца ўжо кідацца ў пошукі нечага невыразнага. Я нібы прырос да гэтых мясцін.

— Адчыні, Янка, акно. Нешта паветра не хапае,— папрасіў Даніла.

Я штурхануў раму, акно расчынілася насцеж. У пакоі запахла дажджом і вільготнай зямлёй. У лямпе пад столлю замітусіўся агонь, разгарэўся ярчэй, аж пачало рэзаць у ваччу ад нязвычнай віднаты.

— Нешта доўга іх няма...— сказаў дзядзька Даніла. Мабыць, яго мучыла хвароба.

— Дарога цяпер дрэнная,— азваўся я.

Мы памаўчалі. У цішыні раптам пачулася далёкае лапатанне матацыкла. Едуць!

Матацыкл спыніўся на дарозе. З каляскі выскачыла затуленая ў плашч постаць, прабегла па сцежцы да ганка. Потым на парозе паявіўся ўрач, з саквояжам у руцэ.

— Ну, дык што ж мы? — весела пачаў ён.— Вясна на дварэ, а ты ў ложак...

Урач надзеў халат, прысеў на крэсла, доўга слухаў Данілу. Твар яго хмурнеў.

— Давядзецца паляжаць,— сказаў ён, а потым, калі мы выйшлі ў другі пакой, дадаў.— Сёння ж трэба завезці ў бальніцу. Інфаркт.

І вось я застаўся адзін на ўсю брыгаду. Было страшна. Як яно ўсё будзе? І ганебна-радасна — нарэшце я магу выявіць сваю самастойнасць.

## 2

Парадак спачатку наводзяць у сваёй хаце...

Гэта была такая сварка, пасля якой або разыходзяцца на ўсё жыццё або мяняюць характар. Я добра ведаў маці, не раз наперакор сабе згаджаўся з ёю, і мне здавалася, што пераможа яна. Тады трэба было б махнуць рукой на аптымізм. Тады я паверыў бы, што песімізм бліжэй чалавеку. Але я думаў так таму, што не ведаў Загурскага.

Пасля дажджоў і парнай цеплыні зноў пачаліся ядраныя ранішнія

марозы. Яны скоўвалі за ноч лужы, і ўранку пад нагамі звонка хрумсцеў лёд. Удзень было сонечна і цёпла — вясна брала сваё.

Аднаго разу Платон Загурскі пад'ехаў да хаты на калгаснай, дашчэнту разбітай машыне. Я бачыў, як ён лёгка выскачыў на зямлю і пад яго ботам раскалоўся лёд на прамёрзлай да дна лужыне. Мне здалося, што я нават пачуў звон разбітага лёду.

Загурскі ўвайшоў у хату ў ззянні сваёй адмысловай, хоць і рэдкай, усмешкі. Яшчэ на парозе зняў шапку, паліто і, кінуўшы іх на лаўку, пацёр рукі.

— Даша, чаго-небудзь паснедаць хутчэй... Пазнюся.

— Куды цябе?..— запыталася маці, увішна збіраючы на стол.

— У райком еду. Ну і закруцілася машына!

Ён быў усхваляваны. Яму хацелася расказаць пра тое, што ўзрушыла яго, таму і паклікаў мяне:

— Хадзі сюды, Янка. Ты яшчэ нічога не чуў? Дзіва што — наша Зарэчча далей ад цэнтра калгаса, як Курылы ад Масквы.

Маці насцярожылася. Я даўно заўважыў, што ўсякія навіны, перамены насцярожваюць маці. Яна спынілася ля стала, разгублена пазірала на Загурскага:

— Не цягні ты. Смерць не люблю, калі ты пачнеш гаварыць, а пасля, нібы знарок, змаўкаеш...

— Начальства раённае пазнімалі з работы,— аб'явіў Загурскі.— Я ведаў, што такое доўга не будзе. Не, ты, Янка, падумай: людзі камунізм будуюць на матэрыяльнай базе і на свядомасці людзей, а наша начальства ўздумала камунізм будаваць на прыпісках.

— А табе якая радасць? — здзівілася маці.— Людзей з работы пазнімалі, а ён радуецца...

— Дык жа як не радавацца? От, скажам, наша Зарэчча па ўсім адсталая вёска, а начальства яе ў перадавікі пхне. Тут цёплая кампанія народнае дабро разбазарвае, а Вараніцын ім самыя лепшыя рысы прыпіша і — пускай людзей у камунізм. Нават сказаць нічога не смей: савецкіх людзей абражаеш. І атрымліваецца, што пад крылцам вось такіх Вараніцыных жулікам лёгка жывецца.

Маці нарэшце не вытрымала. Яе ўвесь час непакоіла гэтая думка. Я ведаў, пра што думае маці, бо і раней яна гаварыла мне тое самае, што цяпер сказала Платону:

— З людзьмі жыўшы, супраць людзей толькі дурны ідзе. У суседстве не выпадае лішняе бачыць, бо і сам не без грэху.

— Кінь ты, Даша, пра грахі. У нас з табой грахоў няма. Мы з табой дзяржаўнае не бяром. Гэта па такіх, як Цопа, Макуха, Хведар Камарык — во па кім удар... Нам чужое не трэба...

— Ага, па іх... Табе, канечне, не трэба. А што карову няма чым карміць, гэта цябе не турбуе... А мне што было рабіць? Той жа Восіпаў Хведар, Камарык, як ты кажаш, выручыў. Дзякуй, прывёз сена.

— Даша,— у Загурскага раз-другі тарганулася шчака.— Ты жартуеш, Даша?

— Мне не да жартаў. Сто разоў цябе прасіла падумаць, а ты што мне гаварыў: «Не магу!» А людзі прывезлі, і ты нават не заўважыў, што ў хляве сена ляжыць.

Мне здавалася, што маці знарок гаворыць Загурскаму аголеную, брыдкую праўду. Ёй хочацца пасварыцца і ў гэтай сварцы перамагчы Платона, на ўсё жыццё падпарадкаваць яго сабе. Успомніліся Макухавы размовы: «Дар'я Сітова чорту рогі абламае і па струнцы прымусіць яго хадзіць. Гэта не баба, а дрэсіроўшчык!»



— Як жа ты так? І людзі бачылі?..

У Загурскага ўвесь час нервова торгалася шчака, але гаварыў ён спакойна, нават з нейкай асуджанасцю ў голасе. Гэта падабалася маці. Яна ўвачавідкі мяняла тактыку: раптам зрабілася ласкавая, добрая.

— Сядай, Платоша, я ў адну мінуту снеданне згатую. А за сена не бойся. Хіба жонка мужу вораг? Усё як след зроблена. Ніводная душа не ведае пра сена. Хведар на машыне ўночы ездзіў.

Загурскі спакваля ўстаў.

— Я зараз,— сказаў ён і выйшаў з хаты.

Неўзабаве яго постаць прамільгнула ў акне, на вуліцы завуркатала машына, папаўзла задам на двор. Маці ўстрывожылася. Але ні я, ні яна не здагадаліся, чаго ўязджае на двор машына, тым больш што Загурскі хутка прыйшоў у хату. Быў ён, як і раней, спакойны, можа нават спакайнейшы, чым раней. Сеў за стол. Маці паставіла на стол мачанку, паклала горку бліноў.

— Чаго гэта ты машыну на двор загнаў? — запыталася яна.

Загурскі, беручы на відэлец блін, сказаў мне:

— Схадзі, Янка, памажы сена класці. У мяне часу няма...

Маці збялела, потым пабарвавела, захвалявалася:

— Платон, што ты?..

— Крадзенае яно. Трэба на ферму завезці.

— Я ж за яго грошы плаціла...

— Плакалі твае грошы. Яшчэ скажы дзякуй, што так абышлося. А то заадно з Хведарам за краты трапіла б...

Маці заплакала. Мне ўжо вядома было яе галашэнне, і ў другі раз я ўцёк бы з хаты, але цяпер было вельмі цікава ведаць, чым усё кончыцца. Платон снедаў, быццам нічога не здарылася, толькі сказаў мне:

— Ідзі, Янка, памажы там. Мы тут самі разбяромся...

— Строгі ў цябе айчым,— сказаў шафёр.— Мы думалі, што ён толькі на рабоце такі, аж не — і дома строгі. Ну, дык гэта не блага. Галоўнае — справядліва.

Мы пачалі накладваць праклятае сена. Прызнацца, я ўвесь час чакаў, што вось зараз на двары паявіцца Загурскі, махне рукой: «Скідай сена з машыны», а за яго спіной будзе ўсміхацца маці. Але Загурскі не паяўляўся.

Нарэшце сена было на машыне. Мы не ведалі, што рабіць далей. Трэба было ісці ў хату. А там панавала жудасная маўклівасць. Я з асцярогай адчыняў дзверы, быццам чакаў убачыць штосьці страшнае. Загурскага не было. Маці прыбірала ў хаце, злосна махаючы венікам.

— А дзе Загурскі?

— Хіба я ведаю. У горад жа мусіць пайшоў.

— А сена куды везці?

— Куды хочаце, туды і вязіце. І адчапіцеся вы ад маёй галавы. Жывіце, як сабе хочаце.

Я зразумеў, што перамог Загурскі. Што маці больш не адважыцца на такое. І я радаваўся гэтаму. Чалавек выхоўваецца не толькі ўгаворамі. Часам трэба быць і бясконца непахісным, каб вярнуць дарагому табе чалавеку сумленне.

## 3

Палі чакаюць гаспадара. Уранку, калі прыгравае сонца, над імі стаіць лёгкі, ледзь прыкметны туман. Зямля грэецца. Трэба пачынаць сяўбу. Але я не ведаю, за што зачапіць рукі.

Кузьма Цопа пакінуў мне незайздросную спадчыну. Бароны, плугі, культыватары раскіданы па ўсім полі. Сеялку знайшлі ў імшары, і цяпер яе давядзецца рамантаваць. Факт — сяўбу наша брыгада зацягне. Варта было б пагаварыць з Загурскім або пайсці да Чукрая, папрасіць, каб памаглі мне. Толькі ісці па дапамогу я саромеюся. І Загурскаму нічога не кажу. Загурскі — радня. Яшчэ пачнуць гаварыць, што айчым памагае пасынку.

Упершыню за сваё жыццё я ненавіджу вясну. Няхай бы яшчэ пачакала. Тыдні за два адрамантаваў бы інвентар. А там няхай прыходзіць. Але вясна не чакае. Яна грукае ў вокны.

Быў бы здаровы Даніла Налягач, дык ён ведаў бы, што рабіць. А я не ведаю, і цяпер мне здаецца, што нехта вельмі злосна пажартаваў з мяне, прызначыўшы за брыгадзіра.

Былы брыгадзір Кузьма Цопа сядзіць у краме. Можа, варта схадзіць да яго?..

Цопа важна пахаджвае па той бок прылаўка. Кароценькі, цесны халат аж трашчыць на яго дужых плячах. Пад нагамі парыпваюць, стогнуць масніцы. Заўважыўшы мяне, Цопа ківае галавой.

— Што, Канстанцінавіч,— усміхаючыся, пытае ён,— можа за гаручым прыйшоў? Наша брыгадзірская жызня такая — хай на яе,— і сам не пабачыш, калі да гарэлкі давядзе. На сваім прыкладзе табе дакажу. Хаджу, во, цяперака сярод пляшак і не цягне да іх. А бывалача як убачыш бутэльку, дык аж рука свярбіць — так і хочацца яе адкаркаваць. Народ усё вінаваты... Хочаш дагадзіць кожнаму, а яно не выпадае... Лаюць цябе. Ну а ты, каб смялейшаму быць, да шклянкі прыкладаешся. Вось як яно, дарагі таварыш, палучаецца...

Размова набывае адразу непажаданы кірунак. Я не магу змоўчаць. Хіба народ вінаваты, што плугі кінулі ў полі?

— Вы, дзядзька Кузьма, дагаспадарыліся да таго, што каня няма як запрэгчы. А таксама на людзей ківаеце.

Цопа збянтэжана лыпае маленькімі, заплыўшымі вочкамі.

— Паглядзім, як ты будзеш гаспадарыць,— бурчыць ён і пачынае перастаўляць на паліцы запыленыя бутэлькі.

Работа гэта, мабыць, яму да спадобы. Ён асцярожна бярэ бутэльку, выцірае яе палой халата і зноў ставіць на паліцу. Мне робіцца смешна: да каго я прыйшоў за парадай?..

— Ведаеце, дзядзька Кузьма,— кажу я,— гаспадарыць я, вядома, не ўмею. Але абавязкова навучуся. І працаваць буду сумленна. А вас, дзядзька, на першым часе папярэджваю, калі ў часе сяўбы паспрабуеце ўстроіць тут піўную, дык дабра ад мяне не чакайце. Помніце, як летась тры дні святога Ягор'я спраўлялі? Дык гэта ў апошні раз было.

— Ты мне не пагражай. Я план тавараразвароту выконваю,— не вельмі ўпэўнена адказвае Цопа.

— Во-во,— падхопліваю я,— выконвайце. Каб у часе сяўбы ўсё, што людзям трэба, у краме было. У нас жа так: як толькі пачалася сяўба, дык у краме запалак не купіш.

Кузьма Цопа хоча нешта сказаць, мабыць, абразлівае, але чамусьці баіцца. Калі я ўжо быў за парогам, дык пачуў, як ён брыдка вылаяўся. Але я не звярнуў на гэта ўвагі. Чалавеку, які губляе свае пазіцыі, нічога іншага не застаецца, як лаянка.

Аднекуль здалёк да мяне далятае лапатанне трактараў. Ну вось, людзі пачалі ўжо ворыва, а я ўсё яшчэ не ведаю, што і як рабіць. Гул матораў нарастае, і я іду насустрач яму.



З-за лесу адзін за адным выпаўзаюць два трактары. Маленькі «Беларус» весела імчыць наперадзе, ззяючы на сонцы чырвонай фарбай. Другі, на гусеніцах, паўзе, як чорны няўклюдны жук, але не адстае ад «Беларуса».

Няўжо іх гоняць у маю брыгаду? Забыўшыся на сваю брыгадзірскую сталасць, я бягу насустрач трактарам, як малое дзіця. Нехта махае мне рукой. Фруза! Трохі няёмка, што паводжу сябе, нібы блазнюк.

На першым трактары Стасеў бацька. Ён спыняе трактар і ўсміхаецца мне. Фруза саскоквае на зямлю, доўга цісне руку, заглядваючы ў вочы.

— Разгубіўся быў, брыгадзір?..

Я нешта мармычу ў адказ. Прызнацца сорамна, але гэта праўда, што я разгубіўся. А больш сорамна таму, што не хацеў ісці па дапамогу. На сябе спадзяваўся. Дзівак!

Нехта кладзе руку на маё плячо. Азіраюся. Загурскі.

— Давай, брыгадзір, дакладвай, што зроблена, што думаеш рабіць? — пытаецца ён ці то жартам, ці то ўсур'ёз,— не ўгадаць.

— Нічога я не рабіў і не ведаю, што трэба рабіць,— шчыра прызнаюся я.

Стасеў бацька рагоча, і лес вяртае водгулле: гы-гы-гы.

— Ну і брыгадзіра прычакалі...

— А ты, Ягор, не смейся,— кажа Загурскі.— Кожны чалавек аднаго разу ў жыцці бывае вось у такім становішчы, калі за штосьці вялікае бярэцца. Было б горш, каб ён хлусіць пачаў... Ну як, Янка, прымаеш нас у сваю брыгаду? Будзем працаваць шчыра, можаш не сумнявацца.

З вёскі, як і ў мінулыя гады, падыходзяць калгаснікі. Калі прыгналі трактары, значыць — вясна пачалася. Хопіць на печы адлежвацца.

Загурскі адводзіць мяне ў бок. Хітравата жмурыць вочы.

— Хацеў быў адзін да цябе ехаць, а Фруза ў амбіцыю. Кажа, што і яе месца тут...

Я чырванею, здагадваючыся, на што намякае Загурскі. Але мне прыемна. Добра, калі маеш шмат сяброў.

— Мяне, брат, праўленне накіравала сюды, памагчы табе на першым часе. Я з дарослымі пагутару, Фруза — з моладдзю, так што палітычную работу мы табе забяспечым. Ясна? Астатняе, брат, за табой.

— Як жа я буду...

— Па-першае, ты не адзін. У цябе дзве звеннявыя: Наталля Смулёва і цётка Даніліха. Яны памогуць. Потым аграном прыедзе — падкажа, што і як рабіць трэба. Ды і я непадалёк буду — пытайся. Толькі адно памятай, Янка,— на сябе больш спадзявайся. Вучыся весці так справы, каб ад іх карысць была. Гэта твой арыенцір. А пакуль я тут з людзьмі пагутару, арганізуй машыну. Трэба гаручае і масла прывезці.

Хвёдара, як заўсёды, няма дома. Восіпіха сказала, што ён пайшоў да Макухі. Туды мне ісці не хочацца. З таго часу, як былі заручыны, я не ступаў нагой за Макухаву браму. Але ісці трэба.

Сцяпан Макуха сядзіць на нізкім услончыку, абувае бот. Хведар ходзіць па хаце, пыхкаючы самакруткай. Пад столлю плывуць шызыя клубы дыму. Абодва чамусьці пахмурыя. Мабыць, няма за што пахмяліцца. На маё прывітанне ніхто не адказвае.

— Куды гэта вы збіраецеся, дзядзька Сцяпан? — пытаю я.

Макуха, прыўзняўшыся з услончыка і прытопваючы нагой аб падлогу, каб ямчэй абуць бот, адказвае:

— А гэта, слухай сюды, не твайго розуму справа.

У мяне закіпае ў грудзях злосць, але я стрымліваю сябе.

— Трэба па бензін ехаць,— кажу я Хведару.— Ці на хаду машына?

— У мяне выхадны,— Хведар спыняецца насупраць, рукі ў кішэнях.— Ну чаго ты са скуры лезеш? Думаеш, дзякуй палучыш? Заўтра прывязем бензін, а сёння мне трэба са Сцяпанам у адно месца падскочыць.

— Давядзецца адкласці вашу паездку,— спакойна адказваю я.

— Значыць, Макуха не мае права на машыне праехаць? Дажыўся... А хто гэты калгас пасля вайны з попелу ўзнімаў — пра гэта ты падумаў?

Сцяпан паспешліва круціць цыгарку. Кавалак газеты распаўзаецца, і на падлогу сыплецца махорка. Макуха ў злосці кідае рэшткі цыгаркі пад ногі.

— Слухай сюды, Канстанцінавіч,— стрымліваючы злосць і стараючыся гаварыць лагодна, звяртаецца ён да мяне,— справа ў нас тэрміновая. Трэба абавязкова з'ездзіць. Мы ў адзін мэнт вернемся. Табе, як свайму, скажу: нешта там у Хрысціны жызня не ладзіцца. Сваё ж дзіця, уступіцца трэба.

На нейкае імгненне я быў сумеўся. Можа праўда? Тады няхай бы з'ездзілі. Адтуль недалёка на склад заскочыць. Але тут жа падумаў, што Хведар, пабыўшы ў гасцях, ужо не зможа везці бензін.

— Вы, дзядзька, на веласіпедзе з'ездзіце. Гаручае таксама тэрмінова трэба.

Наступае доўгае маўчанне. Хведар ходзіць па хаце, грукаючы ботамі. Потым ён спыняецца ля мяне.

— Эх ты, думаў, свой хлопец... Аж памыліўся. У начальства лезеш. Толькі я табе раю такіх, як я і Сцяпан, трымацца. Начальства далёка, а мы — побач. Падумай.

— Вось што,— кажу я,— годзе ўжо дыспут весці. Не хочаш ехаць зараз, аддавай ключы: Ягор Пацябня паедзе.

— Ключы вось яны, але не так хутка я вам іх аддам.

Хведар некалькі разоў падкідвае ключы на далоні, потым хавае ў кішэню.

— А ты яшчэ зяцем хацеў яго ўзяць,— усміхаецца ён Сцяпану.— Ну і зяць, ні даць, ні ўзяць...

Няхай смяецца. Але выйшла па-мойму.

## 4

Шчыра кажучы, я толькі лічуся брыгадзірам. Усімі справамі кіруе мой айчым Платон Загурскі. Ён паспявае ўсюды. З раніцы Платон на матацыкле аб'язджае палі. Пасля абеду спяшаецца ў кантору або ў другія брыгады. Маці сварыцца: «Ніколі ты дома не начуеш. Калі ж для сябе жыць будзеш?» Платон усміхаецца: «Во, адсеемся, тады на цэлы тыдзень вазьму адгул». Але ні маці, ні я не верым гэтаму. У Загурскага заўсёды знойдуцца неадкладныя справы.

Я адчуваю сябе ніякавата. Стараюся прыглядацца, прыслухоўвацца да ўсяго, што робіць і кажа Платон Загурскі. Цікава наглядаць, як тыя самыя калгаснікі, што летась крычалі на сходзе супраць Загурскага, цяпер вінавата апускаюць вочы, гаворачы Платону: «Цопа ўсё натравіў. Памыліліся мы тады». Загурскі не любіць слухаць такія апраўданні. Хмурнее, калі хто напамінае пра старое. Можа гэта больш за ўсё і прыцягвае да яго людзей. Зарачанцы стараюцца працаваць, каб загладзіць сваю віну. Відаць, разумеюць, што абразілі чалавека. А ці прызнаюць яны мяне як брыгадзіра?

Я стараюся рабіць так, як Загурскі. І ўсё роўна адчуваю на сабе кплівыя позіркі старэйшых: бач ты, яйцо курыцу вучыць.

На золаку мяне будзіць маці. Сам я ніяк не прывыкну ўставаць у такую рань. Апякаючы ногі аб расу, бягу на брыгадны двор. Там, да тоўстага сука векавечнай ліпы, прывязаны вагонны буфер. На ім ляжыць тоўсты кавалак жалеза. Хапаю яго ў рукі і з ўсяе сілы б'ю аб буфер. Над Зарэччам плывуць у ранішняй цішы звонкія гукі: «блям-блям-блям».

Званю я хутчэй таму, каб упэўніцца, што ўжо прачнуўся, што для мяне настае дзень, поўны беганіны, клопатаў, а яшчэ таму, каб адчуць: я — брыгадзір. Людзі і без маіх званкоў выходзяць на працу. Часам я дзіўлюся, што стала з калгаснікамі. Летась яны не хацелі хадзіць на работу, хоць Сцяпан Макуха бегаў па хатах. А сёлета ўсё перамянілася. Мабыць, людзі адчулі, што ёсць сэнс працаваць, што парадкі ў калгасе перамяніліся, што праца кожнага будзе заўважана і ацэнена па справядлівасці.

Першымі на брыгадны двор прыходзяць Халімон Лепятуха і Трахім Какосцікаў. Пакуль згортваюць цыгаркі, маўчаць, потым, зацягваючыся дымам, пакепліваюць адзін з аднаго:

— А што, Халімон, прывык ужо рана ўставаць? Ды ты паглядзі на сябе ў люстэрка, далібог, памаладзеў. Летась ты адрузлы быў, тлушчу багата нагадаваў, дык яно, браце ты мой, і здароўя не было. А цяпер, бач, як цябе Загурскі вылечыў. Люба паглядзець.

Лепятуха ніяк не можа ўстаяць на месцы. Ён падскоквае, махае рукамі, апраўдваецца сваім пісклявым голасам:

— Я — што? Я, як усе. А яно і ты летась не вельмі шчыраваў. Забыўся, можа, як ад жывата лячыўся? Сёлета, Трахімка, гэтую тваю хваробу назаўсёды выгналі з Зарэчча.

— Ты, Халімон, з хворай галавы на здаровую не перакладай. Раскажы лепей Янку, колькі ты Макуху гарэлкі паставіў.

— Авой, дык ці ж я адзін...

— Гэта праўда, сярод гультаёў ты не адзіны. Праўду Даніла казаў, трэба было даўно за вас узяцца, каб успомнілі смак у рабоце, а не за сталом.

— Ты гэта на каго намякаеш? Можа на мяне? Дык я і летась працаваў.

— Ага, напрацаваў ты... Там, дзе выгадна было. А ты там працуй, дзе карысць усім будзе.

— Знайшоўся праведнік!..

— А ты як думаў? Вунь што Загурскі кажа: кожны ў сваёй брыгадзе гаспадар. Ты гэта разумееш, што і я цяпер гаспадар. А раней у нас Цопа ім лічыўся. «Я — пасеяў», «я — накасіў». Усё я ды я. А мы так сабе, нібы паповы работнічкі. Во адкуль усе нашы непарадкі пачыналіся.

З граблямі, рыдлёўкамі, матыкамі падыходзяць дзяўчаты — агародняя зарачанская брыгада. Кіруе імі Анютка Какосцікава. З імі Фруза Салей. Яна жыве ў Анюты і, здаецца, пасябравала з ёй.

— Янка,— кліча мяне Фруза,— дзяўчаты хочуць выклікаць на спаборніцтва пятую брыгаду. Як ты на гэта паглядзіш?

Я ўжо чуў, што гэтую думку ўвяла ў вушы дзяўчатам Фруза: вырасціць па дзвесце цэнтнераў буракоў на гектары. Раптам не здолеем? Быць брахуном не хочацца.

— Можа мнагавата на першым часе,— кажу я.
— Дзяўчаты,— гукае Фруза,— чуеце, Янка сумняваецца ў вашых здольнасцях!..
— Ён няхай не сумняваецца,— кажа Анюта,— а ўгнаенне дае...
— І каб трактар быў...
— І каб матыкі былі вострыя...
Дзяўчаты абступаюць мяне, тармосяць за полы. У кожнай ёсць свая думка, як лепей вырошчваць гэтыя цукровыя буракі, якія мы зроду не сеялі.
Здорава распрапагандавала іх Фруза! Усё яны ведаюць. І песні сёлета ў іх іншыя. Не спяваюць больш пра матрасёнка з аленькімі губкамі.
З поля разам з аграномам прыязджае Загурскі. Вітаецца, доўга прыглядаецца да людзей, нібы кагосьці чакае.
— А чаму Сцяпана Макухі няма? — пытаецца ён.
З натоўпу адзінокі голас:
— А навошта яму на работу хадзіць? Ім на дваіх хопіць таго, што з агароду збяруць...
Гэта праўда. Сцяпан Макуха пражыве з агароду, ды яшчэ як.
На калгаснай зямельцы пасвіць карову і цёлку, дванаццаць авечак. Ёсць у яго куры, гусі, свінні, пчолы. Чаго яму хадзіць на работу?
Людзі абурана загулі, нібы яны толькі цяпер уцямілі, што да чаго. Загурскі маўчыць, думаючы над чымсьці важным. Потым пачынае гаварыць. Яго словы цяжка падаюць у натоўп:
— Мы ўжо не раз папярэджвалі Макуху, а чалавек не зважае на гэта. Дык што будзем рабіць? Тут уся наша вёска. Давайце вырашайце самі.
Нейкі час пануе цішыня. Потым наперад выходзіць Трахім Какосцікаў:
— Я так думаю, Макуха і Цопа завялі брыгаду туды, адкуль яе за вушы трэба выцягваць. Даравалі мы сваім былым кіраўнікам, бо не хацелася суседскія адносіны псаваць. А калі і цяпер Макуха думае нашу лагоднасць да яго ў сваю карысць паварочваць, дык памыляецца ён. Я так скажу, абрэзаць у яго агарод па самыя вуглы і, пакуль не стане сумленна працаваць, не вяртаць яму зямлі.
— А божа, так ужо адразу...— чуецца жаночы голас.
— А чаго чакаць. І не ў аднаго Сцяпана абрэзаць, а і ў цябе,— кажа Трахім жаночаму голасу.
— У мяне за што? — прадзіраецца наперад Хведарыха.— Я во — прыйшла на работу...
— А дочкі дзе?
— Божа мой, дзеці ж яны зусім.
У натоўпе смяюцца. Хведарыха крута мяняе тактыку:
— Ды і яны прыйдуць. От палучу нарад, забягу па іх. Хіба ж злачынства якое, калі яны лішнюю хвілінку паспяць...
— Тады можна і не абразаць агарод, калі Хведарыха зразумела,— смяецца Трахім,— а вось у Макухі абрэзаць. Такая мая прапанова.
Я раздаю нарады. Паступова пусцее брыгадны двор. Застаемся мы ўдвух з Загурскім.
— Трэба, Янка, схадзіць да Макухі,— кажа Платон.
Мне здаецца, што толку ад нашага паходу не будзе. Макуха прывык жыць не працуючы. Дай яму які-небудзь партфель — будзе бегаць. Але працаваць на полі ён не стане. І ўсё ж я чамусьці згаджаюся з Загурскім. Напэўна таму, што Макуха — сусед, і неяк няёмка вось так адразу



прымаць да суседа сур'ёзныя захады. Праклятая прывычка — гэтыя добрасуседскія адносіны.
Нас сустракае цётка Марына. Па яе твары бачу, што наша паяўленне цётку Марыну не вельмі ўзрадавала. Але яна стараецца ўсміхацца нам і гасцінна запрашае ў хату:
— Авой, дарагія госцейкі, заходзьце. Я дык і ў печы яшчэ не паліла, пачаставаць няма чым. Хіба можа кіслага малачка са смятанай. Дужа пальзіцельна яго піць, дактары кажуць. Не адмаўляйцеся, бо пакрыўджуся зусім.
— Нічога, Марына Аляксееўна, не турбуйцеся. Спачатку аб справе пагутарым, а тады ўжо можна будзе і малака выпіць. Сцяпан дома?
— Дзе ж яму быць? Учора, во, ад зяця позна прыехаў, дык спіць яшчэ.
Мы заходзім у хату. Цётка Марына спяшаецца за перагародку. Адтуль далятае да нас прыглушаны цётчын шэпт і гучнае Сцяпанава пазяханне. Неўзабаве з-за перагародкі паказваецца ўскалмачаная Сцяпанава галава.
— Каго бачу, Платоша, друг! Нарэшце адважыўся зайсці... Усё абходзіш, зазнаўся...
Ён ловіць Платонаву руку, доўга трасе яе, быццам сто гадоў не бачыўся з Загурскім.
— Давай, брат, памыйся, бо размова сур'ёзная, і на сонную галаву яе весці не выпадае.
У хаце пачынаецца тая мітусня, якая бывае, калі завітаюць нечаканыя госці. Сцяпан фыркае на кухні, плёскае вадой і нешта гаворыць жонцы. Цётка Марына паспешліва распальвае ў печы, нечага выбягае ў сенцы і зноў прыбягае на кухню.
Загурскі падміргвае мне і смяецца. З кухні прыходзіць Сцяпан. Круціць галавой і жмурыцца, успамінаючы ўчарашнюю выпіўку.
— Ну, брат, і далі ўчора пытлю,— хваліцца ён.
— Бачу,— шматзначна кажа Загурскі.— Сядай, браце ты мой, і слухай... Хачу ў цябе запытацца, ці доўга ты вось так будзеш жыць? На работу не ходзіш, п'еш, дысцыпліну падрываеш.
Макуха натапырваецца.
— Я мінімум выпрацую, можаш не сумнявацца.
— А максімум няхай дзядзька выпрацоўвае?
— Ты мяне, таварыш Загурскі, не агітуй. Я нашы законы ведаю.
Нейкі час яны глядзяць адзін аднаму ў твар, быццам гуляюць у дзіцячую гульню — хто каго пераглядзіць.
— Ну, а сумленне табе нічога не гаворыць? Людзі вунь на полі працуюць, а ты спіш...
— Летась яны спалі, а я адзін за ўсіх бегаў,— не задумваючыся, адказвае Макуха.
— Можа ты дарэмна бегаў... Яно лепей бы было, каб сядзеў.
Макуха разумее, што Загурскі кпіць з яго, і мяняе гаворку.
— Кінь ты, Платон, пра справы гаварыць. За колькі год сабраліся, дык быццам іншай тэмы няма. От вып'ем зараз ды ўспомнім, як некалі хлопцамі гулялі.
— Успомніць можна,— кажа Загурскі.— Толькі спачатку ўсё ж пра нашы справы пагутарым. Не падабаецца людзям, што ты наперакор ім робіш. Сёння вунь патрабавалі абрэзаць твой агарод па самыя вуглы.
Макухаў твар барвавее, у вачах злосць.
— Хто гэта казаў? Тыя, каго летась прыціскаў?

— Не, не толькі тыя. Усе сумленныя людзі супраць цябе. І не таму, што ты іх, як кажаш, прыціскаў, а таму, што сёлета не хочаш працаваць.

— З агародам у вас нічога не выйдзе,— спакойна кажа Макуха.— Дваццаць пяць сотак вы мне ўсё роўна пакінеце. Пляваў я...

— Вось-вось. Таму і людзі цябе не паважаюць. Я табе шчыра раю, бярыся за розум. Можа дрэнна кончыцца.

— Не палохай, Загурскі. Як-небудзь і без тваіх парад абыдуся. Мяне вунь у леспрамгас клікалі.

— Тады давядзецца з агародам развітацца. І за пашу з цябе будуць браць па нормах, якія праўленне ўстановіць. Вось так.

Цётка Марына ўзнімае лямант.

— Чаго вы да нас прычапіліся? Вунь Цопа ў краме сядзіць, дык таго не трывожаць. Нас убачылі. Што мы, як бяльмо, у вас на вачах? Чалавеку ўжо сабой не можна распараджацца.

— Мая справа вас папярэдзіць,— Загурскі паволі ідзе да дзвярэй.— Гультаям мы не дамо спакойна сядзець.

— А ты не вельмі палохай. І на цябе ўправу знойдзем. Падумаеш, прыехаў асэсар. І без цябе жылі і не крыўдзіліся. Лепей пра сябе падумай. Глядзі, каб не раскайваўся потым.

Апошнія словы даганяюць нас ужо ў сенцах. Нешта яшчэ крычыць Сцяпаніха. Загурскі моўчкі крочыць па двары. За ім подбегам іду я. На душы непрыемна. Ну, як цяпер сустракацца з Макухам? Будзе ж няёмка глядзець у вочы чалавеку, які цябе абразіў. А хіба хочаш яму благое? А што калі залішне строгія ў сваіх рашэннях? Мабыць, не строгія. Што зменіцца, калі Макуха не пойдзе на працу? Людзі, вядома, будуць хадзіць на поле, але ж у іх асядзе на душы непрыемны асадак: во, адны працуюць, а другія — гуляюць, а жывуць не горш. І яшчэ нехта не пойдзе на работу... Так мы ніколі не выб'емся з адсталых. Успамінаю, як летась на поплаве Даніла Налягач казаў мне, што такія брыгадзіры, як Цопа, патрэбны гультаям. Гэта праўда. Тыя, што не хочуць сумленна працаваць, успамінаюць Цопу добрым словам, а Загурскага ганяць. Вось і выходзіць, што брыгадзір не можа стаяць недзе пасярэдзіне, дагаджаючы гультаям і шчырым працаўнікам. Сярэдзіны нідзе няма. Трэба цвёрда трымацца сумленных, калі сам хочаш быць такім, як яны.

Увечары маці просіць Платона:

— На ліха табе задзірацца з гэтымі прайдзісветамі. Макуха нічога не забывае. Ён заўсёды знойдзе час, каб табе адпомсціць.

Загурскі нецярпліва адмахваецца. Яму не па нутры матчына хваляванне.

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць. Ды і не адзін я тут, Даша. Усе людзі за мяне. Я тут у сваім куце жыву. А ў такіх, як Макуха, зямля гарыць пад нагамі.

Маці дакорліва ківае галавой.

— Я гэтую пароду ведаю,— кажа яна.

— Проста вы прывыклі спакойна жыць. А я не хачу гэтага балотнага спакою. І няхай яны толькі паспрабуюць нам перашкаджаць...

На гым і заканчваецца гэтая адвечная размова ў нашай хаце.

## 5

Мы стаім пад вярбой на кургане. Я прывёў сюды Фрузу, каб паказаць ёй магілу партызан, што ў часе блакады стрымлівалі тут фашысцкіх карнікаў. Фруза задумліва глядзіць уніз, дзе між хмызнякоў пятляе



рэчка Расянка. Пра што яна думае? Можа, стараецца ўявіць, што бачылі ў апошні раз гэтыя невядомыя нам людзі, аб якіх цяпер напамінае невялічкі каменны курганок. Летась пра гэта самае думаў я, і мне здаецца, што кожны чалавек павінен у першую чаргу падумаць пра гэта.

У чыстым блакітным небе паволі плывуць белыя бухматыя воблакі. Кажуць, калі такія воблакі бываюць у сяўбу, трэба чакаць ураджаю. Можа гэта праўда. Сёлета мы рассеялі нямала ўгнаенняў, не блага апрацавалі палі. Чаму ж не быць добраму ўраджаю?

Над поплавам высока-высока, аж пад самымі воблакамі, кружаць буслы. У іх ёсць свой абжыты кут — ясакар на Стасевым сельбішчы. Буслам добра. Яны ведаюць тут кожны кусцік, кожны кавалачак поплава. Ім хораша лётаць у сінім, празрыстым небе.

Чалавек таксама павінен мець свой абжыты кут. Няхай ён будзе нават не такі ўтульны, як наша Зарэчча. Зрэшты, усё залежыць ад самога чалавека.

— Як ты думаеш, Фруза,— пытаюся я,— што, калі мы самі паставім помнік?

Мабыць, я пытаюся нечакана і мае словы адрываюць Фрузу ад думак, што былі забралі яе ў палон. Яна як бы не разумее, чаго мне хочацца.

— Разумееш, Фруза, было прынята рашэнне паставіць тут помнік, але дасюль, як бачыш, усур'ёз за гэта ніхто не браўся.

Фруза маўчыць, і мне здаецца, што яна не верыць, быццам мы можам паставіць помнік. Я пачынаю пераконваць яе. Гавару горача і, як мне здаецца, пераканаўча. Фруза ўсміхаецца, упершыню, як мы знаходзімся на кургане.

— Ды я веру, што зробіце помнік... Я думала пра другое. Недзе чытала, як вялікая і дружная сям'я стала жыць у далёкім краі. І ўсё хацела ўцячы адтуль. Цягнула яе на новыя, лепшыя землі. А потым памёр бацька, паставілі на яго магіле крыж. Вось тады сын гэтага чалавека і кажа: «Цяпер нікуды не паедзем. Зямля прывязала нас да гэтага месца».— Фруза памаўчала крыху, потым дадала: — Успомнілася, а чаму і сама не разумею. А помнік абавязкова паставім. Хто не шануе памёршых, той не шануе сябе. А мы часта многае не ўмеем зберагаць у памяці...

Назад мы вярталіся па старой кардонскай дарозе. Тут усё напамінала мне аб мінулым. Па гэтай дарозе я хадзіў у школу. Вось тут, у ельніку, сустрэў зімнім днём Хрысціну... Як даўно ўсё гэта было. Смешна? Не, бадай сумнавата. Тады ў мяне не было клопатаў і вялікіх трывог. А можа і цяперашнія клопаты калі-небудзь будуць здавацца наіўнымі. Усё, што перажыта, здаецца не самым важным у жыцці.

Нечаканы гудок прымусіў мяне рэзка адскочыць на бок. Распырскваючы ваду з лужын, міма нас праляцела і спынілася воддаль грузавая машына. Вытыркнуўшыся з кабіны, усміхаўся Хведар.

— Прагулачкі, значыць, устрайваем... Яно так павялося — начальства гуляе, а рабочы чалавек абліваўся потам на працы. Можа, падвезці загадаеце?

Было не зразумець, ці жартуе Хведар, ці кажа ўсур'ёз. Я чамусьці адчуваў сябе няёмка. Было сорамна перад Фрузай. Але яна, здаецца, зусім не збянтэжылася.

— Вы заўсёды вось так палохаеце людзей? — запыталася яна.

— Палахлівых заўсёды,— ашчэрыўся Хведар.

— То дарэмна сігналілі. А вось вам варта пабойвацца ў такім стане садзіцца за руль. Можаце назусім страціць правы шафёра.

Я чакаў, што Хведар выкіне якую-небудзь шаляніну, але ён раптам пачаў апраўдвацца, а потым пастараўся хутчэй паехаць.

— Не падабаецца мне гэты Хведар Камарык,— сказала Фруза, калі мы засталіся ўдвох.— Хіба няма каго паставіць шафёрам?

Я чамусьці пачаў яго абараняць. У той дзень мне хацелася быць добрым. Мабыць, вінавата была вясна.

Дома мяне чакалі. У хаце за сталом сядзеў Віцька, сёрбаючы з кубка малако. Я не верыў сваім вачам. Віцька! Той самы, што прытуліў мяне, калі я бадзяўся па прыазёрным парку.

— Віцька, адкуль ты?

— Абяцаў жа прыехаць у госці... Думаў, што я не прыеду?

— Гэта ж, во, іду з поля, а ён цябе пытаецца,— пачала апавядаць маці.— Дык я адразу здагадалася, што за госць такі з неба зваліўся. Галодны зусім хлапчук! І як толькі такога малога пусцілі ў такую дарогу?

Віцька апусціў вочы, шморгаў носам, сапеў.

— Ну, як ты жывеш? Як ласка?

Віцька адразу ўзгарэўся, пажвавеў:

— Ласка ўцякла. Маці яе незнарок выпусціла. Во ўцякала... Я за ёй паўдня ганяўся. Хацеў злавіць і табе прывезці. Мы яе разам у лес занеслі б. А яна сама ўцякла.

— Ты, мусіць, здорава на вучобу націскаў, што ўсох гэтак? — пажартаваў я.

Віцька сумеўся, пачырванеў. Было відаць, што яму не хочацца гаварыць пра свае хатнія справы. Я не стаў настойваць. Пасля, калі мы пайшлі на возера, ён ашаламіў мяне прызнаннем:

— Знаеш, Янка, а я з дзіцячага дому ўцёк... Ну, не зусім адтуль. Наташка з маці да таго дагуляліся, што іх пад суд аддалі, а мяне хацелі ў дзіцячы дом адправіць. Тады я і надумаў махануць да цябе. Я і раней хацеў ехаць, ды маці не пускала. «Ён,— кажа,— абдурыў цябе. Трэба ты яму вельмі...» А потым, як яе забралі, дык я ўжо не раздумваў.

Шчыра кажучы, Віцькаў прыезд і яго прызнанне крыху збянтэжылі мяне. Што скажа маці, калі пра ўсё даведаецца? Адна справа, калі б Віцька пагасцяваў крыху... А ён прыехаў надоўга. Але я быў гатовы на ўсё — чалавека ў бядзе не кіну.

На возеры хлапчукі лавілі рыбу. Віцька спыніўся, зачараваны возерам, хлапчукамі і рыбай, што пабліскваў ў траве серабрыстай луской.

— А вудачкі я не ўзяў,— пашкадаваў ён.— Тожа мне лаўцы... Тут, мабыць, можна шчупакоў лавіць, а яны плотак вудзяць. Дзівакі!..

— Нічога, Віцька, ты іх навучыш, як трэба сапраўдную рыбу лавіць,— сказаў я, быццам ужо вырашыў, што Віцька застаецца ў нас.

І ён, здаецца, зразумеў гэтак мае словы.

— А маці твая не будзе сварыцца, што я жыць застануся?

— Маці — не ведаю,— прызнаўся я,— а айчым не будзе. Ён — добры.

— Знаеш, Янка, я ёй памагаць буду. Ты не думай, што я нічога не ўмею. Я ўсё ўмею рабіць. Мне толькі б сем класаў кончыць, а там я ў рыбакі падамся або ў леснікі пайду.

Я ўсміхнуўся, прыгадаўшы свае мары, але не стаў пярэчыць Віцьку. Мары памагаюць жыць, пераадольваць цяжкасці.

Позна ўночы, калі Віцька спаў ужо, прыехаў Загурскі. Убачыўшы на ложку незнаёмага хлапчука, Платон вырачыў вочы:



— А гэта яшчэ адкуль?

Давялося расказаць яму пра Віцьку, пра яго маці. Ён доўга маўчаў, потым сказаў мне:

— Дрэнна, што яго, можа, шукаюць. Трэба табе напісаць у райвыканком, каб не турбаваліся. Ну, а пакуль няхай жыве. Ды глядзі за ім. Ён — твой падшэфны...

Я быў бясконца ўдзячны Платону, хоць і ведаў, што інакш ён не скажа.

## 6

Пілі ў краме яблычнае віно. Хрысцінін муж Тарас Дыга, яго сват Аўсей Ліпка, Сцяпан Макуха і Хведар. Цопа адкаркоўваў бутэльку за бутэлькай, выстаўляў на прылавак. Сам ён не піў, затое частаваў з ахвотай. Чым больш вып'юць гарэлкі або віна, тым большы заробак у Цопы.

Віно пілі з рыльца. Бралі бутэльку ў руку, круцілі яе перад сабой, пакуль віно не пачынала вывінчвацца штопарам. Задраўшы галаву, вылівалі віно ў горла. Паўлітра адразу.

Яблычнае віно — кіслае, як воцат, і зусім не п'янае. Моцнасці ў ім градусаў дзевяць, не больш. Затое кіслотнасць — усе сто. Таму мужчыны п'юць і не п'янеюць. Яны, вядома, лепей бы ўзялі дзве бутэлькі маскоўскай. Але тут ёсць адна загваздка, пра якую ведаюць толькі зарачанцы. Яблычнае віно Цопа дае ў крэдыт — раз. Па-другое, калі хочаш узяць бутэльку гарэлкі, дык бяры дзве бутэлькі віна. Гэта, як кажуць, прымусовы асартымент. Вось чаму мужчыны ласа пазіраюць на паліцы, дзе стаіць гарэлка, і шчыра выконваюць план прымусовага асартыменту.

Мне да зарэзу патрэбны Восіпаў Хведар. Сёння мы пачынаем садзіць бульбу на прырасянскім полі. Трэба, каб Хведар падаў машыну. Жанчыны пайшлі ўжо набіраць бульбу ў ток, дзе яна ляжыць цяпер, а Хведара я доўга не мог знайсці. Крама знадворку зачынена. Але зарачанскія хлапчукі падказалі, каб я зазірнуў у акно. Вось тады мне і адчынілі дзверы. Сцяпан Макуха саскоквае з бочкі, чорцікам скача вакол мяне.

— Кузьма Аўтаномавіч! — крычыць ён Цопе.— Бутэлечку за мой кошт! Дарагога госця Івана Канстанцінавіча хачу пачаставаць.

Цопа, нібы той робат, маўкліва згінаецца пад прылавак, дастае бутэльку віна, спрытна знімае жалезны, засургучаваны каўпачок. Віно пеніцца.

— Не, дзядзька,— кажу я,— мне няма часу піць. Працаваць трэба. І вы канчайце баль. Трэба бульбу на поле везці.

— Бульба-шмульба... Ліха яе не возьме. Начальства толькі слухай, дык знойдзе работу...

— Гэта не начальства, а мы самі і дзеля сябе бульбу садзім.

— Дык што, па мяне прыйшоў? — пытаецца Хведар.— Не пайду я. Гума ўся на манжэтах. Як пра гуму, дык ніхто не хоча паклапаціцца. Толькі чуеш адно: рэйсы, рэйсы, рэйсы! Пайшлі вы ўсе...

— Ты, Хведар, кінь на аб'ектыўныя прычыны ківаць. Учора, як трэба было сабе дровы прывезці, дык тады гума цэлая была. На левыя рэйсы ў цябе гума ёсць. А для калгасных спраў — на манжэтах.

— Гэта я? Левыя?.. Хто ж гэта брэша? Не, вы чуеце?! Я і левыя рэйсы...

— А на тым тыдні, Хведар, бярозавыя дровы вазіў? Вазіў. І памаўчы. Я не хацеў толькі Чукраю гаварыць... А то ён цябе з шафёраў скінуў бы, ды яшчэ аштрафаваў бы, ды за амартызацыю машыны...

Хведар, відаць, не верыць сваім вушам. Ён прывык, што я заўсёды слухаў яго. На выручку яму прыходзіць Сцяпан Макуха.

— Ай-ёй, Канстанцінавіч, хто цяперака не грэшны? Ну, і што тут дрэннага? Ну, зайшлі выпіць. Зяць во мой прыехаў, Хрысцінчын муж. Во, выпіце... Навошта спрачацца, навошта лаяцца? Хведар паедзе. Пакуражыцца ўсе шафёры любяць.

У Хведаравых вачах тая дзікая, звярыная злосць, якую я бачыў тады, калі Хведар усчынаў на вечарынках бойкі.

— Гэта я — налева? Якая сука сказала?

Дыга і Ліпка хапаюць Хведара за рукі, а ён стараецца дастаць мяне нагой. Я чамусьці зусім не баюся Хведара.

— Хто б там не бачыў — не важна. Але запомні, Хведар, адно — больш левых рэйсаў не будзе. А вас, дзядзька Кузьма, я папярэджваў,— звяртаюся да Цопы,— не вельмі гандлюйце спіртным. Тут не шынок, а савецкая крама. І няма чаго вам спойваць людзей, якім працаваць трэба.

Я такога эфекту не чакаў. Манументальная постаць Цопы раптам меншае ў памерах. Ён бляднее, сціскаецца ад страху.

— Хведар,— крычыць ён,— зараз жа перастань. Тут табе не вечарынка.

Хведар адразу сціхае. Цопа вытурвае ўсю кампанію з крамы.

— От жа лайдакі, п'яніцы! Збавення ад іх няма...— шэпча ён мне.

— Зараз жа гані машыну на поле,— загадваю я Хведару.

— Ладна,— бурчыць ён.

— На пару слоў,— кажа мне Дыга і адходзіць ад астатніх.

Я іду за ім. Цікава, што можа сказаць мне Хрысцінін муж?

— Дык во які ты, Сітоў Іван, дышла табе ў рот!..— кажа Дыга. Ён прыглядаецца да мяне, як мяснік да быка на бойні.

Мне непрыемна і гэтая размова і сам Дыга.

— Што вы хацелі? — пытаюся я.

— Кінь выкацца. Я на цябе злосці не маю. Што было, да таго мне... адным словам, мне на тое плюнуць і нагой расцерці. А надалей, дышла табе ў рот, асцерагайся...

Я разгублена маўчу. У галаве віхурай праносяцца трывожныя думкі. Няўжо Дыга ведае пра тую запіску, што мне прыслала Хрысціна. Калі хто і сказаў пра запіску, дык гэта Какосцікава Вера. Яна — Хведару, а Хведар — Дыгу.

З запіскай было так. Аднаго разу я зайшоў да Какосцікавых. Дома была адна Вера.

— Танцуй,— загадала яна мне.— Пісьмо дам.

Давялося крыху патупаць. Вера падала мне незаклеены канверт, без адрасу. Я выцягнуў з яго чацвёрку ліста ў клетку. Буйным Хрысцініным почыркам без знакаў прыпынку там было напісана:

«Здрафствуй Янучок.

Пішыць табе Хрысціна. Даруй ты міне дурную што не паслухалася любві а замуж пайшла за нялюбага чорта. Думала, ён хазяйскі а ён пяніца як напецца дык ужо на міне забываецца. Люблю я цябе Яначка вельмі дужа ды відно суджана нам быць урозь. Жалаю цібе шчасця і любові харошай а я астаюся гараваць

Хрысціна».

Запіска гэтая ўзрушыла тады мяне. Мне хацелася праз ноч ехаць у леспрамгас па Хрысціну, украсці яе ў Дыгі, уцячы разам хоць на край свету. Але што я мог зрабіць? Я праклінаў сябе, як апошняга баязліўца, але нічога не рабіў, каб памагчы Хрысціне выбавіцца з ямы, у якую яна трапіла па сваёй ахвоце. Што ж, бывае, чалавек тоне і яму падаюць руку. Хрысціна танула, але ёй ніхто не збіраўся падаць руку.

Усе гэтыя думкі і ўспаміны прамільгнулі ў маёй галаве. Я чакаў, што Дыга скажа нешта такое, ад чаго хоць вый на месяц. Але ён больш не ўсчынаў гаворкі пра Хрысціну, а пачаў хваліць мяне.

— А ты, дышла табе ў рот, кажуць, свой хлопец. Ты, калі што трэба будзе, смела да мяне звяртайся. Я ўсягды выручу. Хочаш, дроў падкіну або лесу. Ажэнішся — на хату наважу. Я ўсё магу,— і раптам, нагнуўшыся, зашаптаў: — Ты от што: падкінь мне машыну бульбы. Не пакрыўджу. Хведар згодзен. За табой слова. Ну, дык па руках?

Гэтыя словы раскрылі мне вочы на дружбу гэтай кагорты зладзеяватых людзей. Мне трэба было стрымацца. Але я не ўмеў.

— Вы мяне на такое не падбівайце,— даволі гучна сказаў я.— І не думайце, што на гэты раз вам удасца тое, што ўжо ўдавалася.

— Што такое?..

— У чым дзела?..

Нас акружылі астатнія. Хтосьці пацягнуў за руку Дыгу, і ён схаваўся за сватаву спіну. Макуха скакаў, бы той завадны чорцік.

— Канстанцінавіч, слухай сюды, дарагі мой, не звяртай увагі. Ён жа, як свіння, п'яны. Ну што ты яго слухаеш?

Але я зразумеў, што Макуха ведае, пра што ішла гаворка. Адкуль?

— Вы, дзядзька, лепей скажыце, каб ён дамоў ехаў. Яму машыну далі не дзеля таго, каб у госці ездзіць. Ды і самі ідзіце на работу. Агарод вам пакуль не абрэзалі...

Я вырваўся ад іх, пайшоў. Мяне дагнаў Хведар. Ён ухапіўся за плячо, сціснуў яго з усяе сілы.

— Нешта ты, сука, дурэць пачаў. Глядзі, каб часам не пашкадаваў. І раю язык за зубамі трымаць...

— Ідзі ты, я не з палахлівых.

— Ну-ну!..— працягнуў Хведар і здзіўлена свіснуў.

Увечары, калі я даканчваў абмер палетка, падышоў Сцяпан Макуха. Стаяў на ўзмежку, заклаўшы рукі за спіну. Я разумеў, што прыйшоў ён не так сабе. Мусіць, хоча закончыць тую размову, што пачалася яшчэ ў краме. Таму я знарок не спяшаўся. Мне было чамусьці сорамна сваёй нястрыманасці там, у краме. Думаў, што на маім месцы сказаў бы Даніла Налягач. Мабыць, ён так не гарачыўся б. Падыходзіў я да Сцяпана з боязззю. Вось ён зараз пачне ўшчуваць мяне... Што я скажу яму?

— Ну, што, Канстанцінавіч,— пачаў Макуха,— не лёгкі гэты хлеб? Я, слухай сюды, пакаштаваў гэтага хлеба. Дасюль у роце горка. Нашым людзям ніяк не дагодзіш.

Мы пайшлі напрасткі да вёскі. Мяне ўсё яшчэ трывожыла думка, чаго Макуха паявіўся на палетку.

— Ты, Канстанцінавіч, слухай сюды, не гарачыся. Яно, канечне, справядліва, што ты шуміш, праўды шукаеш. А толькі, слухай сюды, чорт яе знойдзе...

— Калі ж у самую гарачую пару Цопа п'янкі наладжвае,— не стрываў я.

— Яму таксама, слухай сюды, план даведзены. Кожны за сябе стараецца, і кожны лягчэйшы хлеб шукае. Я дык добра ведаю адно: начальства мяняецца, а нам усё жыццё разам жыць давядзецца. А ў суседстве чаго не бывае...



Ён, як відаць, падводзіў размову здалёк. Я ўжо не сумняваўся, што Сцяпана падаслалі, каб выведаць, што я ведаю пра іх справы. Гэта забаўляла мяне.

— Вы, дзядзька Сцяпан, сказалі б сваім сябрам, што далей так жыць, як яны жылі, не выпадае. Людзі цяпер адчулі перамены і не будуць на вашыя заслугі глядзець. Так нядоўга дачакацца вялікіх непрыемнасцей.

— Я дык што? Я — нічога. Хведар усё. Ён людзей баламуціць. Але хлопец ён добры, хоць такі ж, як і ты, гарачы. Чаго вас сёння звяло разам, ніяк не ўцямлю? Чаго вам сварыцца, не ладзіць? Адзін жартуе, другі ўсё ўсур'ёз прымае. У нас, слухай сюды, не паспееш рот раскрыць, як за цябе скажуць такое, пра што ты і не думаў. Ну, выпілі мы. Зяць прыехаў. Дык чаму ж з радасці бутэльку не расціснуць? А ты вунь што падумаў. Макуха ніколі злодзеем не быў...

Пакуль дайшлі да вёскі, зусім сцямнела. На небе ярка, мусіць, на пагоду, гарэлі зоркі. Кволая стужка вячэрняй зары ўсё яшчэ трымцела на захадзе, і неба там выдавала фіялетавым. Ад Расянкі цягнула халаднаватай вільгаццю, якая пасля спякотнага дня прыемна лашчыла разамлелае цела. Увачавідкі прыбаўлялася сілы, а непрыемныя думкі паступова адступалі, даючы дарогу рамантычным марам. Я ўяўляў, як гэтыя самы Сцяпан Макуха, і Цопа, і Хведар, што прывыклі, нічога не робячы, добра жыць, цяпер возьмуцца за розум. Я ўяўляў перайначаных людзей, сумленных, шчырых і працавітых, якія дружна ідуць на работу. Так павінна быць! Няўжо не абрыдла людзям цягнуцца ў хвасце, хітрыць, абдурваць сваіх суседзяў. Усё вельмі проста: разам можна рашуча ўзняць гаспадарку, пачаць жыць па-чалавечаму.

Я марыў, і мары заносілі мяне далёка. А Сцяпан Макуха, як знарок, пастараўся вярнуць мяне назад, туды, адкуль я хацеў вырвацца.

— Што я цябе, Канстанцінавіч, папрашу. Дай ты мне, слухай сюды, машыну на ноч. Зяць, слухай сюды, лесу выпісаў, дык трэба прывезці. Днём машына занятая, дык я ўночы прывязу.

— Не, дзядзька, не прасіце,— набраўшыся храбрасці, адмовіў я.— Ніякі вы лес не выпісвалі. Ды і непатрэбны ён вам.

І тут ужо Сцяпан Макуха не сцярпеў.

— Шчанё, недаростак! Што ты ў жызні, слухай сюды, разумееш? Думаеш, на нашых плячах у начальства выб'ешся? Пачакай яшчэ. І на цябе ўправу знойдзем. Хочаце з Загурскім пад сябе ўвесь калгас падмяць. Не выйдзе, слухай сюды. І без тваёй машыны абыдземся.

Ён пайшоў, нешта гаворачы сабе пад нос. Мабыць лаяўся. І мне было няёмка. Можа няхай бы ўзяў машыну? Хіба я адзін устаю супраць такіх, як Сцяпан Макуха?

Потым я ўзлаваўся на сябе. «Якога ліха не ўстаю? Хіба я адзін? А тыя людзі, што кожны дзень ходзяць на работу, стараюцца хутчэй кончыць сяўбу? Колькі тых гультаёў у калгасе, добрых жа людзей у сто разоў больш. Дык чаго ж паддавацца? Трэба быць рашучым, непрымірымым да зладзеяў. Тады яны прыціхнуць».

Не ведаю чаму, але пра сваю размову з Макухам і пра сварку ўдзень я не расказаў Загурскаму. Мне хацелася аднаму, без староннняй дапамогі, навесці парадак у брыгадзе. Мабыць, гэтую маю слабінку адчувалі такія, як Хведар, Сцяпан Макуха і іх сябрукі. Яны ўсяляк стараліся насаліць мне.

Я адчуваў сябе, як на вулкане. Дзіўнае гэта было адчуванне. Мяне захапляла непрыкметная воку, але ўпартая барацьба. Яна радавала,

прыводзіла ў захапленне, і ў той жа час я разумеў, што павінна нешта здарыцца, можа нават непрыемнае, пасля чаго дабро пераможа зло.

Неяк Загурскі сказаў мне: «Няхай Қамарык прыедзе ў кантору, новыя скаты атрымалі». Я ўзрадаваўся, бо цяпер не трэба баяцца, што машына зусім стане.

Увечары Хведар прыгнаў машыну. Мы дамовіліся, што назаўтра раніцай паедзем па мінеральныя ўгнаенні. Але раніцай Хведара на калгасным двары не было. Ён знік, як да гэтага часта з ім бывала. Вярнуўся ён пасля снядання. Трэба было хутчэй ехаць у горад, таму я не вельмі прыглядаўся да машыны.

Дні праз два Данілава Шура запыталася ў мяне:

— Кажуць, што Хведар памяняў новыя колы на старыя.

Я не хацеў верыць. Хведар, калі я запытаўся ў яго, пачаў лаяцца. Аднак пярэднія колы і сапраўды былі заменены. Я прыгразіў Хведару, што калі колы не будуць вернуты, дык перадам справу ў суд.

— Ну і перадавай,— агрызнуўся Хведар.

— Перадам, можаш верыць,— сказаў я, і мы разышліся.

Раніцай я прачнуўся ад прыглушаных галасоў. У нашай хаце сядзела Восіпіха, ліла ў тры ручаі слёзы.

— А мая ты сястрычка, а мая ты родненькая! Засудзяць жа яго, дурня, што ж я тады рабіць буду? Няўжо ж вы з сынам мяне не пашкадуеце. Не за яго прашу, за сябе...

Яна плакала доўга. Я, не вытрымаўшы назойлівага галашэння, уцёк з хаты. Але Восіпіха дачакалася мяне. Цяпер яны дзейнічалі заадно з маці: угаворвалі абедзве, каб я не аддаваў Хведара пад суд. Урэшце, я згадзіўся.

— Ну і добра. Чаго ты, дурны, лезеш? — сказала мне маці, калі Восіпіха пайшла.— З гэтымі Қамарыкамі лепей не звязвайся. Яны на ўсё здольны. Ты іх лепей за сто вёрст абыдзі!..

А назаўтра, калі ўсё было ўладжана і ў Хведара толькі адабралі машыну, я забег у бальніцу праведаць Данілу. Ён сурова пазіраў з-пад ссунутых броваў, ківаў галавой.

— От жа чалавек наш... Яму шкоду робяць, а ён усё даруе. Такіх, як Хведар, дня ў вёсцы нельга трымаць.

Я збянтэжыўся. Праўда, чаму я паслухаў Восіпіху, а не сваё сумленне?

# МАЛАКО ЧАЛАВЕЧАЙ ДАБРАТЫ

## ЗАКАНЧЭННЕ, НАПІСАНАЕ ФРУЗАЙ САЛЕЙ

Я пазнаёмілася з ім на першым часе маёй работы ў калгасе. Было гэта ўвечары. Я сядзела ў бібліятэцы адна, чытала нейкую кнігу, здаецца, «Месяц і грош» Маэма. Мне было крыху маркотна, напэўна таму, што са старонак кнігі паўставала даволі сумная гісторыя таленавітага чалавека. Чамусьці я чакала, што вось-вось, праз якую хвіліну, у бібліятэку павінен хтосьці зайсці. Гэты хтосьці будзе такі ж, як герой кнігі: чалавек незвычайных здольнасцей і такога ж незвычайнага характару.



Прызнацца, я вялікая фантазёрка. Я магу ўявіць якога-небудзь кніжнага героя, быццам ён жывы, прыпісаць яго рысы каму-небудзь з маіх знаёмых... На гэты раз усё было інакш.

Хлопец, які зайшоў у бібліятэку, не быў падобны на маэмаўскага героя. Сярэдняга росту, хударлявы, з прадаўгаватым валявым тварам. Густыя бровы, упартая складка ля рота, высокі лоб, які час ад часу наморшчваўся. А вочы добрыя, ласкавыя, з усмешкай. Қалі ён убачыў, колькі ў бібліятэцы кніг, яны заблішчалі.

Звычайна, я нікога не пускаю за перагародку. А тут не стрымалася, запрасіла: «Праходзьце, калі ласка, пацікаўцеся кнігамі, можа што выберацe сабе». Ён прайшоў моўчкі. Я ўвесь час хацела распачаць з ім гаворку, але ён неяк адмоўчваўся. Пасля я зразумела, што гэта ад няёмкасці. Ён хацеў выглядаць салідным, цвёрдым, нават злосным, хоць быў, на самай справе, мяккі і добры. Мне было цікава назіраць за ім. Янка хадзіў між стэлажоў, часам браў якую-небудзь кнігу і падоўгу разглядаў яе. Мне хацелася зразумець, што яго цікавіць. Але кнігі ён браў без разбору, і гэта чамусьці засмуціла мяне.

Потым мы разгаварыліся. Здаецца, памог той жа Маэм і яго герой Гаген. Я нават прапанавала Янку стварыць перасоўную бібліятэку ў іх калгасе. Ён спачатку адмаўляўся, а потым неяк нечакана згадзіўся.

Пакуль ішла нарада, я выбрала з паўсотні кніг, найбольш тыя, якімі ён цікавіўся. Не ведаю чаму, але я з нецярплівасцю чакала, калі ён зойдзе.

Янка зайшоў нечым засмучоны. Моўчкі ўзяў кнігі і выйшаў. Праз акно мне было відаць, як ён адвязваў каня, як садзіўся ў сані: чамусьці вельмі хацелася, каб ён паглядзеў на акно, пры якім я стаяла. Але ён так і паехаў, ні разу не зірнуўшы ў мой бок. Гэта мяне засмуціла.

У тыя дні ў мяне яшчэ было мала знаёмых. Часам вельмі хацелася паспрачацца з кім-небудзь, як бывала ў тэхнікуме. Янка і здаваўся мне такім чалавекам, з якім можна цікава пагутарыць, паспрачацца. Можа таму я неўзабаве пайшла ў Зарэчча.

Як і раней, Янка больш маўчаў і слухаў мяне. Гэта і раздражняла і радавала. Маўклівыя людзі шмат думаюць, не вельмі стараючыся расказваць людзям пра свае думкі. А мне хацелася выведаць пра яго ўсё.

Пакрысе я даведалася, што Янка пісаў вершы, што ў яго ёсць запаветны сшытак, у якім ён апісвае сваё жыццё. Я таксама часам пішу вершы. Мы шчыра размаўлялі пра жыццё, пра справы ў іх Зарэччы, як самыя найлепшыя сябры.

Дзіўна, чым больш мы з ім размаўлялі, тым менш я разумела яго. Янка то здаваўся мне залішне ўзнёслым, то залішне маркотным і хмурым, то смелым і валявым, то кволым і нерашучым. Чаму гэта? Няўжо вінавата жыццё? Але ж Янка яшчэ толькі пачынае жыць...

Вёска мне не спадабалася. Было ў ёй нешта ад таго часу, пра які я чытала толькі ў кнігах. Қалі я сказала нашаму старшыні, ён доўга не мог зразумець, пра што я кажу. Потым ён важна сказаў: «Абсурд! Такая вёска, як і другія». Але я не магла пагадзіцца. Не. Зарэчча нейкае іншае, быццам ускраіна вялікага і бурнага жыцця.

Тады я пайшла да Загурскага. Ён доўга маўчаў, слухаючы мяне. Я чакала, што і ён скажа — «абсурд». Але Загурскі ўсміхнуўся: «Назіранні ў вас ёсць. А цяпер трэба за справу брацца». «А што рабіць?» — запыталася я. Загурскі хітравата жмурыў вочы, барабаніў пальцамі па стале. «Па-першае, вы павінны ведаць, што ў Зарэччы шмат добрых, сумленных людзей. Вось і пачынайце з імі работу. Абуджайце ў іх прагу

да барацьбы супраць дрэннага. Па-другое, не забывайцеся, што Зарэчча самая далёкая вёска, а людзі і там павінны адчуваць сябе так, нібы жывуць побач з вялікім цэнтрам. А там нават радыё няма. Вось людзі і стаяць адной нагой у заўтрашнім, другой ва ўчарашнім дні».

Толькі цяпер я ўявіла, як нялёгка Янку з яго светлымі марамі. Цяпер я ўжо не асуджала яго.

Я пачала хадзіць у Зарэчча. То кніг занясу, то пра лекцыю дамоўлюся, то вечар арганізую.

Аднаго разу праводзілі мы з Сітовым вечар. Я ўгаварыла задуброўскую настаўніцу Вольгу Аляксандраўну прачытаць лекцыю «Ці ёсць жыццё на іншых планетах?», а вучняў — выступіць з чытаннем вершаў, са спевамі. Вечар удаўся б, каб не адна прыкрая рэч. У хаце, дзе мы яго праводзілі, ёсць за печчу закутак. І вось там шасцёра хлопцаў пілі гарэлку і перашкаджалі нам. Я запыталася ў дзяўчат: «Хто гэтыя хлопцы?» А яны мне адказваюць, што галоўны закапёршчык у іх Восіпаў Хведар, па прозвішчу Камарык. Тады я сказала Сітову, што вельмі дзіўлюся, як гэта моладзь церпіць хуліганаў. Няўжо трэба выклікаць на вечары міліцыю, каб яна наводзіла парадкі.

Янка пачырванеў, быццам гэта яго пакрыўдзіла.

— Я сам пагутару з імі,— сказаў ён.— А то ў нас — як што, дык адразу ў міліцыю...

Ён знік за перагародкай. Спачатку там гаварылі шэптам. Потым мацней. Нарэшце, нехта грукнуў кулаком па стале, нехта закрычаў. З-за перагародкі выкаціўся гурт — не разбярэш, хто каго б'е ці трымае. Потым паявіўся Янка.

Чацвёра хлопцаў моцна трымалі Хведара Камарыка. Ён усё вырываўся ад іх і брыдка лаяўся. Яго ўсё ж вывелі з хаты. Інцыдэнт быў уладжаны.

Потым дзяўчаты сказалі мне, што Хведар злосны на Сітова. Праз Янку ў Камарыка адабралі машыну. Цяпер ён мусіць хадзіць на працу, як і ўсе. Вось чаму Камарык хоча адпомсціць Сітову.

Расказы дзяўчат мяне ўзрушылі. Як гэта так: злодзей, якога злавілі на месцы злачынства, замест таго, каб адбываць пакаранне, пагражае сумленнаму чалавеку?

Назаўтра я пагутарыла з калгаснікамі. Большасць абуралася Камарыкам. Але як толькі я пачала гаварыць, што такога чалавека варта было б заклікаць да парадку, людзі адступалі назад.

— Ён жа адзін у маці. І так ёй не соладка...

— Маці пашкадаваць трэба...

— У вёсцы заўсёды хлопцы біліся, а каб ад гэтага каму дрэнна было, дык, дзякуй богу, не чутно...

— Пагаварыць з ім варта, але не ў горадзе, а тут...

Вось якія размовы пачула я ад людзей. У іх адчувалася і жаласць да чалавека, якога могуць арыштаваць, і спагада да маці, і абыякавасць да хлапечых сварак. Не было толькі аднаго: клопату пра тых, хто можа паплаціцца жыццём за людскую абыякавасць.

Я неяк чытала ў Шэкспіра, што нягоднікі выкормліваюцца малаком чалавечай дабраты. Калі я слухала зарачанцаў, дык мне хацелася сказаць: хуліганы кормяцца малаком чалавечай абыякавасці.

Мне было балюча за Сітова. Але ён пасмяяўся з маіх страхаў: «Хведар проста некультурны. Аскалёпак старога Зарэчча. Калі яго добра пашараваць, дык ён вунь як заблішчыць».

І ўсё ж я не магла супакоіцца. Пайшла да Чукрая. Той хмурыў бровы, доўга гладзіў круглую, як качан, брытую галаву.



— Не разумею цябе, Салей, хіба я яшчэ павінен думаць, як засцерагчы вечарынкі ад боек. Абсурд! Ідзі вунь да ўчастковага.

Участковы латаў бот. Адна нага ў яго была ў жончыным тапку, другая — у боце. Ён вельмі здзівіўся, калі ўбачыў мяне. Падхапіўся быў з табурэткі, паспешліва сарваў з носа акуляры з адной дужкай, хацеў схаваць іх у кішэню, ды не патрапіў: акуляры ўпалі на падлогу. Гэта зусім збянтэжыла і, мабыць, троху раззлавала яго. Быў ён чалавек немаладых год, амаль лысы, хоць яшчэ даволі маладжавы з твару. Я разумела: ён злуецца таму, што разгубіўся перад дзяўчынай.

— Слухаю вас. Рад служыць,— афіцыйна пачаў ён, крыху асвойтаўшыся.

Я расказала пра свае трывогі. Участковы доўга не мог зразумець, што я хачу ад яго, чаго хвалююся. Нарэшце ён усміхнуўся кволай усмешкай, у якой было і асуджэнне маёй трывогі, і іронія.

— Дарэмна, грамадзяначка, турбуецеся. Я тут дванаццаты год служу і — ніводнага смяротнага выпадку. А што фары наставяць, дык то не бяда. Хлопцы маладыя, здаровыя, ім энергію сваю няма куды падзець. Асабліва зімой. Спорт у нас не прызнаюць. Я ўжо Крываносу казаў: «Арганізуй ты ім бокс. Усё ж, разумееш, занятак, ды калі і разаб'юць нос, мяне клікаць не будуць». А Крыванос кажа, што трэнераў няма. Адным словам, грамадзяначка, не бойцеся.

У мяне крыху паспакайнела на сэрцы. А потым зноў закралася трывога. Не, думаю, трэба яшчэ ў райком камсамола схадзіць.

Дні праз два ў горад ехаў Чукрай. Я папрасілася да яго ў машыну. У райкоме мяне спачатку слухалі ўважліва, нават насцярожана, потым пачалі ўсміхацца. Відаць, зразумелі мяне. Ну так, я пакахала хлопца, але я не таму паехала ў райком. Я адчувала, што ў Зарэччы наспявае злачынства, і хацела папярэдзіць яго.

Я трохі гарачылася, таму мае довады былі неперақанаўчыя. І ўсё ж я прымусіла сакратара Сашу Выгадку паабяцаць, што ён паедзе ў Зарэчча і сам пераканаецца, якая там стварылася атмасфера.

Дамоў я вярнулася позна. Ужо цямнела, калі прыйшла ў бібліятэку. Запаліла святло. Бачу — на падлозе канверт. Нехта падсунуў яго пад дзверы. У канверце лісток у клетку, а на ім некалькі паспешліва напісаных слоў:

«Прыязджаў па цябе. Сёння ў нас вечарынка. Хацелася, каб ты перад пачаткам прачытала тую лекцыю, што чытала ў Халябах. Шкада — не застаў. Будзем самадзейнічаць. Іван».

Не ведаю, чаму, але мне здалося, што няшчасце здарыцца ў гэтую ноч. Яна была цёмная, імглістая. Над вёскай вісеў густы туман.

Мне не сядзелася ў чытальні. Штосьці непакоіла. Я зачыніла бібліятэку на гадзіну раней. Але і дома не знаходзіла сабе месца.

Разбудзіў мяне нецярплівы грукат у дзверы.

— Хто там? — пачуўся гаспадынін прыглушаны голас.— Спіць яна... Заходзьце... Фруза, да цябе тут, з міліцыі.

Я ўскочыла, як апантаная. Накінуўшы халат, выбегла ў залу. Там у заляпаных гразёй ботах стаяў участковы.

— Што з ім? — крыкнула я.

— А я думаў, вы не ведаеце. Мне на пару слоў...

— Што з ім?..

— Яшчэ не ведаю. Вярхом на кані прыскакаў хлопец. Вось чакаю з горада следчых. Мне з вамі пагаварыць трэба...

У мяне ўсё круцілася перад вачыма: участковы ў мокрым плашчы, гаспадыня, якая калацілася ці то ад холаду, ці ад непрыемнага паве-

дамлення, вялікі фікус, печка, і толькі я нейкім чынам трымалася на нагах. Потым усё стала на сваё месца.

— Зайдзіце,— запрасіла я ўчастковага ў свой пакой. Мне хацелася распытаць пра ўсё больш падрабязна.

Участковы неахвотна сеў на крэсла. Толькі цяпер я заўважыла ў яго вачах неспакой. І раптам падумала, што яшчэ не было названа імя таго, каго забілі. Можа гэта не Сітоў? Напэўна не Сітоў! Чаму я падумала, што Сітоў?

Участковы выцер насоўкай твар, дастаў пачак «Прыбоя», пачаў закурваць. З мокрага плашча на падлогу сцякала вада. Пад ботамі таксама чарнела лужына.

— Вы тады прыбягалі да мяне і пра Сітова трывожыліся. Я вас, таварыш Салей, дужа буду прасіць, каб не гаварылі, што тады прыходзілі да мяне... Мне праз два гады на пенсію... Цяпер разумнейшы буду.

Я не магла зразумець, пра што ён кажа. Якая розніца: прыходзіла я да ўчастковага ці не, калі не магла зберагчы добрага хлопца.

— У нас, ведаеце, таварыш Салей, строга. Калі цябе папярэджвалі, а ты вушамі хлопаў, гэта, ведаеце, як інкрымінуецца? Тут паблажкі не чакай. А ў мяне ніводнага спагнання. Дык я ўжо буду вас прасіць...

— Добра,— закрычала я.— Толькі вазьміце мяне ў Зарэчча.

Здаецца, ён дзякаваў. Мне было брыдка. Вось і сама я пашкадавала чалавека. А няхай бы на прыкладзе гэтага ўчастковага навучыліся іншыя. Потым падумала, што вінавата і я сама. Навошта было бегаць, даказваць, што злачынства наспявае. А хіба я не магла папярэдзіць яго? Магла. Вось яна, наша дабрата, наша нядбайнасць!

Івана Сітова моцна паранілі. Праз ноч яго адправілі ў бальніцу. Я паехала на санітарнай машыне. Янка ўсю дарогу быў непрытомны. Потым я сядзела ў прыёмным пакоі, а недзе наверсе ўрачы рабілі аперацыю. Час цягнуўся марудна. Здавалася, што стрэлкі назаўсёды спыніліся на жаўтаватым цыферблаце. І ўсё ж, хоць дужа спакваля, наступіла світанне. Абуджалася бальніца. У прыёмны пакой прывезлі яшчэ хворага. Я бачыла ўсё, як праз густы туман.

Здаецца, апоўдні, калі сонца ўжо свяціла ў адзінае акно пакоя, мяне паклікалі.

— Зайдзіце да ўрача,— сказалі мне, і я спалохалася.

Ішла, адчуваючы ў нагах нязвыклы цяжар.

— Вы хто яму будзеце? — запытаўся ўрач.

— Таварыш,— адказала я.

— А-а-а... Ды вы не хвалюйцеся. Я думаў, жонка, дык дазволіў бы зайсці.

— Як ён?.. Таварыш доктар, дазвольце мне зайсці. Я толькі на хвілінку.

— Будзе жыць,— сказаў урач.— На жаль, дазволіць не магу. Каб вы былі радня.

— Таварыш доктар... я не магла гаварыць, але вочы, мусіць, сказалі за мяне ўсё.

— Добра, зайдзіце, толькі ненадоўга.

...Я не адразу ўбачыла Сітова, можа таму, што ляжаў ён ля самых дзвярэй. «Фруза»,— пачула я чыйсьці ціхі голас і ўздрыгнула ад нечаканасці.

Янка быў бледны, бо шмат страціў крыві. Мне здалося, што за гэтыя гадзіны ён пасталеў, узмужнеў, а яго вочы страцілі юначую іскрыстасць — у іх адчувалася воля.

«Як ты сябе адчуваеш?» — хацела запытацца ў Янкі і не магла.



— Чаго ты, Фруза? — пачула я Янкаў голас, але самога не бачыла, бо ў вачах стаяў якійсьці туман.

— Ці баліць табе, Янка?..

— А вы, грамадзяначка, садзіцеся,— сказаў хтосьці і, узяўшы мяне за плечы, падвёў да крэсла.— І не хвалюйцеся, бачыце, жывы ён і хутка бегаць будзе.

Гэта быў высокі, хударлявы чалавек з падвязанай рукой. Ён сеў на ложак насупраць мяне і запытаўся.

— Як жа гэта яго?

«А сапраўды, як? — падумала я.— Як мы маглі дапусціць такое?..»





Анатоль СЕРБАНТОВІЧ

# СКАЖЫЦЕ ПРАЎДУ

Мама!
Я не адбіўся ад рук,
Хоць рос,
нібы вожык,
калючы.
Бяда не сагнула
у крук,
Хаця мне было балюча.
Суседка наша крычала
Пра тое,
аб чым ты маўчала.

*

Цябе разумею я,
мама.
Відаць,
ты рашыла ў той год,
Што гора і так нямала.
Навошта ж падвойваць яго?
Вятры тады ў полі гулі.
Вятры тады хату мялі.
Прасілі ў нас
ліпы
літасці:
Хлеб горкі пяклі мы з лісця.
Прыходзіў да нас сусед —
Акраец мне нёс на абед.
Радзіма бясплатна лячыла,
У школе мяне вучыла...
А бацька ў чужую хату,
Не сыну,
а нейкай Фросі
Слаў на харчы атэстаты,
Слаў ёй зарплату з фронта.
Мама,
харошая мама!
Усё ж я крыўдую нямала
За веру,
Што ў сэрца ўсяляла...
Каб знаў —
не глядзеў бы скоса,
Каб знаў —
не змагаўся б смела
Я супраць таго,
што
косіць
Мой бацька
сабакам
сена!
Каб знаў,
што ў гэты час
Ён блізка ад нас...

*

Узяўшы з сабою надзею,
Пайшоў я да бацькі
ў нядзелю.
Пайшоў я з харошаю марай.
(Ты гэта не ведала, мама!)

*

Сустрэла ў дзвярах жанчына.
На рукі не ўзяў мужчына.
Ён толькі
уздрыгнуў неяк
І мне
усміхнуўся крыва...
Хацеў закрычаць я нема,
Ды толькі...
не змог — ад крыўды!
А потым...
А потым ён,
бацька,
Сыты,
дзябёлы мужчына, —
Мяне расстраляў знянацку:
— А чый ты?..

*

О, бацька!
Табе б я прабачыў,
Што гэтулькі год не бачыў.
Прабачыў бы
у той час,

Што нават...
пайшоў ад нас,
Ад голаду іншых бярог.
А гэта —
прабачыць не мог!..

*

О, бацька!
Я ўсё перажыў,
я вырас.
Ужо я адправіўся ў вырай.
Бываю ў гасцях
у дзеда —
Былога майго суседа.
Сяджу у сялянскай хаце
З сваёю харошаю маці.
Да іншых людзей бягу —
Я перад імі ў даўгу...

*

З гадамі прыходзіць розум.
З гадамі трывожыць роздум.
З гадамі гавораць праўду.
З гадамі адстойваюць права:
Звацца сынамі —
права,
Дочкамі звацца —
права,
Звацца бацькамі —
права,
Калі ёсць на гэта —
права!
Таму
На лістоў далоні
Выкладваю сэрца сёння,
Сэрца,
поўнае крыўды,
Сэрца,
што хоча крыкнуць:
«Скажыце мне чыстую праўду,
Сябра найлепшы —
скажы,
Першы сустрэчны —
скажы,
Крыкні на вуліцы прама,
На вуха шапні у сне
Ці мае
бацькоўскае права
Мой бацька
былы
на мяне!..»



Іван ГРАМОВІЧ

# АПАВЯДАННІ

З кніжкі «Сонца скрозь воблакі»

Мал. У. Лося.

## САДОК ПАСАДЖУ

Сам не ведаю, з чаго яно пачалося. Можа таму, што босы гайсаў па балоце за чарадой, а ішоў бесперастанку золкі дождж, і я моцна прамок. Можа... Хто яго ведае, ад чаго магло такое здарыцца?!

Схільнасць шукаць усяму прычыну паяўляецца ў сталейшым узросце.

Я ляжу. У хаце нікога няма, я — адзін. Дзесьці старэйшыя заканчваюць работу. Канчаецца мой хворы дзень. Вечарэе...

У грудзях усё пячэ. Унутры ўсё гарыць. Я спяшаюся дыхаць, як пры бегатні. А сапраўды — не бягу. Ляжу. На бацькавым ложку. На мне коўдра, кажух.

Галава цяжкая. Пад галавой мокрая ад поту падушка.

І глядзець не хочацца, і закрываць вочы — таксама. Балюча...

Праз акно відаць страха на старой хаце дзядзькі Антона. І не ўся страха, а палова, як дазваляе шыба ў акне. Куп'ё ярка-зялёнага, як мурава, моху. З гэтага моху вытыркае рог цаглянага коміна, счарнелага ад дыму і вышчарбленага дажджом і ветрам у навальніцу. Над комінам краёк бела-белай хмаркі, сляпуча асветленай заходзячым сонцам. Як яна далёка ад мяне!..

Заплюшчваюся. Агністыя кружочкі растуць і лопаюцца. Рассыпаюцца на мноства зорачак. Усё мігціць і з балючым звонам у вушах праносіцца перада мною знізу ўверх, нібыта я правальваюся кудысьці ў бяздонне. Ой!..

Расплюшчваю вочы. Комін на Антонавай страсе стаў змрочны. Нядаўна віднелася чырванаватая цагліна ў ім, цяпер не відно. І краёчка хмаркі няма. Сіня-сіняе неба... Надоечы прасвечваў сонечны прамень. На шкле прыкметны былі высахшыя сляды кропель, нібы слёз. Цяпер не разбярэш. Шыба таксама зрабілася празрыста-сіняя...

У хату заходзіць маці. Я чую, што гэта яна. Па скрыпу дзвярэй. Па асцярожных кроках. Яна ставіць вядро з вадою на лаву так, каб не парушыць цішыню.

Потым падыходзіць да мяне.

— Можа лепш? Можа лягчэй? — пытае.

А калі нават не пытаецца — я разумею матчын спагадлівы позірк, яе ласкавы выраз твару.

— Лепш,— адказваю.

Дзе яно лепш?! Але цярплю і не хачу паказаць болю. Цярплю, як дарослы. Мне вельмі хочацца скарэй стаць дарослым. Хочацца перамагчы гэту немач, якая так учэпіста мяне скруціла.

Раней я не хварэў. Я не ведаў хвароб... Яны мяне абміналі. Ну, там калена саб'еш, палец парэжаш. Асіпнеш, крычучы на цялушак у полі. Самае вялікае, што кашаль падхопіш. Хіба гэта хваробы?

Але так, каб ля мяне асцярожна хадзілі і з нейкай трывогай паглядалі, са мной яшчэ не здаралася.

Маці ціхенька паварочваецца, адыходзіць, а я застаюся адзін, зноў гляджу на столь. Хачу заплюшчыць вочы — вейкі з такім шумам у вушах апускаюцца. Колікі ў скроні. Ой!..

Страшна: заплюшчыць — расплюшчыць...

...Ужо ў хаце гарыць лямпа. Толькі ў мой бок яе святло прыкрылі хусткай. Крадучыся, нячутна ступае сястра. Брат мыецца. Звоніць квартай у вядры. Ён не так, як маці і сястра. Смела ходзіць, смела рухаецца.

«Калі я ўжо стану такі?» — думаю сабе я.

— Можа паясі, сынок?

— Не,— ціха шапчу ў адказ.

Мяне просяць, а я толькі ледзь кручу галавой, каб мяне не чапалі. Мне нічога няміла.

Цярплівы, спакойны і любы твар маці аддаляецца.

Я ведаю ўсё. Я не маленькі. Што маглі зрабіць — маці, сястра, брат — зрабілі. Але бацькі няма. І гэта галоўнае. Да доктара мяне не павязуць. Няма на чым. Бальніца далёка. А ў бальніцы лекі і лякарствы...

Вось цёплы настой ліпавага цвету. Кампрэс. Кажух... Усё!

Калі брат і сястра павячэралі,— я не чуў, каб маці што-небудзь хоць у рот узяла,— мне зрабілася горш. Я пачаў думаць: «Як гэта паміраюць? Можа гэта, от так!.. Ніколі яшчэ не паміраў».

Успомніў, як паміраў дзядзька Мікалай... Памёр. Ляжыць у доўгай труне. Рукі склаў на сабе. От так, заплюшчыўся... А цётка Мікалаіха над ім усхліпвае. І ўсе, хто стаяць у хаце, хліпаюць... А далей, як загалосяць. Хорам...



Так было сумна, што я адразу ж уцёк з дзядзькавай хаты. Каб не чуць...

Няўжо такое са мной будзе?.. Ой!

Я расплюшчваю вочы... Мама! Родная, дарагая мама! Прашу яе:

— Піць...

Яна дае мне глынуць салодкага ліпавага навару і ўгаворвае:

— Засні, сынок...

А я не магу прызнацца, што, калі заплюшчваю вочы, то, здаецца, з лязгатам жалезных дзвярэй правальваюся кудысьці ў склеп. Падаю, падаю і ніяк не затрымаюся. Агнявы дождж струменіць, мільгае... Каровы, не каровы, рагатыя страшыдлы накідваюцца на мяне... У грудзях душна. Спяшаюся глынуць паветра. Спяшаюся... і адкрываю павекі.

Нада мною зноў мама. На столь, на бэльку, на рог пабялянай



печы кідаецца святло ад лямпы... Сястра спіць. Брат спіць. Мама не спіць, схілілася нізка...

«Няўжо так і нада мной будуць галасіць сястра і мама, як над дзядзькам, калі памру?» — мільганула думка. Я спрабую заплюшчыцца. Зноў правальваюся ў канаву.

Ой! Калі ж гэта кончыцца?! Калі пройдзе ноч?!

— Вышэй падушку...— прашу я.

А калі маці папраўляла падушку, на сваёй шчацэ я адчуў вільготную, не халодную і не гарачую, кроплю. Непрыкметна і нячутна апала яна і адразу высахла на маім твары. Адкуль яна ўпала? Я здагадаўся. Я зразумеў усё. Я стаў сачыць за родным, мілым абліччам мамы. Яно такое было спакойнае і ласкавае. Але я сачу... Ага, так і ёсць!..

— Мама! — сказаў я.— Чаго вы... плачаце? Не трэба плакаць.

— Я не плачу, сынок,— па-ранейшаму спакойна адказала мама.

— Раскажыце казку... Вы іх столькі ведаеце.
Яна маўчыць. І раптам паднесла да вачэй сваіх фартух, закрылася. Сутаргава ўздрыгнулі плечы... Сыпнулася, мабыць, шмат-шмат такіх кропель, адну з якіх яна ўраніла мне на шчаку.
— Мама, мама... Не плачце.
Мне зрабілася так шкада яе, родную, дарагую. Я помніў, як яна мяне, малога, пераносіла цераз ручай. На плячах. І праваліліся ў багну. Дзіўна, як мы і выкараскаліся адтуль...
Яна мяне любіла, як самага меншага. Яна заўсёды, як нікога, клапатліва выпраўляла з хаты ў поле. Я ўжо тады адчуваў, што перад ёю вінен... Усім абавязаны.
— Мама, не плачце,— набіраючы поўныя грудзі паветра, загаварыў я.— Паслухайце, я раскажу... Як выраcту... буду дужы. Буду насіць ваду... нанашу вады...
Не, мне хацелася чым-небудзь больш значным, вялікім уцешыць яе.
— Мама, як выраcту... Насаджу садок... І яблыні, і вішні, і грушы... Як у дзядзькі Мікалая... Бэры... Насаджу садок. Густа. Вялікі... Толькі для вас...
Маці выцерла слёзы. Прыслухалася. Мая родная, дарагая!
— От пабачыце,— упэўнена сказаў я.— Праўду вам кажу. Насаджу садок... Толькі для вас. Адны будзеце хадзіць у ім... Ні ў кога такога не будзе. Вялікі. Зялёны... Як зацвіце...
Я паспрабаваў уявіць, заплюшчыў вочы. Як гэта ён зацвіце?..
Матчына рука дакранулася маіх валасоў, пачуўся яе радасны і даверлівы голас.
— Добра, сынок, добра...— усміхнулася яна.
— Насаджу садок,— паўтарыў я.
І сапраўды, вялікі сад разгарнуўся перада мною. Увесь у квецені. Цвілі яблыні, грушы. Белым, ружовым цветам. Цвілі ўсе дрэвы. І хоцьляталі агністыя сняжынкі, было прыемна ісці скрозь гэты сад... Сад, сад, кругом сад!..
От я капаю ямку, каб пасадзіць яшчэ адну яблыньку... Саджу, а яна ўжо расце. Вось ужо і зацвіла...
Сонца свеціць. Сонечныя кветкі.
...Расплюшчыў вочы. Змрочна ў хаце. Пад галавой мокрая падушка. А ў шыбы вокан заглядае раніца... Ноч цяжкая прамінула.
Мама ад мяне ўвесь час не адыходзіла. Зморадая бяссонніцай і маімі пакутамі, яна сядзела, але вочы яе свяціліся нейкай уцехай... Значыць, яна помніла, што я ёй дакляраваў?..
— Засні яшчэ, сынок,— упрошвала яна.
А можа гэта быў сон? Можа нічога я маці не абяцаў? Я спаў? Пад раніцу, значыць, я заснуў?
Раніцай мне стала лягчэй, але ў полудзень зноў пагоршала.
Мама падсела да мяне і ласкава папрасіла:
— Сынок, ну яшчэ раскажы... Які будзе наш садок?
Я абрадаваўся, што гэта быў не сон, і ўсхвалявана загаварыў:
— От пабачыце, мама! Праўду кажу... Я ўжо ўсё надумаў... Насаджу!..
І калі я думаў, як памагчы маме, уяўляў садок, мне станавілася лягчэй. Я не адчуваў ніякага болю...
На трэці дзень да нас прыйшоў доктар. Але мне было зусім лепш. Ён не столькі слухаў і выстукваў мяне, колькі слухаў дарослых аб маёй хваробе. І ўсё ківаў галавой, крадком пазіраючы на мяне цераз акуляры.



Праз тыдзень я ўжо сядзеў на ложку.
Сам не ведаю, з чаго яно пачалося і як прайшло.
Схільнасць шукаць усяму прычыну паяўляецца ў сталейшым узросце.
Мне ж было яшчэ зусім нямнога.
І калі я часам пасля зноў хварэў, маці, дарагая, родная мама садзілася побач каля мяне і абавязкова прасіла ўспомніць маё дакляраванне.
Не, я не мог забыцца. І цяпер яго помню.
...Даўно ўжо няма мае роднай на свеце...
А я ўсё выконваю тое абяцанне, дадзенае ёй.
Колькі пасаджана дрэўцаў! Яны растуць... Цвітуць... І яшчэ будзе больш!
Вось як насаджу ўсюды, тады ўжо няхай бярэ мяне мая хворасць!..

# ПЕСНЯ Ў БАРЫ

Аднойчы я даведаўся, што сястра ідзе ў ягады. У Кайкаўскі лес. Я чуў, як яна з сяброўкамі дамаўлялася ісці туды рана ў нядзельку, на Купалле. Я пачаў прасіцца пайсці разам. Падгаварыў дружбака Сцяпана таксама прасіцца. І яго сястра ішла ў лес.
Нас, нарэшце, узялі з сабой. Але папярэдзілі:
— Глядзеце ж, пагубляецеся ў бары!.. Ваўкі з'ядуць...
Мы з кошыкамі, я і Сцяпан, у тую раніцу ішлі па вуліцы за шумлівай, вясёлай кампаніяй дзяўчат і, вядома, з дарослымі ніякіх ваўкоў не палохаліся. Жарты! Але кожны крок наш быў незвычайным крокам у невядомае і небывалае.
Да гэтага мы яшчэ не былі ў Кайкаўскім лесе. Блізкі ад нашай вёскі лес, Галае балота, дзе раслі сасонкі, бярэзнік, лазовыя кусты, багун, мы са статкамі жывёлы абхадзілі ўздоўж і ўпоперак. Кайкаўскі лес знаходзіўся ад нас далекавата і называўся борам. У ім, гэта праўда, можна было спаткаць драпежнага звера і заблудзіцца ў гушчары. У ім стаялі дубы, ясені, адна ў адну высокія елкі, гонкія сосны, якія ў камлі мы ўдваіх са Сцяпанам у абхват не абнялі б.
Нас у гэтым цікавым падарожжы ўсюды чакала штосьці загадкавае, таямнічае і вельмі захапляючае. Сэрца прадчувала. І сапраўды, такім захапляючым і незабыўным для мяне з'явілася песня ў бары.
Спачатку я са Сцяпанам старанна збіраў суніцы. Колькі тут было спелых ягад! З берагу чырвоныя суніцы. А далей у густым ягадніку пачалі трапляцца салодкія чарніцы, буйныя, як вішні. Іх мы збіралі з ахвотай: адну ў кошык, дзве ў рот... Збіраючы так, мы не адставалі ад дарослых. Пільнаваліся іх: «Го-го-го!...»
— Го-го-го-о! — у адказ каціласн рэха.
Такога гучання свайго голасу, як у бары, я яшчэ не чуў. Хацелася спыніцца пад якім-небудзь дрэвам. Прыслухацца.
Моўчкі драмалі кашлатыя елкі. На зялёныя лапкі папаратніку сям-там, прасвечваючыся зверху, падалі праменні сонца. Летні дзень быў спякотлівы, душны. Нават у лесе.
Пасля абеду дзесьці загрымела.
— Дзевачкі, чуеце? Будзе дождж,— сказала сястра.— Хадзем бліжэй да леснічоўкі.



Дзяўчаты ведалі тут усе дарогі, палянкі і прасекі і дзе хата лесніка. Нам са Сцяпанам толькі заставалася пільнавацца іх гурту, як падлеткам статка.

Аднекуль нас дагнаў дождж. Хмары не відно было, а грымоты набліжаліся.

Калі елкі і сосны зашумелі, а па лісці арэшніку запякалі важкія кроплі, усе, хто шчыпаў ягады, кінуліся бегчы. І я пабег. Але мы беглі нядоўга. Наперадзе выглянула палянка, а на палянцы — леснікова хата. Пры самым лесе стаяла адрына. Вось у гэтай адрыне лесніковай мы схаваліся.

На духмяным, мурожным сене паселі. І слухалі, як над намі з грамам праносіцца навальніца, па страсе лапоча яе лівень, а побач стогнуць векавыя дрэвы...

А тут, у адрыне, нам было весела. Дзяўчаты спявалі, смяяліся. Сцяпан, расфарбаваўшы чарніцамі губы, апаражняў свой кошык. І мяне спакушаў.

Не агледзеліся, як зноў засвяціла сонца. Ды так ярка. Раптоўна нахлынула навальніца — раптоўна прамчалася.

Мы выйшлі з адрыны, босыя, па лужынах, зноў накіраваліся ў лес. Ён цяпер быў абмыты, свежы, урачысты. А рэха кацілася ў ім яшчэ мацней.

На папаратніку, на чарнічніку вісела дажджавая раса. Збіраць ягады — толькі абросішся... І можа таму дзяўчатам не захацелася нагінацца, расіць рукі, а ў гэтым гулкім бары, дзе, як струны, нацятыя сосны, елкі, захацелася заспяваць песню. Здаецца, ён аж насцеражыўся паслухаць яе пасля дажджу.

— Го-го-го-го!

— Дзевачкі, сёння ж Купалле,— крыкнула сястра.— Заспяваем «Купаленьку»!..»

І ўсе дружна падхапілі запявалу. Як паўгадзіны таму назад бор быў повен грымот і навальніцы, так цяпер ён напоўніўся і адгукнуўся галасамі. Песня хлынула шырокая, працяжная...

Ку-у-паленька, ку-у-упаленька-а-а...

Эх; як я любіў песні!..

Мабыць з тае пары, як засынаў пад спеў калыханкі, я ўлавіў гэта невымоўнае адчуванне ўсім сэрцам. Яно прыносіла спакой і сон, вясялосць і радасць. А пазней і слёзы. Яно непрыкметна пранікала ў душу, калі я пачынаў услухоўвацца, як спяваюць... Песня адразу апаноўвала мяне ўсяго, і я застываў, нібыта аглушаны, раскрыўшы рот.

Помню, маці прадзе ля акна кудзелю. Калаўрот шуміць, а пад гэты шум чуецца песня. Песня, як браты-разбойнікі затрымалі дзяўчыну ў лесе:

Адкуль, дзеўка?
З Даўгінава.
Чыя дзеўка?
Яўхімава...

Усё, што было ў руках, я адсоўваў, ішоў, садзіўся каля прасніцы і слухаў. Слухаў да канца, а тады прасіў:

— Яшчэ.

Мне надта падабалася адна песня, дзе маці спявала, што з песняй нарадзілася, з песняй вырасла... Слухаючы яе, я аб сабе думаў, як гэта з песняй вырасці?..

Чаму гэта некаторыя былі абыякавыя да песні? Яны спакойна і раўнадушна слухалі спевы...

А вось мой дзед быў нейкі асаблівы. Ён спяваў, але без слоў. У яго былі розныя матывы, якія выказвалі розныя пачуцці. Калі ў дзеда быў добры настрой, ён спяваў: «Ля-ля-ля! Тра-ля-ля-ля!..» Калі ён што-небудзь думаў і рабіў, стругаў нажом ці плёў кашы: «Та-та-та-та! Тра-та-та-та!» Калі што не ладзілася, ламаўся абруч, рвалася старая хамуціка: «Гэй, да-да! Ну, да, ну!..» І шмат розных у яго было выклічнікаў. «Го-па-па...», «Дуль-дуль-дуды...» А слоў ніколі не выгаворваў. Мармытаў, бубніў сам сабе.

Пазней я зразумеў, што ёсць песні, якія люба спяваць, а ёсць такія, якія люба слухаць. Слухаць люба тыя, якія не пад сілу заспяваць. Няма на іх моцы голасу. Як у мяне... Я іх мог слухаць бясконца. І разважаць...

У полі, на жніве, слухаў жніўныя... Увечары, на пагулянках, прывольныя... А як спявалі жанкі на вяселлі?! Яны цягнулі мноствам танюсенькіх галасоў і так доўга, што чамусьці рабілася маркотна сэрцу. Чагосьці не хапала...

Затое, як усхвалявана білася яно, калі я слухаў спевы хлопцаў. Іх песні, мужныя, гераічныя, спяваліся аб подзвігах на вайне і баявых паходах.

Гэта было часта вясною. Пасля рабочага дня, увечары. Бярозавы сок звонка цурчэў у жбаны... У паводку на рэчцы плылі крыгі... Хлопцы збіраліся ў натоўп ля Лукаша. На ўзгорку. Сюды прыходзіла не толькі моладзь, але і жанатыя. Запявала, напрыклад, пачынаў: «Там у далі ля ракі заблішчэлі штыкі...» А ўсе зладжаным, дужым хорам падцягвалі. Чутно было на ўсю ваколіцу. Запявала, здаецца, адрываўся ад зямлі, імкнуўся ўвысь, угору, туды, дзе мігцелі зялёныя, вячэрнія зоркі. А жанатыя мужчыны стаялі шчыльнай сцяной і цягнулі басамі. Ды так цягнулі, што я аднойчы з бервяна зваліўся. Я заўсёды слухаў песні, седзячы на плоце ці на бервяне. Уявіў сабе, што зоркі трымцяць ад басоў, зірнуў на неба, галава закружылася, і... зваліўся.

...Тут, на ўзгорку, гучыць адна песня, а ў тым канцы сяла другая. Там спяваюць дзяўчаты. Чаму гэта ў нас не было хору, у якім бы разам спявалі хлопцы і дзяўчаты, не ведаю. Спявалі паасобку. Мужчыны сабе. Жанчыны сабе.
Я надта імкнуўся памагчы спяваць. Я ўжо ўмеў пераймаць свіст шпакоў, як стракоча сарока, як кукарэкае певень... Я пераймаў і матыў песень.
Спяваў я, калі заставаўся адзін у хаце. Спяваў у вялікую бочку або ў калодзеж. Я тым самым, чуючы рэха, спрабаваў свой голас. Каб ён гучаў якраз як трэба. Перагнуся цераз зруб калодзежа і зацягваю: «Штобы з боем узяць Прымор'е...»
Праўда, не ўсе словы песні да мяне даходзілі. Некаторыя я не разумеў, а калі разумеў, то па-свойму. Слова «аплот» з песні амурскіх партызан я зразумеў ужо толькі ў школе. Растлумачыў наш настаўнік Алесь Мікалаевіч... Да таго я спяваў:

Штобы з боем узяць Прымор'е...
І белу армію... аб плот!..

Спяваў я сам сабе, пасучы жывёлу. Надта вольна было там дэманстраваць свае вакальныя здольнасці, калі ніхто з дарослых не сварыўся:
— Сціхні, не гарлапань!
... У бары, на Купаллё, я ўпершыню паспрабаваў спяваць разам з дарослымі і адчуў, што патрапляю. Купалле так далёка, далёка кацілася, а ў ім чуўся мой голас. Упершыню! Як радасна!

Ой, сягоння купалле купала,
А назаўтра рана, на Івана...

Дрэвы слухалі, затаіўшы свой гоман. Бор сваім водгуллем даваў моц і прастор песні. Моц і прастор галасам.
...З тае пары, калі я заходжу ў лес, пачынаю спяваць. Помніцца той выпадак у бары.
Я не вырас спеваком.
Але настаўнік спеваў, наш Алесь Мікалаевіч, на старэнькай скрыпцы сваёй тлумачачы ў класе нотную грамату, навучыў мяне і многіх такіх, як я, па-сапраўднаму спяваць у хоры. Гэта вялікае шчасце ўмець спяваць разам.
Ён казаў нам, вучням, мудрыя словы:
— Па песні можна пазнаваць людзей. Скажы мне, ці любіш ты спяваць, якую ты любіш песню, самую найлюбімейшую, і я адгадаю: хто ты такі!..
Ён яшчэ казаў:
— Трэба ўмець спяваць у хоры. Песня дужа магутная ў хоры. Яна ўсё паможа зрабіць чалавеку.

# КАВАЛАЧАК ХЛЕБА

Дзед шмат ведаў казак. Мне іх расказваў. І расказваў не тады, калі я яго прасіў, а тады, калі была нейкая прычына.
А прычына знаходзілася заўсёды.
Вось. калі мы выганялі статак у поле, мне, як падпасычу, ён даручаў насіць торбу з хлебам. У торбе, апроч акрайчыка хлеба, часам ляжала шкварка сала ці яйка, зваранае крута, соль, кіслы агурок, бутэлька



малака ці хлебнага квасу. Словам. харч на цэлы дзень сухім пайком, як цяпер кажуць. Увесь гэты правіянт быў завязаны вузлом у торбе, якую мне даводзілася цягаць. Я кажу не насіць, а цягаць, бо перад абедам рука стамлялася, ноша надакучвала і я ставіў яе дзе-небудзь пад куст або вешаў на сучок бярозы. Сам ішоў адганяць памаўзлівыя каровы ад шкоды, а потым вяртаўся да бярозы і падцягваў торбу на новае месца.
Неяк я згубіў гэтае месца. Забыўся, пад якім кустом паклаў торбу. І доўга яе шукаў. Мае пошукі дзед прыкмеціў, дачакаўся, калі падыду, і пачаў пытацца: чаму я з сабой не нашу торбу. А што ж было б, каб не адшукаў ношу ці сабака яе ўкраў? Мы засталіся б без абеду, галодныя...
Гэта справядліва, але я таксама адказаў пераканаўча і шчыра:
— Абрыдла яе цягаць.
— Эх, блазнота! — усміхнуўся дзед.— Прысядзь на купіну, паслухай, што я табе раскажу...
Вось і прычына трапілася.
Дзед, помню, расказаў пра аднаго дзівака, які нёс у мяшку хлеб за плячыма. Дарога была далёкая. Ішоў-ішоў дзівак, нёс-нёс у мяшку хлеб за плячыма, замарыўся. Спыніўся. Перакідае ношу з пляча на плячо і лаецца:
— Ох, каб на цябе ліха! Яшчэ гэты цяжар насі на сабе!
А хлеб у мяшку за плячыма адгукаецца:
— Не, чалавеча, не ты мяне нясеш, а я цябе нясу.
— Што? — абурыўся дзівак.— Каму гэта не відно, што я цябе ўсю дарогу на сабе валаку!..
А хлеб з мяшка зноў падае голас:
— Памыляешся, чалавеча. Не ты мяне нясеш, а я цябе нясу.
— Пабурчы ў мяне! — узлаваўся дзівак.— От зараз вазьму ды й скіну з плеч... Пабачым, хто каго панясе.
— Кідай,— кажа хлеб,— але потым не кайся.
— Ах, ты будзеш у мяне аскірзацца! — разгневаўся дзівак і кінуў мяшок на ўзбочыну пры дарозе.
Пайшоў сабе з вольнымі рукамі. Ідзе, без цяжару лёгка ісці... Ішоўішоў, а тут і ноч настае. Есці захацелася. Прысеў ды і думае: «Далей ісці трэба, але падсілкавацца не шкодзіла б... А чым? Хлеба няма...»
Так і атрымалася, што хлеб аказаўся разумнейшы за чалавека. Адумаўся дзівак, пакаяўся, ды было позна.
Калі дзед апавядаў, мне было пацешна, што дзівак па сваёй дурноце хлеб выкінуў вон.
— Чаго ты смяешся? — сказаў дзед.— Глядзі, каб не ўпадобіўся гэтаму падарожніку... І табе ж абрыдла цягаць торбу.
Берагчы хлеб, шанаваць самы маленькі кавалачак, кожную скарыначку — прывучалі дзед і бацька.
— З'еш усё! Не пакідай агрызак! — сварылася маці.— Не можна!
— Чаму?
— Голад можа настаць...
Я не разумеў іх. Якая сувязь паміж голадам, якога ніколі я не бачыў, і палоханнем, строгасцю, з якімі дарослыя прывучалі мяне шанаваць хлеб? Ну, што будзе, калі я скамячу з мякіша галачку і шпурну яе ў ночвы, дзе сястра будзе мыць бялізну?.. Паляцяць пырскі — мне будзе смешна... Што можа здарыцца, калі недаедзеную скібку я выкіну на сметнік?.. Падумаеш, вялікая страта!
Аднак пасля падобных жартаў у мяне счарнела рука і пальцы з месяц не згіналіся,— так даў бацька па руцэ, якой я кідаў хлеб.

Ударыў і аблаяў такімі словамі, якія не магу паўтарыць. Бо, як казалі дарослыя, у роце папухне...

Дзед не лаяўся, не караў мяне. У яго было шмат угавораў, шмат казак, як пра таго дзівака.

Помню пра хлеб яшчэ адно яго паданне ці легенду.

— Пацалуй недаедзены кавалачак і пакладзі ў торбу,— сказаў ён аднойчы мне.— Эх, які ж ты неакуратны! Колькі цябе не вучы, усё роўна расцеш беспамятны... Відаць, як паспытаеш свой горкі кавалачак хлеба, тады зразумееш, чаго ён варты.

Мы абедалі каля крыніцы, пад вярбой. Каровы пасліся ў лагчыне... І дзед пачаў гэту легенду, якую тады я не мог запісаць і цяпер перадам сваімі словамі.

— Людзі вельмі доўга харчаваліся травой, ягадамі, грыбамі. Елі ўсё, жылі ўпрогаладзь, бедна, аж пакуль не выдумалі хлеб.

Хлеб яны выдумалі не адны. Былі ў іх памагатыя. І хто ты думаеш? Сонца, Вецер і Вада!..

Даўно-даўно гэта было. Вецер і Вада хадзілі па зямлі, як людзі і жывёла. А Сонца, як і цяпер, плавала над зямлёй, у вышыні. І магло размаўляць чалавечай мовай.

Сонца, Вецер і Вада бачылі, як цяжка жывецца людзям. От, адзін раз сабраліся яны і пачалі між сабой меркаваць. Як памагчы людзям жыць багацей і шчаслівей на зямлі? Разважалі-разважалі. І Сонца тады прапанавала новы харч для людзей.

— Толькі няхай яны яго вынаходзяць і здабываюць самі,— сказала Ветру і Вадзе Сонца.— А мы ім паможам. Будуць любіць гэту працу, зажывуць шчасліва...

Дало Сонца Ветру некалькі зерняў жыта. Вецер пасеяў. Вада дожджыкам паліла. Цяпло прыгрэла. Зерні ўзышлі. Сонца ўсміхнулася. Жыта пачало расці ўгору.

Глядзяць людзі і дзівяцца: што гэта такое расце?

А жыта вырасла. Паспелі буйныя каласы. Людзі сабе думаюць: ну, што з гэтых каласоў можна зрабіць? Нашто яны могуць спатрэбіцца?

Адзін чалавек сарваў каласок, расцёр яго. Узяў на зуб зерне. Пакаштаваў...

Другі чалавек прыдумаў зварыць зерні ў вадзе. Пакаштаваў...

Трэці чалавек прыдумаў таўчы зерні. Стоўк — атрымалася мука. З мукі жонка зварыла зацірку. Пакаштавалі...

Адна дасціпная цётка з мукі замясіла цеста. Камяк цеста паспрабавалі спячы. Спяклі. Атрымаўся румяны бохан...

Так чалавек вынайшаў хлеб.

З тае даўняй пары людзі ўсё больш і больш удасканальвалі сваё вынаходства. Выдумалі белы хлеб. Сітны хлеб. З чарнушкай. З кменам. З разынкамі... Выдумалі пірог. Святочны пірог. Вясельны каравай... Выдумалі булкі, абаранкі, розныя піражкі... З мёдам, з макам, з капустай...

Але знайшліся ў аднае мясцовасці людзі, якія пачалі глуміць хлеб, не берагчы яго. Забыліся, што самае надзённае ў хлебе: сабраць яго ўраджай, сабраць насенне, каб налета пасеяць зноў. Каб на новы год быў ураджай. Яны занядбалі ўсё. Пачалі раскідацца хлебам. Дзе ні ступіш, валяюцца аб'едкі, кавалкі, скарынкі... Па дарогах рассыпана зерне. У засеках псуецца насенне.

Гэта здарылася таксама даўно-даўно.

Ішоў па дарозе Вецер. Ён ішоў ціха, павольна. Ідзе і чуе, што калоссі жыта скардзяцца яму. Прыслухаўся, аб чым шэпчуць яны, нізка кла-





няючыся. І пачуў Вецер скаргу жыта на занядбаную сваю долю. Што яго топчуць людзі. Здзекуюцца з яго. І малыя, і старыя.

Зайшоў Вецер у вёску, дзе жылі гэтыя людзі. Бачыць — праўда! На вуліцы, на дварах, пад вокнамі валяюцца кавалкі хлеба. Нават боханы. Ніхто не беражэ ані крошкі.

Раззлаваўся Вецер ды як закруціцца віхурай. Толькі чорны слуп густога пылу ўзняўся над вуліцай. Круціць Вецер, змятае ўсе скарынкі, недаедкі і віхурай узнімае ўгору. Слуп расце, расце аж да неба. Усё сабраў віхурай Вецер: і зерне рассыпанае і сухары цвілыя... Узняў аж да Сонца і кажа:

— Паглядзі, Сонца, што ж гэта робіцца?! Мы клапоцімся аб людзях, памагаем, колькі сіл ёсць, моцы. Ты на мяне сварышся, калі быстра хмары ганю, калі павольна крылы ў млынах кручу і хлеб мялю... А што яны робяць з гэтага хлеба? Бачыш, як глумяць?! Хлеб скардзіцца, што яны здзекуюцца з яго.

Нахмурылася Сонца, закрыўшыся хмараю. Можа яно быць гнеўным!.. Праз нейкі час толькі мутная, шэрая пеляна разлілася па небе. Сонца пажаўцела. Навокал яго ўтварыўся круг. Гледзячы праз гэты круг на зямлю, Сонца сказала Ветру:

— Пашлі на іх сухавея. А я спёкі паддам...

І пачалася ў той мясцовасці неміласэрная гарачыня. Усё на полі, на агародах пасмягла. У рэках Вада пабегла ў мора. Азёры і крыніцы павысыхалі. Дрэвы без пары пажоўклі. Жыта без пары пабялела. Спёкай высушанае, яно дзівілася: чаму з такімі лёгкімі каласкамі расце? Дзе дождж, каму хацелася б з падзякай важка пакланіцца?.. Бясхмарна. Сухавей гайсае па полі. Звоніць пустымі каласамі...

Люді пачалі хваляваіца, наракаць:

— Што ж гэта настала? Калі ж пойдзе дождж!..

Усе запасы харчу яны паелі. У полі ўсё пагарэла. Не то што ўраджай, насення людзі вярнуць не змаглі... І пачалі яны шукаць выкінутыя на вуліцу кавалкі хлеба. Рады былі зацвіламу сухару і чорнай скарыначцы. Людзі каяліся, што так неабдумана жылі. З болем успа-

міналі тую пару, калі не ашчаджалі хлеб, глумілі яго... Дзеці хварэлі, паміралі з голаду. Маткі плакалі горкімі слязьмі.

Аднойчы ўранку, калі Вецер-сухавей яшчэ драмаў за кустамі, слёзы людскія разам з расою ўзняліся да Сонца. І яно адчула гаркату гэтых слёз...

Тут Сонца паклікала да сябе Ваду і Вецер і пытаецца іх:

— Ну, што там чуваць? Як цяпер жывуць людзі з тае мясцовасці?

— Дрэнна,— адказаў Вецер.— Голад па ўсёй акрузе.

— Просяць дажджу,— сказала Вада,— але я не магу пасланць без твайго дазволу.

— Ну, а што яны сабе думаюць?— пытаецца Сонца.— Што між сабою гавораць?

— Гавораць, ніколі глуміць хлеб не будуць,— адказалі Вада і Вецер.— Толькі б ураджаю новага дачакацца.

Не ўвесь час гнеўным Сонца бывае. Адхінула яно шэрую пеляну пылу ад сухой, як попел, зямлі. Бачыць, стаіць на ўзгорку адзін дзядзька, трымае ў прыгаршчах зерне і просіць:

— Хмарка, дожджыку!.. Сыпні, хоць кропельку!

І Сонца злітавалася.

— Ну, сыпні,— кажа Вадзе,— столькі кропель, сколькі трэба на пасеў.

— А ты,— кажа Ветру,— пранясі хмары над палеткамі асцярожна... Градам не пабі, ліўнем не залі!..

Падумала Сонца і дадае:

— Пабачым, як яны зноў возьмуцца за працу...

Праз нейкі момант пайшоў роўны, спорны дождж. Такі, якога прасілі людзі...

Цяжка яны пакутавалі пасля голаду. Зноў харчаваліся травой-шчаўем, маладой крапіўкай. Грыбамі, ягадамі. Месцамі нават грыбоў і ягад не было. Грыбніцы павысыхалі. Ягаднік пагарэў.

І калі зноў людзі з тае мясцовасці дачакаліся і сабралі новы ўраджай, змалолі з яго муку і напяклі хлеба, то пакляліся вечна цалаваць яго... Сеяць і расціць, даглядаць і сабіраць, шанаваць і берагчы, як само жыццё. Так яно і цяпер. Жыта — ад слова «жыць»...

— Цяпер ты зразумеў, чаму людзі строгія за кожны кавалачак хлеба? — запытаўся ў мяне дзед.

Я сядзеў моўчкі і вінаваты быў, што не пацалаваў акрайчык хлеба. Людзі рабілі гэта, навучаныя голадам. Я ж не бачыў гора. І не хацеў бачыць. Я сядзеў, трымаючы ў руках свой акрайчык, і адчуваў яго, як жывога. Ён быў самым дарагім, што прыдбаў чалавек для падтрымання свайго жыцця.

# У ЛЮДЗІ

Ён два гады сядзеў у чацвёртым класе, два гады ў пятым. Прыносіў дадому двойкі, але дзённік хаваў, нікому не паказваў. Бывала, што ішоў з кнігай пад пахай, казаў, на заняткі, а сам бадзяўся па вуліцы або трапляў на стадыён. Прывык хлусіць, курыць...

Калі аб гэтым даведаліся, было позна. Ён пасварыўся з бацькамі і зусім адмовіўся наведваць школу.



Бацька яго вядомы, паважаны ўсімі чалавек, мой добры знаёмы. Адна бяда, што хворы сэрцам, «сардэчнік». Запрасіў ён мяне і яшчэ двух прыяцеляў у госці. І запрасіў, відаць, з такім намерам, каб мы памаглі яму вырашыць сямейны канфлікт, пагутарылі, калектыўна зрабілі яшчэ адну спробу паставіць сына на разумны шлях.

Маці кудысьці выйшла. А ён, іх сын, з яршыстым чубчыкам на галаве, сядзіць за сталом насупраць бацькі. Пад носам падростка ўжо рэдзенькія вусікі, і відаць, што ён імі ганарыцца. Паводле сваіх гадоў, хлопец вельмі дзябёлы, у стракатай, па цяперашняй модзе, рубашцы і вузенькіх штоніках.

Мы гаворым, як пажылыя людзі, успамінаем недалёкае мінулае. Неўпрыкмет набліжаем гаворку да галоўнай нашай тэмы: пытаемся, у якім класе малады чалавек займаецца, дзе? Гаворым, як роўны з роўным.

— Я... я займаўся ў дзённай школе,— адказвае ён.— Але цяпер буду ў вячэрняй.

Мы, як мужчыны з мужчынам, цікавімся, чаму паявілася такое жаданне, чым не задавальняе дзённая школа.

— У вячэрняй лепш... Там усе такія, як я, займаюцца,— нікольні не задумваючыся, адказвае ён.— Там вечарам займаюцца, а днём праходзяць вытворчую практыку на заводзе.

Гэта добра. Мы цікавімся, можа ён хоча праходзіць вытворчую практыку? Калі так, то на якім заводзе?

— Мне ўсё роўна, хоць на якім,— абыякава адказвае ён.

Відаць, бацька праўду казаў. Ён не столькі імкнецца ў вячэрнюю школу, колькі хоча прыкрыцца вучобай, а сам, наогул, лянуецца вучыцца.

Я кажу, што ёсць рашэнне гарсавета: не прымаць у вячэрнюю вучняў, хоць і пераросткаў, якія могуць наведваць дзённыя школы.

— Чаму? — здзіўляецца ён і рашуча заяўляе: — А я не магу... у дзённую.

Яго бацька смяецца і круціць галавой. Я кажу, што на гэта патрэбны падставы: калі вучань сірата або родзічы інваліды не могуць утрымліваць сына-пераростка ў дзённай школе. Якія ён падбярэ з гэтых падставы?

— Я цяжкі навучэнец,— панурыўшы галаву, адказаў яршысты чубчык.— Я цяжка паддаюся выхаванню...

Мы ўсе засмяяліся.

— Ну, што? Чаго? — пачырванеўшы, абурыўся ён.— У мяне характар... асаблівы... цяжкі!

На момант за сталом была цішыня.

— Ты ў камсамоле? — запытаў мой сусед.

— Мне яшчэ рана.

— Дарэмна.

— А што з таго?

— Табе пара ўжо ісці ў людзі.

Нашаму маладому чалавеку мабыць захацелася закурыць. Ён успомніў, што няможна, і адмахнуўся ад нас рукой.

— Ат, у людзі!.. Усё гэта ўжо ўстарэла...

У людзі — устарэла? Чаму ўстарэла? Што ён, «яршысты чубчык», лічыць устарэлым?

Мы пачалі ўспамінаць пару свае вучобы. Спакойна, як за гасцінным сталом, павялі гаворку, і мой сусед успомніў свае падросткавыя, зялёныя гады.

— Ты, браце, кажаш, што ў цябе цяжкі характар,— звярнуўся ён да «яршыстага чубчыка».— А па-мойму, у цябе яшчэ характару зусім няма. Гэта твой «цяжкі характар» выдумалі кепскія педагогі... А што «ў людзі» — устарэлы тэрмін,— гэта выдумалі дармаеды... А сам ты самастойна яшчэ нічога не выдумаў...

От паслухай, як я ішоў у людзі. І было гэта не да рэвалюцыі, як у Максіма Горкага, а ў наш, савецкі час. Такі час, пры якім і ты жывеш. Быў я амаль у тваім узросце. Ну, можа, на год, паўтара старэйшы. Самы камсамольскі ўзрост!..

Я і цяпер лічу, што жыццё маё пачалося на камсамольскай рабоце. У камсамоле, дзе, браце, і тваё месца...

Помню адзін такі факт. От паслухай, характар гэта ўжо быў, ці яшчэ не характар...

Праходзіла калектывізацыя. Даручылі мне з групай камсамольцаў раскулачыць Віленчыка. Я старшы групы. Бацька твой помніць гэтага кулака... Мы падрыхтаваліся. Значыць, ліквідаваць яго, як клас, на базе суцэльнай калектывізацыі, як тады гаварылі. І пайшлі! Усё як след выканалі... Помню, Віленчыха вушакі і клямку ў дзвярах цалавала...

Вярнуўся я дадому. Галодны. Прагаладаўся за цэлы дзень. Паставіла мне маці міску буракоў і ўпраўляецца каля печы. А бацька ў хляве быў. Даглядаў скаціну. У нас конь і карова былі. Не то што ў Віленчыка — цэлая абора.

Прыходзіць бацька ў хату. Бачу, сярдзіты. Сапе ў бараду... Я за сталом сядзеў. Еў буракі. Сёрбаю з міскі, а сам коса паглядваю. Бацька за качаргу. Да мяне: «Дзе ты быў?» «Вы ж ведаеце,— кажу,— дзе я быў». Адразу грозна: «Дзе ты быў?» Як размахнецца качаргою... Нясу лыжку буракоў і вокам прыкідваю. Думаю сабе: кулаком дасць — пабаліць, пабаліць — сціхне. А калі гэтым чаранком загрэе, знак будзе навек. «Ну, у Пухавічах,— кажу,— Віленчыка вазіў». «Якое табе, шчанюк, дзела да гэтага? Чаго ты выскокваеш? Усюды ён першы!..» А гэта праўда. Я, каб гэта цяпер, на ўдарную будоўлю ў Салігорск ці ў Полацк першы запісаўся б... «Усюды ты наперад,— чую.— Усё роўна, як табе больш за ўсіх трэба. Колькі буду аб гэтым дзяўбці, сукін сын?» Думаю сабе: як пачне апускацца качарга, я пад стол шмыг! Не паспее — па рагу стала хлясне...

Бацька мяне, праўда, не ўдарыў. Але міску з-пад носа — шасць! — як вецер, змахнуў. Аж у парозе апынулася... І пачаў натацыю. «Не будзе толку!.. Не выйдуць з цябе людзі!.. Не хочаш мяне слухаць, ідзі куды хочаш! Ідзі, каб мае вочы цябе не бачылі!»

І прагнаў з дому. Пакінуў я роднае сяло, як той Сцяпан Барута... Жаль было разлучацца з маткай, з сёстрамі. Дагнала мяне маці аж у Глінішчы. Са слязьмі. Дае мне торбачку. А ў торбачцы хлеб, кавалачак сала. «Што ж гэта будзе, сынок мой? Не даруе табе бацька. А свет вялікі, прападзеш ты адзін... Вярніся, перапрасі»... Не вярнуўся. Нават не заплакаў.

Знаў я, што бацька мой несвядомы, а камсамольская ячэйка паможа. І памагла. Парэкамендавала мяне бюро ячэйкі на сакратара меліярацыйнага таварыства. Было такое ў нашым сельсавеце кааператыўнае паявое таварыства па асушцы балот і распрацоўцы торфу. Старшынёй таварыства быў нехта Пянчук, добры чалавек, але надта піў. П'яніца.

Вось тут я ўпершыню самастойна і пакаштаваў скарыначку ўласнага хлеба. З жарствой... Адукацыя — тры класы. Ну, тры класы з хвосцікам, а хвосцік — паўзімы. Бацька мяне, як старэйшага, усё рыхтаваў на гаспадара ў доме. На вучобу не прыгруняў. Я сабе рос у яго за плячыма, на вечарынкі, як дарослы, хадзіў і разленаваўся да кніжкі. А тут на самастойнай працы праваліўся па вушы. Замарочылі галаву паперы ды разлікі. Ды так замарочылі, што не ведаю, як быць. Без адукацыі, толькі адным чыстым сумленнем не звядзеш у рабоце канцы з канцамі...

Дзякаваць Пеньчуку, калі не п'яны быў, мне памагаў. Ён у воласці некалі служыў і ўмеў весці рахункаводства. Але аднойчы ішоў мой старшыня таварыства позна ўвечары балотам, як кажуць, пад мухай. Уваліўся ў канаву і ўтапіўся...

Пайшчыкі выбралі часова мяне старшынёй. А тут якраз надышлі бальшавіцкія вёсны. Сяўба ў калгасах. Усе сілы на пасяўную! Мабілізавала ячэйка і мяне на ўдарную кампанію... Паедзеш, цэлы тыдзень у калгасе працуеш, а кантора твая на замку.

Бачу я, што не клеіцца ў мяне штосьці. Не ладзіцца. Не спалучаецца грамадская работа з асабістай. Прэсная асабістая закваска. Мяккае цемя!.. А перад бацькам не хочацца шыю гнуць. Я з ім, канечне, не сустракаюся. Не перапрошваю. І ён мяне таксама бокам абыходзіць.

Думаю сабе: «Дзе мне вучобы датачыць? Як мне павучыцца хоць адзін гадок?!»

Дачуўся, што ў райком камсамола прыйшла разнарадка на вучобу ў Горацкі рабфак. Тады яшчэ акадэміі не было, іменаваўся Беларускі сельскагаспадарчы інстытут. Як пачуў пра гэта, думка пра рабфак з галавы не выходзіць. Не сплю начамі. Хочацца на вучобу, не то што, браце, табе. З тваім «цяжкім характарам»... На бацькавым белым хлебе...

Я меў усяго тры класы. Што вучыў, на ўсё забыўся ў таварыстве. І часу няма паўтараць. Што рабіць? Я зноў да камсамола, які стаў цяпер радней роднага. Сакратар райкома Іллюк Каранец выслухаў і не запярэчыў. Наадварот, параіў адну настаўніцу, каб я з ёй паўтараў вучэбную праграму і рыхтаваўся да паступлення. «Толькі не падвядзі нас у вучобе. Старайся там,— кажа.— Дадзім табе добрую адносіну і рэкамендацыю».

І далі.

Пад восень уручылі мне грамату за другую бальшавіцкую вясну. Ой, прыгожая! Са сцягамі, трактарамі, з залатым калоссем!.. Шкода прыкладваць яе да заявы з дакументамі... Прыклаў! Нічога не папішаш. Патрэбна! Рэкамендацыя з райкома цудоўная. Сам сабе радуюся. Не можа быць, каб не прынялі!..

Еду ў Горкі...

Прыехаў!

Як паглядзеў, колькі там народу паступае вучыцца, як прыслухаўся, што ў іх за веды, аб чым гавораць перад залікамі, апанавала сумота. Маўчу. Нікому не прызнаюся, што ў мяне тры класы з хвосцікам, плюс самаадукацыя.

Эх, чаму быць, таго не мінаваць! Уздыхнуў і пайшоў перш-наперш да матэматыка. Рашыў пачаць з цяжэйшага.

Лысы, у акулярах, матэматык даў мне вусна скласці, адняць, падзяліць, памножыць... Гэта — дробязь. Я ўмеў. Не страшна! Тады ён кажа: «Бярыце крэйду і напішыце! Пяць сотых, плюс дзевяць сотых... Пішыце!» Што такое, думаю? Узяў крэйду і стаю. Якія такія сотыя? З якога гэта раздзела?.. Аглянуўся. А тут, на шчасце, нейкая дзяўчынка

сядзіць на пярэдняй парце. Усміхаецца мне. Добра, думаю, табе ўсміхацца, калі на цябе акуляры матэматыка не ўставіліся... Стаю, хвалююся... Зірнуў другі раз. Выводзіць яна вялікімі лічбамі на лісце паперы: «0,05 + 0,09...» Я — раз! Акуратна ўсё перапісаў на дошку. Чую: «Колькі будзе?» Маўчу. Стаю, як укопаны... А яна, малайчына, ціхенька падказвае: «Нуль цэлых і чатырнаццаць сотых». Я голасна, на ўсю аўдыторыю: «Нуль цэлых і чатырнаццаць сотых!» «Пішыце, пішыце!» А як пісаць? Агляну́ўся наўкол. Дзяўчынкі няма. Кудысьці паклікалі майго суфлёра. Прапаў, думаю. А матэматык яшчэ далей: «Напішыце сем восьмых». Я муляў, муляў і прызнаўся. Цяжка, не змагу! Забыўся, кажу. Матэматык смяецца: «Як жа ты мог забыцца простыя дробы?» Я прашуся мець літасць. Паверце, кажу, хвалююся — вылецела з галавы. «Сколькі ты класаў закончыў?» «Шэкаэм». «Калі?» «Сёлета»,— кажу. У акулярах зноў смяецца. А я ледзь не плачу. Прашуся, каб не паставіў дрэннай адзнакі. «Вучыцца,— кажу,— вельмі хочацца... Ад бацькі ўцёк. Прашу вас. Я гэтыя дробы паўтару... Даганю! От, пабачыце!»

І паставіў лысы мне «Зд». Здавальняюча, значыць. Тады былі такія адзнакі.



Выйшаў я адпачыць. Уцёрся ад поту. Пахадзіў. Думаю: не блага! І то хлеб, як казаў Пяньчук.

Падаўся я да таго, што палітграмату прымаў. Прадэманстраваў яму веданне газет і як умею выступаць на сходзе. Той, мне чырк — «Вд»... Вельмі добра. Я абрадаваўся і зусім асмялеў.

Да географа. Тараноўскі прымаў. Культурны такі выкладчык. «Пакажы, кажа, роўнік...» Што-што? Роўнік... Ай, ліханька маё! Упёрся кіем у Чорнае мора і не ведаю, куды далей весці. Няхай бы ён моры ці акіяны запытаў! Стаю ля карты, лыпаю вачыма... «Пакажы полюсы». А я і полюсаў не ведаю... Крутнуў кіем, абвёў наўкол абодва паўшар'і...

Па рускай мове нашчэнт засыпаўся. Лютая была экзаменатар, нехта Фідроўская. Прыйшоў да яе. «Напішыце,—кажа,— аўтабіяграфію. Коратка!» Сваю, значыць, жыццёвую біяграфію. Ну, што ж? Хоць невялікая яна ў мяне, напісаў. Спацеў, але напісаў. Як пачала яна, гэта Фідроўская, правяраць, жах! Не ведаю, дзе падзецца. У кожным слове дзве-тры памылкі. Чырвоным і сінім карандашом счыркала, пападкрэслівала ўсё маё ўкладанне. «Што ж гэта,— кажа,— ні граматыкі, ні сінтаксісу вы бытта ў руках не дзяржалі?» Я да яе з просьбай. Думаю, толькі просьбай можна выхапіць адзнаку. Больш нічым не возьмеш. Слязам гэта строгая жанчына не паверыць... «Ну,— кажа,— знайдзіце тут у вас глагол». Глядзеў, круціў я свае скрэмзаныя каракулі, дый адказваю: «Па-моему, тут глагола няма...» «Ну, ступайце,» — кажа. І паставіла: «Вельмі слаба».

Панёс я сваю заліковую картку да сакратара прыймовай камісіі. Аддаў, пытаюся: «Ну, як? Не прымуць?» Той плячыма паціснуў і нічога не адказаў.

Дрыжыць усё ў грудзях. Аж холадна. Што цяпер будзе?.. Хаджу па студэнцкім гарадку, разглядаю прыгожыя, яшчэ ў тым веку пабудаваныя карпусы, зялёны парк і думаю сабе: «Шчасце тым, хто тут будзе займацца, а ты вяртайся на месца Пеньчука. Вяртайся і ў канаву галавой...»

Блукаючы, трапіў на азярцо. Сядзеў, сядзеў і надумаўся: звярнуцца ў партком. Пайшоў. Хударлявы чалавек выслухаў маё жыццё, мае просьбы і сумненні, кажа: «Праз два дні будзе засядаць камісія. Пачакай! Я табе памагу прайсці на пасяджэнне. А там ужо сам пачуеш, прымуць ці не прымуць». Не паабяцаў і не адмовіў, не падбадзёрыў і не засмуціў. Праўда, як сказаў, так і было.

Настаў дзень камісіі. Праціснуўся я за дзядзькам з парткома ў залу, дзе ішло пасяджэнне, сеў у куточку і прытаіўся. Слухаю, як разглядаюць чужыя заявы. Дайшла чарга да маёй... Гэта праклятая Фідроўская ўстае з адводам: «Я кацегарычаскі супраць. Ён нават глагола не знае. Вечным Мітрафанушкам застанецца...» Мяне ўсяго страсянула, але маўчу... Галасаваць! Хто за?.. «Бацюхны! — думаю.— Прагаласуюць, будзе позна. Ці цяпер, ці ніколі!..» Усхапіўся з кутка, ды на праход між сталоў. «Дазвольце,— кажу,— мне!» «А ты хто такі будзеш?» — пытае старшыня камісіі. «Я — Андрэй Ар'юк. Гэта мая заява». «Як жа ты сюды трапіў? — здзіўляецца.— Што такое? Таварыш сакратар, так жа нельга!.. Выйдзіце адсюль, малады чалавек!» Нейкая жанчына хоча мяне за руку выправадзіць, а я крычу: «Дазвольце адно толькі слова!» Старшыня збянтэжыўся дай кажа: «Нядобра, нядобра, малады чалавек!.. Гм, што ты хацеў нам сказаць». Я і тут, перад усёй вялікай камісіяй усё, што было на сэрцы, выклаў. Жыць не буду без вучобы. Залічыце, хоць без стыпендыі! Буду працаваць і вучыцца... Тройчы чэснае камсамольскае — апраўдаю!.. Схапіў са стала ганаровую грамату, дзе ўвесь мой сацыялізм золатам, з гербом, з каласамі намаляваны, узняў, паказваю — не падвяду! Клянуся, што ўсіх дагапю ў вучобе...

Усе глядзяць на мяне, між сабою пераглядаюцца... Потым устае дзядзька з парткома і кажа: «Я думаю, калі таварыш гэты... так просіцца на вучобу, на рабфак, нават згодзен займацца без стыпендыі, можа мы дапусцім адступленне, таварышы? Давайце прымем яго з выпрабавальным тэрмінам. Умоўна». І пастанавілі: «Прыняць без стыпендыі. Інтэрнатам забяспечыць...»

— От як, браце, дасталося мне паступленне на вучобу,— сказаў у канцы мой сусед...— Я ўжо не кажу пра самую вучобу. Вучыцца было страшэнна цяжка... На няшчасце, па алфавіту першы. «А» — Ар'юк! Усё я, ды я! Ці выкладчык пацікавіцца, як зразумеў лекцыю, ці правярае ўчарашняе заданне,— мяне першага выклікае. Рыхтуйся штодзень па кожнай дысцыпліне. Каб не дапамога таварышаў, не вытрываў бы... Прасіў іх растлумачыць: «А як гэта? А што гэта?.. Дружа, не зразумеў на лекцыі, паўтары!» Сіл не хапала... Трыста грамаў хлеба на дзень. Ударнікам вучобы — па чатырыста пяцьдзесят, а мне — трыста...

Апроч вучобы, на заработкі бегаў. Наймаўся грузчыкам, нарыхтоўшчыкам... От, браце, як выпрацоўваў характар. І можа таму, што вучоба такая цяжкая была, навука адразу моцна прывілася. У канцы другой чвэрткі ў мяне ўжо не было дрэнных адзнак...

Усе мы ўважліва слухалі яго апавяданне. Уважліва слухаў і наш малады чалавек. Чырвань залівала яму твар і вушы. Мне хацелася пачуць, што ён думае, што ён скажа, паслухаўшы такую калючую для яго гаворку.

Гаспадар, панурыўшы галаву, маўчаў. Можа яму разбалелася сэрца...

Сын глянуў на яго, бліснуў позіркам.

— З бацькам сваім вы не сустрэліся? — адзінае, што запытаўся ён.— Назаўсёды разышліся?

— Не, чаму ж?! — адказаў той.— Як быў я на першым курсе інстытута, ён мне прыслаў пасылку. У пасылцы кавалак сала. Каўбаса сушаная. У фанернай скрыначцы ўсё акуратна пакладзена. Я пазнаў, што гэта маміны рукі... Прыпіскі, паперачкі ніякай! Але адрас... Я і цяпер не ведаю, адкуль ён дастаў мой адрас, дакладна інтэрнат і пакой... Напісаў хімічным карандашом... Прыкметна, як слініў... Пазнаў яго, бацькаву, руку. Адпісаў яму!.. Яны, бацькі, усе, брат, хочуць, каб іх дзеці выйшлі ў людзі.





**Кастусь ЦВІРКА**

★



Ужо й красавік — убок,
Не згледзіш — май ля парога:
Разматваецца патроху
Жыцця
майго
клубок.

На хустцы нябёс паяснелых —
Сонца і галубы.
Іду, крутаверцю белаю
Засыпаны да галавы.

О, кволы пялёстак чысты
На баразне сухой!
О, сцежка! О, мячык чыйсьці!
О, чарапок пад нагой!

О, будня шматкаляровасць!
Глядзі не міні, не міні
І град, і касьбу за дуброваю,
І лотаць, і камяні.

На ўсё хачу наглядзецца,
Усё спазнаць — хоць калі:
Касой намахацца, напецца,
Наплакацца на зямлі.
Уперадзе — вецер, вецер,
Сонечная паласа.

Блытаецца да вечара
Вецер у валасах!

Іду я — не збіцца б з тропу.
І горыч, і радасць, дальбог:
Разматваецца патроху
Жыцця
        майго
              клубок.

★

Хачу параўнаць паэта
З антэнаю ў туманах.
Адкрытая ветру,
                  прывету,
Заўсёды на варце яна!

Тугую здалёк не відно хай,
Ды ў ёй, найчутней, як дзе,
Атамная эпоха
Уся, у напятай, гудзе.

К ёй гукі льюцца і льюцца.
Чулая, усё бярэ:
Гул кратаў, гром рэвалюцый,
Салюты і песню рэк.

Прымае «біп-біп» з сусвету,
Ловіць прызнанні твае,
І ўсё гэта, сэрцам сагрэтае,
Свету
        перадае.

★

Сёння спаць не пайду, не пайду —
Лепш не кліч, перапёлка.
Ты не бачыш, каго я вяду
За дарогу з пасёлка.

Хмара чорная валасоў,
Паркалёвая блузка...
Лезе месяц — які тут сон! —
Ёй за шыю, заблуда.

Кажуць вочы: цалуй, цалуй!
Я на рукі бяру, харошую,



Па пшаніцы, як па сялу,
Крочу з радаснай ношаю.

Недзе ўпала прыколка — няхай.
У кішэнь дай мне туфлі.
Неба, неба — рабая страха.
І зара ўсё не тухне.

Твар апёкся — яе валасы!
І — няхай нават згуба —
У гарачыя каласы
Ціха падаем —
                  губы ў губы.

Зверху зорка глядзіць на палі —
Агнявыя вейкі.
Абвілі мяне, абвілі
Рукі — яблыні веццi.

Ў сэрцы сонечна — не гавары.
І дармо, што, як совы,
Будуць зырыцца плеткары,
Кідаць колкія словы.

Што ж, няхай. Мы ізноў на зары
Тут прызначым спатканне...
На зямлі, не заходзячы, вечна
                                  гарыць
Сонца кахання.

★

Дрэвы паміраюць, як салдаты,
Што бароняць зоры ад свінца:
Не трасуцца пад пілой зубатай,
А стаяць, прамыя, да канца.

Зрэзаныя, падаюць з раскатам
У траву, у лужын каламуць.
І шчэ доўга — так, як і салдаты —
Ў хатах, непрыкметныя,
                          жывуць.

# На арбіту камунізма

*1 студзеня 1964 года беларускі народ адзначае сорак пяць гадоў з дня ўтварэння БССР. Народжаная ў полымі Кастрычніка, Савецкая Беларусь пры дапамозе ўсіх народаў краіны Саветаў узнялася на небывалыя вышыні палітычнага, эканамічнага і культурнага росквіту.*

*Пад сцягам вялікага Леніна, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі беларускі народ у дружнай сям'і сацыялістычных нацый ладзіць сваю светлую будучыню. На арбіту камунізма выходзяць лепшыя з лепшых — перадавікі фабрык і заводаў, калгасаў і саўгасаў, будоўляў і навуковых лабараторый...*

## ЗАВОД УРАДЛІВАСЦІ

Фотарэпартаж А. ДЗІТЛАВА і В. КОСЦІНА



«Дарагія таварышы! Ажыццяўляючы рашэнне XXII з'езда партыі, ЦК КПСС і Савецкі ўрад з асаблівай вастрынёй ставяць пытанне аб развіцці хімічнай прамысловасці, і ў першую чаргу прамысловасці, якая вырабляе мінеральныя ўгнаенні.

Увод у строй нашага завода мае велізарнае значэнне для развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі нашай краіны. Кожны сэканомлены дзень у будаўніцтве — гэта дадатковыя сотні тон збожжа, мяса, малака...».

Гэтыя словы гаварыў адзін з будаўнікоў Гродзенскага азотнатукавага завода — усесаюзнай ударнай будоўлі, на перадсвяточным мітынгу.

Напярэдадні 46-й гадавіны Кастрычніка над будоўляй зачырванелі прызыўныя словы велізарнага транспаранта: «ДА ПУСКУ ПЕРШАЙ ЧАРГІ АСТАЛОСЯ 30 ДЗЕН». І вось гэтыя дні прайшлі. Яшчэ адно гіганцкае хімічнае прадпрыемства ўступае ў строй.

А будаўнікі працягваюць штурм! Снежаньскі Пленум ЦК КПСС, прысвечаны пытанням хімічнай прамысловасці, яны сустракаюць новымі працоўнымі поспехамі.



Моладзь па-ранейшаму наперадзе.

Па-ранейшаму не расстаецца з геадэзічным інструментам ветэран будоўлі камсамолец Сяргей Зялкоў. Тут ён забіваў першыя калочкі, якімі абазначаліся контуры цяперашніх цэхаў. Штодзень пільна сачыў, як пракладваліся траншэі, раслі сцены будынкаў, узнікалі эстакады, манціравалася абсталяванне... І яшчэ вельмі многа трэба зрабіць камсамольцу Сяргею Зялкову...

...таксама, як і другому камсамольцу Валерыю Цішчанку. Валерый — мантажнік з славутай брыгады Татаранкава, што ўзяла на будоўлі нямала вышынь. Апошняя перамога брыгады — мантаж абсталявання грануляцыйнай вежы — была здабыта на вышыні 67 метраў. У гонар гэтай падзеі нехта са сваіх хлопцаў-мантажнікаў склаў верш. Сціплы паэт-аматар не ўтрымаўся і тут жа напісаў яго крэйдай на жалезнай вежы.



Чатыры, шэсць, восем радкоў, напісаныя адной і той жа рукой, можна ўбачыць на будоўлі ў самым нечаканым месцы: на сцяне газгольдэра, на кажуху велізарнага вентылятара, на часовай пераборцы... Прозвішча аўтара вершаў не ўстаноўлена. Некаторыя з іх ён падпісвае псеўданімам «Вецер». Кажуць, што аднойчы Ветру нехта з гаспадароў будоўлі зрабіў унушэнне. «Не псуй маёмасць!» — сказала начальства... З таго разу Вецер піша свае вершы на вышыні не ніжэй дваццаці метраў. Няхай сабе наіўныя, але шчырыя радкі паяўляюцца аператыўна, як тэлеграмы!

Монтажник! Ты сталью пропитан.
Работа твоя не легка.
Трудом ты тяжёлым воспитан.
Тебя будут славить века!..

Славіць у стагоддзях будуць не толькі мантажнікаў, але і ўсіх, хто будаваў прыгажун-завод...





Будаўніцтва працягваецца

Гэты здымак зроблены ў «кабінеце» аднаго з прарабаў — камсамольца Мікалая Яўсеева, які кіруе мантажом складанага абсталявання. Вось ён (злева) разам з брыгадзірам Віктарам Варанцовым разбірае чарцяжы проста на бетоннай пляцоўцы.
⟵



Выдатна працуюць і гэтыя двое сяброў з брыгады Івана Макуля: мантажнікі-вышыннікі Сяргей Карповіч і Віктар Філічаў. Яны паспелі многае зрабіць на самых складаных участках, працуючы тут з першых дзён будаўніцтва. Больш чым на сто метраў узнімаецца ў вышыню ажурная вежа, якая падтрымлівае вентыляцыйную трубу. Гэта таксама работа брыгады Макуля.
⟶



Будаваць гродзенскі завод урадлівасці з'ехаліся энтузіясты з многіх куткоў рэспублікі. У пуску першай чаргі шмат памаглі будаўнікі Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, якія прыслалі ў Гродна некалькі брыгад. Сярод палачан, якія часова сталі гродзенцамі, асабліва вызначыліся дзяўчаты-ізаліроўшчыцы, што працавалі на пракладцы трубаправодаў.
І будзьце ўпэўнены: калі Марыя Дрозд і Соф'я Казачонак узяліся за справу — усё будзе ў парадку.
⟵

Паставіўшы стометравую вежу, мантажнікі ўжо сабраліся пераходзіць на другі ўчастак. Але высветлілася, што сярод маляроў, якія павінны былі пафарбаваць вежу, не знайшлося смельчакоў працаваць на такой вышыні. Мантажнікаў папрасілі вярнуцца і заняцца малярнай справай. «Людзі металу» ніяк не згаджаліся зноў узнімацца пад воблакі... з пэндзлямі і вядзерцамі. Гэта здавалася ім парушэннем усіх законаў гонару: «Каб мантажнік ды стаў маляром!» І ўсё ж знайшоўся той, хто «паступіўся» самалюбствам. Валянцін Дудкевіч, як бачыце на здымку, заканчвае афарбоўку вежы.
↓





↑
Калі глядзіш на некаторыя карпусы і ўстаноўкі завода, міжволі прыходзіць думка пра карабель, што адплывае ў далёкае, вялікае плаванне.
Трэба асвоіць новую тэхніку. Больш таго — час запатрабуе ўдасканалення тэхнікі. Трэба даць краіне незлічоную колькасць каштоўнейшых хімічных прадуктаў, без чаго немагчымы далейшы росквіт нашай гаспадаркі. У гэтым вялікім плаванні калектыў завода безумоўна чакаюць вялікія ўдачы!

# ВЯЛІКАЯ РАДНЯ

У народзе і да гэтага часу бытуе даўняя, як людская памяць, прымаўка: «Не зналі дзеці маці — і ласкі ім не знаці». А ці так яно? Спытайце аб гэтым Вольку Монцік, і вы лішні раз пераканаецеся, што разам са старым жыццём адышлі ў нябыт і старыя, некалі мудрыя і праўдзівыя, прымаўкі. Радзіма — чулая, пяшчотная і спагадлівая — замяніла ёй бацькоў. Волька, як і многія дзеці, якіх называлі сіротамі, не стала адзінокай. Клапатлівыя выхавальнікі дзетдома крок за крокам, — ад цудоўных народных казак пра «Жар-птушку» і

«Пунсовую кветачку» да расказаў аб бессмяротным подзвігу герояў-камсамольцаў Краснадона і пакарыцеляў цаліны,— уводзілі яе ў вялікі свет жыцця. Вольцы хацелася аднаго: хутчэй вырасці і аддзякаваць маці-Радзіме за клопаты і ласку.

І вось прыйшоў доўгачаканы і радасны дзень. Выхаванцы дзіцячага дома сабраліся на свой камсамольскі сход. Перад сябрамі стаяла рослая Волька Монцік, стройная, ружавашчокая, вочы яе зззялі шчасцем. Сакратар камсамольскай арганізацыі зачытаў яе заяву. Традыцыйных у такіх выпадках пытанняў не было. Камсамольцы аднагалосна прымалі дзяўчыну ў сваю сям'ю. І тады, менавіта тады, адчула яна, якая гэта вялікая сіла — калектыў.

— Я хачу папрасіць вас усіх, таварышы,— звярнулася да сходу Волька,— каб мяне накіравалі на работу. Я ж не маленькая ўжо...

Анатоль Мікалаевіч Раманоўскі, выхавальнік дзетдома, палажыў ёй на плячо руку і сказаў:

— Не будзем спяшацца, Оля. Трэба спачатку школу закончыць. Ва ўсякім выпадку, да восені будзеш жыць дома. А можа я няправільна зразумеў цябе? Можа табе надакучыла?

— Ды што вы, Анатоль Мікалаевіч! — зачырванелася Волька.— Я нават не падумала пра гэта. Проста хочацца на работу. Ды і колькі ж можна нас, як маленькіх, за руку вадзіць!

* * *

Сталася так, як гаварыў Анатоль Мікалаевіч. Спачатку закончылі школу, а неўзабаве прыйшла і работа. Волька Монцік і Міша Агафонаў парашылі працаваць у мясцовым саўгасе «Нача». Прыйшлі ў дырэктараў кабінет. Дырэктар саўгаса Міхаіл Сямёнавіч Стабрэдаў выйшаў з-за стала, павітаўся з новым папаўненнем рабочых для шматгалінавай гаспадаркі.

— Дзе наважыліся працаваць, маладыя людзі? — спытаў ён, пазнаёміўшыся з дзетдомаўцамі.

— Дзе цяжэй!..— выпаліла Волька.

— У-га, вось ты якая! — узняў бровы дырэктар.— Адным словам, зразумела: газеты чытаеце, радыё слухаеце — падавай вам цаліну, не інакш. А ці ведаеце вы, даражэнькія, што лёгкай работы нідзе няма? Вось, скажам, даглядаць цялят. Здаецца, колькі там той работы: напаіў, накарміў — і ўвесь твой клопат. А на самай справе гэта даволі цяжкая работа, карпатлівая.

— Дык можа мяне пашляце працаваць цялятніцай?..— нясмела папрасіла Волька.— Я вельмі люблю цялятак.

— А я — коней,— уставіў Міша Агафонаў.

Дырэктар задаволена ўсміхнуўся.

— Зіма на парозе,— памаўчаўшы, сказаў ён.— Маразы, завірухі... Вольку мы пакуль што накіруем працаваць на свінаферму, на кармакухню. Там і цяплей і зручней. А Міхась застанецца пры садова-гароднай брыгадзе. Будзе за садам наглядаць. Згода?

— Згода,— адказалі навічкі.

Лёгкай работы і сапраўды не бывае. І асабліва ў жывёлагадоўлі. Калі за новую справу бярэшся, заўсёды знаходзіцца штосьці такое, што табе невядома і што трэба ведаць, калі не хочаш застацца «белай варонай» сярод сумленных працаўнікоў. У гэтым Волька пераканалася з першых жа дзён, як прыйшла на свінаферму. За справу яна ўзялася шчыра. Не шкадавала ні сіл, ні часу.



**Такая яна — Волька Монцік!**

— Адпачні, Волечка, што табе больш за іншых трэба...— гаварыла часам якая-небудзь свінарка.— Работа не воўк — у лес не ўцячэ.

Волька спачатку маўчала. А неяк раз не стрымалася:

— Мы і так надта многа адпа-

**Дырэктар саўгаса Аляксандр Ліпаўка, сакратар партарганізацыі Віктар Кідзін, галоўны заатэхнік Ганна Біленка, брыгадзір Іван Барыскін і Волька Монцік абмяркоўваюць надзённыя пытанні сваёй гаспадаркі.**



**Ніна Таранда, Волька Монцік і Марыя Абражэвіч дружаць на ферме, сябруюць і пасля працы.**



чываем. У людзей — пра іх вунь у газетах пішуць — па пяцьсот свіней адкармлівае свінарка.

— Дык гэта ж у людзей...

— А чым мы горшыя?

— А ты паспрабуй, разумніца такая! Адкармі хоць дзве сотні...

— І паспрабую!

Старэйшая свінарка Волька Галіцкая раіла не браць у групу больш трохсот свіней. Волька ж Монцік настаяла на сваім: узялася адкарміць шэсцьсот свіней адна. У той час гэта была рэкордная лічба для свінаркі не толькі ў Ляхавіцкім раёне, а на ўсёй Брэстчыне.

* * *

У наш час не бывае поспеху без славы. Газеты неўзабаве змясцілі партрэт маладой свінаркі. Да яе пасыпаліся пісьмы. «Горача віншуем. Жадаем новых поспехаў», — пісалі сяброўкі з дзетдома. «Не падвяду, родныя мае», — адказвала Волька.

З гадамі прыходзіць вопыт, майстэрства. А гэта — другая сіла чалавека. Прыйшло гэта і да Волькі. На свінаферме ўвялі бесстаночны метад утрымання свіней, групавы адкорм. Маладая свінарка пачала адкормліваць па 1 200 свіней за год. Яе працоўная слава загрымела на ўсю рэспубліку. На грудзях Волькі Монцік заззяў ордэн Леніна — вышэйшая ўрадавая ўзнагарода краіны.

Часта, застаўшыся адна са сваімі думкамі, Волька згадвае пра тых людзей, з якімі штодня сустракаецца на рабоце, з якімі даводзіцца гутарыць на розных нарадах і семінарах. Якія гэта цудоўныя людзі! Знешне так не падобныя адзін на аднаго, і разам з тым вельмі падобныя. Чым? Сваёй чалавечнасцю, пачуццём сям'і адзінай. Калі ў цябе радасць — гэта і іх радасць. Твае няўдачы — іх смутак. Вось хоць бы Іван Анісімавіч Фінюцін — дзядзька Іван, як яго называюць свінаркі. Ён не міне, каб не пацікавіцца, як жывуць дзяўчаты, як у іх справы на рабоце, дома. Калі што якое, параіць, падкажа. Дзядзька Іван даўно працуе на свінаферме — у яго ёсць чаму павучыцца. Або Сцяпан Місюкевіч. Здалося чамусьці яму, што Вольцы сумнавата жыць у інтэрнаце.

— Пераходзь, Волька, да нас, — шчыра запрасіў. — Месца хопіць. І весялей будзе ў сям'і...

А хіба ж ёй сумна? «Там, дзе нашы тры Марусі, жыць не будзеце у скрусе», — адказвае Волька, маючы на ўвазе сваіх сябровак свінарак Абражэвіч, Брэчка і Дубоўскую. З імі Волька спаборнічае. Іван Сцяпанавіч Барыскін, брыгадзір свінафермы, хоць і скупы на пахвалу чалавек, але і той не змоўчыць, заўсёды пахваліць дзяўчат: «Залатыя рукі, далібог! Такіх бы больш...»

Калі нядаўна Волька вырашыла назаўсёды звязаць свой лёс з партыяй, ёй з радасцю далі рэкамендацыі камуністы Іван Вайцяховіч і Сяргей Цераховіч, а таксама камітэт камсамола Ляхавіцкага вытворчага ўпраўлення.

Вялікая радня ў Волькі Монцік! Вялікая і надзейная. З такой раднёю і працаваць лёгка і жыць весела.

**Васіль ПРАСКУРАЎ.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

**Саўгас «Нача» Брэсцкай вобласці.**





# СЛАВІМ РОДНЫ КРАЙ

Чатыры гады назад пры гродзенскім абласным Доме народнай творчасці былі арганізаваны кароткатэрміновыя курсы грамадскіх кіраўнікоў харавых і танцавальных калектываў. Сабраўшыся разам, заўзятыя энтузіясты песні і танца хутка пазнаёміліся і пасябравалі, а калі закончыўся тэрмін навучання, парашылі не разлучацца. Не падумайце, што ўсе яны засталіся ў Гродна. Справа была інакш — яны стварылі ансамбль песні і танца. Кожны з іх па-ранейшаму заставаўся кіраўніком свайго калектыву і адначасова з'яўляўся ўдзельнікам ансамбля.

Спачатку кіравалі новым калектывам Панцеляймон Радаліцкі, Сяргей Мачалаў і вопытны спецыяліст па танцах Ларыса Ляшэнка. У апошні час мастацкім кіраўніком гэтага цудоўнага калектыву энтузіястаў выпала быць мне. Работы ў нас, як кажуць, быў непачаты край. Справа ў тым, што нават самыя даўнія харысты тэорыю музыкі ведалі недасканала. А што казаць пра навічкоў! Праўда, ведаць тэорыю музыкі або авалодаць сальфеджыо — гэта яшчэ не ўсё. Куды важней выпрацаваць у кожным удзельніку калектыву творчыя адносіны да сваёй справы.

Творчыя адносіны грунтуюцца на задачах, якія павінен быў цвёрда ўсвядоміць сабе кожны артыст ансамбля. А задача была важная — адлюстроўваць мас-



Культработніка Зою Маёраву і краўчыху Ніну Кічко заслужана лічаць душой ансамбля.

тацкімі сродкамі справы, думкі і мары людзей, якія жывуць і працуюць вакол нас. З самых першых дзён свайго існавання ў ансамблі адчуўся мясцовы каларыт, бо яго ўдзельнікі былі цесна звязаны з жыццём гродзенцаў. І гэта нам памагло ў далейшым творчым росце, вызначыла галоўны кірунак работы. Для кожнай справы важны пачатак. І ён быў нядрэнны. Потым нам на дапамогу прыйшлі мясцовыя кампазітары, паэты, мастакі.

Заслужаны дзеяч культуры БССР Аляксандр Шыдлоўскі напісаў для нашага ансамбля песні аб родным прынёманскім краі: «Прывітальную», «Песню пра Гродна», «Ну як не спяваць», «Колькі ў небе зор...» Удзельнікі ансамбля выконваюць гэтыя песні з вялікім натхненнем. Старэйшы педагог і хормайстар Антон Міхайлавіч Валынчык стварыў некалькі цудоўных а-капэльных змешаных хораў на словы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Для нас пішуць песні кампазітар Яўген Петрашэвіч і паэт Сяргей Бандарэнка. Гродзенскі мастак Леанід Баразна стварыў для ансамбля эскізы касцюмаў, паклаўшы ў аснову іх узоры прынёманскага народнага ткацтва і вышыўкі.

Ішоў час. Рос наш калектыў, павышалася майстэрства яго выканаўцаў. Улетку 1961 года ансамбль ужо меў даволі багатую і разнастайную праграму. Хор выконваў «Наш Нёман» Н. Сакалоўскага, народныя песні «Там, каля млына», «А ў цёмным лесе», песню Ю. Семянякі «Аб шчаслівай нашай долі», а таксама іншыя песні савецкіх кампазітараў і рускія народныя.

Вырасла майстэрства ўдзельнікаў харэаграфічнай групы. Усхвалявана і радасна сустракалі гледачы ў яе выкананні «Лявоніху» і «Мікіту», пастаўленыя па фальклорных запісах, а таксама рускія, літоўскія, польскія і венгерскія танцы.

Ззаду засталіся дзесяткі канцэртаў, сустрэч з гледачамі, напружаныя дні рэпетыцый, спрэчкі, пошукі, знаходкі. Неўзабаве ўдзельнікі ансамбля пачулі радасную вестку — калектыў запрашалі на канцэрты ў Беластоцкае ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі. Не буду гаварыць пра тое, з якой адказнасцю мы ўсе рыхталіся да гэтай паездкі, як цёпла сустракалі нас польскія гледачы. Скажу толькі, што гэта была цудоўная і незабыўная паездка да суседзяў і братоў. Калі мы вярталіся дамоў, нас чакала яшчэ адна радасць: нашаму калектыву было прысвоена званне «Народны ансамбль песні і танца «Нёман».

І зноў пачаліся дні рэпетыцый і новых пошукаў. Наперадзе — другая Дэкада самадзейнага мастацтва БССР. На заключным канцэрце ў Мінску мы выступалі ў складзе мастацкай самадзейнасці вобласці. Цяжкасць заключалася ў тым, што на працягу трыццаці мінут, якія нам адвялі, трэба было паказаць усё лепшае, што стварыў ансамбль за тры гады існавання. Мы звярнуліся да жанра музычна-харэаграфічнай кампазіцыі. Назвалі яе — «Прынёманскі край». Рыхтавалі праграму доўга і настойліва: выязджалі ў раёны і калгасы Прынямоння, знаёміліся з народнымі песнямі і танцамі, прыглядаліся да манеры іх выканання.

Усё пачутае і ўбачанае мы выкарысталі ў сваёй кампазіцыі. Песні і танцы, што выконваліся ў ёй, раскрываюць душу будаўніка камуністычнага грамадства, яго працоўны подзвіг, яго імкненне да міру.



Школьнікам прыйшоў у ансамбль Эдуард Арсюцін (справа). Цяпер ён — выпускнік музычна-педагагічнага вучылішча. Яго дыпломнай работай будуць падрыхтаваныя ім сцэна балю з оперы Чайкоўскага «Яўгені Анегін» і народная песня «Ты, чырвоная каліна...» Яму памагаюць педагогі вучылішча Сяргей Яргольскі і Анатоль Гяцэвіч.



У той дзень, калі рабіўся гэты здымак, мастацкаму кіраўніку ансамбля Адаму Сідаравічу Чопчыцу (у цэнтры) і хормайстру Антону Міхайлавічу Валынчыку (другі злева) былі прысвоены званні заслужаных дзеячоў культуры Беларускай ССР.

Удзельнікі ансамбля горача віншавалі сваіх кіраўнікоў.



Танцоўшчыца ансамбля Галя Даўгашэй — студэнтка медыцынскага інстытута.

Поспех кампазіцыі «Прынёманскі край» — у шчырасці і праўдзе выканання, бо нашы спевакі і танцоры — гэта людзі працы. Яны выступаюць на сцэне таму, што бязмежна любяць мастацтва



Загадчыца бібліятэкі школы гандлёвага вучнёўства Ніна Савіцкая — стараста танцавальнай групы ансамбля.

і глыбока верацъ у тое, пра што спяваюць. Цяпер у ансамблі больш ста ўдзельнікаў. Хочацца некалькі слоў сказаць пра тых, хто з'яўляецца ядром калектыву, яго душой. Гэта, перш за ўсё, старэйшыя ўдзельнікі хору чыгуначнік Васіль Жук, педагог Ірына Жыгора, медыкі Валянціна Елісеева і Галіна Сталярова.

Яшчэ будучы вучнем сёмай сярэдняй школы, прыйшоў да нас Эдуард Арсюцін. Цяпер ён — выпускнік Гродзенскага музычна-педагагічнага вучылішча. Яго дыпломная работа — сцэна балю з оперы Чайкоўскага «Яўгені Анегін» і народная песня «Ты, чырвоная каліна...»

Любоў да харавога мастацтва прывяла ў наш ансамбль, а пасля і ў музычнае вучылішча Надзею Чугаеву, Ліду Дзярбілаву, Андрэя Блажэеўскага. Усе яны паспяхова працуюць і вучацца. Андрэй Блажэеўскі—повар рэстарана, Ліда Дзярбілава — прадаўшчыца магазіна. Марыя Баярук працуе педагогам культасветвучылішча і вучыцца завочна ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Барыс Іванчук прыйшоў у ансамбль яшчэ калі вучыўся ў педінстытуце. Цяпер ён трэці год працуе завучам школы ў сяле Каменка, але не прапускае ніводнай рэпетыцыі.

Зоя Маёрава — удзельніца балетнай групы з 1959 года. Тады яна была рабочай літаграфіі, пасля будавала азотнатукавы камбінат. Яна — завочніца Ленінградскага інстытута савецкай культуры.

З першага дня існавання ансамбля яго ўдзельніцай з'яўляецца работніца фабрыкі мастацкіх вырабаў Ніна Кічко. На грамадскіх асновах яна арганізавала танцавальны гуртох і на сваёй фабрыцы.

Карацей кажучы, у ансамблі ёсць людзі розных спецыяльнасцей і ўзростаў. Тут і настаўнік Аляксей Мярцалаў, і следчы Аіда Смірнова, і шафёр Уладзімір Шушлакоў, і рабочы Аляксандр Завадскі. Усіх не пералічыш...

Сёлетняя восень — радасная пара ў жыцці нашага ансамбля. Нам выпала шчасце выступіць зімой на сцэне Крамлёўскага палаца. Вось чаму гэта была пара напружанай працы на карысць патрабавальнага слухача і гледача.

**Адам ЧОПЧЫЦ,**
**мастацкі кіраўнік Народнага ансамбля песні і танца «Нёман».**
**Фота А. Дзітлава.**



У кабінеце дырэктара Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача толькі што скончылася пасяджэнне мастацкага савета. Абмяркоўваліся эскізы дэкарацый і касцюмаў, вызначаліся выканаўцы роляў у новых спектаклях.

# ТЭАТР, ТЫ МНЕ ПАТРЭБНЫ

**Гутарка з заслужаным дзеячом мастацтва БССР Уладзімірам СТЭЛЬМАХАМ**

— Што вы мяркуеце паказаць сваім гледачам у новым сезоне? — з такім пытаннем звярнуўся я да дырэктара тэатра.

— Адкрываючы заслону нашай сцэны, — гаворыць Уладзімір Мацвеевіч, — мы хацелі, каб нашы спектаклі радавалі гледачоў, сеялі зерне добрага, прыгожага, вечнага... Але перш чым пачынаць гаворку пра нашы сённяшнія справы, хочацца сказаць некалькі слоў пра сёлетнія гастролі. Пачаліся яны ў калгасах, саўгасах і школах Міншчыны. Далей былі Адэса, Вільнюс, Рыга, Талін. І, нарэшце, Гомель. Цёпла сустракалі гледачы спектаклі «Клоп», «Над хвалямі Серабранкі», Папараць-кветку», «На граніцы», «Казачны домік». З выключным поспехам прайшоў 250-ы спектакль па п'есе І. Шамякіна «Не верце цішыні», на якім прысутнічалі земляки аўтара. Гастролі яшчэ больш звязалі нас з жыццём, працай, вучобай нашых юных і дарослых гледачоў.

І вось мы зноў у родным Мінску. Пачынаем свой дзевяты сезон...

Дзевяць год!.. Для чалавека — гэта яшчэ маленства, для творчага калектыву — той узрост, калі можна меркаваць аб яго творчай сталасці і самастойнасці, не робячы скідкі на маладосць. Таму кіраўніцтва тэатра вельмі сур'ёзна аднеслася да рэпертуару новага сезону. Пачалі мы яго спектаклем па п'есе У. Маякоўскага «Клоп». Першымі гледачамі былі студэнты. Адразу ж адбылася і прэм'ера — «Хлопчык з Гаваны». Гэты спектакль прысвечаны юным героям Кубы.

Побач з новымі спектаклямі, мы паказваем і будзем паказваць старыя спектаклі, якія вытрымалі выпрабаванне часам: «Папараць-кветка», «Над хвалямі Серабранкі», «Рэвізор», «Прыгоды Чыпаліна» і паэтычную казку «За лясамі дрымучымі», якая ў свой час з поспехам прайшла ў Маскве.

Цяпер калектыў адначасова працуе над двума спектаклямі: «Хлапчыш-Кібальчыш» і «Ганарліўка». Першы з іх ставіць народны артыст СССР Павел Сцяпанавіч Малчанаў. Гэта своеасаблівы дэбют выдатнага майстра сцэны ў ролі рэжысёра ў Тэатры юнага гледача. Другі спектакль рыхтуе заслужаная артыстка рэспублікі Лідзія Іванаўна Мазалеўская.

Чаму мы спыніліся на гэтых п'есах? Гайдараўскія вобразы ў «Хлапчышы-Кібальчышы» паслужаць выхаванню ў малодшых школьнікаў такіх выдатных якасцей, як мужнасць, самаадданасць, сумленнасць, любоў да Радзімы. Другая п'еса прысвечана жыццю і справам маладых рабочых, барацьбе з перажыткамі нядаўняга мінулага ў свядомасці моладзі. Хаця адзін з найбольш прывабных герояў гэтага твора гіне, уся п'еса прасякнута аптымізмам, сапраўднай верай у заўтрашні дзень.

З нецярплівасцю чакаем мы новай п'есы ад Віктара Розава. У прыватнай гутарцы ён паведаміў, што гэта зноў будзе п'еса на яго ўлюбёную тэму — пра нашу савецкую моладзь. Марым ажыццявіць на нашай сцэне пастаноўку вядомай п'есы Барыса Гарбатава «Юнацтва бацькоў».

Не забываем мы і класічную драматургію. Да 400-гадовага юбілею Шэкспіра калектыў рыхтуе «Два вяронцы». Шэкспіраўскія вобразы з'явяцца на сцэне беларускага Тэатра юнага гледача ўпершыню. На пастаноўку п'есы мы запрасілі з Масквы вядомага рэжысёра, знаўцу класічнай драматургіі народнага артыста БССР В. Фёдарава. Маем на мэце паставіць і «Даму-невідзімку» выдатнага іспанскага драматурга Кальдэрона. Сур'ёзна думаем над выбарам для пастаноўкі п'ес рускай класічнай драматургіі.

— А як справы з беларускай драматургіяй? Некалі ж тэатр славіўся сваімі сувязямі з драматургамі рэспублікі.

Зразумела, што кожны тэатр, разам з працай над п'есамі класікаў і драматургаў братніх рэспублік, стварае і свой нацыянальны рэпертуар. Работа з беларускімі драматургамі вызначыла творчае аблічча тэатра. Менавіта, нацыянальны рэпертуар тройчы забяспечваў нам паспяховыя выступленні ў Маскве! Аднак усё гэта ў мінулым... Па сутнасці, пасля спектакля «Над хвалямі Серабранкі» (а гэта было ўжо два гады назад) мы не стварылі ніводнай значнай пастаноўкі, якая ўзбагаціла б наш нацыянальны рэпертуар, стала б здабыткам для іншых тэатраў.

Хочацца верыць, што ў новым сезоне надыдзе новы ўздым творчай садружнасці тэатра з драматургамі. Зарукай гэтаму — вяртанне ў калектыў Любові Іванаўны Мазалеўскай, якая мае багаты вопыт работы з аўтарамі. Я не за тое, каб рэжысёры вадзілі драматурга, як кажуць, за ручку. Аднак мы павінны больш плённа працаваць з кожным аўтарам, які не проста прыносіць чарговы варыянт ці назву будучай п'есы, а хоча сказаць сваё гарачае слова пра нашага сучасніка.

Таварыш Л. Ф. Ільічоў у дакладзе на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС асабліва падкрэсліў выхаваўчую ролю станоўчага героя. Запаліць у маладых сэрцах імкненне да подзвігу, выхоўваць актыўную, дзейсную любоў да сваёй вялікай Радзімы, захапляць натхняючым прыкладам старэйшых пакаленняў могуць толькі творы, якія ярка раскрываюць высокую праўду нашага жыцця, героіку і рамантыку рэвалюцыйнай барацьбы савецкага народа за новае грамадства.

Высокая і пачэсная задача тэатра будзе выканана тады, калі лепшыя пачуцці гледача, яго спачуванне і сімпатыі будуць аддадзены чалавеку з вялікім сэрцам, сапраўднаму барацьбіту за новае жыццё. Нашы гледачы мараць аб такіх героях-сучасніках, якія былі б вартыя сваіх папярэднікаў: Карчагіна, Гадуна, Заслонава... Нам вельмі хочацца паказаць на сцэне вобраз беларускага героя-піянера Марата Казея. Над п'есай, прысвечанай яго подзвігу, працуе зараз пісьменнік Валянцін Зуб.

— Сама назва — тэатр юнага гледача — вызначае галоўнага вашага адрасата. Што вы можаце сказаць пра сувязі тэатра са школай?

— Даўно мы сябруем з школай-інтэрнатам № 1, сярэдняй школай № 2 у Мінску. Без удзелу выхаванцаў гэтых школ не выходзіць ні адзін спектакль. Вучні і педагогі часта прысутнічаюць на рэпе-

тыцыях. У сваю чаргу, без нас не абыходзіцца ні адзін вечар мастацкай самадзейнасці ў гэтых школах. Мы разумеем, што гэтага яшчэ мала. Мы павінны зрабіць усё, каб яшчэ больш наблізіць працу свайго калектыву да жыцця нашых гледачоў. З гэтай мэтай мы ўмацоўваем літаратурна-педагагічную частку тэатра. Уласна кажучы, ствараем яе нанова...

Я падзякаваў дырэктару тэатра за гутарку і хацеў ужо развітацца. Але тут Уладзімір Мацвеевіч узяў са стала кнігу з закладзенай старонкай.

— Гэта Луначарскі. Ёсць у яго выдатныя словы... Вось... «Рэвалюцыя сказала тэатру: тэатр, ты мне патрэбны... Ты мне патрэбны не для таго, каб я проста магла свежа пасмяяцца і «адвесці душу». Ты мне патрэбны як памочнік, як пражэктар»... Так, як пражэктар, што асвятляе нашым гледачам шлях у заўтрашні дзень.

**Артур ВОЛЬСКІ.**

# ЗНАХОДКА Ў ЧЫРВОНЫМ СЯЛЕ

Крэйду для цэментнага завода здабываюць у глыбокіх кар'ерах на ўскраіне Чырвонага Сяла. У даўнія часы грабарам траплялiся тут розныя цікавыя знаходкі. Імі зрэдку цікавіліся вучоныя. Гадоў сорак таму ваколіцы Чырвонага Сяла наведаў польскі археолаг Зыгмунт Шміт. Ён прыйшоў да вываду, што ў гэтых месцах старажытны чалавек капаў шахты і здабываў крэмень.

І вось летась у гарачы жнівеньскі дзень здарылася незвычайная падзея. Экскаватар раскапаў шахту, на дне якой ляжаў шкілет чалавека. Побач знаходзілася гліняная пасудзіна і вялікая касцяная іголка. Выклікалі археолагаў. Аўтару гэтых радкоў давялося ўдзельнічаць у археалагічных работах. Шахты Чырвонага Сяла, як выявілася, самыя старажытныя ў еўрапейскай частцы нашай краіны. Я глядзеў на сляды цяжкой працы старажытных людзей, і мне падумалася...

Сонца яшчэ не паднялося з-за лесу. На сухі бераг, вытаптаны звярамі, нячутна выбег воўк. Абтросся ад расы, прыпаў мордай да вады і падаўся назад у хмызняк.

Зубры прыйшлі на вадапой статкам, нічога не баючыся і не асцерагаючыся. Яны ды яшчэ туры—такія ж магутныя жывёлы з доўгімі вострымі рагамі — уладарылі ў гэтых лясах.

Зубры па чарзе заходзілі ў ваду, пілі спакойна і павольна. Ад лесу стаяў важак — рудая глыба з лабастай галавой на тоўстай шыі. Цела важака было ў рубцах, відаць, пасля многіх боек за самак і за першынство ў статку.

Крыху вышэй па цячэнню ў ваду ўбіліся дзікі. Свіння заўсёды была свіннёй — дзікі тапталіся ля берагу, падымаючы з дна іл і пясок. Зубр-важак злосна рыкнуў і рынуўся на дзікоў, але яго ўвагу прывабіла штосьці іншае. Ён прынюхаўся, раздзімаючы чорныя храпы. Пачуўся ціхі плёскат. З-за павароту рэкі выплылі два доўгія і вузкія чаўны. У чаўнах сядзела каля дзесятка мужчын, апранутых у белыя сарочкі і кароткія штаны з тоўстага палатна. Уся вопратка была багата вышыта каляровымі ніткамі. На шыях людзей — цэлыя нізкі пацерак.

Убачыўшы, што людзі пабраліся за каменныя тапары, дзіды і лукі, зубры, злосна рыкаючы, павалі пасунуліся ў лес. Цар лясоў саступаў месца цару зямлі — чалавеку.

Яшчэ некалькі ўзмахаў вёсламі, і чаўны мякка ткнуліся насамі ў пясок. Сівабароды чалавек, мусіць, добра ведаў гэтыя мясціны, бо смела вёў сваіх сяброў па лясной сцежцы. Таўшчэзныя грабы спляліся галлём з букамі і клёнамі, каштаны падымалі да сонца пышныя кроны, дубы свяціліся нейкім васкова-зялёным лісцем.

Хутка сцежка вывела на вышэйшае месца. Лес парадзеў, часцей пападаліся паляны, на якіх віднеліся кучы крэйды і бітага крэменю. На адной з такіх палян людзі спыніліся і, сабраўшыся вакол сівабародага, пачалі пра нешта раіцца.

Што гэта за людзі? Звернемся да старонак гісторыі. На пачатку другога тысячагоддзя да нашай эры на Панямонні гаспадарылі плямёны рыбакоў і паляўнічых. Іх невялікія паселішчы месціліся бліжэй да вады: у рэках было шмат рыбы, а ля балот і старыц гняздзіліся птушкі, вялася дробная дзічына.

Але неўзабаве ў паўднёва-ўсходняй Прыбалтыцы і паўночнай Беларусі з'явіліся чужыя мясцоваму насельніцтву плямёны, якія займаліся жывёлагадоўляй і земляробствам. Іх паселішчы былі на ўраджайных землях і ля паплавоў, дзе жывёла знаходзіла сабе добры корм. Акрамя лепленага посуду, які меў плоскае дно і арнамент пад венчыкам у выглядзе ёлачкі, жывёлаводы карысталіся своеасаблівымі тапарамі. Гэта былі каменныя шліфаваныя прылады з дзіркай пасярэдзіне, куды ўстаўлялася ручка. Такія тапары мелі незвычайную выгнутую форму, за што іх археолагі і назвалі лодкападобнымі. Імі нязручна карыстацца ў гаспадарцы, і таму мяркуюць, што яны з'яўляліся зброяй. Такія знаходкі сустракаюцца ў месцах пахавання жывёлаводаў часта: відаць, гэта быў ваяўнічы народ.

Тыя, што спыніліся на ўзгорку, і належалі да аднаго з гэтых плямёнаў. Паназіраем за імі далей.

Яны тут рашылі спыніцца не на адзін дзень, бо пачалі рабіць сабе жыллё: стрэшку на жэрдках — прытулак ноччу і ў дождж.

Стары пакінуў сваіх спадарожнікаў і падаўся на ўскрай паляны, дзе ля дрэва ляжала куча галля. Асцярожна разабраў ламачча. Адкрыўся ўваход у шахту шырынёй каля двух метраў. Даволі тоўсты ствол дрэва з каратка абсечанымі галінамі — нейкае падабенства лесвіцы. Стары паспрабаваў нагой сукі, ці не падгнілі, і злез уніз, на дно шахты. Гэта быў галоўны ўваход — яміна глыбінёй метраў шэсць. Ля дна ў сценках тырчалі крэмні. Гэта быў першы пласт.

Стары па вопыту, мусіць, ведаў, што праз які метр глыбей будзе яшчэ пласт крэменю, а там яшчэ. Трэба было дабрацца да трэцяга пласта і спачатку выбраць яго, выкопваючы па ходу бакавыя штрэкі — вузкія праходы даўжынёй каля трох і больш метраў. Пасля можна будзе ўзяцца за вышэйшы пласт, а пасля за самы верхні. Рабілася гэта, каб выкапаную крэйду не выцягваць увесь час наверх, а скідаць уніз і запаўняць ужо выкапаныя і непатрэбныя штрэкі, засыпаць дно шахты. Гэта значна аблягчала працу. Сівабародага так навучыў яго настаўнік, нябожчык Цвёрдарук — вялікі майстар і знаўца крэменю.

Гэту шахту пачалі капаць пад наглядам сівабародага яшчэ летась, але не закончылі. Каб зімой ад маразоў не патрэскаліся сценкі і каб шахту не засыпала снегам, яе закрылі зверху галлём. Клопаты былі не дарэмныя: стары з задавальненнем глядзеў увесну на моцныя, белыя, як снег, сценкі. Усё ў парадку — працу можна прадаўжаць.

Усе звалі старога Мудрам за ягоны розум, разважлівасць і вялікі жыццёвы вопыт. Мудр часта ўдзельнічаў разам з Цвёрдаруком у экспедыцыях за крэменем, прыглядаўся ўважліва да яго працы, а пасля яго смерці сам пачаў вадзіць



**Уваход у шахту.**

аднапляменнікаў у гэтыя мясціны і здабываць з імі крэмень.

Мудр, агледзеўшы шахту, вярнуўся да сваіх, якія ўжо канчалі будан.

Ён сеў воддаль на сухі выварацень, падставіў ногі сонцу — даваў знаць даўні раматус — і задумаўся. Шмат зім прайшло з таго часу, як іх дзяды, прыйшоўшы сюды, у жорсткай барацьбе з тубыльцамі занялі землі на гэтай рацэ і шахты. Крэмень здабывалі не толькі для сваіх патрэб. Нарыхтаваны сырэц выгадна збывалі іншым плямёнам на поўнач, дзе цякла вялікая рака Нёман. За крэмень атрымлівалі невялікія жоўтыя каменьчыкі бурштыну, з якіх мясцовыя майстры выраблялі цудоўныя ўпрыгожанні.

Скончылі будан, падсілкаваліся.

Мудр развязаў адзін з клункаў і раздаў таварышам прылады старажытных шахцёраў: кіркі, зробленыя з аленніх і ласіных рагоў. У адтуліны кірак былі ўстаноўлены моцныя ручкі. Дастаў Мудр з клунка і проста неапрацаваныя рогі: разгалістыя — аленнія і ласіныя, кароткія і вострыя — зубрыныя. У працы рогі часта ламаліся, і таму запас ніколі не шкодзіў.

Працавалі ў шахце па чарзе, бо галоўны ствол быў вузкі. Шахцёр разрыхляў рогам крэйдавае дно, пасля




Іголка.



Матыка, знойдзеная ў шахце.

зграбаў пароду ў моцны кошык, прывязаны да вяроўкі. Двое, што знаходзіліся наверсе, выцягвалі кошык і высыпалі крэйду. Капаць было не лёгка: крэйда зацвярдзела, што камень. Калі адзін шахцёр стамляўся, яго замяняў другі.

Астатніх мужчын Мудр пасылаў на паляванне. Пры цяжкай працы павінен быць добры харч. А што можа быць лепш за свежае мяса!..

Калі сонца схілілася за лес і на паляну ляглі фіялетавыя цені, працу скончылі. Шахту зноў агледзеў Мудр і астаўся задаволены — у глыбіню выбралі амаль на палову ягонага росту. Заўтра павінны дабрацца да крэменю, і тады можна будзе капаць убакі па пластах. У гэты час з лесу выйшлі паляўнічыя, якія неслі забітую казулю. Шахцёры ўзрадавана віталі іх і пачалі збіраць сухое ламачча для агню. Мудр патрусіў на дошчачку сухой травы, уставіў у ямку палку і доўга круціў яе. Трава задымела, успыхнула, засталося толькі падсунуць яе пад ламачча.

Казулю прывязалі да жэрдкі і падвесілі над агнём. Усе паселі вакол вогнішча, чакаючы, пакуль падсмажыцца мяса. У канцы вячэры ад казулі засталіся толькі рогі ды параскіданыя косткі.

Зверабой падняўся і заспяваў гімн жыццю і сонцу. Астатнія дружна падхапілі.

Паспяваўшы і яшчэ крыху пагутарыўшы паміж сабой, ляглі спаць. Пад дрэвамі стаіўся ўзброены юнак, прыслухоўваючыся да начной цішыні, хоць і былі разбіты мясцовыя плямёны паляўнічых і рыбакоў, якія раней валодалі гэтымі абшарамі. Лішняя перасцярога не шкодзіла, бо здаралася, што атрады тубыльцаў падкрадваліся з лясоў і нападалі на прышэльцаў.

Раніцай у шахце зноў пачалася работа.

Грак ямчэй прыставіў да крэйды рог і пачаў біць па ім тоўстай дубінай, заганяючы ў пароду. Стараўся Грак, біў моцна. Раптам рог наткнуўся на нешта вострае і зламаўся. «Крэмень»,— падумаў Грак. Узяў другі клін і стаў капаць асцярожней. Агаліўся белы кавалак пароды.

— Паклічце Мудра, — крыкнуў наверх, — скажыце, пайшоў крэмень.

У шахту спусціўся Мудр. Па размяшчэнню камянёў вызначыў, куды нахілен пласт, паказаў, у які бок капаць.

Праца пайшла весялей. На тварах заігралі ўсмешкі — не дарма стараліся. Нарэшце паднялі і першы крэмень. Гэта быў цяжкі камень, падобны на вялізную бульбіну даўжынёй ледзь не з метр. Мудр адкаціў яго ў цень, дастаў з клунка абойнік, моцны прадаўгаваты вышчарблены камень, і ўзяўся за працу. Навошта цягнуць у паселішча цэлыя камяні? Усё адно прыйшлося б нягодную частку выкінуць, і таму лепш зрабіць нарыхтоўкі тут. Стары некалькімі ўдарамі разбіў камень папалам, з любоўю пагладзіў маршчыністай рукой сіняваты злом. Колькі вось такіх крамянёў прайшло праз яго рукі! Пачаў разбіраць далей так, каб атрымоўваліся брускі, з іх потым можна будзе зрабіць тапорык або нават пусціць на продаж.

З наступным, меншым, каменем Мудр абышоўся інакш. Спачатку адбіў зверху: атрымалася роўная пляцоўка. Пасля ўдарамі па яе краях пачаў адбіваць шырокія і тоўстыя аскепкі. З іх можна рабіць скрабкі, скобелі, праколкі. Далей сталі атрымоўвацца доўгія і тонкія крыху выгнутыя пласцінкі. Калі берағ такой пласцінкі крыху зашчарбіць і прымацаваць да ручкі, то будзе нож. Гэтыя ж пласцінкі можна выкарыстаць і для сярпа.

Нарэшце ў руках Мудра асталося толькі ядро накшталт шматграннай піраміды. Археолагі называюць цяпер такую рэч нуклеусам, а месцы, дзе апрацоўваўся крэмень, краменнымі майстэрнямі. Такія майстэрні часта сустракаюцца пры раскопках на Росі, у Лідчыне на Гаўі ды ў іншых месцах Панямоння.

Праца кіпела. Усё новыя крамяні падымаліся з шахты. Зямля вакол Мудра была ўсыпана аскепкамі, а збоку расла горка нарыхтовак.

Так прайшоў дзень, другі.

Паўночны вецер гнаў хмары. Час ад часу зямлю сек дождж. Пахаладнела. Людзі сабраліся ў шахце. Тут было цёпла, гарэў сушняк на невялікім вогнішчы. Па сценах і столі танцавалі чорныя цені. Дым паволі падымаўся ўгару, да закрытага галлём уваходу. З вузкага ходу, пракапанага ў суседнюю шахту, цягнула свежым паветрам. У святле агню твары людзей здаваліся бронзавыя. Мужныя валявыя твары — кнігі жыцця... Гады нябачным разцом нанеслі на іх сетку маршчын, сонца і вятры залубянілі скуру і надалі ёй буры колер.

Сядзелі шахцёры, грэліся ля агню, а Мудр апавядаў ім старадаўнюю легенду пра бога Волса, які навучыў людзей гадаваць жывёлу.

...Востры боль пранізаў цела Кабана, і ён са стогнам, драпаючы пальцамі крэйду, апусціўся на дно шахты. Балела ў нізе жывата з правага боку. У Кабана гэта было не першы раз, але сёння боль быў асабліва нясцерпны. Цямнела ў вачах, млелі рукі і ногі, выступіў халодны пот. Кабан скурчыўся, прыціснуў рукі да балючага месца і толькі скрыгатаў зубамі.

Праца спынілася. Усе стоўпіліся ля хворага, імкнучыся як-небудзь памагчы. Мудр загадаў выцягнуць Кабана. Яго абвязалі вяроўкай і асцярожна пацягнулі наверх, палажылі ў будане на под-



Пасудзіна з шахтнага пахавання.

сцілку з сухой папараці. Людзі зноў вярнуліся ў шахту, а Мудр застаўся ля хворага. Ён схадзіў да ракі, нарваў ягад і лісця чаромхі, назбіраў траў, што памагалі ад жывата. Пасля распаліў агонь і паставіў на вуголле посуд з вадой. Калі вада закіпела, укінуў у кіпень ягады і травы, даў навару адстаяцца, замовіў ад злых духаў і паднёс хвораму.

Кабан дрыжачымі рукамі ўхапіў посуд, са смагай выпіў. Варыва з чаромхі абагрэла цела. Крыху палягчэла, але не надоўга. Боль зноў працяў хворага. Мудр з непакоем глядзеў на Кабана. Стары ведаў, што боль у гэтым месцы жывата бывае пры цяжкай хваробе, калі чалавек памірае.

Ноччу мала хто ў будане спаў, бо хворы стагнаў і ўскрыкваў, варочаўся з боку на бок. Пад раніцу заціх. Мудр прабраўся да яго, паклаў руку на лоб — ён быў мокры і халодны. Паслухаў сэрца — маўчыць...

Пахаваць нябожчыка рашылі ў старой закінутай шахце. Яго паклалі на правым баку, крыху падкурчыўшы ногі, — самая зручная поза для адпачынку, бо па ўяўленнях людзей тых часоў смерць была таямнічым сном. Адкрытыя вочы мерцвяка глядзелі на ўсход, адкуль кожную раніцу ўзыходзіла сонца. Разам з усходам сонца павінен быў ачуняць і Кабан, але ачуняць ужо

ў другім свеце, у казачнай краіне продкаў, якая падуладна Сонцу — богу жыцця.

Каб не прысталі ногі Кабана па дарозе ў краіну продкаў, у гліняным гаршчэчку паставілі ежу, а ля пояса паклалі касцяную іголку — будзе чым сплесці з канаплянага валакна сетку, каб лавіць рыбу.

Па знаку Мудра асцярожна засыпалі шахту. Потым стары падняў рукі ўгору і стаў прасіць Сонца прыняць нябожчыка.

Людзі стаялі ў цяжкім маўчанні. На іх тварах быў роздум, страх.

...Праз некалькі дзён атрад вяртаўся назад. Хоць і пацяжэлі чаўны, гружаныя крэменем, але мужчыны веславалі дружна, спяшаліся сустрэцца з сем'ямі. А найбольш спяшаўся малады Зубр, там чакала яго спакойная і ласкавая Рамона, з якой ён дамовіўся пабрацца ў тую летнюю святочную ноч, калі дзень становіцца роўны начы.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

# ПЯСНЯР СУЧАСНАСЦІ



**Да 50-годдзя з дня нараджэння мастака Ісака Давідовіча**

Цудоўны вясновы дзень. Ласкавыя праменні сонца зіхацяць на нядаўна пафарбаваных аканіцах. Светлы, нібы яго толькі што вымылі, ганак. Звычайная сялянская хата, зусім звычайны і кот, што вылез пагрэцца на сонейка. На ганак ступіла дзяўчына-паштальён. Гаспадыня ўбачыла яе — і стаіць, баіцца нават паварушыцца, чакае... Відаць, зараз яна атрымае ліст ад сына або дачкі. Дарослыя яе дзеці, магчыма, на новабудоўлі, магчыма, на цалінных землях... Але дзе б яны ні былі, сэрца маці заўсёды разам з імі. З цікаўнасцю сочыць яна за тым, як паштальён шукае ліст, маленькі хлопчык, відаць, унук гэтай жанчыны.

Маці... Яна ў цэнтры карціны вядомага беларускага мастака Ісака Давідовіча. Карціна сагрэта нейкай асаблівай цеплынёй, любоўю мастака да сваіх герояў. Працуючы над вобразам маці, Ісак Давідовіч ішоў ад жыцця, ад жыццёвай праўды, і гэта дало яму магчымасць стварыць псіхалагічна напоўнены, глыбокі вобраз і ў той жа час застацца непаўторным, своеасаблівым, верным свайму творчаму індывідуальнаму почырку. Мы разам з гераіняй карціны перажываем не толькі чаканне і радасць, але адчуваем нешта большае, што выходзіць за межы адной хвіліны, аднаго імгнення, якое адлюстраваў мастак. Кампазіцыя карціны вельмі натуральная, жыццёвая, лаканічная. Каб дамагчыся кампазіцыйнай стройнасці і натуральнасці, патрэбны настойлівыя і ўдумлівыя творчыя пошукі.

Шматгадовы творчы шлях мастака дае падставы ўмоўна вылучыць два галоўныя тэматычныя напрамкі ў яго творчасці. З аднаго боку, І. Давідовіча цікавіць гісторыка-рэвалюцыйная, гераічная тэма. Асабліва вылучаюцца карціны і графічныя работы, прысвечаныя вобразу заснавальніка камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы У. І. Леніна. З другога боку, мастак плённа працуе над жанравымі карцінамі, працягваючы лепшыя традыцыі рускага класічнага і сучаснага жывапісу.

Гераічная тэма знайшла сваё вырашэнне ў такіх палотнах І. Давідовіча, як «Курлоўскі расстрэл», «Аляксандр Неўскі», «Вялікі пачын» (У. І. Ленін на суботніку), у маляўнічых пано на тэмы опер «Іван Сусанін» і «Барыс Гадуноў». Карціна «Курлоўскі расстрэл» прысвечана падзеям, што адбываліся ў Мінску ў час рэвалюцыі 1905 года. Гэта — адна з першых буйных работ мастака. І. Давідовіч успамінае, што ў час работы над гэтым творам яму прыйшлося сустракацца з непасрэднымі ўдзельнікамі тых падзей, гутарыць з імі, наведаць разам з імі памятныя мясціны ў горадзе, прагледзець і перачытаць вялікую колькасць гістарычных дакументаў, каб лепш перадаць рэвалюцыйны дух эпохі.

Творчыя пошукі ў гісторыка-рэвалюцыйнай тэме арганічна прывялі мастака да стварэння вобраза Леніна. Карціна «Вялікі пачын», безумоўна, вельмі цікавы, праўдзівы твор, дзе вобраз Уладзіміра Ільіча раскрыты мастаком па-сучаснаму. Кампазіцыя карціны шматфігурная. Ленін удзельнічае ў адным з першых камуністычных суботнікаў у Крамлі. Ленін на гэтай карціне — разам з народам. На пярэднім плане разам з Ільічом — пажылы рабочы, чырвонаармеец, хлопец-падлетак. Мастак не ставіць фігуру Леніна ў цэнтры кампазіцыі, не аддзяляе яго ад усіх удзельнікаў гістарычнага суботніка. І ў той жа час адчуваецца, што перад намі — вобраз правадыра і настаўніка працоўных. Умела знойдзены каларыт карціны, размеркаванне святла і ценю. Цікавая знаходка, якая аб'ядноўвае і робіць цэласнай, стройнай усю кампазіцыю, — гэта дыялог паміж Леніным і падлеткам, які ўхапіўся за вельмі цяжкое бервяно. Так і адчуваеш, што вось-вось Уладзімір Ільіч скажа нешта вельмі трапнае, дасціпнае. Твор напісаны са шчырай душэўнай цеплынёй, сагрэты добрай, радаснай усмешкай.

Тую ж ідэю непарыўнай еднасці правадыра з народам І. Давідовіч развівае і ў графічных работах, прысвечаных вобразу Леніна. Сярод іх вылучаецца цікавая застаўка «Першае мая ў ссылцы» і афармленне да паэмы Анатоля Вялюгіна «Вецер з Волгі», асобныя фрагменты якога прыведзены на ўкладцы.

Чалавечая шчырасць, цеплыня і выключная праўдзівасць — гэтыя якасці нібы аб'ядноўваюць гісторыка-рэвалюцыйныя творы І. Давідовіча з яго работамі, выкананымі ў жанравым плане. У такіх карцінах, як «Раніца», «Наша будучае сяло», «Птушніца», «Ганчар», вельмі натуральная, уласцівая ўвогуле мастаку кампазіцыя, вобразы ўзяты з будзённага жыцця. Працуючы ў галіне кніжнай ілюстрацыі, І. Давідовіч застаецца верным тым жа прынцыпам рэалістычнага мастацтва. Варта прыгадаць сюжэтныя вокладкі, зробленыя мастаком у розныя гады да часопісаў «Бярозка» і «Работніца і сялянка», як лёгка пераканаешся, што перад табой не часопісныя вокладкі, а нібы рэпрадукцыі з вялікіх жанравых карцін. Сярод лепшых яго графічных работ вылучаюцца ілюстрацыі да кнігі М. Танка «Сярод лясоў Наднёманскіх», да рамана І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», да зборніка дзіцячых апавяданняў А. Талстога, да кнігі «Карэйскія казкі».

Цікавыя і акварэлі І. Давідовіча. Усе яны празрыстыя, глыбока лірычныя. Пачуццём вялікай радасці прасякнута акварэль «Свята». Яна светлая па каларыту, аптымістычная. У акварэлі «Цёплы дождж» мастак здолеў перадаць пачуццё вялікай любві да дзяцей. Акварэль «Аматар задворкаў» уся свеціцца іранічнай усмешкай. На ёй мы бачым дзівака-мастака, які спяшаецца намаляваць гарадскія ўскраіны, бо хутка іх не будзе: шпарка расце новы горад. Ісак Давідовіч натуральна падводзіць гледача да вываду: не трэба шкадаваць старое, яго «жывапіснасць» ужо мала каго цікавіць, бо побач — сапраўды прыгожае, новае, радаснае.

Ісак Давідовіч быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны. Вось чаму тэма абароны Радзімы займае асобнае месца ў творчасці мастака. Хвалююць і яго работы «У першыя дні», «Сын палка», «За Радзіму», «Партызаны на прывале», «Знянацку». І. Давідовіч дасягнуў глыбокай псіхалагічнай пераканальнасці ў раскрыцці вобразаў простых людзей, якія вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар вайны.

Памяць пра тых, хто загінуў у барацьбе за Радзіму, будзе вечна жыць у сэрцы народным — гэтую думку мастак раскрывае ў адной са сваіх апошніх работ — карціне «Вечны агонь». Карціна мае выразныя рысы манументальнасці, яна нагадвае фрэску. І гэта не выпадкова, бо мы ведаем І. Давідовіча і як аўтара многіх манументальна-дэкаратыўных роспісаў. Ім створана кампазіцыя на тэму з оперы «Дзяўчына з Палесся», выкананая ў фае тэатра оперы і балету ў Мінску. Разам з мастаком І. Ахрэмчыкам І. Давідовіч зрабіў роспісы ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача, у зале Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з заграніцай.

Пошукі ўдумлівага мастака-рэаліста вельмі ясныя і мэтанакіраваныя. І. Давідовіч усім сэрцам вітае палітыку камуністычнай партыі ў галіне літаратуры і мастацтва, бо яна цалкам супадае з яго творчымі планамі. Мастак неахвотна расказвае пра тое, над чым працуе цяпер, але мары свае не ўтойвае. У жанры кніжнай графікі яму хацелася б у бліжэйшы час папрацаваць над ілюстрацыямі да вялікага літаратурнага твора на сучасную тэму. Мастак марыць пра такі жанр, як манументальна-дэкаратыўны жывапіс. «Улічыце, — гаворыць І. Давідовіч, — што ў гэтага вельмі цяжкага і адказнага жанра самы масавы глядач, нават больш масавы, чым у кніжнай ілюстрацыі».

Ісак Давідовіч — у росквіце творчых сіл, ён увесь поўны энергіі ствараць новыя палотны, прысвечаныя нашым сучаснікам.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**









І. Давідовіч. Ілюстрацыі да паэмы Анатоля Вялюгіна «Вецер з Волгі».

Працавітасцю, добрымі арганізатарскімі здольнасцямі, высокім майстэрствам славіцца на будоўлі Гродзенскага азотнатукавага камбіната комплексная брыгада Уладзіміра Гнізы. Імя брыгадзіра стала пачэсным на будоўлі.

Фота А. Дзітлава.



Аляксандр ШЧАРБАКОЎ

# АРЛЯНЯТЫ

Нарыс

Мал. Г. Скамарохава.

Ліст знайшлі ў засценках гестапа. Яго напісаў невядомы вязень. Час — 1943 год. У лісце ёсць такія радкі: «Дзяўчыну прывезлі неяк зімой — называлі яе Зіна Пугачова — яе, як відаць, схапілі пры выкананні задання, прывезлі ў камеру, і яна сказала, што, як бы яе ні каталі, яна будзе, як Ленін. Яе замучылі — уночы памёрла, не сказаўшы ні слова...»

Хто яна, Зіна Пугачова?

Мы пакуль не ведаем пра яе нічога. Між іншым, ведаем. Ведаем, што яна была сапраўднай дачкой свайго народа. Ведаем, што яна горача любіла сваю Савецкую Радзіму, верыла ў яе. Мы ведаем яшчэ, што непераможная тая краіна, у якой ёсць такія дочкі і сыны. Іх мільёны, і ў цяжкі час яны, на вагаючыся, ідуць на выпрабаванні, на пакуты, на смерць і заўсёды, — гісторыя гэта пацвярджае, — заўсёды завяёўваюць перамогу.

* * *

У горад, знявечаны фашысцкімі бомбамі, ахоплены дымам і полымем, рынуліся танкі з чорнымі крыжамі па баках. За імі хлынуў шэра-зялёны паток варожых салдат, машын, фурманак...

28 чэрвеня 1941 года пачалася фашысцкая акупацыя Мінска.



Адгрымела і паступова заціхла перастрэлка. Але фронт не адышоў. Савецкія людзі, што засталіся ў горадзе, з першых жа дзён няволі сталі байцамі пярэдняга краю. Змаганне выпала цяжкае. Надта ж няроўныя аказаліся сілы. Нямецкі гарнізон налічваў да пяці тысяч салдат і афіцэраў. Апрача таго, у горадзе размяшчаліся армейскія рэзервы, штаб корпуса аховы тылу, групы войск «Цэнтр», штаб і войскі карнага корпуса «СС», упраўленне «СД», палявой паліцыі, германскага разведчага органа «ОКВ». Пад іх крылом прытуліліся генеральны камісарыят Беларусі на чале з крывавым катам Вільгельмам Кубэ, гебітскамісарыят, гарадскі камісарыят.

Так, сілы былі няроўныя. Але патрыёты смела кінулі выклік ворагу. Палалі нямецкія казармы, ляцелі пад адхон варожыя эшалоны, без следу знікалі салдаты фюрара, з'яўляліся лістоўкі, якія клікалі да змагання.

Вораг жорстка чыніў расправу над непакорным горадам. Але ні расстрэлы, ні шыбеніцы, ні лагеры смерці, ні катаванні ў засценках гестапа, — нішто не памагала. Народ усімі сродкамі знішчаў «новы парадак». Сам Альфрэд Розенберг, «спецыяліст» па Усходу, вымушаны быў прызнаць, што «...у выніку 23-гадовага панавання бальшавікоў насельніцтва Беларусі ў такой меры заражана бальшавіцкім светапоглядам, што для мясцовага самакіравання няма ні арганізацыйных, ні персанальных умоў... Пазітыўных элементаў, на якіх можна было б абаперціся, у Беларусі не выяўлена».

Затое вакол Савецкай улады, якая засталася нябачнай гаспадыняй горада, «пазітыўных элементаў» групавалася ўсё больш і больш. Сярод іх была камсамольская гвардыя. Мікола Кедышка і Сяргей Благаразумаў, Захар Гала і Галіна Сасіна, Георгі Фалевіч і Міхаіл Кніжнікаў, Аляксандр Вялюжын і Анатоль Ляўкоў, Ларыса і Мікалай Мацюшкі, Паліна Кудраўцава і Віктар Аўчароў, Леанід Яраш, — гэта толькі нямногія з той слаўнай кагорты арлянят, што памагалі падпольшчыкам-камуністам здабываць у тылу ворага нашу перамогу.

Пра маладых падпольшчыкаў Мінска і напісаны гэты нарыс. У аснову яго пакладзены дакументы, расказы ўдзельнікаў і сведкаў гераічнага змагання.

## СЭРЦА СТУКАЕ: У БОЙ, У БОЙ!

Лісток у блакітную клетачку. На ім хімічным алоўкам накідана:

«Нарадзіўся ў 1923 годзе ў сям'і рабочых. Бацька — майстар мясакамбіната. У 1937 годзе скончыў 6 класаў і паступіў у прафесіянальную школу, якую закончыў у 1939 годзе. Выпушчаны інструктарам-будаўніком. У 1938 годзе ўступіў у ВЛКСМ. У перыяд акупацыі прыстроіўся на хлебазавод-аўтамат. З 1943 года сувязны падпольнага гаркома камсамола, інструктар трох падпольных груп, створаных мною асабіста». І подпіс — Мікола Кедышка.

Вось і ўсё, што ён сам паспеў сказаць пра сябе, і што захавалася ў архівах. А вось што дадае да гэтага яшчэ адзін дакумент ваеннага часу:

«Андруша». Кіраўнік М. Кедышка. Гэта група з'явілася асяродкам некалькіх груп і аб'ядноўвала да 300 чалавек... Штаб змяшчаўся на вуліцы Магілёўскай, 56-а, кв. 2, дзе жыла сям'я Аўчаровых. У падвале была арганізавана друкарня, стаялі чатыры пішучыя машынкі, радыёпрыёмнік, склад боепрыпасаў, зброі...

Дзеянні. Далёка не поўная справаздача аб дзейнасці групы «Андруша».

1. На хлебазаводзе «Аўтамат» праведзен рад дыверсій, выканаўца М. Кедышка. Некалькі разоў псаваўся механізм канвеера для хлеба, электраматоры цестамяшалкі. Увогуле, выпечка хлеба затрымалася на 90 дзён.

Там жа, у гаражы, спалены тры аўтамашыны.

2. У авіямайстэрні 14 ліпеня 1943 года Барыс Кедышка вывеў са строю такарны станок па абточцы шатуноў.

3. Перапраўлена ў партызанскі атрад больш трох аўтамашын зброі і каля 90 чалавек.
4. У кастрычніку баявой групай у складзе М. Кедышкі, Л. Яраша (Чыж), Дамброўскага, Міхневіча і Галавацкага на Маскоўскай шашы была закідана гранатамі аўтамашына. Дыверсія праводзілася ўночы. Шафёра забілі, захапілі ўсё, што знаходзілася ў машыне. У тым жа месяцы закідалі гранатамі легкавую машыну. Усе тры афіцэры былі забіты.
5. Зроблены тэрарыстычныя акты на Галантарэйнай вуліцы (забіты два немцы) і на вуліцы Дабралюбава (забіты агент «СД»), выканалі Чыж і Дамброўскі.
6. Была праведзена дыверсія на электрастанцыі № 1. Узарвана англійская турбіна. Падарваў Тарлецкі з дапамогай інжынера Ваўчка. Абодва схоплены. Ваўчка павесілі, а Тарлецкага расстралялі.
7. У пачатку кастрычніка 43 года была падкладзена міна пад вагон у раёне Магілёўскай вуліцы (з замаруджаннем). Міна выбухнула ў раёне таварнай станцыі. Выканаўцы Кедышка, Дамброўскі, Яраш.
8. У раёне ваенных могілак у розны час былі забіты тры немцы. Выканаўца — М. Кедышка.
9. Арганізацыя займалася распаўсюджваннем літаратуры, зводак, зваротаў, карыкатур, антыфашысцкіх анекдотаў. Адказны Віктар Аўчароў. У яго распараджэнні знаходзілася 6 таварышаў. Групу па здабычы зброі ўзначальваў Яраш. Ён жа з Дамброўскім узначальваў тэрарыстычную групу. Па няпоўных падліках, яны знішчылі звыш 50 немцаў і здраднікаў. Раён вуліц Даўгабродскай, Правіянцкай, Вайсковай, Бранявой, Гарэлага пасёлка, Камароўкі быў ноччу і вечарам забароненай зонай для немцаў...
Звычайная для дакументаў лаканічнасць. А як хочацца і як трэба «расшыфраваць» і лаканічны дакумент, і скупыя радкі лістка ў клетачку.
...На Антонаўскай і суседніх з ёю вуліцах Мікалая Кедышку называлі «Атаман Кеда» Ён, і на самай справе, быў атаманам, завадатарам, душой ўсіх хлапчукоўскіх забаў і выдумак. Ён захапляюча расказваў аб прачытаных кнігах і лепш за ўсіх гуляў у футбол; ён ведаў больш за ўсіх песень і ахвотна гуляў з малымі; за палётам яго галубоў сачылі самыя заўзятыя галубятнікі; дзяўчынкі не зводзілі з яго вачэй, калі ён браў у рукі гітару...
Бег час. Гарталіся, здавалася, бясконцыя старонкі бесклапотнага дзяцінства.
Аднак Міколава дзяцінства скончылася рана. Куды раней, чым у яго аднагодкаў. Памёр бацька. У маці засталося пяцёра, адно пад адным, і Мікола сярод іх старэйшы.
— Пайду на работу, — сказаў Мікола маці, стараючыся быць дарослым, — потым давучуся...
Вера Паўлаўна кіўнула галавой і адвярнулася. Яна разумела, як цяжка будзе сыну кінуць школу, але не сумнявалася, што ён зробіць так.
З прафесіяй Мікола асвойтаўся хутка. Яго першая палучка стала святам у доме. Узбуджаны, ён аддаваў падарункі маці і сёстрам і весела гаварыў:
— Ну, вось і я — будучы інжынер, а сённяшні будаўнік. З гэтага выпадку прапаную вячэру на восем персон. Супраць няма? Хто ўстрымаўся? Тады бягу ў магазін!..
Раніцаю Мікола імчаўся на веласіпедзе на будоўлю. Ён любіў яе, шумлівую, з своеасаблівымі пахамі і грубаватымі жартамі сталых будаўнікоў; любіў, узбіраючыся на рыштаванні, глядзець на горад, умеў радавацца разам з людзьмі, якія атрымлівалі ключы ад новых кватэр.
Вайна застала Міколу на будаўнічай пляцоўцы Акадэміі навук БССР. На горад ужо сыпаліся бомбы, а ён усё яшчэ быў на рыштаваннях.
Дадому вярнуўся ўчарнелы, перакусіў і пабег на вуліцу. Ляпнуўшы веснічкамі, кінуў маці:
— Трэба памагчы людзям тушыць пажар!..
І памчаўся.
Праз некалькі дзён у горад прыйшлі ворагі.
Раней яны жылі толькі ў кнігах, у кінафільмах, у Міколавым уяўленні. Спачатку яны ўвасабляліся ў слове «белыя», і часцей за ўсё тады ўзні-





калі кадры кавалерыйскіх атак з «Чапаева». Потым у памяць запала другое слова — «фашысты». Прыгадваліся кадры з кінахронікі пра далёкую Іспанію, расказы пра адважнага нямецкага камуніста Эрнста Тэльмана, якога фашысты кінулі ў турму за тое, што ён узнімаў нямецкіх рабочых на барацьбу супраць Гітлера. Мікола чуў і чытаў пра тое, як лютавалі фашысты ў Польшчы і іншых краінах Еўропы.
Цяпер фашысты хадзілі па вуліцах яго роднага горада. Міколу больш за ўсё ўзрушыла нейкае механічнае раўнадушша, з якім яны рабілі злачынствы: дабівалі параненых палонных, расстрэльвалі яўрэяў, рабавалі кватэры. Ужо за гэта адно можна было знелюбіць іх.
Дзёрзкі, адважны, гарэзны, «атаман Кеда» зноў з'явіўся на Антонаўскай вуліцы. Вакол яго хутка сабралася група хлапчукоў. З'явіліся і новыя сябры — Ядзя Берасневіч, Ліда Скуратовіч, чырвонаармеец Герман, які ўцёк з палону. Пачалі з таго, што прыладзілі ў склепе радыёпрыёмнік, і ён расказваў ім пра фронт, пра жыццё на «Вялікай зямлі». Стварылі падпольнае «прэс-бюро» і ў кароткіх лістоўках разносілі здабытыя весткі па горадзе. Спачатку лістоўкі пісалі ад рукі, потым Ядзя Берасневіч дастала недзе пішучую машынку. Тыраж лістовак адразу вырас. Але Міколу гэта не задавальняла, ён ірваўся да большага. А як? Трэба намацаць ніці, якія вядуць да людзей, што працуюць у падполлі. А што такія людзі ёсць, Мікола не сумняваўся.
Ужо і ў цэнтры і на ўскраінах нехта расклейваў лістоўкі, якія клікалі да змагання, нехта памагаў палонным уцячы з лагераў, нехта парушаў сувязь, псаваў машыны, выкрадаў штабныя дакументы. Гэтыя «нехта» і былі патрэбны Міколу. Ён імкнуўся знайсці іх.
Каб атрымаць нямецкі пропуск (аўсвайс) і не трапіць на паднявольную працу ў Германію, Міколу давялося пайсці на работу. Ён наняўся малярам на будоўлю непадалёку ад чыгункі. Там дачуўся, што чыгуначнікі збіраюць сілы для змагання, і неўзабаве завёў знаёмствы на станцыі, у паравозным дэпо і на заводзе імя Мяснікова. На першым часе гэтыя знаёмствы яго расчаравалі. Яму гаварылі: падбірай надзейных таварышаў, запасай больш зброі, а там прыйдзе час — атрымаеш заданне.
Зброя... Дзе яе здабыць? За горадам? Але паспрабуй яе прынесці адтуль...
Мікола доўга думаў, пакуль у галаву не прыйшла думка завербаваць каго-небудзь з аружэйнікаў, што працуюць у нямецкай майстэрні. Яна

была побач. Мікола падзяліўся гэтай думкай з сябрамі. Тыя паціснулі плячыма. Каго? Як?

— А калі таго паляка, што прыходзіць да нашай бабулі па малако?

— А раптам выдасць?

Мікола з тыдзень прыглядаўся да Конрада Вайнера, а потым сказаў прама:

— Слухай, Конрад, мне патрэбна зброя!

Той памаўчаў, потым выпаліў:

— Колькі?

— Многа!

Конрад усміхнуўся.

— Добры апетыт маеш... Зайздрошчу... Дык вось, многа не абяцаю... А ўвогуле, паглядзім...

Праз два дні на гарышчы ўжо было схавана некалькі вінтовак і тры пісталеты. Арсенал стаў расці, калі Конраду ўдалося прыстроіць у майстэрню Міколавага брата Барыса. Цяпер зброю насілі «ў чатыры рукі».

Мікола ўзрадаваўся. Але ненадоўга. Яго ўжо непакоілі нейкія новыя клопаты. Усё часцей ён затрымліваўся ў горадзе пасля работы, а аднойчы, вярнуўшыся позна, паклікаў старэйшую сястру.

— Надзя, ёсць даручэнне, — ціха сказаў Мікола, — трэба выбрацца з горада, наладзіць сувязь з партызанамі. Спадзяюся, што ты ўсё зробіш. Хлопцам цяжэй, а ты праскочыш... Не адкладвай, ідзі заўтра. З мамай я перагавару, яна зразумее!..

Надзя згадзілася. Вярнулася праз некалькі дзён. Змораная, схуднелая, але трымалася бадзёра.

— Не сёння-заўтра чакай сувязнога, — радасна паведаміла яна. — З атрада імя Фрунзе. А пакуль што перадалі прывітанне, пажадалі поспеху, і ўсё такое!..

Мікола запляскаў у далоні, зацягнуў сваю любімую песню.

...Увечары ў акупіраваным горадзе ўсе дамы маўклівыя, чорныя. Але гэта толькі так здаецца. У адным доме пуста, а ў другім — за шчыльна завешанымі вокнамі гарыць святло, цеплыня, ёсць чалавечае жыццё, з няспынным бегам меншых і большых клопатаў.

У змрочныя дні акупацыі ў адных людзей апускаліся рукі, горбіліся спіны. Такія жылі па самаму прыземленаму прынцыпу: што будзе, то і будзе. У другіх абуджаліся сілы, каб кінуць выклік ворагу, але баязлівасць увесь час пыталася: а чаму іменна ты павінен ісці? Ідуць жа не ўсе. Навошта ж спяшацца? Трэція нават не дапускалі думкі, што ў такую цяжкую хвіліну можна сядзець склаўшы рукі.

Мікалай належаў да тых, хто не мог спакойна глядзець на чужынцаў. Усе, хто быў каля яго, здзіўляліся яго бадзёрасці і энергіі. Раніцай Мікола заўсёды корпаўся на папялішчы, дзе згарэў родны дом, а потым ехаў ці ішоў на «казённую» работу, адтуль спяшаўся на явачныя кватэры, на сустрэчы... Трэба было пабачыцца з Лідай Скуратовіч, дамовіцца пра медыкаменты для партызан, забегчы да Германа, перадаць для рамонту пісталеты, якія здабылі сябры-чыгуначнікі, наведаць цётку Маню — яе муж прынёс з гарадской управы нейкія карысныя для падпольшчыкаў звесткі, а потым збегаць на Старажоўку да хлопцаў...

Мікола ўжо звыкся з такім жыццём. У яго было жаданне ўвесь час прыспешваць падзеі. Ён прывык да небяспекі, якая заўсёды чакала яго пры кожнай сустрэчы з ворагамі. Спачатку здавалася неяк дзіўна, што ты амаль безабаронны (хоць маленькі браўнінг быў заўсёды ў кішэні) перад гэтымі вылюдкамі, але паступова Мікола прывучыў сябе не губляцца нават у самых складаных абставінах. А такія абставіны ўзнікалі ледзь не кожны дзень.

Учора надвячоркам ішоў з Лідай па вуліцы. Гучна размаўлялі, смяяліся і раптам на рагу вуліц сутыкнуліся з двума гітлераўцамі. Хацелі прайсці міма, але адзін крыкнуў: «Хальт!»

Мікола дастаў з кішэні пропуск:

— Бітэ...



Пакуль гэты круціў у руках пропуск, другі ўважліва разглядаў дзяўчыну, потым ухмыльнуўся і падміргнуў Міколу:

— Паненка? Гут... Карашо...

І тут жа ўзяў з рук напарніка пропуск, аддаў Лідзе і махнуў рукой: ідзіце.

Прайшлі ўжо некалькі кварталаў, а «паненка» ніяк не магла апамятацца: у яе ж сумачцы ляжалі міны...

...1942 год быў вельмі цяжкі для мінскіх падпольшчыкаў. У маі з дапамогай правакатара гітлераўцам удалося арыштаваць кіраўнікоў і многіх радавых удзельнікаў падполля. На шыбеніцах у засценках загінулі сотні людзей. Кіруючы цэнтр мабілізуе новыя сілы для арганізацыі адпору акупантам. У верасні зноў страшэнны ўдар, зноў арышты... І зноў падполле выстаяла, хутка папоўнілася новымі байцамі, ні на хвіліну не спыняла барацьбы.

Падрос, узмужнеў за гэтыя месяцы «атаман Кеда». Ні на адзін дзень, нават у самыя цяжкія моманты, ён не спыняў падпольнай работы, клапаціўся пра выпуск лістовак, вадзіў хлопцаў на дыверсіі. Часцей за ўсё яго бачылі на Магілёўскай вуліцы, дзе ў доміку з чырвонымі аканіцамі жылі Аўчаровы.

Гаспадыня дома — партызанка грамадзянскай вайны Акуліна Аляксееўна — правяла мужа на фронт, старэйшага сына ў партызаны, а сама, застаўшыся з меншым сынам Віктарам, аддала сваю кватэру ў поўнае распараджэнне падпольшчыкам. У падвале на чатырох пішучых машынках друкаваліся лістоўкі, тэксты якіх часцей за ўсё складаў «начштаба» Віктар; там жа, у падвале, стаяў радыёпрыёмнік, які прыносіў поўнае надзей слова Масквы. У Аўчаровых хавалася зброя і літаратура. Тут збіраліся хлопцы і дзяўчаты з Серабранкі, Старажоўкі, са Студэнцкай і Тыфліскай, каб даць справаздачу пра выкананыя заданні і атрымаць новыя, забраць свежыя лістоўкі, расказаць навіны і проста каб адпачыць за шчырай гутаркай, памарыць пра будучыню, паспяваць песні.

Мікола, заўсёды бадзёры, вясёлы, жыва цікавіўся ўсімі размовамі, быў арбітрам у самых гарачых спрэчках. Ён ніколі не камандаваў, не навязваў сваёй волі, але яго заўсёды слухалі і вельмі рэдка пярэчылі: за ім ішлі, яму верылі, яго любілі. А заваявана гэта ўсё было мужнасцю, тактычнасцю, уменнем згуртаваць людзей і павесці іх за сабой, заўсёднай гатоўнасцю да самаахвяравання.

Такому аўтарытэту, які быў у Міколы, мог пазайздросціць кожны.

У адзін з зімовых вечароў Мікола, яшчэ не паспеўшы распрануцца, расказаў навіну: пад Мінскам пачаў дзейнічаць падпольны гарком камсамола, і ён наладжвае сувязі з усімі камсамольцамі-падпольшчыкамі, якія аб'яднаны і не аб'яднаны ў групы.

— Цяпер справы пойдуць весялей... — сказаў ён, паціраючы рукі.

І справы сапраўды пайшлі весялей. Асабліва ў пачатку сорак трэцяга года, калі ў Беларусь дайшлі весткі аб разгроме гітлераўскіх орд ля волжскай цвярдыні, аб імклівым наступленні Савецкай Арміі на Паўночным Каўказе, на Доне. Над параненай краінай узыходзіла сонца Перамогі.

У падначаленне гаркома камсамола ўвайшлі групы, створаныя Міколам Кедышкам. Ён стаў членам гаркома і кіраўніком вялікай арганізацыі «Андруша». Нарадзіліся яшчэ больш смелыя планы. Першачарговай задачай зноў стала згуртаванне новых сіл.

...Лямпа без шкла ледзь свеціць. Маленькі язычок полымя ўвесь час падскоквае, гойдаюцца на сцяне цёмныя постаці-цені. Ля стала моўчкі сядзіць некалькі хлопцаў.

— Вось бачыце, — Мікола ківае ў бок газоўкі. — Слабае святло нават без ветру калышацца. А з моцным і вецер не справіцца, наадварот, яшчэ ярчэй яго раздзімае. Так і людзі. Слабыя не вытрымліваюць нават невялікага выпрабавання, а моцных нішто не запалохае, барацьба іх толькі загартоўвае. Да чаго гэта я ўсё? А вось да чаго. Я прыйшоў да вас, бо ведаю, што вы хлопцы надзейныя і смеласці вам не пазычаць...

Два Леаніды — Дамброўскі і Яраш, Аўгуст Галавацкі, Анатоль Тарлецкі слухалі, гледзячы на Міколу, і не пазнавалі яго, нібы ён, і не ён.

Вельмі ўжо нейкі сур'ёзны стаў. Ад таго хлапчука, што заўсёды браў верх у гульнях, амаль нічога не засталося. Доўга яны не бачыліся з Міколам.

Ужо глыбокая ноч, даўно скончыўся каменданцкі час, а хлопцы ўсё гавораць з Міколам. Справа, якую прапаноўваў «атаман Кеда», спадабалася ўсім новым сябрам з Камароўкі.

— А калі так, — Мікола ўстаў і прайшоўся па пакоі, — мы прымаем вас у нашу арганізацыю «Андруша». Адразу дамовімся, хто будзе што рабіць...

Назаўтра Аўгуст Галавацкі, які працаваў грузчыкам у друкарні, прыцягнуў дадому добры стос паперы. Перапраўлі яе «начальніку штаба» Віктару Аўчарову. Як і дамовіліся, хлопцы адпраўляюцца ў раён ваенных могілак «паляваць» на фрыцаў. Анатоль Тарлецкі задумаў буйную дыверсію на электрастанцыі.

Як вынік таго, што хлопцы з Камароўкі пачалі дзейнічаць, у раёне ваенных могілак усё часцей наладжваліся аблавы, строгія праверкі. Загад нямецкага камандавання забараняў сваім вайскоўцам вечарам паяўляцца на Даўгабродскай, Галантарэйнай, Правіянцкай вуліцах. Загад быў сакрэтны, але падпольшчыкі пра яго даведаліся. Мікола радаваўся:

— Баяцца! Баяцца! Значыць, адчуваюць нашу сілу.

І тут жа станавіўся сур'ёзны:

— Дарэчы, хлопцы, давайце параімся. Тэрмінова патрэбна нямецкая форма.

— Я арганізую, — тут жа выказаў згоду Лёня Дамброўскі. — Рушым заўтра ў 19-ю школу, знойдзем мундзір не горшы, чым у фюрара...

У школе — амаль насупраць дома, дзе жылі Дамброўскія — размяшчаўся нямецкі склад. Лёня і яго сябар Валодзя Трушко працавалі на складзе. Аднойчы, як дамовіліся, Лёня «забыўся» зачыніць акно, і ноччу хлопцы прабраліся ў склад. Двое засталіся ля акна, а Лёня скокнуў у пакой, дзе ляжала абмундзіраванне. Праз хвілін сорак аперацыя закончылася.

...У трамвай, дзе ездзілі толькі акупанты і іх паслугачы, ускочыў малады танклявы ўнцер-афіцэр у авіяцыйнай форме. Было людна, і на яго ніхто не звярнуў увагі. Праз два прыпынкі ён саскочыў і, не спяшаючыся, накіраваўся ў завулак. А яшчэ праз два прыпынкі вагон ад выбуху перакуліўся.

Гітлераўскія сышчыкі, успомніўшы пра ўнцера ў форме лётчыка, ператрэслі ўсе казармы, дзе кватаравалі авіятары, але нічога не знайшлі. А той «авіятар», якога шукалі, ужо зняў мундзір і ў палінялай футболцы насіў з калонкі ваду: маці збіралася мыць бялізну.

На другі дзень «авіятар» наведаў кінатэатр. Пад выглядам таго, што карціна, пэўна, не спадабалася, ён пайшоў з паловы сеанса. А калі запалілася святло, у зале пачуўся выбух. Гестапаўцы зноў шнырылі па казармах, але без выніку.

Ды бяда ўсё ж прыйшла ў домік на Антонаўскую вуліцу. Жнівеньскай ноччу ў дзверы загрукалі кулакамі і прыкладамі вінтовак.

— Адчыняйце, паліцыя...

Тры паліцэйскія ўварваліся ў дом і ўсім загадалі выйсці на двор. Старшы павярнуўся да Міколы:

— Пойдзеш з намі...

— Як жа я пайду ў адной сарочцы, — прагаварыў Мікола. — Дазвольце хоць апрануцца.

— Ідзі, толькі мігам!

«Міг» цягнуўся доўга. Разявакі-паліцэйскія зразумелі, што ўпусцілі таго, па каго прыйшлі. Кінуліся ў дом. Акно на гарод адкрыта, а Міколаў і след прастыў. Раз'ятраныя паліцэйскія пачалі збіваць Міколаву маці і яго брата Барыса. Арыштавалі іх, а таксама сясцёр Надзю і Любу. Дзядулю, бабулю, а таксама маленькую Галачку пакінулі. Напэўна, для «прыманкі». Але Мікола не клюнуў. Праўда, аднойчы ён прыбягаў уночы пабачыцца з імі. А потым дазнаўся, што Барыс збег з лагера, а дзеда з бабуляй фашысты арыштавалі. Галю ж нейкі немец забраў з сабою.

«Усё роўна Галачку вам не аддамо, гады! — скрыгатаў зубамі Мікола. — Усё роўна знайду, куды б вы яе ні схавалі!..»



Аказалася, што Галя была ў дзіцячым доме на Шырокай вуліцы. Увечары да загадчыцы дзетдома прыйшлі два немцы. Адзін малы, чарнявы, хоць і дрэнна, але гаварыў па-руску, другі, доўгі, шэравокі, злосна чыркаў чарнавокаму па-нямецку. Малы перакладаў загадчыцы:

— Галья... К'едышк... Допыт... Ты павінен нам узяць... Ферштэйн?..

Загадчыца заківала галавой і паслала па дзяўчынку. А Галя, прытаіўшыся, слухала размову за дзвярыма. У яе аж заходзілася сэрца. Яна толькі што бачыла доўгага немца пад вокнамі і ўспамінала таго, што прывёз яе сюды. Галя падумала: няўжо гэта па яе, значыць, павязуць куды-небудзь і, напэўна, будуць біць, як білі маму, Барыса, Надзю. За дзвярыма назвалі яе прозвішча. Сціснуўшыся ад жаху, Галя выйшла і ўбачыла на парозе... Лёньку Яраша! Не можа быць! Лёнька ў нямецкай форме... Але ж гэта ён. Колькі разоў ён прыходзіў да іх на Антонаўскую вуліцу. У гэты час нечы знаёмы голас крыкнуў:

— Шнэль! Шнэль!

З-за дзвярэй паказаўся Мікола і таксама чамусьці ў нямецкай форме. Дык гэта ж ён хадзіў пад вокнамі! Галя дрэнна разумела, што адбываецца, але здагадалася: калі брат загадвае, значыць так і трэба. І яна пакорліва пайшла ўслед за «немцамі».

Пераначавала ў цёткі Марылі. А праз два дні прыехала сувязная і адвезла Галю ў партызанскі атрад.

Хутка ў Жукаўку наведаўся і Мікола. У падпольным гаркоме камсамола ўжо ведалі пра арышт Міколавай сям'і і прапанавалі:

— Заставайся. Папрацуеш тут, у гаркоме...

Мікола загарачыўся:

— А людзі? Наша армія ўжо ля Беларусі. Самае што баі пачынаюцца, а хлопцы без справы застаюцца! А за сям'ю хто будзе помсціць? Не, маё месца ў горадзе. А што небяспечна, дык мне не прывыкаць, усяго ўжо было...

Раніцай, як і надумаўся, Мікола пайшоў з Жукаўкі ў Мінск.

Жыццё ў горадзе стала цяпер куды больш складанае, чым раней. У доміку на Антонаўскай пасяліўся паліцэйскі, і трэба было шукаць прыпынку ў каго-небудзь з сяброў, прычым, на адну-дзве ночы — інакш маглі «засекчы». І Мікола ўвесь час мяняў кватэру. Змарыўся. Схуднеў. Але быў, як і раней, бадзёры. Амаль што ўсё задуманае здзяйснялася. А задумы былі вялікія. Заданне паступала адно за другім. «Заўтра з Мінска ў Смалявічы пойдзе легкавая машына з трыма афіцэрамі. Зрабіць так, каб яна не дайшла да Смалявіч». І Мікола разам з Дамброўскім, Галавацкім і Ярашам выбраліся за горад, залеглі ля шашы. Калі шэры «опель» (Мікола ведаў яго прыкметы) параўняўся з імі, хлопцы закідалі яго гранатамі. Ніхто ў ім не ўцалеў.

Максім Зляяеў і яго сябар прынеслі з Жукаўкі міны, тол і дручэнне: вывесці са строю хлебазавод-аўтамат. Мікола пайшоў разам з імі, узяўшы з сабой Лёню Яраша і Аўгуста Галавацкага. Хлопцы замініравалі комін, і пад раніцу яго разнесла выбухам. Завод спыніўся, і надоўга.

Набліжалася 26-я гадавіна Кастрычніка. Падпольшчыкі рыхтавалі вялікую праграму з «ілюмінацыямі», з раздачай «падарункаў». Шостага раніцай у Аўчаровых павінна была адбыцца апошняя перад святам нарада кіраўнікоў баявых ячэек. Але не адбылася.

Пятага лістапада пад вечар гітлераўцы ўварваліся ў дом Яраша, схапілі Барыса Кедышку, які толькі што прыйшоў з Жукаўкі, а па суседству, у Дамброўскіх, арыштавалі двух Леанідаў, на дзяжурстве ў друкарні схапілі Аўгуста Галавацкага. Досвіткам гітлераўцы пабывалі і на Магілёўскай вуліцы.

Вось як успамінае тую раніцу Акуліна Аляксееўна Аўчарова: «Гадзін каля шасці к дому на легкавушцы пад'ехалі немцы. Загрукалі. Калі я адчыніла, адзін з іх моцна выцяў мяне, і я паваліпася. Немцы хутка ўвайшлі ў пакой, дзе спаў Віктар і два яго таварышы, якія толькі што вярнуліся з партызанскага атрада. Прозвішчаў іх не памятаю. Але ведаю, што аднаго звалі Віктар, а другога Вечаслаў. Арыштавалі нас усіх чатырох, адвезлі спачатку ў «СД», а адтуль у турму».



Пазней Акуліна Аляксееўна трапіла ў канцлагер, з якога вярнулася толькі пасля вайны. Віктара ў сярэдзіне лютага 1944 года знішчылі ў душагубцы, а яго двух таварышаў кудысьці вывезлі. І яна пра іх нічога не ведае.

Акуліна Аляксееўна ўспамінае, што шостага лістапада ў іх кватэры мелася быць вялікая сустрэча. Чакалі гасцей з партызанскага атрада. Для іх падрыхтавалі медыкаменты, зброю, дэталі да радыёпрыёмніка... Аднак дзень той стаў трагічным для падпольшчыкаў.

А дзевятай гадзіне раніцы на кватэру Аўчаровых зайшлі трое хлопцаў. І адразу ж у пакоях пачалася страляніна. Хлопцы наскочылі на заслон. Адстрэльваючыся, яны адыходзілі да дзвярэй. Аднаму з іх удалося, нарэшце, скокнуць з ганку і пабегчы, следам за ім пабег другі, а трэці, высокі ў цёмным, лёгкім паліто, без шапкі, усё страляў, прыкрываючы таварышаў. Вось і ён выбег на ганак, паранены. Ледзь трымаецца на нагах, але адстрэльваецца. Цяпер, здаецца, можна ўцячы. А сіл ўжо няма. Ён падае. Прыўзнімаецца на ўзлокаткі, паварочваецца да дзвярэй, каб стрэліць яшчэ, але стрэл з дома раздаецца раней. Апошні стрэл у гэтым баі. Ён і абарваў жыццё бясстрашнага юнака.

Так загінуў адважны важак «Андрушы».

...Жорстка расправіліся фашысты з сям'ёй Міколы Кедышкі. Вера Паўлаўна, Надзя і Люба трапілі ў Асвенцім. Вярнуліся толькі ўдвох — Любу спалілі каты. Некалькі страшных гадоў правёў у канцлагеры Барыс. у Трасцянцы замучылі старых — дзеда і бабулю.

Там жа, у гестапаўскіх засценках, загінулі Ядзя Берасневіч, Леанід Яраш, Анатоль Тарлецкі і многія іншыя члены падпольнай арганізацыі «Андруша».

Цяжка хворы, вярнуўшыся з няволі, памёр Леанід Дамброўскі.

Лёс некаторых падпольшчыкаў невядомы і да гэтага часу.

* * *

Адгрымелі ваенныя гады. З перамогай вярнуліся на радзіму салдаты. І зноў сталі аратымі, вучонымі, будаўнікамі. Адбудаваліся гарады і вёскі, зноўку нарадзіўся Мінск і стаў яшчэ больш прыгожы, чым быў да вайны.



Напярэдадні вайны будаваў і Мікола Кедышка. Вось чаму ў велічным ансамблі новых кварталаў Мінска адна з вуліц носіць імя Міколы Кедышкі. На гэтай вуліцы, як ва ўсім горадзе, кіпіць жыццё, звонкае, гарачае. Іменна такое, якім хацеў яго бачыць і за якое загінуў рабочы хлопец з Антонаўскай вуліцы.

## ГЕНЕРАЛЬНАЕ ВЫПРАБАВАННЕ

Новы служачы вельмі падабаўся пану Енчу. Такому якраз і сядзець у бюро прапускоў германскай ваеннай адміністрацыі. У яго добрыя манеры, ён паслухмяны, акуратны. Паглядзіш на яго і падумаеш: канечне, памыляюцца тыя, што сцвярджаюць, нібыта да прыходу арміі фюрара ў краіне не было культурных людзей. Гэты Захар Гала — тыповы цывілізаваны славянін.

Енч паглядзеў на Захара. Той, схіліўшыся над сталом, старанна запаўняў бланкі. Іх цяпер трэба было многа. Германскае камандаванне наводзіць узорны парадак у горадзе. А парадак у такім горадзе, як Мінск, гэта перш за ўсё «аўсвайс» — пропуск.

— Гатова, пан начальнік, падпішыце, — Захар устаў, падышоў да Енча і расклаў перад ім веерам «аўсвайсы».

— Гут... Карашо, — на ружовыя шчокі Енча лягла ўсмешка. А падначалены, раздаўшы прапускі, навёў парадак на стале, ветліва развітаўся з панам Енчам і пайшоў. Дадому, — так думаў Енч. Але ён памыляўся. Шлях Захара ляжаў зусім у другі канец горада, на Камароўскую вуліцу. Там у прыземістым доміку з блакітнымі аканіцамі мелася сустрэча з падпольшчыкам Іванам Казловым.

Іван Казлоў належаў да тых, хто з першых дзён акупацыі пачаў шкодзіць гітлераўцам. Ён атрымліваў заданні ад партыйнага цэнтра. Івану Казлову — таленавітаму артысту і мастаку — было даручана рыхтаваць дакументы для падпольшчыкаў. А Захар Гала забяспечваў яго бланкамі прапускоў, узорамі подпісаў і пячатак.

— Заходзь, Зорык, — узнімаецца насустрач госцю Іван Харытонавіч. — Як у цябе справы?

— Пан Енч гаворыць «гут», — смяецца Захар, — значыць усё ў парадку. Я ж «лаяльны»!..

Прыселі да стала. Марыя Фёдараўна — жонка Казлова — прынесла параную бульбу, дзве тонкія скібкі хлеба, буракчовы чай. Але госць, перш чым частавацца, дастаў з кішэні пачак чыстых «аўсвайсаў» з пячаткамі.

— Вось малайчына, — ажывіўся гаспадар. — Мне яны цяпер во як патрэбны! У горадзе выручаны з палону некалькі камандзіраў Савецкай Арміі, пашпарты я ім ужо выдаў, а цяпер будуць і прапускі...

Іван Харытонавіч і Захар пазнаёміліся нядаўна, але хутка і шчыра пасябравалі. Яны абодва нарадзіліся летуценнікамі, абодва марылі пра жыццё светлае, прыгожае. Але вайна растаптала іх мары. Аднак ні адзін, ні другі не патушылі агню ў сваіх душах — яны прысвяцілі сябе цяжкай і небяспечнай справе падпольшчыкаў.

— Хто мог бы падумаць, што з мяне выйдзе спецыяліст па фабрыкацыі фальшывых дакументаў, — усміхнуўся Іван Харытонавіч. — Сапраўды, як у прыгодніцкім рамане.

— А я, калі быў піянерважатым, — у тон яму адказаў Захар, — дык вучыў дзяцей нікога не ашукваць, а цяпер сам ашукваю пана Енча і ўсю нямецкую адміністрацыю...

— Ай, як нядобра... — прытворна паківаў галавою Казлоў і, памаўчаўшы, дадаў ужо сур'ёзна: — Так, Зорык, гэтая вайна, па-мойму, вялікае выпрабаванне людзей на трываласць. Кажуць, калі ў метале ёсць ракавіна, ён пад моцнай нагрузкай дасць расколіну. Дык вось мы зараз трапілі пад вялікую нагрузку. І вытрымае той, у каго ўнутры няма ракавін. Так, га?..

Ён устаў, падышоў да Захара, паклаў яму на плячо руку:

— Спадзяюся, што сярод тых, хто вытрымаў выпрабаванне, будзем і мы з табой. Нават упэўнены... Ну, а цяпер давай я цябе правяду. Табе трэба спяшацца!..

А зусім нядаўна Зорыку здавалася, што яго жыццё будзе зусім інакшае. Хлапчук рос без бацькі. Маці — прыбіральшчыца ў паліклініцы — старалася, каб ён быў заўсёды акуратны, паслухмяны. Ён выдатна вучыўся, быў добрым піянерважатым, старастам класа, камсоргам. Захапляўся кнігамі, любіў марыць...

Выпускны вечар пачаўся 21 чэрвеня, а закончыўся на досвітку наступнага дня. У гэтую раніцу і пачалося выпрабаванне на трываласць.

Захар ніколі не пытаўся ў сябе, ці гатоў ён да барацьбы з ворагамі. Адказ прыйшоў, калі на вуліцах роднага горада загрукалі каваныя боты акупантаў... Захар яшчэ не ведаў, што ён будзе рабіць, але ведаў, што не застанецца ў баку ад змагання з ворагам.

Некалькі дзён гітлераўцы трымалі ў лагерах усіх мужчын, пачынаючы ад юнакоў і канчаючы старымі. Потым пачалі выпускаць. Вызвалілі і Захара. Неўзабаве ён ужо быў рабочым друкарні.

У адным з домікаў прывакзальнага раёна па вечарах збіраліся людзі. Туды наведваліся чыгуначнікі, рабочыя завода імя Мяснікова, «акружэнцы». Наведваўся туды і Ісай Казінец — інжынер з Беластока, закінуты ваеннай завірухай у Мінск. Ён і прыкмеціў сціплага хлопца ў шэрым гарнітурчыку, які ўважліва прыслухоўваўся да ўсяго, што гаварылася на явачнай кватэры. А гаварылі пра адно — змаганне.

Тыя з падпольшчыкаў, што засталіся жывыя, не памятаюць ці не ведаюць, як Захар Гала знайшоў сюды дарогу, дзе сустракаліся арганізатары падполля Фёдар Кузняцоў, Ісай Казінец, Георгі Глухаў. Ды гэта, прынамсі, і не так важна. Важна іншае: іменна адгэтуль Захар пайшоў на нябачны фронт. Маленькі домік у ціхім завулку аказаўся для яго і райкомам, і ваенкаматам, і апошнім прыфрантавым прывалам адначасова.

Захар не траціў часу. Ледзь прыстроіўся ў друкарні, як ужо прынёс дадому і старанна схаваў у хлеўчуку друкарскі шрыфт. І хто ведае, можа іменна гэтым шрыфтам друкаваліся першыя падпольныя лістоўкі — адкрыты выклік патрыётаў фашыстам.

Пад восень Захару параілі перамяніць месца службы. Ён пакінуў друкарню і наняўся кур'ерам у гарадскі камісарыят. Яго акуратнасць і старанне адразу заўважылі чыноўнікі. І калі ў бюро прапускоў вызвалілася месца тэхнічнага сакратара, назвалі яго, Захара Галу.

Тыя, хто назваў, не памыліліся. Сам пан Енч мог пацвердзіць, што новы падначалены вызначаецца сапраўды нямецкай акуратнасцю і педантычнасцю. Ён дакладна ў час з'яўляўся ў камісарыят, ён ветлівы і дасціпны, умее дагадзіць яму, Енчу, ніколі не суе нос туды, куды не просяць. Адным словам, цудоўны хлопец. Напэўна, не дарэмна ў камісарыяце хадзілі чуткі, нібыта гарадскі галава Іваноўскі меў на мэце ўсынавіць гэтага сціплага, прыгожага хлопца. Праўда, хлопец нібыта адмовіўся, але гарадскі галава і не настойваў: прыйдзе час, і ён сам зразумее, які гонар аказваюць яму, сыну прыбіральшчыцы.

Але ў Захара ў галаве было іншае. Толькі цяпер, прыйшоўшы ў камісарыят, ён зразумеў, што такое барацьба, адчуў сапраўдную радасць ад удала выкананага задання; у яго абуджалася новая прага — дзейнічаць. Ён не бачыў у гэтым подзвігу, лічыў гэта будзённай справай, і яму здавалася, што ўсякі іншы чалавек, які ненавідзіць ворагаў, зрабіў бы так.

Ён здабываў бланкі прапускоў, узоры пячатак, даведваўся, хто з нямецкай камендатуры падпісвае «аўсвайсы» і знімаў узоры подпісаў. Рэдка якая група, што дзейнічала ў Мінску, не карысталася паслугамі «Максіма» (падпольная клічка Галы). З яго дапамогай падпольшчыца Ліда Густарнік вывезла ў партызанскі атрад цэлую аптэку з Мопраўскай вуліцы, з яго дапамогай афармляліся нашы разведчыкі, якія ехалі на асабліва важныя заданні.

Праз Захара падпольшчыкі і партызаны дазнаваліся, калі і куды гітлераўцы збіраліся пасылаць карнікаў. Але і гэта яшчэ не ўсё. «Максім» быў



сувязным спецгрупы маёра С. Казанцава, які прыбыў пад Мінск па заданню Цэнтральнага штаба партызанскага руху.



Сувязная групы Зоя Васільеўна Куніцкая ўспамінае, што яна ў тыя дні часта наведвалася з Лагойшчыны ў горад і заўсёды прыносіла ад Захара запячатаны пакет Казанцаву.

Наўрад ці можна дакладна вызначыць ступень удзелу Захара ў дыверсіях на чыгунцы, але ён, вядома, удзельнічаў у іх, таму што яго вельмі часта бачылі разам з чыгуначнікам-падпольшчыкам Вікенціем Шацько. А пра групу, якую ўзначальваў В. Шацько, у архіўных дакументах сказана: «Шмат смелых дыверсій на баявым рахунку групы камуніста-падпольшчыка В. Д. Шацько («Агнеў»), у склад якой уваходзіла 15 чалавек. У данясенні ад 23 чэрвеня 1943 года на імя камандзіра атрада імя Суворава (брыгада «Народныя мсціўцы») В. Д. Шацько, напрыклад, паведамляў: «2.IV.43 г. устаноўлены ў Мінску тры міны на састаў з бензінам: выбух адбыўся праз чатыры гадзіны, гэта значыць, у 20 гадзін, паміж Талькай і Верайцамі... Пакуль яго (эшалон) не расцягнулі, згарэла амаль палова эшалона і рух спыніўся на васемнаццаць гадзін».

У гэтым данясенні гаворыцца пра дыверсію, праведзеную 21 мая 1943 года. Тады Шацько і яго таварышы замініравалі на станцыі Мінск варожы эшалон з авіябомбамі, замаскіраванымі саломай. У эшалон заклалі чатыры магнітныя міны з шасцігадзінным заводам. Выбух адбыўся праз шэсць гадзін 21 мая на станцыі Рудзенск. Згарэў і эшалон з гаручым, які стаяў побач.

Вось чаму Зорык, па словах яго маці, часта вяртаўся дадому ноччу ўвесь прамоклы і перапэцканы гразёю, хоць на вуліцы не было дажджу.

— Я не пыталася ніколі, дзе ён быў, — гаварыла Югалія Іосіфаўна, — бо ведала, што не скажа. Прасіла толькі сцерагчыся, бо апрача яго ў мяне нікога не было на ўсім белым свеце. Але паспрабуй, усцеражыся. калі гестапаўскія шпікі вынюхваюць кожны след, а пасля якога-небудзь здарэння ў горадзе ці каля яго, хапаюць усіх, каго папала. А правакатары! Гэта ж з іх дапамогай падполле двойчы было разгромлена. У справаздачах «СД» паведамлялася, што ў сакавіку — маі 1942 года гітлераўцы арыштавалі ў Мінску 404 чалавекі, дзевятага мая 28 павесілі, 251 расстралялі. У канцы верасня паўтарылася, прыкладна, тое ж самае. І толькі святая нянавісць тых, хто заставаўся на волі, іх нязгасная вера ў перамогу над

фашызмам, бяспрыкладная мужнасць, усведамленне неабходнасці, чаго б гэта ні каштавала, утрымаць нябачны фронт, памаглі падполлю выстаяць, сабраць новыя сілы для барацьбы.

Фашысты не падазравалі, што адзін з байцоў падпольнай гвардыі наносіць ім страшэнныя ўдары з «кароткай дыстанцыі». Вельмі падкупала Захарава сціпласць, паслухмянасць. Затое потым, калі яго схапілі, яны не паскупіліся на жорсткасць, і «выдалі» яму больш, чым мог вытрымаць самы моцны мужчына.

Захара нехта выдаў. Яго арыштавалі 26 кастрычніка 1943 года проста на службе. Па дарозе ў турму ён імкнуўся ўцячы. Яго злавілі. Пра далейшы лёс Захара ёсць толькі скупыя звесткі. 28 кастрычніка ў Мінскім «СД» яго сустрэла Ніла Кірылаўна Гулуева, арыштаваная ў тыя ж дні за сувязь з партызанамі. Амаль праз дваццаць год яна спрабавала аднавіць у памяці тыя горкія хвіліны.

«Мы аказаліся побач у калідоры, дзе тварам да сцяны — два метры адзін ад другога — стаялі зняволеныя. Час ад часу іх выклікалі на допыт, потым вярталі сюды ж. Прыблізна ў сярэдзіне дня разносілі «абед» — па кавалку хлеба і місцы салёнай поліўкі. Вады не давалі.

Захар трымаўся мужна. Калі вярталіся ў турму, шапнуў: «Было цёмна, і, каб не аўчарка, кінуўся б у разваліны і ўцёк бы...» Адчувалася, што думка пра ўцёк не пакідала яго. У турме таксама гаварылі, што ён спрабаваў уцячы, але няўдала.

Праз тыдзень я зноў убачыла яго ў «СД», але ўжо на другім паверсе. Пагаварыць не ўдалося, ён стаяў далёка. Выгляд у яго быў жудасны. Ад ранейшага Зорыка застаўся толькі хвалісты каштанавы чуб ды вочы — разумныя, валявыя. Ён ледзь трымаўся на нагах, увесь час трымаўся за сцяну, прыціскаючыся лбом да пачарнелай далоні, другая рука, напэўна, перабітая, вісела».

Аднойчы і маці ўдалося ўбачыць свайго сына. Яна прыйшла на досвітку да турэмных кратаў. Неўзабаве пачалі выводзіць арыштаваных. У адной з груп ішоў яе Зорык. Заўважыўшы маці, усміхнуўся ёй, крыкнуў: «Не плач, мама! Усё будзе добра!»

Яна чакала ля варот да вечара, каб паглядзець, калі ён будзе ісці зноў. У змроку бачыла, як два паліцэйскія прывалаклі яго на турэмны двор, пасля чарговага катавання ён ісці ўжо не мог...

У лютым 1944 года Захара Галу бачылі ў Мінскай турме. Чаму яго трымалі так доўга і як усё скончылася з ім, пакуль не высветлена. Але фашысты, вядома, не маглі пакінуць жывым чалавека, які два гады літаральна пад носам у іх геройчна памагаў сваёй краіне рыхтаваць вялікую перамогу. У імя яе ён і загінуў. Загінуў, геройчна вытрымаўшы генеральнае выпрабаванне на трываласць.

## РАШАЮЧЫ СЕМЕСТР

Ён ведаў свой сад. Ведаў кожную сцяжынку ў садзе, кожную драпінку на каржакаватых старых яблынях. Ён мог заплюшчыць вочы і ўявіць яго ў любую пару года — і ў квецені, і занесены снегам, і пад цяжарам духмяных яблык. А цяпер перад вачамі ў яго стаяў увесь у агні сад — курчылася ад полымя лісце, задыхаліся ад дыму дрэвы...

Гэта была яго першая сустрэча з вайной. Сустрэча тварам у твар.

Потым Георгі бачыў многае, але прывід саду ў агні ўвесь час не даваў яму спакою.

Успаміналіся даваенныя гады, Камсамол усіх выхоўваў патрыётамі, кожны гатовы быў да змагання, да самаахвяравання. Гэта даказалі падзеі на Хасане, у Манголіі, на Карэльскім перашыйку. Моладзь глядзела кінафільмы, спявала песні, дзе ўсё было зразумела і ясна. Але хто думаў, што на шосты дзень вайны гітлераўцы акажуцца ў Мінску?

Яны прыйшлі. І ён, Георгі Фалевіч, — студэнт Беларускага ўніверсітэта, камсорг хімфака, — павінен, як і кожны, хто застаўся ў горадзе, прыняць нейкае рашэнне, якое вызначыць яго адносіны да ворагаў. І ад таго, якое ён прыме рашэнне, будзе залежаць, ці доўга яны прабудуць тут, колькі злачынстваў наробяць і як дорага за іх заплацяць. Змагацца ці жыць, хаваючыся ад усяго і ўсіх, і ад самога сябе? Вядома, змагацца! Але не па адным!

Дома Георгі не знаходзіў спакою. Бацькі разгублена паціскалі плячыма: трэба спадзявацца на лепшае. Ніна Ярмоленка — добры, надзейны сябар, сама чакала адказу ад яго. А дні ішлі марудна, нібы чарга каля ўцалелых калонак, з якіх цадзілі ваду. Хутка з'явілася яшчэ адна праблема: трэба было неяк пракарміцца сям'і. На старых разлічваць не прыходзілася, у такі цяжкі час яны не маглі нічога зрабіць. Значыць, на Георгія лёг абавязак прынесці ў дом хоць якую пайку хлеба, здабыць вязанку дроў, бутэльку газы...

Георгі пайшоў шукаць работы. Ён прыстроіўся на працу ў аптэцы па Савецкай вуліцы. Яго, як былога студэнта хімічнага факультэта, узялі загадчыкам аптэкі без асаблівай праверкі, нават без рэкамендацый. У тую ж аптэку касіршай паступіла Ніна Ярмоленка.

Пацяклі дні. Панылыя, шэрыя. Лякарстваў не хапала, і, апрача таўкатні на складзе і за прылаўкам, Георгі мусіў хадзіць ва ўправу, клянчыць на прыёме ў розных чыноўнікаў, каб атрымаць фармацэўтычныя сродкі. Удавалася гэта не заўсёды, але часу трацілася шмат. У аптэку загадчык вяртаўся часцей за ўсё пад канец дня. У чатыры аптэка зачынялася. Георгі праводзіў Ніну і ішоў дадому.

І так з дня ў дзень: аптэка, горад, аптэка, дом. Адносная бяспека, адносны харч, адносная ўпэўненасць дачакацца лепшага часу. Усё адноснае. Можна так прагібець месяцы, гады. А што тады вынесці пад рысу, якую рана ці позна давядзецца падвесці? Не, так жыць ён не можа!

На сконе асенняга дня непадалёку ад аптэкі Георгі сустрэўся з Валодзем Амельянюком — даўнім прыяцелем, студэнтам інстытута журналістыкі.

— Ну, хімік, як маешся? — Валодзя хітра ўсміхнуўся. — Я чуў, што вы з Нінай разбагацелі, аптэку трымаеце... Аднак, бачу, настрой у цябе паганы...

— Адкуль жа быць яму, добраму настрою? На душы — нібы вось у гэтых руінах. — Георгі кіўнуў галавой у бок спаленых дамоў. — Перагарэла ўсё. На змучаных людзей глядзець балюча!..

— Ты праўду кажаш, хімік, — уздыхнуў Валодзя. — Аднак мары і надзеі не загінулі навечна. І згадзіся, на змену ім нарадзіліся новыя мары і парывы, не менш высакародныя і моцныя. Мне, напрыклад, яны не даюць сядзець і чакаць, пакуль уляжацца бура!..

— Разумею, Валодзя, — у Георгія радасна заблішчалі вочы. — Мне вельмі трэба было пачуць гэтыя словы, і я рад, што пачуў іх ад цябе.

— Інакш і не магло быць, — Валодзя падаў руку сябру на развітанне. — Я шукаў сустрэчы з табой. Ну, пакуль. Хутка я наведаюся да цябе з адным чалавекам. Для капітальнай размовы наконт парыванняў. Чакай!..

...У аптэку заходзілі даволі часта. Дагэтуль Ніна не звяртала ўвагі на наведвальнікаў, а сёння, седзячы ў касе, яна сачыла за кожным, хто сюды ўваходзіў. У выпадку небяспекі трэба было адразу папярэдзіць Жоржа. Ён зачыніўся ў сваім маленькім пакойчыку з Валодзем Амельянюком і нейкім высокім, добра апранутым бландынам. Потым яна даведалася, пра што гаварылі за зачыненымі дзвярамі.

— Жан, — назваўся сінявокі бландын Георгію Фалевічу і адразу перайшоў да справы. — Партызаны ведаюць вас, як надзейнага чалавека. Ім неабходна ваша дапамога. Па-першае, мы хочам атрымаць у вас медыкаменты... Без рэцэптаў, вядома. Па-другое, аптэка вельмі зручная, як яўка. Тут людна, ёсць склад і падвал, і, нарэшце, побач прытуліліся нашы «сябры» — гестапаўцы. Хіба прыйдзе ім у галаву, што іх суседзі могуць дазволіць сабе такую нетактоўнасць у адносінах да трэцяга райха. Ці не праўда?

— Вядома,— Георгі кіўнуў галавой.

— Добра,— Жан стаў збірацца.— Заўтра сюды прынясуць шрыфт і партфель з паперамі. Прыхавайце гэта ўсё надзейна, асабліва партфель. Гэта будзе першае даручэнне. І адразу адказнае і небяспечнае. Так трэба! Да хуткай сустрэчы! Спадзяюся, што мы расстаемся сябрамі.

У чатыры гадзіны, як заўсёды, аптэка зачынілася. Па дарозе дадому Георгі расказаў Ніне пра новага знаёмага.

— Гэты франтаваты хлопец,— расказваў ён Ніне,— зусім не падобны на адважнага падпольшчыка і партызана. Праўда?..

І ён расказаў, што заўтра ёй перададуць шрыфт, які трэба прыхаваць, а таксама прыйсці раней і падрыхтаваць медыкаменты для партызан.

— Ты ўступіў у падпольную арганізацыю?

— Не трэба, Ніна, нічога ў мяне пытацца. Ты ведаеш, як я цябе берагу. Чым меней ты будзеш ведаць, тым лепш... І наогул табе яшчэ рана цікавіцца такімі рэчамі. Не забывай, што ты на дзве тысячы пяцьсот трыццаць дзён маладзейшая за мяне.

Назаўтра ў аптэцы зноў з'явіўся Валодзя Амельянюк. Ён прывёў дзвюх дзяўчат, якія назвалі сябе Вольгай і Жэняй, перадаў Ніне палатняны мяшэчак са шрыфтом і схаваўся ў пакойчыку Георгія. Неўзабаве перадаў дзяўчатам кошык і сумку з медыкаментамі.

— Шчаслівай дарогі! Не баіцёся ісці?

— Не, мы непрыкметныя. Да пабачэння...

«З таго часу,— успамінае Ніна (цяпер яна Ніна Анісімаўна Драздоўская),— аптэка на Савецкай вуліцы стала яўкай падпольшчыкаў і партызан. Маленькі пакойчык Жоржа служыў месцам сустрэчы людзей, за галовы якіх дорага заплацілі б фашысты. Сюды, у аптэку, Валодзя Амельянюк прыводзіў людзей з партызанскага атрада. Тут не раз быў партызан, вядомы пад клічкай «Жан», тут бываў Саша (прозвішча не ведаю), сюды часта прыходзіў Сяргей (прозвішча таксама не ведаю) і дзве дзяўчыны — сувязныя Вольга і Жэня (прозвішча Вольгі, здаецца Касцюк, а Жэні — Ждан).

Адсюль, з аптэкі, мы адпраўлялі перавязачны матэрыял і медыкаменты ў партызанскі атрад. Тут жа захоўваліся шрыфт, бланкі, хлебныя карткі, якімі забяспечваліся падпольшчыкі і сем'і партызан. Тут Валодзя часта пісаў лістоўкі, якія друкаваліся ў патаемнай друкарні. Так прайшла восень сорак першага, суровая зіма 41—42 гадоў і вясна сорак другога года».

Георгі ў многім пераймаў Валодзю Амельянюка і не таіў гэтага. Валодзя быў для яго не толькі «хросным бацькам» па падполлю, але і прыкладам мужнасці, энергіі, шчырасці. Ён быў, як выявілася потым, адным з арганізатараў усяго Мінскага падполля. І не дзіўна, што Георгі, вучачыся ў Амельянюка арганізацыі падпольнай работы, заражаўся яго аптымізмам, акумуляваў яго прагу да ўсяго, што патрабавала ад людзей канспірацыя. Сам Валодзя паспяваў рабіць усё: ноччу пісаў лістоўкі, раніцай хадзіў на сустрэчы з сувязнымі партызанскіх атрадаў ці інструктаваў навічкоў, днём ухітраўся паклапаціцца пра ваеннапалонных, якія ўцяклі з лагераў, пабачыцца з членамі падпольнага гаркома партыі, а вечарам лавіў ля прыёмніка весткі з Масквы. Яго стараліся пераймаць вельмі многія, нават тыя, хто быў старэйшы за яго і лепш ведаў жыццё.

...Вясна 1942 года. Пачаліся масавыя арышты, катаванні. Па горадзе шнырылі гестапаўскія агенты. Нязначнага падазрэння было дастаткова, каб чалавек трапіў на шыбеніцу ці, у лепшым выпадку, у канцлагер. Але стойкасць людзей проста здзіўляла. Тыя, хто заставаўся на волі, упарта рабілі сваю справу, і ў горадзе па-ранейшаму з'яўляліся лістоўкі, па-ранейшаму падполле забяспечвала партызанскія атрады звесткамі, медыкаментамі, зброяй, па-ранейшаму здараліся дыверсіі на прадпрыемствах, якія працавалі на ворага. Гэта была велізарная перамога падпольшчыкаў. Але каштавала яна надзвычай дорага.

...26 мая раніцай да Георгія зайшоў Валодзя Амельянюк. Ён быў нечым заклапочаны, не жартаваў, як звычайна, вельмі спяшаўся. У хуткім часе пасля яго ў аптэцы з'явіліся неразлучныя Вольга і Жэня. Георгі адправіў з імі ў партызанскі лагер медыкаменты, сказаў Ніне: «Я на колькі



хвілін» і таропка пакрочыў ў цэнтр горада. Вярнуўся ён хутка. Бледны, уражаны нечым. Спыніўся ля касы і ціха, шэптам, прамовіў:

— На вуліцы недалёка адсюль забіты Валодзя Амельянюк. Становішча надзвычай цяжкае. Прашу цябе, спакойна. Калі хто-небудзь спытае мяне, скажы — няма.— І зачыніў за сабою дзверы пакойчыка.

Прыкладна праз гадзіну пасля вяртання Фалевіча аптэку акружылі гестапаўцы, паліцэйскія, нейкія тыпы ў цывільным. Арыштавалі Георгія, Ніну, студэнта-медыка Міцю Майсеева, які працаваў у аптэцы вартаўніком. Пакуль ішоў вобыск, сюды ж прывялі Вольгу і Жэню, якіх затрымалі недзе, напэўна, блізка. Пасля вобыску ўсіх пецярых павялі ў турму.

Ніну і Міцю, як невінаватых, фашысты вымушаны былі ў хуткім часе адпусціць. Ніна не ўяўляла сабе Жоржа, ціхманага, памяркоўнага, за кратамі. Не магла яна дапусціць толькі аднаго — раскайвання і здрады. Не,



Жорж не мог стаць здраднікам. Але як ён вытрымае ўсё? Каб пачуць штонебудзь пра Жоржа, Ніна хадзіла да варот турмы амаль кожны дзень. Тое, што яна даведалася, напаўняла яе душу пачуццём гордасці за дарагога чалавека і пачуццём страху за яго.

Вязня камеры № 97 страшэнна мучылі. Гітлераўцы стараліся з усіх сіл, каб выведаць ад яго пра ўдзельнікаў падполля. Аднак Георгі не сказаў нічога. Ён узяў усю віну на сябе, каб не папаціліся тыя, што былі на волі і патрэбны былі для далейшай барацьбы.

Праз паліцэйскага Ваню (прозвішча яго так і засталося невядомым), які памагаў зняволеным, Георгі трымаў сувязь з Нінай. Адрываў вузкія палосачкі ад сваёй бялізны, алоўкам пісаў запіскі і перадаваў ёй. Запіскі гэтыя захаваліся. Вось адна:

«Мілая, як шкада, што адсюль нельга пісаць — я цябе заваліў бы пісьмамі.

Родная, як мне хочацца бачыць цябе, пацалаваць, прыхінуць да сэрца.

Але ўсё гэта немагчыма ні цяпер, ні ў будучым. Нінок, пастарайся як-небудзь перадаць запісачку, хоць пару слоў. Дарагая, перадачы хоць для выгляду, але перадавай кожны дзень, мне будзе гэта вельмі радасна. Скажы маім, няхай перададуць што-небудзь у суботу з 3 да 5-ці, у гэты час прымаюць перадачы. Увогуле перадаваць можна кожны дзень, але трэба пастаяць.

Пацалуй за мяне маю маму! Вера Ігнатаўна няхай даруе мне за ўсё — пацалуй і яе. Хачу курыць. Яшчэ раз цалую. Жорж».

«Вельмі не хочацца паміраць»,— піша Георгі другім разам і ні слова пра тое, што можна застацца жыць, выйсці на волю, зноў быць побач з каханай. Гэта было б шчасцем. Але гэта шчасце можна было б купіць толькі адной цаной — цаной здрады. Георгі адмовіўся ад такога шчасця ў імя шчасця застацца да канца змагаром. Інакшым жыццём ён жыць усё роўна не здолеў бы.

...У верасні не сталі прымаць перадачы ў камеру № 97. «Яго вывезлі»,— растлумачыў Ваня. Але куды — не сказаў. Можа не ведаў, можа ўтаіў, каб як-небудзь змякчыць Ніціна гора. А вывезці маглі ці ў канцлагер, ці на катаванне. Ніна абышла бліжэйшыя лагеры, была на Шырокай, у Масюкоўшчыне, хадзіла аж ў Трасцянец. Нідзе ніякіх слядоў. Магчыма, вывезлі з Беларусі? Вывозілі ж і далёка на чужыну, у Асвенцім, у Бухенвальд, у Майданек. Вернецца — спадзявалася сэрца. Але ён не вярнуўся.

Пазней стала вядома, што фашысты расстралялі Георгія Фалевіча, так і не дабіўшыся ад яго ніякіх звестак пра падполле.

Ён не зрабіў ні аднаго стрэлу па ворагу, не знішчыў ні аднаго танка, не падарваў ні аднаго эшалона. Ён вельмі баяўся ў пачатку акупацыі, што не здолее стаць байцом. Але ён стаў ім, знайшоў сваё месца на перадавой, якая праходзіла ў тылу ворага. І сярод моцных рук, што пранеслі сцяг нашай Перамогі ад Масквы да Берліна, была і яго рука; сярод сэрцаў, што згарэлі ў тыя вогненныя гады, было і яго сэрца; сярод імён, якія захоўваюцца і для наступных пакаленняў, ёсць імя мінскага студэнта-камсамольца Георгія Фалевіча.

---

Тры гады акупацыі. Тры гады складанай гераічнай барацьбы. Ніякі тэрор не змог зламаць сілу камсамольскага падполля ў Мінску. Пад кіраўніцтвам камуністаў камсамольцы ўвесь час наносілі ўдары ворагу. Многія з адважных патрыётаў загінулі ў гераічнай барацьбе.

З тае пары прайшло два дзесяцігоддзі, а іх неўміручы прыклад жыве. Ён вучыць нас, як пражыць жыццё, якое даецца чалавеку адзін раз.







**Міраслаў Зікмунд і Іржы Ганзелка сустрэліся на Цэйлоне з Юрыем Гагарыным.**

ZaH

**MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA**

Міраслаў ЗІКМУНД, Іржы ГАНЗЕЛКА

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

*За імі не ўгонішся, не ўсочыш — яны абганяюць свае ўласныя рэпартажы. Друкарскія машыны не паспяваюць. У часопісах друкуюцца нататкі з падарожжа Іржы Ганзелкі і Міраслава Зікмунда па Іраку, а самі аўтары ўжо далёка адтуль — у Індыі. Чытаеш уражанні аб Індыі, а падарожнікі — на Цэйлоне, у Інданезіі, Заходнім Ірыяне... Пад колы «Татраў» кладуцца новыя і новыя тысячы кіламетраў.*

*І раптам — нечакана — радасная вестка! Яе прынесла радыё. Ганзелка і Зікмунд у Савецкім Саюзе!*

*Вечарам 13 верасня, пасля падарожжа па краінах Ціхаакіянскага басейна, яны прыбылі ў порт Находка на борце лайнера «Григорий Орджоникидзе». Іх сустрэлі з такой шчырай радасцю і братэрскай цеплынёй, што Іржы Ганзелка прызнаўся:*

*— Мы ніколі ў жыцці не трымалі ў руках столькі кветак, як сёння.*

*І яшчэ ён сказаў:*

*— У нашых народаў ёсць адрозненні па мове, па гісторыі, але па сэрцу — гэта адзін народ, і мы сюды прыехалі, нібы ў родны дом...*

*Разам з Ганзелкам і Зікмундам новыя члены экспедыцыі — аўтамеханік Міраслаў Дрыяк і ўрач Йозаф Корынта.*

---

Працяг. Гл. № 11 за 1962 год.

*— План на першы час знаходжання ў савецкай краіне такі,— гавораць удзельнікі экспедыцыі.— Пазнаёмімся з Прымор'ем, яго людзьмі, культурай, эканомікай. Да зімы марым дайсці да Байкала, потым зробім перапынак. Мы будзем пісаць нарысы, рэпартажы, артыкулы для радыё, газет, часопісаў, тэлебачання... Зімой самалётамі дабярэмся да Якуціі, пасля пабудзем на Камчатцы. Вясной наступнага года зноў вернемся на блакітны Байкал. Прадоўжым сваё падарожжа на захад і поўдзень краіны, да Кастрычніцкіх свят дабярэмся да Масквы. Потым наш шлях ідзе па заходніх абласцях краіны, а адтуль праз Польшчу і ГДР у Чэхаславакію.*

## УТОПІЯ ПЕРСІДСКАГА ЗАЛІВА

Калі б які-небудзь сучасны Томас Мор захацеў напісаць «Утопію» сёння або калі б устаў з мёртвых Адам Сміт і пачаў дапрацоўваць свой «Дабрабыт нацый» — гэтую біблію ліберальных эканамістаў, то ў абодвух даволі цвёрдым арэшкам быў бы раздзел, прысвечаны Кувейту.

Бо Кувейт — і Томас Мор з Адамам Смітам здзівіліся б гэтаму — найвялікшай праблемай лічыць пытанне, што рабіць з грашыма, ці, яшчэ лепей, куды іх дзець. Кувейт — краіна з самым высокім прыбыткам на душу насельніцтва з усіх капіталістычных дзяржаў, краіна, куды перамясціўся тытул найбагацейшага чалавека ў свеце. Што там Ракфелер ці Морган! Вось яго вялікасць шэйх сэр Абдула ас-Салім ас-Сабах, кавалер ардэноў святога Міхаіла і святога Георгія!..

Адзін з яго продкаў падпісаў некалі ўмову, паводле якой кампанія «Кувейт Ойл» абавязалася да 20 снежня 2026 года выплачваць пяцьдзесят працэнтаў чыстага прыбытку са здабычы нафты на тэрыторыі Кувейта. І цяпер сэр Абдула кладзе ў сваю касу каля 120 мільёнаў англійскіх фунтаў штогод, г. зн. звыш 2 300 000 фунтаў кожны тыдзень, 328 767 фунтаў штодзённа.

З той прычыны, што сэр Абдула з'яўляецца вярхоўным уладаром свайго народа, яму належыць права вырашаць, што рабіць з грашыма. Ён вырашае пытанне проста: дзяржаўныя даходы — гэта даходы яго асабістыя, а каб не мець клопатаў з дамашнімі, ён дзеліцца часткай нафтавых дывідэндаў са сваім разгалінаваным сваяцтвам — прыкладна з двумастамі шэйхамі, якія валодаюць краінай.

— Няхай мне хто-небудзь заікнецца, што на свеце ёсць справядлівасць,— абураўся, стоячы каля свежанадраеных парэнчаў палубы, пасажыр, які сеў на карабель у Харамшахру, і сказаў, што па гандлёвых справах едзе ў недалёкі іранскі порт Бэндар-Абас.— Я маю на ўвазе не якую-небудзь будзённую справядлівасць, а справядлівасць прынцыповую, я б сказаў, нацыянальную. Колькі людзей на свеце павінны надрывацца з ранку да ночы, каб не памерці з голаду. А тут? — паказаў ён локцем на горад, які вынырнуў з перадранкавай цемры гадзіну назад і цяпер вокнамі свайго ўзбярэжжа пускаў зайчыкаў у вочы падарожнікам.— Як вы думаеце, хто гэтыя шэйхі, што ездзяць у амерыканскіх аўтамашынах апошняй мадэлі? Феадалы, якія дзесяць год назад свяцілі яшчэ голым задам і мелі самае большае па два-тры вярблюды. А сёння? Не ведаюць, што рабіць з грашыма, выдумляюць нямаведама што, каб другому нос уцерці. Машыны купляюць на метры. І толькі таму, што пад нагамі цячэ мора нафты. А ў гэтым жа няма і драбінкі іх заслугі...

— Няма. Але як бы вырашылі пытанне з гэтай прынцыповай, нацыянальнай справядлівасцю вы?

— Не ведаю, хай паламаюць галаву іншыя. Я б гэтыя грошы падзяліў неяк так, каб з іх мела карысць больш людзей.

— Але тады нічога б не засталося шэйхам?

— Гэта кепскі жарт,— адказаў ён, адпускаючы парэнчы.— Яны не маглі б тады ездзіць у Басру ці ў Бейрут паглядзець у начных кабарэ на голых жанчын, транжырыць па дзесяць тысяч за ноч або ставіць у машыне ручкі з масіўнага золата. Я раскажу вам, што бачыў у Кувейце аднойчы ўзімку. Міль пятнаццаць за горадам мы спаткалі шэйха ў шыкознай шасціметравай машыне. Яна стаяла каля дарогі, відаць, сапсаваўся матор. І вы ведаеце, як шэйх яго адрамантаваў? Ён вылез з машыны, выцягнуў хлыст, якім паганяюць вярблюдаў, і пачаў шалёна хвастаць па машыне. Вярблюд — дык той, мусіць, кусаўся б ці адбіваўся, а кадзілак — хоць бы што. Гэта так раз'юшыла шэйха, што ён загадаў шаферу разбіць машыну малатком. Шкло пырснула ва ўсе бакі, потым па чарзе пайшлі дзверцы, нарэшце — матор. Абломкі ён кінуў у пустыні і папрасіў нас падвезці да яго вёскі...



На вуліцы Кувейта.

* * *

— Паглядзець Кувейт? Чаму ж не? — спакойна заўважыў першы памочнік капітана,— аддасцё пашпарты і атрымаеце пропуск на бераг. Але паглядвайце на гадзіннік, праз дзве з паловай гадзіны мы паднімаем якар. Не спазніцеся на апошнюю лодку!

Вось гэта навіна! Сам сабе раптам здаешся хлопчыкам, які лезе праз плот да суседа па грушы. Вядома, яны значна смачнейшыя, чым тады, калі сусед, адчыняючы вароты насцеж, гаворыць: «Праходзьце, калі ласка, панове, рвіце, колькі вам захочацца».

Зразумейце нас: візу на права ўезду ў Кувейт даюць англійскія прадстаўніцтвы. Тут іх слова першае і апошняе. Але нам ветліва гавораць:

— Вашу заяву мы перасылаем у Кувейт (у Катар, у Адэн і г. д.), трэба атрымаць дазвол тамтэйшых шэйхаў, мы выконваем іх волю, мы толькі іх ахова.

Дакладна так нам сказалі некалі ў англійскім пасольстве ў Празе; нарэшце прыйшоў адказ — віза не будзе выдана! І цяпер раптам — калі ласка, чаму ж не, дастаткова аддаць пашпарт і атрымаеце пропуск...

Першыя ўражанні ад Кувейта сапраўды неблагія. Людзі чыста апрануты, у белых галабіях, на галаве чарнеюць шнуры, якія прытрымліваюць белую хустку — у гэтым нацыянальным адзенні людзі выглядаюць неяк узнёсла, урачыста — нібыта дыпламаты, якія ўваходзяць у актавую залу, каб падпісаць важнае пагадненне.

Нафтавая гарачка адчуваецца на кожным кроку. Многа будоўляў, на іх — сляды спешкі, але таксама відаць, што сродкі на іх не эканомяць. Тут жа на ўзбярэжжы стаіць пышная віла, вокны якой архітэктар размясціў па кругу, а між імі паставіў вялікую гадзіннікавую стрэлку — яна паказвае, калі якое акно адчыніць або зачыніць. Па вуліцах імчаць машы-



Прэч з дарогі... Не бачыце, што я з грузам?

ны навейшых мадэляў — доўгія «амерыкі» з чырвонымі сцяжкамі шэйхаў, такія ж сцяжкі і на таблічках для нумарных знакаў, яны замянілі сабой лічбы і нібы кожнаму гавораць: мае гаспадары надзелены асаблівымі прывілеямі, хай хто-небудзь паспрабуе затрымаць шэйхаўскую вялікасць на скрыжаванні!

Але на скрыжаваннях пастаўлены семафоры, вадзіцелі і пешаходы іх пакорна слухаюцца.

Семафоры былі заведзены зусім нядаўна, відаць, гэтага вымагалі тэмпы, з якімі павялічваецца колькасць машын. У 1952 годзе іх ва ўсёй краіне было 6 000, праз год — 10 000, сёння іх у Кувейце каля 25 000, на кожнага дванаццатага жыхара прыпадае машына. Гэта — заслуга перш за ўсё шэйхаў, у аднаго, напрыклад, у стайнях стаіць сто дваццаць пяць аўтамашын. Расказваюць, што ён нядаўна заказаў у Амерыцы машыну з умовай, што яна будзе самай доўгай з усіх, якія калі-небудзь выпускаў завод. Калі машына прыйшла, ён выцягнуў рулетку і ўстанавіў, што машына на два пальцы карацей за тую, якую ён нядаўна бачыў у каралеўскім палацы ў Саудаўскай Аравіі. Загадаў машыну запакаваць і вярнуў яе назад, а з ёю — ліст, у якім абураўся, што завод не выканаў заказ.

## САМЫ МІЗЭРНЫ ГРУЗ НА СВЕЦЕ!

— Шкада, што ў вас не было больш часу, я б вам паказаў некалькі цікавых рэчаў, — сказаў нам у той жа вечар новы пасажыр Фрэдэрык Мітчэл, калі Кувейт даўно ўжо знік з далягляду. — Цяпер, калі мы пабудавалі паўночны мол, справы пойдуць лепей, — сказаў ён з яўным задавальненнем і зусім не па-англійску пстрыкнуў пальцамі. Ён быў дыспетчарам і атрымліваў прэміі за хуткую пагрузку танкераў.

У 1959 годзе ад кувейцкіх берагоў адышло каля трох тысяч танкераў з нафтай, кожны ў сярэднім забраў 25 000 тон. Як п'яўкі, прысмоктваюцца яны да мола ў адкрытым моры. А цяпер у чатырох мілях ад паўднёвага мола пабудавалі паўночны мол — там так глыбока, што да яго могуць падысці і вялікія марскія гіганты. Які іх танаж? У кожнага каля ста тысяч тон: «Лідэр» — сто тысяч, «Адмірал» — сто чатыры, «Апалон» — нават сто дзевяць. І ўявіце, што «Апалон», напрыклад, гадзін за чатырнаццаць ужо загружаны, кожную гадзіну ў яго ўліваецца больш чым 8 000 тон нафты!..

— Добра, у Англіі або ў Штатах яе выберуць з карабля, а што потым? Які груз ён вязе назад?

Мітчэл хвілінку вагаўся, але хутка зразумеў, што яму няма чаго саромецца з людзьмі, да краіны якіх ніколі не падышоў танкер са ста дзесяццю тысячамі тон нафты адразу.

— Што вязуць? — перапытаў ён паблажліва. — Марскую ваду, баласт. Гэта самы мізэрны і прытым самы дарагі груз на свеце, але ніхто яшчэ не прыдумаў лепшага вырашэння. Калі нафту з танкера вычарпаюць, трэба ўвесь корпус выпаласкаць гарачай парою. Больш за ўсё гэтаму «радуецца» адміністрацыя порта — можаце сабе ўявіць, колькі бруду пры гэтым пападае ў вусці рэк, як забруджваецца які-небудзь Лондан ці Саутгемптан. А потым у танкер набіраецца марская вада і — назад. Інакш бы вінт працаваў ухаластую...

Бачыш, сухаземны жыхар, якія клопаты ў гаспадароў мора! Яны вязуць мора з аднаго канца свету на другі, ды яшчэ за гэта ўдзячны яму.

Адвезлі б яны ў Кувейт сто дзевяць тысяч тон піва! Або віна! Або слівавіцы!

## НАФТА, ЖЭМЧУГ, ГАШЫШ

Астравы Бахрэйн. Яны былі домам славутаму арабскаму мараходу Сіндбаду, не мінуў іх на сваім шляху Марка Пола... Два стагоддзі назад тутэйшыя шэйхі змагаліся — па чарзе або разам з піратамі — супраць англічан або з англічанамі супраць піратаў. Потым разгледзеліся і ўбачылі, што жыць у згодзе з англічанамі ўсё ж крыху лепей, чым быць у саюзе з піратамі — і так астравы Бахрэйн сталі англійскім пратэктаратам і марской базай. А з таго часу, як у паветры пачалі шнураваць рэактыўныя пасажырскія самалёты, увага да астравоў стала большай, асабліва да аднаго з іх — Манамы. Машыны тут адпачываюць і запраўляюцца першакласным авіяцыйным бензінам, які вырабляецца недалёка адсюль, паблізу нафтавых крыніц.

З нашай стаянкі цікавы від на бераг. Злева — чародка пальмаў, потым лясок мачтаў (у бінокль відаць, што іх дзесяць, напэўна, радыёстанцыя), далей — вадакачка, купка дамоў, яшчэ адна вадакачка — і палоска сушы канчаецца. Гэта востраў Мубарак. Канчаецца, праўда, на картах, але не ў сапраўднасці. З другім, большым, вострававам — Манамай ён злучаны доўгім мостам, па якім, нібы наперагонкі, імчацца вялікія зялёныя аўтобусы...

Бахрэйнскага шэйха Салмана ібн-Хамада аль-Халіфа ніяк не назавеш беднякам, хоць здабыча нафты на яго тэрыторыі далёка не дасягае той колькасці, што ў суседнім Кувейце. Нафту здабывае кампанія «Бахрэйн Петролеум Лімітэд», яна зарэгістравана ў Канадзе, хоць цалкам і поўнасцю належыць амерыканцам.

Але дывідэнды ад нафты — не адзіны даход шэйха. Неблагія прыбыткі давала яму лоўля жэмчугу. Каля дваццаці тысяч лаўцоў жэмчугу ныралі ў глыбіні Персідскага заліва, пакуль японцам не прыйшла ў галаву ідэя — засоўваць жамчужніцам пясчынку ў ракавіну і прымушаць іх планава вырабляць жэмчуг. Слава жэмчугу згасла, яго выцесніла нафта.

У снежні 1952 года ў суседняй Саудаўскай Аравіі аб'явілі татальны сухі закон, які дзейнічаў не толькі ў дачыненні да прававерных мусульман, але і да іншаземцаў. Гэта была катастрофа — асабліва для работнікаў амерыканскай кампаніі «Арамко», якія зараблялі на нафце казачныя сумы і нават не маглі за іх выпіць!



Купіце канарэйкі! Шчыглы! Галубы!

І пачалося кожную суботу і ў святы масавае перасяленне амерыканцаў з Саудаўскай Аравіі на Бахрэйны, дзе прадбачлівы шэйх Салман абмежаваў дзеянне сухога закону толькі сваімі падданымі. Вось гэта дзяржаўная мудрасць, — пахвальвалі яго нафтавікі і мужна везлі долары на Бахрэйны.

Да ўзаемнага задавальнення прапіваюць іх каля паўмільёна ў год. Адно толькі блага — перад кожнай выпіўкай трэба запасціся новай выязной і ўязной саудаўска-арабскай візай і дорага за яе заплаціць.

— А гэты Сауд не такі ўжо і дурны, — гавораць аматары віна.

* * *

І, нарэшце, кантрабанда.

Маленькія астравы Бахрэйн — ідэальная брама да Саудаўскай Аравіі. Іх берагі не кантралююцца. Найбольшым попытам карыстаецца гашыш. Ацэньваецца ён на



Хто хутчэй?..

вагу золата: грам гашышу — грам золата.

Нядаўна, быццам, за адной бандай сачылі ад самага выхаду з Персідскага заліва і захапілі яе толькі тады, калі яна збіралася выгрузіць свой тавар у Англіі. Знайшлі ў іх чамаданах амаль тысячу кілаграмаў гашышу.

### УЗБЯРЭЖЖА ПІРАТАЎ

Раніцай нас пабудзіў стройны юнак у акулярах і ў доўгім паліто, зашпіленым да самага падбародка. Учора ён сеў на карабель на *Бахрэйнскіх астравах,* з сабой вязе *новенькі* транзістарны прыёмнік, японскі, з адкідной антэнай. Ужо з шасці гадзін юнак бегае па палубе, прымярае, дзе лепшая чутнасць. Сеў якраз насупраць нашай каюты, паставіў радыё на парэнчы, любоўна пазірае на яго і, летуценна прыжмурваючы вочы, услухоўваецца ў танюткі галасок спявачкі.

Потым ён прызнаўся, што працуе дыктарам бахрэйнскай радыёстанцыі, а гэты голас — «скажыце, праўда, ён падобны да голасу багіні кахання?» — належыць Лакшмі, вядомай кінаактрысе. Яна гасціла на Бахрэйнах, і ён зусім страціў галаву.

— Я еду за ёю ў Бамбей, я павінен яе бачыць. Як вы думаеце, яна будзе са мной размаўляць?

* * *

Ум Саід — порт, якога вы не знойдзеце на картах, выдадзеных



да 1952 года. На свет дзённы яго вынесла нафта.

Цяпер у гэтым порце забастоўка.

Рабочыя патрабуюць павышэння зарплаты. «Рабства тут было скасавана паводле міжнароднага пагаднення, якое падпісаў шэйх, але мы па-ранейшаму працуем, як рабы. Ці ж гэта заработак?» З салідарнасці бастуюць і лодачнікі, што перавозяць пасажыраў на карабель, які становіцца на якар за мілю ад берагу. Пасажыры ўстрывожаны — як жа яны выйдуць на бераг?

Капітан злуецца — толькі што прыехаў з порта агент кампаніі. На яго думку, адзінае, што можна зрабіць, гэта спусціць бартавыя *лодкі карабля* і загадаць экіпажу адвезці старых пасажыраў і прывезці новых.

— Хто б мог падумаць! — бурчыць капітан. — Забастоўка! Забастоўка на Узбярэжжы Піратаў! Такое я, колькі жыву, яшчэ не бачыў.

### ВЕЖЫ МАЎЧАННЯ

Паспрабуйце даць на выбар звычайнаму падарожніку, які прыехаў у Мексіку на адзін дзень, — ісці ў музей ці на бой быкоў? (Трэба, праўда, падкрэсліць слова звычайны, бо ў іншым выпадку можа здарыцца, што пойдзе ў музей.)

У Карачы пытанне стаяла не так востра. Бою быкоў там не культывуюць. Ды і, апрача таго, музей быў зачынены. Але ж тут жыве шматлікая абшчына персаў-паклоннікаў агню. І ў гэтым адразу чуецца подых таямнічага Усходу.

Вогнепаклоннікі шануюць агонь у знак таго, што не забыліся на запаветы Заратустры, хоць з Персіі ўцяклі ад вызнаннікаў ісламу яшчэ недзе ў сёмым стагоддзі. Святы агонь, які Заратустра прынёс з неба, гарыць на свяшчэнных месцах, на алтарах, свяшчэннікі сочаць за тым, каб ён не згас. Нешта накшталт алімпійскай эстафеты, толькі што крыху старэй.

**Ракавінкі, ракавінкі! Выбірайце — якой хочаце велічыні!**

З той прычыны, што агонь святы, яго нельга апаганіць трупам. Нябожчыка спаліць нельга. Але нельга яго пахаваць і ў зямлі, не кажучы ўжо аб тым, каб кінуць астанкі ў ваду. Зямля і вада гэткія ж свяшчэнныя, як і агонь!

Пахаванне тут — абавязак птаства нябеснага, дакладней, грыфаў. Нават дэмакратычна — ні табе помнікаў, ні маўзалеяў, адны косці. А папрокі ў неэстэтычнасці можа дазволіць сабе толькі той, хто не разумее ўзвышаных запаветаў Заратустры.

Калі нам паказвалі алюмініевы гарадок, які вырас на поўначы ад чыгуначнага насыпу на месцы гліняных хацін — цяперашняе прыстанішча пакістанскіх бежанцаў з Індыі — нам ужо не цярпелася... Гэта зручна, што ёсць і вадаправод, і каналізацыя, можа толькі людзям у гэтых бляшаных дамах крыху горача, але нам трэба было ўжо ісці, каб не спазніцца на пахаванне перса...

Вежы маўчання недалёка адсюль, па другі бок чыгуначнага насыпу. Па дарозе ловіш сябе на тым, што складваеш фразы: «разнясуць цябе ў кіпцюрах», «разнясуць цябе ў валляках», «дзядулю грыфы разнеслі за якіх-небудзь дваццаць мінут».

Грыфы прывіталі нас насуплена, як ім і належыць. Чорныя, яны, згорбіўшыся, сядзелі на дрэвах. Часам некаторы каркне, нібы з дакорам: «Ну і што з таго, што ты яшчэ ходзіш!»

Здалёк відаць круглыя вежы, пафарбаваныя вапнай. Каля ўваходу надпіс па-англійску: «Свяшчэнныя могілкі. Вежы маўчання. 1847». І яшчэ: «Уваход забаронены».

— А, не мае значэння... — вялікадушна махнулі рукой хлапчукі, якія ў момант збегліся да нас. — Гэта загадалі напісаць англічане. Іх ужо няма. Дасцё нам па рупійцы, калі мы вам **гэта** пакажам?

Кожны з нас дастаў па рупіі, каб хлапчукі не раздумалі.

— Сёння нічога не будзе, — сказаў старэйшы з хлапчукоў. — Ніхто не памёр. Памірае мала.

Вежа маўчання была сапраўды маўклівая. Ніштo ў ёй нават не ка-



**Ну і што з таго, што ты яшчэ ходзіш!..**

лыхнулася. Вялізны белы цыліндр, высокая сцяна, нібыта за ёй была турма для пажыццёвага зняволення, у цыліндры нізка пры зямлі закратаваная адтуліна, але праз яе нічога не відаць, толькі працілеглая ўнутраная сцяна. Жалезныя дзверы, на іх цяжкі замок.

— Сёння нічога не будзе, — зноў сказаў старэйшы хлопчык. — Вам не пашанцавала, сёння — панядзелак. Калі б была пятніца, вы маглі б убачыць, прынамсі, магільшчыка — ён прыходзіць заўсёды ў чатыры гадзіны дня і зграбае косці ўніз, у яму.

— Ты ведаеш, што такое магільшчык?

— Чаму ж не! Я мусульманін, мы хаваем!

Сапраўды, тут не было нічога. Нідзе ні шуму, ні голасу. Ні мёртвых, ні жывых. Толькі на палове дарогі паміж заходняй мужчынскай вежай і ўсходняй жаночай — нізкі будынак, таксама пафарбаваны вапнай. Вакол бетонныя лаўкі, пасярод — узвышэнне. Морг, катафалк і месца апошняга развітання — разам. У цэнтры пакладуць нябожчыка, вакол рассядуцца блізкія, доўга памаўчаць, паразважаюць, а потым па сцежцы, пасыпанай вапнай, аднясуць мужчыну налева, жанчыну — направа, загрымяць ключ у цяжкіх жалезных кратах, хвіліна — і зноў цішыня.

Толькі шастанне крылаў парушае яе. Сцярвятнікі не размаўляюць.

### ПРАЗ ПЕКЛА ДА НЕБА НА ЗЯМЛІ

Тры чэхаславацкія арыенталісты — Герольд, Збавітэл, Звелебіл — пачынаюць сваю кнігу «Індыя зблізку» вызначэннем, што

«практычна ў Індыю вы можаце трапіць двума спосабамі: па вадзе або паветрам».

З гэтага вынікае бясспрэчны вывад, што мы ў Індыю трапілі непрактычна — па сушы.

Не застаецца нічога больш, як згадзіцца з гэтым.

Раніцай нам давялося апрануць світары і прыкрыць жалюзі радыятараў. Тэрмометр апусціўся да дваццаці шасці — упершыню пасля Багдада. Сапраўдная зіма!

А потым пачалося нешта фантастычна-непаўторнае. Замкнутае кола небасхілу на поўначы разарвалася, зморшчылася, як старая скура, і пакрылася пухірамі першых узгоркаў. Яны здалёк працягвалі нам руку дапамогі, як некалі зямля — маракам Калумба.

«Татры» пачалі прагрызацца праз іх, як лічынкі праз шкарлупіну. Але гэта былі яшчэ не горы. Дарэмна было тут шукаць суцэльны горны ланцуг, хутчэй гэта нагадвала звалку на будоўлі, куды кожны сыпаў гліну і каменне як хацеў і колькі хацеў. Гэта былі самыя незвычайныя горы на свеце, разбітая аснова Гімалаяў. Такая ж дзіўная была тут і раслiннасць. На абрыве каля дарогі, на схілах, разнернутых мусоннымі шквaламі, насуперак усім законам прыроды спакойна жывуць побач бананы і сосны, пальмы, піхты і гіганцкія папараткі.

На вышыні тысяча семсот метраў «татры» стаяць каля краю дарогі. У машынах ціха і цёмна, а ў прамавугольніках вокан нейкі тэатральны асвятляльнік пачаў такую гульню святла над сцэнай, якую не змог бы прыдумаць ніводзін дэкаратар на свеце. На сотні кіламетраў ад машын цягнуцца ланцугі, вузлы і спляценні гор. Горы ўзбіраюцца на горы, сто планаў ідуць адзін за адным, дзесяць — адзін над другім.



Над гэтымі ўздыбленымі хвалямі гор б'юць, сякуць, шчоўкаюць, падміргваюць і трашчаць маланкі мусоннай навальніцы. Дом на скале — то чорны на фіялетавым фоне, то раптам чырвоны на сінім. Нябесны бізун, сплецены з пятнаццаці маланак, разрэзаўшы хмары, сячэ даліну, аранжавы шар пракочваецца па небасхіле, вогненны слуп падпірае ўсё гэта нагрувашчванне святла, каб яно не ўпала на зямлю. За дзесяць мінут пейзаж дзесяткі разоў змяняе колер і сто разоў — форму.

Там, унізе, у Пенджабе, навальніца шалее і з неўтаймаванай сілай разбурае і знішчае ўсё, што стане на яе шляху. Але передгор'і адбіраюць лішак вады і лютасці. І калі навальніца падыходзіць да кашмірскага горнага бар'ера, ёй застаецца толькі прыкідвацца асвятляльнікам, які наладжвае фантастычнае відовішча каля падножжа Гімалаяў.

* * *

Напаследак, пачыркаўшы серпанцінам голы схіл, на вышыні двух з лішнім кіламетраў дарога слізнула ў тунель, абкладзены гранітнымі блокамі і бетонам. Банікальскі тунель — два з паловай кіламетры цемры, ледзянога скразняку і вадзяных струменяў, якія хвошчуць са столі па вокнах машын. Але вось удалечыні загарэлася сляпуча белая кропка, неўзабаве яна ператварылася ў акенца, залітае сонцам, і вось ужо з яе атрымалася вялізная брама, паўночнае жарало тунеля. Выслізнеш з цемры, прыжмурыш вочы і — глыбока ўздыхнеш. Нават пацяху ўшчыкнеш сябе за нос, каб пераканацца, што гэта не сон.

З бяскрайняй глыбіні чароўнай даліны насустрач узнімаецца лесвіца вадзяных люстраў, у кожным зелянее далікатны пушок маладога рысу. Сям-там — драўляныя будынкі, якія зусім патанаюць у зеляніне таполяў, платанаў і шаўкавіц. Над лесвіцай — вянок з зялёных узгоркаў. Яшчэ вышэй — скалістыя зубцы гор, нібы вежы цытадэлі, прыцярушаныя снегам.

Мiстэр Джон на сваім «кічнбоце» — лодцы-кухні.

І ўжо над імі і за імі ў празрыстай сінечы неба іскрацца, як дыяменты, леднікі Вялікага Гімалая: сямітысячны Нункун і ланцуг ледзяных вежаў, якія не абазначаны на карце па імені, бо іх шэсць тысяч метраў служаць толькі фонам для найвышэйшых пікаў. За імі ўгадваецца касмічна бязмежны прыбой велізарных гор, які раскінуўся на тысячы міль — да самага сэрца Азіі.

І тут раптам адчуваеш, што ўся астатняя планета далёка-далёка. А тут, перад табой, — даліна, якая бліжэй да неба, чым да зямлі. Кашмір.

## ЧАРАЎНІКІ ВОЗЕРА ДАЛ

— Гасцініца ці хаусбот? — Гэтае пытанне задаюць кожнаму, хто прыязджае ў Кашмір.

Гасцініцы ёсць на ўсім свеце. У Кашміры, калі ў вас мала грошай, у пакоі будзе многа клапоў, а калі грошай многа, атрымаеце пансіён з кансерватыўнымі англійскімі парадкамі і звычаямі — нешта накшталт чысцюткай адпрасаванай уціхамірвальнай кашулі.

Гасцініца ці хаусбот?

Вядома, хаусбот! А што такое хаусбот? Хто яго ведае. Дом + карабель = хаусбот. Але гэта не гасцініца? Давайце сюды хаусбот!

* * *

Містэр Джон, як выявілася, быў зусім не містэр і не Джон. Ніколі ў жыцці ён не бачыў Англіі. Імя Джон яму далі «паны англічане», калі яму было пятнаццаць і калі ён атрымаў у спадчыну ад астматычнага бацькі нялёгкую службу праваднiка ў гарах. Ён вадзіў па Вялікаму Гімалаю спартсменаў у гольфах і абмотках моды 1910 года. Бацька быў Абдуласіз, але яго называлі Джон. Імя сына было Абдурахман, яго пачалі зваць так, як бацьку: Джон! Так і пайшло. Цяпер у яго самога астма, у горы ўжо не ходзіць. З таго часу, як ён пасівеў, чужаземцы называюць яго «містэр Джон», хоць ён кашмірац целам і душой. За гэта ён называе чужаземцаў «сахаб». Гэта ў Індыі больш, чым «містэр». Прыкладна, як «сэр». Ён і нас называў так, пакуль мы не пераканалі яго, што паміж англічанамі і чэхаславакамі ёсць розніца.

А дом твой перавязем, куды толькі захочаш!

Але ўсё гэта было пазней. А спачатку быў толькі нейкі містэр Джон, уласнік хаусбота «Піджын», што азначае «Голуб».

Ён прывёў нас на бераг славутага возера Дал, у тое месца, дзе яно яшчэ не падобна на возера. Сапраўдны кашмірскі фасад возера Дал знаходзіцца на другім беразе. Кіламетравая стаянка ідылічных драўляных хатак на лодках — хаусботаў, прыбраных, як нявесты. Беласнежныя балдахіны са зборачкамі на кожным акне, на верандах, на стрэхах. У вокнах і навакол парэнчаў — кветкі. І амаль на кожным хаусбоце можна прачытаць: «To let» — «здаецца ў наём». Можаш наняць сто плывучых хатак, можна і дзвесце.

Хаусбот зможа сыграць на струнах возера Дал любую песеньку, кожнаму — яго любімую. Дастаткова толькі выказаць пажаданне, і тое, што хвіліну назад было хаткай, прывязанай да берагу, ператворыцца ў валацугу воднага царства, у экскурсійны аўтобус, у твой маленькі свет, які плыве па свеце вялікім, па водным свеце возера Дал, плыве, пакуль не адшукае куточка толькі для цябе.

*(Працяг будзе).*

Пераклаў з чэшскай мовы
**Алесь МАЖЭЙКА.**



# ЗНОЙДЗЕНА ЦІ СТРАЧАНА...



Імкненнем пранікнуць у шматколерны свет роднай прыроды, знайсці ў багацці яе гукаў і фарбаў сугучча светлым парывам душы маладога сучасніка было адзначана ўсё тое лепшае, што запомнілася з першай кніжкі Івана Калесніка «Белыя каштаны». Гэта перш за ўсё стасуецца да пранікнёнага лірычнага верша «Суніцы», у якім малады паэт выявіў здольнасць простымі і дакладнымі словамі перадаць складаныя пачуцці свайго героя.

Падкрэсленую схільнасць да пейзажнай лірыкі, спробу праз вобразы прыроды асэнсаваць настрої сённяшняга маладога пакалення мы заўважаем і ў другой кнізе І. Калесніка «Пяць сузор'яў».* Працуючы ў гэтым напрамку, паэт у лепшых сваіх творах дасягае добрага плёну. Невялічкі верш «Рэчка Лебедзь» хочацца прывесці цалкам:

Паплавы.  
Паплавы.  
Гэткіх выпасаў  
Я не бачыў яшчэ нідзе.  
Як мяцеліца, птушнік высыпаў.  
І трымаецца на вадзе.  
Гусі-лебедзі ў рэчцы Лебедзь  
Белых воблакаў пух цярэбяць.  
Маладыя каліны квецяцца,  
Рой пчаліны над лугам гудзе,  
І суквецці над плынню свецяцца,  
Нібы воблакі на вадзе.  
Нібы лебедзі ў рэчцы Лебедзь  
Дакранаюцца неба ледзьве.  
На купалле —  
Здаўна так водзіцца —  
З навакольных сёл  
да ракі  
Адвячоркам дзяўчаты сходзяцца  
І па рэчцы плывуць вянкі.  
Самі — лебедзі ў рэчцы Лебедзь  
Хочуць шчасце сваё угледзець.

Выкарыстоўваючы фальклорны казачны вобраз, паэт напаўняе яго рэальным зместам, будуе цэлы рад нечаканых, але мастацка апраўданых зрокавых асацыяцый, умела карыстаецца гукавымі алітэрацыямі. У выніку ўзнікае вельмі дынамічны малюнак, у якім добра перададзена няўрымслівасць юнацтва, акрылёнага імкненнем здабыць сваё шчасце. І хоць у вершы няма падкрэсленых прыкмет сённяшняга дня, не цяжка заўважыць, што ўслаўляюцца тут светлыя пачуцці маладых працаўніц калгаснага сяла, тых, хто сваімі рукамі памнажае характво і багацце роднага краю.

У чым сапраўдная зямная прыгажосць? Гэтае пытанне хвалюе паэта ў многіх вершах. Самы верны крытэрый, вышэйшая мера прыгожага — чалавечнасць, сцвярджае ён у вершы «Зямная прыгажосць».

...У вагон уваходзіць кабета з малым на руках. Яна адразу адчула клапатлівую ўвагу сваіх незнаёмых сяброў, якіх зачаравала яе высакароднае характво — харaство маці:

На першынца і на яе пацешна  
Глядзелі з захапленнем хлопцы ўсе  
І не зважалі, што бягуць чарэшні  
Уздоўж чыгункі ў веснавой красе.  
Жывое сонца у вагон лілося.  
Нібыта вокны не трымалі шкла.  
Я на яе глядзеў,  
І мне здалося,  
Што ўся яна сатканая з святла.

Жыццесцвярджальным настроем, змястоўным падтэкстам прываблівае верш пра вішаньку, якая вырасла пад плотам, прабіўшыся праз каменне. Пешаход, які раней ступаў «на яе знарок і незнарок», захапляецца:

— Ну і вішня,  
Да чаго ж прыгожая...

Так у лірычную мініяцюру знешне непрыкметна, але арганічна ўплятаецца сатырычная нотка, якая не гучыць дысанансам, а, наадварот, дапаўняе малюнак, памагае раскрыць складанасць з'явы.

Пранікнёна і цёпла расказана ў вершы «Лясная вёска» пра сустрэчу Канстанціна Заслонава з сялянамі, якія горача вітаюць легендарнага партызанскага камандзіра, а пасля яго геройскай смерці ўліваюцца ў рады народных мсціўцаў: «Брыгада героя ўзрасце і патроіцца і след свой пакіне ў апошняй вайне».

Лірычна і задушэўна гучыць верш «Мазыранка», у якім апяваецца светлая сіла маладога пачуцця:

Мост агні залатыя выпяціў  
На гасцініцу-паплавок.  
Я начую на хвалях Прыпяці,  
Падаслаўшы раку пад бок.  
. . . . . . . . . . . . . .  
Устаю. Прада мною яскравая  
У святле трапяткім рака.  
А мо гэта якраз ласкавая,  
Мазыранка, твая рука?

Іван Калеснік можа пісаць шчыра, сардэчна, сапраўды паэтычна. І тым больш прыкра, што ў яго новую кніжку трапіла даволі шмат малавыразных, шэрых «скараспелак», на якіх ляжыць адзнака аўтарскай паспешлівасці, недапрацаванасці.

Чытаючы некаторыя вершы маладога паэта, заўважаеш, што ён не ў поўную меру выкарыстоўвае свае ж знаходкі, як кажуць, збядняе сам сябе. Свежыя назіранні, трапныя дэталі часта захлістваюцца ў яго вершах патокам шэрасці і агульшчыны, у слоўным шалупінні тонуць зерні паэзіі. Так, у вершы «Хлапчук спалохаўся салюта» ўжо сам гэты першы радок тоіць у сабе своеасаблівы ракурс антываеннай тэмы, дае патэнцыяльна закладзеную магчымасць разгарнуць паэтычны малюнак у вобраз шырокага гучання. На жаль, гэтага не здарылася. Паэт паспяшаўся запоўніць верш амаль інфармацыйнымі радкамі, пазбаўленымі значнай эмацыянальнай нагрузкі:

Маломý, знаю, цяжка ўцяміць,  
Яму ніяк не зразумець,  
Што гул гармат —  
Нашчадкаў памяць  
Аб тых, каго ўжо не сустрэць;  
Хто спіць даўно ўзбоч дарогі,  
Аддаўшы мары нам свае;  
Хто не дажыў да перамогі,  
Каб святкавалі  
мы  
яе.

Крыўдна, што думка, поўная драматычнага зместу, выказана так суха, бясстрасна. Так, з-за аўтарскай нядбайнасці, з-за недастатковай працы над словам атрымаўся пасрэдны твор. І гэта, зразумела, недаравальна для паэта.

Іван Калеснік захапляецца гучнымі канцоўкамі, імкнецца надаць ім афарыстычнае гучанне, нават калі гэта не зусім адпавядае зместу твора, не вынікае з яго мастацкай тканіны. Расказаўшы ў вершы «Зноў да шпакоўні завіталі» аб вяртанні да родных мясцін пералётных птушак, аб іх нялёгкай, поўнай нечаканых небяспек вандроўцы, аўтар робіць глыбакадумнае рэзюме:

Адолець можа той дарогу  
Хто з мэтай,  
з верою  
ідзе.

Як бачыце, жыццёвы інстынкт

* Іван Калеснік. Пяць сузор'яў. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1963.

пярнатых узвышаецца да ўзроўню свядомай волі: яму прыпісваецца і вера і мэта. Ці не занадта?

А вось якім афарызмам увянчаў паэт верш «Час»:

> ...Мы спрачаемся з часам сёння,
> Каб у згодзе з ім жыць пасля.

Што гэта? Філасофія перараджэння чалавека, яго капітуляцыі перад рэчаіснасцю? Такія настроі проста не стасуюцца да маладога паэта, у якога ў запасе шмат і жыццёвай, і паэтычнай энергіі.

Толькі непатрабавальнасцю аўтара і рэдактара можна вытлумачыць тое, што ў зборніку апынуліся зусім слабыя, бездапаможныя ў мастацкіх адносінах вершы: «Дзень мінуў...», «Я сягоння прасторам нарачанскім плыву», «Не сціхае лета гоман», «Белыя снежныя далі», «Добра ведаю», «Май. Каля кожнае хаты...» Хіба паэт не адчувае, як архаічна гучаць хоць бы такія радкі:

> Белыя, снежныя далі,
> Сінія стужкі лясоў!
> Радасці шмат мне аддалі —
> Ціхай, таемнай, без слоў.
> Дні адшумелі юнацтва
> Гоманам ліп і бяроз.
> Хочацца зноў мне спаткацца
> З краем, дзе некалі рос.

Калі чытаеш падобныя лірычныя «ўзоры», так і напрошваецца саладжава-сентыментальная мелодыйка старамоднага мяшчанскага рамanса.

І яшчэ адна заўвага. Занадта часта прымушае Калеснік свайго героя пакутаваць ад бяссонніцы і мінорных успамінаў аб страчаным юнацтве. Вось прыклады з розных вершаў: «Часта, часта начамі не спіцца», «Успамінаю былыя гады і мінулыя мары-надзеі», «Хіба такою часінай можа хто знацца са сном...»

Гэтак лірычны герой паэта можа зусім занядужаць ад бяссонніцы, і тады не па плячы акажуцца тыя шырокія паэтычныя плацдармы, якія яму належыць браць і асвойваць. Хочацца спадзявацца, што гэтага не здарыцца, што паэт усё ж паклапоціцца, каб вылечыць свайго героя ад такой небяспекі.

У вершы «Вышыня» ёсць такія радкі:

> Мужайся, сябра!
> Калі віснуць хмары,
> Не дай пагаснуць смеламу агню.

Думаецца, гэты заклік як нельга лепш стасуецца і да самога паэта. Хочацца верыць, што Іван Калеснік настойлівай і ўпартай творчай працай справіцца з цяжкімі хмарамі слоўнай шэрасці, што іскры яго бясспрэчных літаратурных здольнасцей засвецяць сапраўдным паэтычным агнём.

**Паўлюк СУБОТКА.**

# ЗАДУМА І ЎВАСАБЛЕННЕ




Невялікая кніжка прозы, новае аўтарскае імя, даволі прэтэнцыёзны загаловак — «Я забыл о тишине»*.

За кніжку бярэшся з цікавасцю. Праўда, першыя старонкі прыглушаюць гэтую цікавасць. «Ладно сшитый серый костюм, мягкая фетровая шляпа» заходнегерманскага турыста Карла Штаўдтэ, які аказаўся шпіёнам бундэсвера, насцярожваюць, прымушаюць успомніць прыгодніцкія творы, не лепшыя ў гэтым цікавым жанры. Але ўражанне, што перад табою чарговая кніга «пра шпіёнаў», неўзабаве прападае, хоць радзімыя плямы гэтай разнавіднасці літаратуры будуць траплящца і ў наступных раздзелах.

Усімі даступнымі яму мастацкімі сродкамі пісьменнік імкнецца давесці: не павінна паўтарыцца Хірасіма, дзе былі забіты і многія з тых, што яшчэ не нарадзіліся, не павінна таму, што дзяўчына з Хірасімы хацела б стаць маці і не можа.

Кніга, створаная галоўным чынам на матэрыяле мінулага, нацэлена ў сучаснасць, у будучыню. «Что из того, что война давно окончилась?» — гаворыць мастак Вадзім Мінковіч. — «Я хочу писать о мёртвых. Для живых!..»

Твор нясе ў сабе пратэст супраць вайны, супраць знішчэння чалавецтва. Лепшыя яго старонкі прасякнуты глыбокім разуменнем таго, што перад тварам магчымай тэрмаядзернай вайны ўсе мы — род чалавечы, што ад чалавецтва за ўсю яго гісторыю ніколі раней не патрабавалася такога адзінства дзеянняў, як у наш час.

У святле гэтай думкі вырашае пісьменнік і галоўную праблему твора — праблему ролі і месца мастака ў вялікай барацьбе за захаванне жыцця на зямлі.

Мастак Іван Паўлавіч, якога Вадзім лічыў сваім настаўнікам, «всю жизнь носил в себе непоколебимое убеждение, что труд художника, его произведения должны служить идее добра... Человек мыслился ему абстрактно — человек вообще... И этому «человеку вообще», по глубокому убеждению Ивана Павловича, тяга к созиданию свойственна в гораздо большей степени, чем стремление к убийству и разрушению».

Толькі прайшоўшы праз страшэнныя пакуты ў фашысцкім засценку, Іван Паўлавіч зразумеў, што за велічнае і прыгожае ў жыцці трэба змагацца ўсімі сіламі. Гэтая ісціна далася яму цаной жыцця.

Вадзім Мінковіч — герой глыбока сучасны. Іменна з яго вобразам звязана атмасфера сённяшняга дня ў творы. Ствараецца гэтая атмасфера не пералічэннем знешніх прыкмет часу, а самім складам мыслення героя. Гэта найбольш ярка выяўлена ў спрэчках Вадзіма з маладым мастаком Асініным.

Галоўныя аргументы Вадзіма ляжаць у сферы мінулага, таго, што ўжо стала гісторыяй. Яны вельмі канкрэтныя, глыбока адчутыя асабіста. Вадзім гаворыць аб «проклятой способности памяти хранить прошлое», і мы разумеем, што ў мастакоў гэтая здольнасць асабліва абвострана. Але выказваннямі і творчымі намаганнямі Вадзіма кіруе не толькі ўладарны кліч памяці. Вадзім вельмі добра разумее, што азначала б паўтарэнне мінулага ў новым, яшчэ больш жудасным варыянце.

Важнае месца ў творы займае праблема пераемнасці пакаленняў, наследавання прынцыпаў рэалістычнага мастацтва. Атрыманую з рук Івана Паўлавіча эстафету Мінковіч хоча перадаць Асініну, які, па задуме аўтара, павінен звязаць дзень сённяшні з днём будучым.

У самой задуме вобраза маладога мастака Асініна была закладзена магчымасць даць глыбокі аналіз памылак той часткі моладзі, якая ў апошні час захаплялася абстрактным мастацтвам, абмяжоўвала мастацкія пошукі толькі пошукамі формы. Асінін у свае дваццаць год зняверыўся ў рэалістычным мастацтве. Архігеніяльныя, «шэдэўральныя» палотны мроіліся яму на сцежках фармалізму і абстракцыянізму. У спрэчках з Вадзімам ён разглядае «горящую голову жирафа как пожар мировой скорби, которой охвачено человечество атомного века». І «аўтарытэтна» заяўляе: «В этом есть что-то такое, в чём не может разобраться простая человеческая интуиция».

Вадзім перакананы, што «природа создала формы. Разрушать их нельзя даже гениям». Асінін жа калі і дапускае магчымасць творчасці ў «створаных прыродай» формах, дык толькі ў выглядзе «чыстых» пейзажаў: «Все великие пейзажисты избегали рисовать человека на природе, ибо нарушалась ее гармония».

Паказаўшы, што грамадскі змест пазіцыі Асініна заключаецца ў яго грамадзянскай інертнасці, пісьменнік, аднак, не здолеў ускрыць сацыяльныя прычыны гэтай з'явы. Як сфармаваліся погляды Асініна? Супраць чаго і ў імя чаго ён пратэстуе? Адказы на гэтыя пы-

* Святаслаў Прошын. Я забыў пра цішыню. На рускай мове. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1963.

танні блытаныя і неперакануачыя. З пагардай гаворачы пра хлюстоў, якія ні ў што не вераць і над усім насміхаюцца, Мінковіч называе іх «порождением войны». Асінін па сваіх паводзінах мала чым адрозніваецца ад гэтых хлюстоў, у яго «нет чего-то такого, что захватило бы всю душу». Што ж, Асінін таксама «порождение войны»? Усур'ёз гэта можна прыняць толькі ў тым сэнсе, што ён сапраўды нарадзіўся ў ваенны час.

Іншы раз Асініну здаецца, што ён падобны на «пустой сосуд» і «люди затрудняются: чем заполнить подобный сосуд?», а яму і самому яшчэ не зразумела, што ён хоча «изобразить собой перед людьми». У другім месцы ён заяўляе, што проста неабходна адстойваць свае права на пошукі ісціны, бо кожны прыходзіць да яе сваім шляхам.

Не здолеўшы паказаць, на якой глебе вырастаюць погляды Асініна, яго пратэст супраць залежнасці ад грамадства, яго імкненне да абстрактна зразуметай свабоды асобы пад выглядам абароны права на самастойныя пошукі ісціны, пісьменнік пазбавіў вобраз Асініна жыццёвай і мастацкай пераканаўчасці.

Гэта яшчэ мацней заяўляе аб сабе, калі пісьменнік бярэцца за паказ перавыхавання, ломкі памылковых поглядаў Асініна. Новае светаразуменне героя, як і яго першапачатковыя памылковыя погляды, вырастае на пустым месцы, незалежна ад сацыяльна-палітычных з'яў і падзей. Пісьменнік шмат увагі аддае рэзанёрстваванням Асініна вакол пытанняў: падобны ці не падобны яго думкі на думкі яго равеснікаў, тыповы ці нетыповы яго склад думак для маладога чалавека нашай эпохі, і вельмі мала гаворыць пра сутыкненні героя з жывым жыццём.

Слаба раскрыты ў творы паваротны момант у думках маладога мастака, у яго адносінах да жыцця. Выпадак звёў Асініна з лесарубамі. Назіраючы за імі, ён зразумеў, што праца прыносіць ім сапраўдную радасць і надае сэнс жыццю, у той час як самому Асініну, калі ён сек дровы сваёй цётцы, было зусім нярадасна. Прасветлены, Асінін цяпер пераkananы, што сэнс яго жыцця як мастака — «отображать лучшее украшение жизни: труд человека на земле, радость труда для других».

Калі жыццёвыя адкрыцці Івана Паўлавіча і Вадзіма разглядаліся як заканамерны вынік іх пошукаў і спраў, якія яны вывяралі самім жыццём, дык адкрыццё Асініна падаецца з іншых эстэтычных пазіцый. «Всякое великое открытие случайно», — гаворыць Асінін, маючы на ўвазе сваю сустрэчу з лесарубамі. «Мне было ужасно от мысли, что могло и не произойти встречи с этими людьми, что я продолжал бы утешать себя своими иллюзиями».

Не адмежаваўшы сябе ад героя, паставіўшы яго прасвятленне ў залежнасць ад выпадковасці, пісьменнік тым самым ігнараваў адно з патрабаванняў рэалістычнай прозы — паказаць, як праяўляюцца грамадскія заканамернасці ў свядомасці і псіхалогіі чалавека.

Загаловак кнігі ставіць у цэнтр увагі побач з Мінковічам і Асініна: іменна ён з'яўляецца той першай асобай, ад імя якой у шмат якіх раздзелах вядзе апавяданне аўтар. Але роля цэнтральнага героя не падыходзіць да Асініна, па той простай прычыне, што вобразу гэтаму нестае ідэйна-мастацкага напаўнення, жыццёвай канкрэтнасці.

Пачуццё незадаволенасці выклікае не толькі змяшчэнне ідэйных і сюжэтна-кампазіцыйных акцэнтаў. Вельмі многа прыкрага і ў тых «дробязях», з якіх, уласна кажучы, і складаецца мастацкая тканіна твора. Вадзім, напрыклад, натура цэласная, глыбокая, настойлівая і паслядоўная ў дасягненні мэты. І да яго ніяк не стасуецца вось гэткая эксцэнтрычнасць: «Вадим гневно обернулся», яго вочы **«сузились,** словно он приложил к щеке карабин», «Вадим **заметался** по комнате», «руки Вадима **тряслись»,** «глаза его, **налитые бешенством,** бегали, словно ища что-то», «лицо его **посерело,** а в черных **округлившихся** глазах **забегали огоньки ярости и ненависти.** Кулаки его **сжимались** и **разжимались,** точно он хотел схватить кого-то за горло».

Усё гэтае скрыгатанне зубамі ідзе ад няўвагі да сродкаў мастацкага выяўлення. Трапных і свежых дэталей і падрабязнасцей, якія выклікалі б ўражанне непаўторнасці, у творы вельмі мала. Затое ў ім многа такога, што ўжо не раз трапляла на вочы чытачу ў іншых кнігах. Гэта і «какофония городских шумов», і «грязь, зачавкавшая под копытами», і многае іншае.

Ёсць у кніжцы і такія дэталі, якія на скорую руку скроены па вядомых узорах: «Земля видишь какая? Вкусная, прямо на хлеб намазывай». Літаратуршчынай аддаюць і такія характарыстыкі персанажаў: Вебер, «этот умный гитлеровец, не мог говорить длинными фразами, сложными оборотами. Его мысли и слова всегда прямолинейны и куцы, как дисциплинарный устав». Геблер — «символ величия и тупости». На яго фізіяноміі «было написано такое обилие пороков и низменных чувств, что ему мог бы позавидовать самый последний каторжник».

Нельга не звярнуць увагу на аднастайнасць мастацкіх сродкаў пісьменніка. Палюбуйся яму, скажам, выраз «светится изнутри», дык «свяціцца» будзе і Ірына («она точно светится вся изнутри спокойной и радостной теплотой»), і палатно Вадзіма («чистая, не смешанная полутонами живопись словно светилась изнутри, подчеркивая аристократическую бледность лица гитлеровца»). Або ўзяць эпітэт «изломанный»: «фигура, небрежно изломанная в талии», «не видно крохотной фигурки, в напряжении изломанной на коленях матери».

Часам, імкнучыся да арыгінальнасці, аўтар збіваецца на манернічанне («в стеклах пенсне Манежная площадь накренилась и снова замерла»).

Героям Прошына цягне на філасофстванне з прычыны і без прычыны. Зайшла, скажам, гаспадыня дома да Вадзіма і Ірыны па кватэрную плату пад выглядам пазычыць солі, і ў Вадзіма ўжо гатова сентэнцыя: «Извечный вопрос о деньгах! Кто-то из великих сказал: пока мы из золота не сделаем уборных, люди всегда будут спрашивать соль».

Яшчэ і яшчэ раз звяртаючыся ў думках да падзей і герояў кнігі, імкнучыся ўбачыць усё лепшае ў ёй, нязменна пераконваешся, наколькі яна выйграла б, калі б мастацкае ўвасабленне задумы было вартае самой задумы.

**Сяргей ГУСАК.**

# З сэрцам і з перцам

## Сяброўскія шаржы

Малюнкі Міхася Лісоўскага.
Эпіграмы Міхася Дроціка, Аркадзя Мазоўкі, Алеся Чабора і Георгія Юрчанкі.



**Івану ПТАШНІКАВУ**

Крадзеж,
каханне,
здраду дам —
Чытайце колькі ўлезе!
Я гэта выдумляю сам.
Па Плешчаніцкім лесе
Хаджу дзялянкаю густой,
Хоць покуль не ў зеніце.
Няўжо не Аляксей Талстой?
Вы на мяне зірніце!..



**Юрасю СВІРКУ**

У небе зоркі роем месяцца
Ці правяць дружны карагод.
Я трыццаць год хаджу пад месяцам,
Адно і тое ж — трыццаць год!

Ляцець на Марс — ці варта мерыцца,
Не вабіць бляскам бог вайны...
Пакуль вучуся прывенерыцца,
Хаджу да цёшчы на бліны!



**Аляксею ЯСКЕВІЧУ**

Я пальцам не цаляў бы ў неба,
Маіх прамоў звінела б медзь, —
Калі б мне дапамог хто-небудзь
Сябе самога зразумець.





**Фёдару БАРАНОЎСКАМУ**

О, Федзя туга знае справу,
Усё яму не ў навіну.
Пакажа
фронт,
блакаду,
нават
Псіхалагічную спіну.



**Уладзіміру ПАЎЛАВУ**

Крык гудкоў на ўсёй планеце,
Дым трубой і колаў стук, —
Гэта значыць —
Паўлаў едзе
Ў старажытны горад Слуцк.
Едзе ўзвіхраны, распеты,
Ну, не хлопец — сам віхор.
Гэй вы, слуцкія кабеты!
Гэй ты, слуцкі перабор!..



**Віктару КАВАЛЕНКУ**

У глыбіню праблем рамана
Нацэліў крытык востры зрок,
Але з-за слоўнага туману
На мель наскочыў незнарок.



**Івану ЛАСКОВУ**

Ён хімік у лабараторыі,
А лірыка таму парукаю,
Што пацвярджаецца тэорыя
Пра дружбу муз з навукаю.
Малекулярную вагу радкоў,
Паэтам створаных Ласковым,
Узважыць можа, адным
словам,
Паэт і хімік І. Ласкоў.





**Дзмітрыю БУГАЁВУ**

Як пажывеш,
не да кіёў —
Да лаўраў цягне
і да ласікаў.
А ўдумны крытык Бугаёў
Па абслугоўванню класікаў
Праверыць
пульс і слых і дых
Пры самай непадступнай позе.
Ён возьмецца й за маладых —
Хай ім дзесятак сёмы пойдзе.

**Генадзю КЛЯЎКО**

*«Сталічны, жыллёвы
Пяціпавярховы
Быў дом пабудованы
Датэрмінова».*

*Г. КЛЯЎКО. «Абветраныя далягляды».*

Ў высокамастацкіх,
Ў высокаідэйных
Я ў вершах апеў
Будаўнічую дзейнасць.
І праца мая
Не прапала дарма —
Жыллё
На паверсе другім атрымаў.
Калі ж далягляды
Звузеюць, паверце,
Пакой папрашу
На вышэйшым паверсе.



**Віктару ГОВАРУ**

Зямля-каханка, памахай мне хустачкай,
Я выраўся з абдымкаў тваіх рук!
Лунаю я з другой касмічнай хуткасцю
Між зор усіх мастацтваў і навук.
Мой лоб ад дум пакутлівых парэпаны.
Чаму мяне цягалі за крысо,
Калі крычаў: «Далоў з Парнаса Рэпіна!
Няхай жыве Маціс і Пікасо!?»

# Спорт

## ХАЙ ЗВІНЯЦЬ КАНЬКІ!



Генадзь Касабука на дыстанцыі.

Фота **Д. Церахава.**

Нясмела, нібы з аглядкай, уступае ў свае правы матухна-зіма. Гэта радуе нашых лыжнікаў і канькабежцаў, хакеістаў і фігурыстаў. Але ці не заўчасная іх радасць? Вельмі ж непастаянная і «капрызная» наша беларуская зіма. Колькі разоў было, што не паспеюць усталявацца першыя маразы, а ім на змену спяшаецца ўжо адліга — злейшы вораг спартсменаў.

Капрызлівасць нашай зімы нарадзіла сярод некаторых спартыўных кіраўнікоў своеасаблівую «тэорыю» аб тым, што ў Беларусі немагчыма па-сапраўднаму развіваць зімовыя віды спорту, асабліва хуткасны бег на каньках і хакей. Знахodзіліся нават такія, што сцвярджалі, нібыта ва ўмовах нашай рэспублікі немагчыма рыхтаваць канькабежцаў і хакеістаў высокага класу.

Аднак жыццё абвергла гэтых «тэарэтыкаў». Леташняя зіма па сваёй суровасці і ўстойлівасці пабіла ўсе ранейшыя рэкорды. Ніхто не мог паскардзіцца на яе. Па ўсёй рэспубліцы каткі працавалі бесперабойна. Хапіла часу і на трэніроўкі канькабежцаў, і на правядзенне шматлікіх спаборніцтваў.

І ўсё ж той-сёй з самых заўзятых скептыкаў можа запярэчыць: маўляў, леташняя зіма была выключэннем, сёлета такое можа і не паўтарыцца. Ну і што? Усё роўна, калі правільна арганізаваць трэніроўкі, хопіць часу, каб падрыхтаваць канькабежцаў высокага класу нават у самую мяккую зіму. Правільна робяць тыя трэнеры, якія пачынаюць работу з канькабежцамі яшчэ летам. Спачатку кросы, заняткі агульнафізічнай падрыхтоўкай, потым трэніроўкі на ролікавых каньках. І тады з выхадам на лёд спартсмен хутка набудзе найлепшую спартыўную форму і зможа за кароткі час дасягнуць высокіх вынікаў на лёдавай дарожцы.

Вось так і працуюць з канькабежцамі нашы лепшыя трэнеры — заслужаны майстар спорту Зоя Бальшакова, майстар спорту Капіталіна Боган і іншыя. Для іх мяккасць беларускай зімы — не перашкода. Вучнем Зоі Бальшаковай з'яўляецца канькабежац міжнароднага класа, член зборнай каманды Савецкага Саюза, майстар спорту Эдуард Матусевіч. Ён навучыўся бегаць на каньках у дзяцінстве. Аднак тады Эдзік і не марыў стаць класным канькабежцам. У пятнаццаць год ён захапляўся гімнастыкай, выканаў нарматыў II усесаюзнага разраду. Потым паспрабаваў свае сілы ў веласіпедным спорце, а ўжо з веласіпеда перайшоў на канькі. Яму, моцнаму рознабаковаму спартсмену, хутка ўдалося «асвоіць» і канькабежны спорт. Стаць

сапраўдным майстрам лёдавай дарожкі Эдуарду памаглі незвычайная працавітасць, настойлівасць і моцная сіла волі.

Шлях Эдуарда Матусевіча ў «вялікі спорт» можа служыць прыкладам для кожнага, хто па-сапраўднаму любіць і захапляецца канькабежным спортам. У 16 год ён стаў пераможцам першынства Беларусі сярод юнакоў, яшчэ праз два гады — чэмпіёнам рэспублікі сярод дарослых, яшчэ праз сезон на традыцыйных усесаюзных спаборніцтвах у горадзе Кіраве на прыз памяці Сяргея Міронавіча Кірава выканаў норму майстра спорту СССР. І, нарэшце, у 1962 годзе славуты беларускі канькабежац Эдуард Матусевіч заваёўвае трэцяе месца ў чэмпіянаце СССР.

Упэўнена крочыць да вяршынь спартыўнага майстэрства і малады мінскі канькабежац Генадзь Касабука, таксама выхаванец Зоі Бальшаковай. У яго актыве ўжо нямала перамог ва ўсесаюзных спаборніцтвах юніёраў. Генадзь заваёўвае званне чэмпіёна Цэнтральнага савета спартыўнага таварыства «Дынама» сярод юнакоў, а ў студзені 1963 года бліскуча выступае ва ўсесаюзных спаборніцтвах юніёраў у горадзе Горкім. Ён выйграў першае месца на дыстанцыі 500, 1500 і 5000 метраў і набраў найбольшую суму ачкоў у мнагаборстве.

Наогул, мінулы сезон прайшоў надзвычай паспяхова для канькабежцаў нашай рэспублікі. Ён вызначыўся рэкорднай колькасцю спаборніцтваў, масавасцю і хуткім ростам спартыўных вынікаў. Толькі на бегавой дарожцы мінскага стадыёна «Дынама» за зіму было праведзена 26 масавых спаборніцтваў па канькабежнаму спорту! Між іншым, на стадыёне была выдатная лёдавая дарожка, дзякуючы чаму многія ўдзельнікі спаборніцтваў паказалі даволі высокія вынікі, выканалі нарматывы спартыўных разрадаў.

Нядрэнныя бегавыя дарожкі былі абсталяваны мінулай зімой у Віцебску, Магілёве, Баранавічах, Оршы. Канькабежны спорт шырока крочыў па ўсёй рэспубліцы. І гэта прынесла свой багаты плён. На пятай зімовай Усесаюзнай спартакіядзе прафсаюзаў зборная каманда Беларусі, выступаючы па другой групе, дзе спаборнічалі калектывы саюзных рэспублік, прадэманстравала ўзросшае майстэрства.

Цяпер у нас ёсць даволі значная група здольных канькабежцаў. Гэта, акрамя Эдуарда Матусевіча і Генадзя Касабукі, пра якіх ужо гаварылася, першаразраднікі Валянцін Філін, Віктар Хамінок, Леанід Самсонаў, Анатоль Багінскі, Тацяна Якаўлева, Жана Харунова і іншыя. На пятай зімовай Усесаюзнай спартакіядзе прафсаюзаў у забегу на 10 000 метраў віцяблянін Віктар Хамінок быў вельмі блізка ад выканання нормы майстра спорту. І толькі нявопытнасць перашкодзіла яму пераступіць гэты запаветны рубеж. Будзем спадзявацца, што сёлетні сезон будзе для Віктара Хамінка і яго сяброў яшчэ больш удалы і шчаслівы.

Сёлетні сезон канькабежцы нашай рэспублікі пачалі надзвычай рана. Першыя рэспубліканскія спаборніцтвы па канькабежнаму спорту адбыліся ў Мінску 28—29 верасня. Так, так, не здзіўляйцеся! І не думайце, што ў сталіцы рэспублікі пабудавалі штучны каток. Яго пакуль што ў нас няма. Але спаборніцтвы канькабежцаў у тыя вераснёўскія дні прайшлі як мае быць. Спачатку скараходы стартавалі на кароткія і сярэднія дыстанцыі наролікавых каньках, а потым удзельнічалі ў лёгкаатлетычным кросе.

Праз тыдзень мацнейшыя канькабежцы рэспублікі выехалі ў Кіеў на матчавую сустрэчу каманд Украіны, Беларусі, Латвіі, Літвы і Эстоніі па ролікавых каньках. Такія спаборніцтвы праводзіліся ў нашай краіне упершыню. Тым больш прыемна, што наша жаночая каманда заняла на іх першае месца. Гераіняй матчавай сустрэчы стала маладая мінская спартсменка, студэнтка тэхналагічнага тэхнікума Жана Харунова. Яна выйграла забегі на 1500 метраў і была другой у бегу 10×100 метраў.

Беларускія канькабежцы-мужчыны занялі другое месца на гэтых спаборніцтвах. Лепшым у нашай камандзе быў Генадзь Касабука. У агульнакамандным заліку спартсмены Беларусі занялі другое месца пасля Украіны.

У лістападзе нашы канькабежцы ўпершыню сталі на лёд. Праўда, не ў Мінску, а на стадыёне «Праца» ў Чалябінску. Тут зборная каманда рэспублікі пачала рэгулярныя трэніроўкі да першых афіцыйных стартаў на лёдавай дарожцы. А іх будзе, як і летась, нямала. Самымі адказнымі спаборніцтвамі канькабежцаў з'явяцца: першынство БССР (сярод дарослых і юнакоў), матчавая сустрэча з камандамі рэспублік Прыбалтыкі і, нарэшце, розыгрыш першынства Савецкага Саюза.

А для Эдуарда Матусевіча нагрузкі будзе куды больш. Год 1964 — алімпійскі. Нашы канькабежцы прымуць удзел у зімовых алімпійскіх гульнях, што адбудуцца ў аўстрыйскім горадзе Інсбруку. Таму ўжо з сярэдзіны кастрычніка Эдуард Матусевіч разам са сваімі сябрамі па зборнай камандзе Савецкага Саюза прыступіў да ўзмоцненых трэніровак на лёдзе. Першы трэніровачны збор праводзіўся ў Маскве, потым мацнейшыя канькабежцы краіны выехалі ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку для трэніровак на штучным катку.

Перад зборнай Савецкага Саюза стаіць сур'ёзная задача: «рэабілітаваць» сябе за прыкрыя няўдачы на міжнароднай арэне ў мінулым сезоне. Такога правалу ў нашых канькабежцаў яшчэ не здаралася. А паколькі сярод «вінаватых» быў і Эдуард Матусевіч, пра гэта варта ўспомніць больш падрабязна.

Пачатак мінулай зімы не абяцаў савецкім канькабежцам нічога прыемнага. Па традыцыі першыя буйныя спаборніцтвы адбыліся яшчэ ў снежні 1962 года ў горадзе Кіраве. На лёдавую дарожку выйшлі мацнейшыя скараходы краіны, якія прымалі ўдзел у традыцыйным матчы гарадоў. Быў сярод іх і Эдуард Матусевіч. Праўда, мінчанін выступаў па-за конкурсам, бо на гэтых спаборніцтвах не было каманды Мінска. Аднак іменна ён стаў героем матча. Ужо ў забегу на 500 метраў мінскаму скараходу ўдалося ўстанавіць рэкорд катка — 41,8 секунды і апярэдзіць рэкардсмена свету заслужанага майстра спорту Яўгена Грышына. З такім жа бляскам выступіў Эдуард Матусевіч і на іншых дыстанцыях і заваяваў першае месца па суме мнагаборства. Ён жа ўстанавіў новы рэкорд СССР на 1500 метраў — 2 мінуты 10,8 секунды, што з'явілася вышэйшым дасягненнем у свеце для раўнінных каткоў. А крыху пазней на спаборніцтвах у Алма-Аце Эдуард паказаў бліскучы час у бегу на 5000 метраў — 7 мінут 54,2 секунды.

Напярэдадні першынства краіны па канькабежнаму спорту Эдуарду Матусевічу належалі лепшыя вынікі сезона на 1500, 5000 метраў і ў мнагаборстве (189,461 ачка). У той час заслужаны майстар спорту Ігар Іпалітаў надзвычай высока ацэньваў заяўку мінскага скарахода на залаты медаль. Больш таго, гэты вялікі знаўца канькабежнага спорту лічыў, што Эдуарду пад сілу вынік 182 ачкі ў мнагаборстве, а гэта — новы рэкорд свету.

Пасля першых двух дыстанцый, 500 і 5000 метраў, на чэмпіянаце краіны ўперад выйшлі трое: свердлаўчанін Барыс Сценін, Эдуард Матусевіч і масквіч Уладзімір Гураў. Мінчанін асабліва вызначыўся на 5000-метравай дыстанцыі. Яго час — 7 мінут 50,5 секунды — лепшы вынік сезона ў свеце і трэці за ўсю гісторыю канькабежнага спорту. Усе трое лідэраў па суме двух дыстанцый апярэджвалі ў мнагаборстве рэкорд СССР васьмігадовай даўнасці, які належаў Дзмітрыю Сакуненку.

Усё павінна было вырашыцца на другі, заключны дзень спаборніцтваў. І тут пачаліся непрыемнасці для Эдуарда. Праўда, 1500-метравую дыстанцыю ён закончыў трэці. Але паказаны ім час 2 мінуты 16 секунд быў горшы, чым можна было разлічваць. Першы закончыў гэтую дыстанцыю Барыс Сценін — 2 мінуты 14,4 секунды. Шанцы на пабіццё рэкорда меншалі. Апошнюю дыстанцыю — 10 000 метраў — выйграў Алег Шабараў (Алма-Ата) — 16 мінут 42,6 секунды. Матусевіч жа зусім слаба прайшоў 10 000 метраў, асабліва заключную частку дыстанцыі, і страціў прызавое месца.



**Эдуард Матусевіч са сваім трэнерам Зояй Бальшаковай.**

Чэмпіёнам краіны стаў Барыс Сценін, які набраў 185,380 ачка. Другім быў Уладзімір Гураў, трэцім Роберт Мяркулаў (Масква). Эдуард Матусевіч вымушаны быў задаволіцца пятым месцам з адносна невысокай сумай ачкоў — 187,298.

Між тым, асноўныя нашы сапернікі — канькабежцы Нарвегіі і Швецыі ад спаборніцтваў да спаборніцтваў паляпшалі свае і без таго высокія вынікі. Так, у матчавай сустрэчы СССР — Нарвегія (за нашу каманду выступалі маладыя спартсмены), якая праходзіла на вядомым стадыёне «Бішлет» у Осла, фенаменальнага выніку на 5000 метраў дабіўся нарвежскі скараход Кнут Юхансен — 7 мінут 37,8 секунды. Гэта новы рэкорд свету, які перавышае ранейшае дасягненне савецкага канькабежца Барыса Шылкова на 7,8 секунды. А на другі дзень Юхансен стаў уладальнікам яшчэ аднаго сусветнага рэкорда на 1500 метраў —

2 мінуты 10,3 секунды. Другі нарвежскі спартсмен, Фрэд Майер, устанавіў новае сусветнае дасягненне для раўнінных каткоў у бегу на 10 000 метраў — 15 мінут 49,7 секунды. І, нарэшце, Нільс Онес пабіў рэкорд свету ў суме мнагаборства — 180,560 ачка! Вось з якім салідным «багажом» прыйшлі нарвежскія канькабежцы да чэмпіянату Еўропы!

Ці змогуць нашы спартсмены вытрымаць барацьбу з такімі славутымі «асамі» лёдавай дарожкі? Адказ на гэта пытанне павінны былі даць старты першынства кантынента, якое праводзілася ў Гётэборгу 2 і 3 лютага. Першая дыстанцыя — 500 метраў — за намі. Яе выйграў чэмпіён СССР Барыс Сценін. Затое другім быў Нільс Онес. Трэцяе месца заняў Роберт Мяркулаў. А вось Эдуарду Матусевічу і Уладзіміру Гураву не пашанцавала. Мінчанін быў толькі шосты, а масквіч — у канцы дзесяткі.

Яшчэ адну перамогу атрымаў Барыс Сценін у забегу на 1500 метраў. Зноў другім быў Нільс Онес. Трэці час — у нарвежца Кнута Юхансена, чацвёрты — у Эдуарда Матусевіча. Але на стайерскіх дыстанцыях—5000 і 10 000 метраў— савецкія спартсмены пацярпелі жорсткае паражэнне. Першым 5000-метравую дыстанцыю закончыў Кнут Юхансен — 7 мінут 55,2 секунды. А ў бегу на 10.000 метраў яго апярэдзіў швед Йоні Нільсан — 15 мінут 53,4 секунды. Кнут Юхансен застаўся на другім месцы, а на трэцяе месца выйшаў другі шведскі скараход Івар Нільсан.

Званне чэмпіёна Еўропы па суме чатырох дыстанцый заваяваў нарвежац Нільс Онес (183,547 ачка). Яго суайчыннік Кнут Юхансен заняў другое месца. Толькі пятае месца дасталося чэмпіёну СССР Барысу Сценіну і ажно 12-ае — Эдуарду Матусевічу.

Чым жа тлумачыцца такі правал нашых мацнейшых канькабежцаў? Знаўцы спорту лічаць, што былі допушчаны памылкі ў плане падрыхтоўкі савецкіх скараходаў да чэмпіянату Еўропы. Працяглы час перад спаборніцтвамі яны жылі і трэніраваліся на высакагорным катку ў Алма-Аце. А выступаць у Гётэборгу прыходзілася на раўнінным катку, і яны не паспелі «акліматызавацца».

Уперадзе быў чэмпіянат свету. І зноў пачаліся дні настойлівых трэніровак. У час спаборніцтваў у Алма-Аце на прыз Савета Міністраў Казахскай ССР савецкія скараходы паказалі некалькі бліскучых вынікаў. Яўген Грышын прабег 500 метраў за 39,7 секунды, а ў бегу на 1 500 метраў паказаў лепшы ў свеце час у гэтым сезоне — 2 мінуты 8,1 секунды. Вызначыўся і алмаацінец Алег Шабараў. Ён устанавіў новы рэкорд СССР у суме мнагаборства — 182,763 ачка.

І ўсё ж у Японіі, дзе праходзіў чэмпіянат свету, нашы канькабежцы не змаглі сапернічаць з нарвежцамі і шведамі. Не памагло нават уключэнне ў каманду Віктара Касічкіна і Алега Шабарава. Толькі ў бегу на 500 метраў нашы спартсмены мелі поспех: Яўген Грышын заняў першае месца з выдатным часам — 39,8 секунды, а Барыс Сценін быў трэці. На астатніх жа дыстанцыях савецкія канькабежцы пацярпелі поўную няўдачу.

Сапраўдным героем сусветнага чэмпіянату стаў Йоні Нільсан (Швецыя). Ён стаў чэмпіёнам свету і ўладальнікам трох сусветных рэкордаў! Вось яго феменальныя вынікі: 5000 м. — 7 мінут 34,3 секунды, 10.000 метраў — 15 мінут 33 секунды, сума мнагаборства — 178,447 ачка. Другое месца заваяваў Кнут Юхансен (179,598 ачка) і трэцяе Нільс Онес (180,405).

Лепшы з савецкіх канькабежцаў Алег Шабараў заняў толькі 11 месца (183,555), Эдуард Матусевіч — 13-ае (183,747), Барыс Сценін — 14-ае (185,088). Невясёлыя былі вынікі!

Аддаючы належнае выдатным шведскім і нарвежскім спартсменам, нельга згадзіцца з тым, што нашы канькабежцы зрабілі ўсё для паспяховага выступлення на чэмпіянатах Еўропы і свету. Штосьці недагледзелі кіраўнікі каманды, штосьці ўпусцілі трэнеры, там-сям «спатыкнуліся» нашы вядучыя канькабежцы. Канечне, няўдача ў мінулым сезоне будзе ўлічана. І мы спадзяемся, што новы сезон прынясе нам радасныя перамогі. Нашы канькабежцы вернуць страчаныя пазіцыі. Беларускія аматары спорту паранейшаму ўскладаюць вялікія надзеі на Эдуарда Матусевіча. Ён яшчэ не сказаў свайго апошняга слова на лёдавай дарожцы. Але новыя рэкардсмены лёдавай дарожкі з'явяцца толькі тады, калі канькабежнаму спорту больш увагі будуць аддаваць у школах. Той, хто з малых гадоў становіцца на канькі, мае большыя шансы на поспех у канькабежным спорце, калі, вядома, кіраўнікі фізкультурных калектываў праявяць да яго не толькі цікавасць, але і прасякнуцца сапраўдным клопатам пра выхаванне ўсебакова развітых спартсменаў.

Хай жа звіняць канькі на «хуткім» лёдзе! Няхай выходзяць у «вялікі спорт» новыя майстры, а іх месца ў спартыўных секцыях займаюць хлопчыкі і дзяўчынкі, што сёння спрабуюць свае сілы на дваровых катках. Чым больш будзе ў нас аматараў канькабежнага спорту, чым больш будзе каткоў, тым хутчэй вырастуць новыя таленавітыя майстры-скараходы, здольныя з поспехам адстаяць спартыўны гонар рэспублікі.

**Леў СЕВАСЦЬЯНАЎ.**

**Пераможцы Рэспубліканскай спартакіяды прафсаюзаў у бегу на 1500 м.: Валянцін Філін (Мінск), Анатоль Багінскі (Мінск) і Леанід Самсонаў (Віцебская вобласць).**
Фота **А. Рагоўскага.**



# ШАХМАТЫ

Пад рэдакцыяй
міжнароднага майстра
Аляксея СУЭЦІНА

## НАШ КОНКУРС



Ход чорных? Ці маюць яны рашаючы працяг атакі? (3 ачкі).

---

Даем рашэнні заданняў, апублікаваных у №№ 8 і 9 нашага часопіса.

Заданне № 1. Фh6!! gh, 2. Лg3+!

Заданне № 2. 1. Ф : f8 + !!, і мат наступным ходам.

У заданні, апублікаваным у № 9, была дадзена адна з камбінацый вядомага чэмпіёна свету В. Стэйніца. Вось як закончыў ён партыю, гуляючы белымі: 1. Л : e7+! Кр : e7, 2. Лel+ Кpd6, 3. Фb4+ Крс7, 4. Ке6+, Крb8, 5. Фf4+ і г. д. з рашаючай атакай у белых.

У нашым завочным гадавым шахматным конкурсе ўпэўнена лідзіраваў юны шахматыст С. Шмурадка (Віцебская вобласць).

Ніжэй мы даем адну з партый нашага юнага актывіста С. Шмурадкі, якая была сыграна ім на камандным першынстве школьнікаў БССР гэтага года. Партнёрам С. Шмурадкі быў Макарэвіч (Брэсцкая вобласць), які гуляў белымі.

1. e4 c5, 2. Кf3 e6, 3. d4 cd, 4. К : d4 a6. 5. Кc3 Фc7, 6. g3 b5, 7. a3 Cb7, 8. Cg2 Кc6, 9. 0—0 Кf6, 10. К : c6 С : c6, 11. Cf4 e5, 12. Cg5 Ce7, 13. f4 h6, 14. fe К : e4!+ (Вядзе да вельмі вострай гульні, дзе, між тым, некаторы час шанцы бакоў роўныя.) 15. К : e4 hg, 16. Фf3 Ф : e5!+, 17. Ф : f7+ Кpd8, 18. Лаel Лf8, 19. Фg6 Крс7, 20. Кf2+ (Гэты нябачны спачатку пралік вядзе адразу да пройгрышу белых. Заканчэнне партыі вельмі эстэтычнае) : 20. ...Л : f2, 21. Л : e5 Л : g2+, 22. Кphl Cd6, 23. Лef5 Лh8! (У белых лішні ферзь, але атаку чорных адбіць нельга.) 24. Л1 f2 Лh:h2+.

Вельмі павучальны разгром!

---

Дарагія чытачы! Прысылайце вашы пажаданні і пісьмы па пытаннях, якія вас цікавяць.

### НАШЫ ФОТАКАРЭСПАНДЭНТЫ



В. Бараноўскі.



Д. Церахаў.

# ЗМЕСТ

## ЧАСОПІСА «МАЛАДОСЦЬ» ЗА 1963 ГОД



### АПОВЕСЦІ



### АПАВЯДАННІ





## ВЕРШЫ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА







## ГАРЫ, КАМСАМОЛЬСКІ АГАНЁК!



## НА АРБІТУ КАМУНІЗМА



## ПРА НАШ МАРАЛЬНЫ КОДЭКС



## НАВУКА І КУЛЬТУРА

## З БЛАКНОТА ПАДАРОЖНІКА



## КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ



## СПОРТ



## ШАХМАТЫ



## ШАШКІ



## ГУМАР І САТЫРА







**АЎТАРЫ ВОКЛАДАК І ІЛЮСТРАЦЫЙ: Ю. Архіпаў, Л. Асецкі, А. Бараноўскі, Ф. Бараноўскі, Р. Віткоўскі, Лайяш Вінцэ, С. Волкаў, Э. Гусейнаў, І. Давідовіч, У. Долгаў, Б. Забораў, А. Зайцаў, М. Залозны, П. Калінін, У. Конаш, І. Краўчанка, М. Лісоўскі, У. Лось, І. Немагай, А. Палуян, Г. Паплаўскі, А. Плаксін, Ю. Пучынскі, У. Рамейка, Дзьюла Сені, Г. Скамарохаў, У. Філіпенка, К. Ціхановіч, В. Шаранговіч, В. Шрамякоў.**

**РЭПРАДУКЦЫІ КАРЦІН І МАЛЮНКАЎ: Д. Алейнікаў, М. Андрэеў** (Масква), **Ф. Бараноўскі, А. Гладзін** (Новасібірск), **І. Давідовіч, П. Данелія, Л. Дударэнка, Э. Ілтнер** (Латвія), **І. Іскрынская, А. Казан, М. Канаян** (Масква), **І. Катанджан** (Ерэван), **А. Кашкурэвіч, П. Корын** (Масква), **Я. Кулік, У. Кухараў, П. Лысенка, Я. Пакаташкін, Г. Паплаўскі, Ю. Пучынскі, К. Пятроў, І. Рэй, У. Садзін, Г. Скамарохаў, А. і П. Смоліны** (Масква), **І. Стасевіч, В. Сяроў** (Масква), **В. Токараў** (Адэса), **В. Цвірка.**

**ФОТА: В. Бараноўскага, М. Белюка, І. Берліна, Я. Брахунова, А. Васечкі, А. Верамейчыка, У. Вяхоткі, У. Дагаева, А. Дзітлава, У. Дзялендзіка, М. Жалудовіча, В. Замулкі, І. Змітровіча, В. Іванова, У. Какошкі, В. Карамазава, У. Кітаса, А. Кляймёнавай, У. Крука, А. Крэскіяна, І. Ламановіча, Л. Лапухова, Ц. Мельніка, В. Мікішанава, М. Мінковіча, Д. Моркаўкі, Г. Пілкоўскага, С. Селіханава, фотахронікі БелТА, Я. Халдзея, Д. Церахава, М. Чаховіча, М. Чахоўскага, М. Чырыка, С. Чырэшкіна.**

**У БЯСПЛАТНЫМ ДАДАТКУ «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ» НАДРУКАВАНЫ:**



## МАСТАКІ, ЯКІЯ АФАРМЛЯЮЦЬ НАШ ЧАСОПІС



Л. Асецкі



М. Залозны



М. Лісоўскі

## МАСТАКІ, ЯКІЯ АФАРМЛЯЮЦЬ НАШ ЧАСОПІС


Г. Паплаўскі


В. Шаранговіч


В. Шрамякоў

# ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

## ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА ПАДПІСАЦЦА НА НАШ ЧАСОПІС.

*У студзеньскім нумары будзе надрукавана аповесць Васіля БЫКАВА*

## «Альпійская балада»

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы $70 \times 108^1/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк арк. 13,7. Вуч-выд. арк. 14,5. Тыраж 7280. Цана 40 кап.
АТ 11905. Здадзена ў набор 1.XI.63 г. Падпісана да друку 3.XII.63 г. Зак. 572.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.